ГОД XI СТУДЗЕНЬ - СЬНЕЖАНЬ № 76-81
1957 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



МАЛАМАЖАЙСКАЯ ЦАРКВА ЗБУДАВАНАЯ
Ў 1407 Г.

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année XI. № 76-81 Janvier - Decembre 1957
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Гэты нумар выходзіць як гадавік і цана яго роўная падпісцы за цэлы год — 350 фр.**

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, Buenos Aires.

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover, in Goslar.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.
Карта Беларусі — 40 фр. 1 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі: R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House. Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

# З беларускае народнае мудрасьці

Бог захоча і з рук адыме.
Бог і то няпрыяцеляў мае.
Бог казаў і з грэшнікамі дзяліцца.
Бог лепшы за нас гаспадар.
Бог на ўсякага долю дае.
Бог не захоча, то як ня круціся, а нічога ня зробіш.
Бог не такі, ня слухае сабакі.
Бог ня гуляе, а дабро перамярае, у аднаго возьме, а другому дасьць. Аб зьбяднеўшых багацеях.
Бог ня слухае, як сьвіня рухае. Ня слухае праклёнаў.
Бог праўду бачыць, але ня скора скажа.
Бог раздаваў і нам казаў.
Бог стары гаспадар — ведае, што робіць.
Бог усякага патрэбу бачыць.
Бог што абяцае, то й датрымае.
Божае волі не пераможаш.
Бойся каровы сьпераду, каня — з-заду, а дурня — з усіх бакоў.
Больш значыць сто сяброў, як сто рублёў.
Борздая работа — чорту карысьць.
Брахлівага сабаку здалёку пачуеш.
Бяда бяду вязе, а трэцяя паганяе; пабяжыш — на бяду набяжыш, пастаіш бяда нагоніць.
Бяда заўсёды ўпары ходзіць.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XI. СТУДЗЕНЬ-СЬНЕЖАНЬ 1957 г. № 76-81

# Жыцьцё Царквы

Царква, як згуртаваньне людзей, якія вызнаюць аднолькавыя праўды веры, прымаюць тыя самыя сьвятыя Тайны і маюць адно кіраўніцтва пад галоўтсвам аднаго Намесьніка Хрыста, ёсьць арганізацыяю такою-ж жывою, як і тыя адзінкі, з якіх Яна складецца. Больш таго: Яна яшчэ мае надпрыроднае духовае жыцьцё, данае Ёй на векі вечныя самым заснавальнікам Ісусам Хрыстом. Затое ўсякія іншыя арганізацыі, якія стараюцца прыпадобніцца вонкавымі формамі да Царквы, але ня маюць самага істотнага — Божага пачатку — ня маюць паўнаты духовага жыцьця і тым самым выяўляюць сваё зманнае абліччa.



На чым-жа палягае жыцьцё Хрыстове Царквы? На тым, што Яна займаецца ўсімі актуальнымі пытаньнямі і стараецца вырашыць іх у духу навукі Хрыста. Вось прыглянемся да дзейнасьці Каталіцкае Царквы за апошняе стагодзьдзе і перадусім у сучаснасьці.

У **дагматычнай** галіне Каталіцкая Царква мае ад даўна абвешчаныя праўды веры, але акрамя таго Яна мае яшчэ скарбніцу веры ў Сьвятым Аб'яўленьні і ў Сьвятой Традыцыі, дзе месьцяцца праўды веры яшчэ не паданыя да абавязковага вераваньня. З гэтага скарбу Царква карыстае ў меру патрэбы. За апошняе стагодзьдзе Сусьветныя Архірэі, карыстаючы з гэтага скарбу, абвесьцілі дзьве новыя праўды веры: у 1854 г. — аб непарочным пачацьці Багародзіцы, а ў 1950 г. — аб унебаўзяцьці Багародзіцы. Тым самым Каталіцкая Царква выяўляе і заяўляе на ўвесь сьвет, што Яна сёньня такая-ж поўная надпрыроднага жыцьця, як і ў апостальскіх часох, калі праўды веры атрымоўвалі сваю першую фармуліроўку.

Ад пачатку свайго існаваньня і да нашых дзён у Каталіцкай Царкве няспынна расьце лік **сьвятых і багаўслаўленых** і тым самым выказваецца, што яна верна выконвае сваё найважнейшае пасланьніцтва — мае ад Бога ўсе ласкі, каб прыводзіць людзей нават да вяршынь сьвятасьці і умела карыстае з іх.

Каталіцкая Царква заўсёды паслушна выконвала наказ Хрыста: «Ідзеце навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выконваць усё тое, што Я загадаў вам». (Мат. (XXVII, 19-20). І выконвае яго цяпер праз свае **місіі,** але цяпер адпаведна да духу часу ў дзейнасьці місіянароў кладзецца асаблівы націск на узгадаваньне мяйсцовага духавенства — чорныя і жоўтыя біскупы і кардыналы занялі свае мейсца ў царкоўнай ерархіі.

Ад пару дзесяткаў гадоў вельмі ажывіўся так званы **літургічны рух,** маючы на мэце пашырэньне між найшырэйшых кругоў вернікаў разуменьне абрадавых пытаньняў і заахвочаньне да актыўнейшага ўдзелу ў абрадавых практыках. У зьвязку з гэтым рухам Апостальскі Пасад дазволіў ужываць жывыя мовы ў некаторых сакрамэнтальных абра-

дах, а так-жа дазволіў некаторыя новыя культы, як: Найсьвяцейшага Сэрца, (1856 г. для ўсяе Царквы), Найсьвяцейшае Крыві (1849 г.), Хрыста Валадара (1925 г.) і інш., але адначасна забаронена некаторыя спробы выкрыўленьня рэлігійнага культу як: культ Хрыстовага аблічча, культ Дзевы-Сьвятаркі і інш.

Для нас асабліва годныя ўвагі тыя новаўвядзеньні, выкліканыя літургічным рухам, якія збліжаюць літургічныя практыкі Усходняе і Заходняе Цэркваў, напрыклад: гатычныя рызы, час адпраўленьня багаслужэньняў у Вялікім Тыдні, дазвол прычасьця вернікаў у любым абрадзе дзеля пабожнасьці і інш.

У навучаньні рэлігіі ўсьцяж вядуцца спробы найбольш даступнага і ўспрыймальнага паясьненьня праўдаў веры — гэта **катэхізмовы** рух. Ён абумоўлены ня толькі новымі пэдагагічнымі плынямі, але так-жа і тымі абставінамі, у якіх знаходзіцца школьніцтва ў паасобных краінах. У тых краінах, дзе ў дзяржаўных школах не навучаюць рэлігіі, Царква стараецца арганізаваць **вольнае школьніцтва,** або прынамся дадатковыя лекцыі для навучаньня рэлігіі. Сёньня Каталіцкая Царква мае сотні тысяч пачаткавых, сярэдніх і вышэйшых школаў з унівэрсытэтамі ўключна. Гэта ёсьць бадай найбольш вымоўны адказ усім тым бязбожным агітатарам, якія ўсіх веруючых людзей абзываюць цемрашаламі. У краінах, дзе ўладу захапілі бязбожнікі, навучаць рэлігію ў школах забаронена і вольнае школьніцтва забаронена — тым самым бязбожнікі выяўляюць, што яны ёсьць сапраўдныя цемрашалы.

Падзел Хрыстовае Царквы бязумоўна супярэчыць навуцы Хрыста і Ягонаму выразнаму жаданьню: «каб усе было адно» (Іван XVII, 21). Дзеля гэтага Каталіцкая Царква ніколі ня спыняла старанньняў для **аб'еднаньня Цэркваў.** Гэты рух узмацняецца з году ў год. Для утварэньня спрыяючае атмасфэры ладзяцца шматлікія сустрэчы, зьезды, канфэрэнцыі, выдаюцца шматлікія часапісы, якія займаюцца выключна пытаньнямі аб'еднаньня. Пры тым доўгавяковая практыка паказала, што важная справа аб'еднаньня Цэркваў ёсьць справаю Божаю і дзеля гэтага акрамя прыватных малітваў, якія ў гэтым намераньні ніколі ня спыняліся, ладзяцца ўва ўсім каталіцкім сьвеце пачынаючы ад 1909 г. штогод у месяцы студні Тыдні Малітваў за аб'еднаньне Цэркваў.

Для аблягчэньня захаваньня эвангельскае навукі ў штодзенным жыцьці ўжо аддаўна тварыліся ў Каталіцкай Царкве розныя **арганізацыі,** а ў навейшых часох арганізацыйнае каталіцкае жыцьцё значна ўзмаглося. Такія арганізацыі, як: каталіцкая акцыя, каталіцкія арганізацыі моладзі, юнацкія арганізацыі, дэвацыйныя арганізацыі — існуюць амаль пры кожнай каталіцкай парахвіі ў вольным сьвеце. Створана так-жа цэлы рад фаховых і прафсаюзных каталіцкіх арганізацыяў, як: аб'еднаньне каталіцкіх лекараў, аб'еднаньне каталіцкіх інжынераў, журналістаў, артыстаў і інш. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць арганізацыі, што маюць міжнародны характар, як: міжнародная арганізацыя каталіцкіх інтэлектуалістаў «Pax Romana», арганізацыя для садзеяньня дабрасуседзкіх адносінаў «Pax Christi», міжнароднае аб'еднаньне каталіцкіх журналістаў, міжнародны цэнтр хрысьціянскіх сындыкатаў. Некалькі гадоў таму створана каардынацыйны цэнтр для ўсіх каталіцкіх міжнародных арганізацыяў.

Беларускае рэлігійнае арганізацыйнае жыцьцё на бацькаўшчыне забаронена як найбольшы злочын — контррэвалюцыя, а на эміграцыі яно ня мае ніякіх абмежаваньняў, але нажаль утруднена вялікім расьсеяньнем. Аднак не зважаючы на ніякія цяжкасьці ў 1949 г. створана Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'еднаньне «Рунь», якое ў 1951 г. сталася сябрам міжнароднае арганізацыі «Pax Romana» і тым самым вядучы сваю працу між эміграцыяю, адначасна рэпрэзэнтуе Беларусь і ў міжнародным жыцьці. Аб дзейнасьці «Руні» няраз публікаваліся ў беларускай прэсе запемкі і артыкулы з нагоды Тыдняў студыяў.

Між усіх каталіцкіх арганізацыяў асаблівае мейсца займаюць **дабрадзейныя арганізацыі,** якія ўтрымоўваюць сірацінцы, шпіталі, дамы для старых, успамагаюць убогіх — гэта найстарэйшыя арганізацыі Каталіцкае Царквы, утвораныя для выкананьня найбольш істотнага загаду Хрыста ў адносінах да бліжніх «Што зрабілі аднаму з тых меншых братоў Маіх, — Мне зрабілі» (Мат. XXV, 40).

У сучасным сьвеце цяжка нават знайці нейкую паважнейшую грамадзкую арганізацыю без свайго **друкаванага слова.** З гэтага гледзішча Каталіцкая Царква займае далёка не апошняе мейсца. Каталіцкія газэты, часапісы, бюлетэні, зборнікі і папулярнага і навуковага характару выдаюцца на ўсіх культурных мовах сьвету. Існуюць так-жа шматлікія выдавецтвы рэлігійнае літаратуры.

Беларуская эміграцыя, не зважаючы на вялікія матэрыяльныя цяжкасьці, увесь час выдае некалькі папулярных і навуковых рэлігійных часапісаў (Ад 1946 г. да сёньня зьявілася на эміграцыі 9 назоваў беларускіх каталіцкіх пэрыёдыкаў, з іх 5 спынілі свой выхад, а 4 выходзяць далей).

У цесным зьвязку з пэрыядычным друкам працуюць каталіцкія **інфармацыйныя агэнцыі.** Яны ёсьць у кожнай вольнай дзяржаве, дзе паважны працэнт насельніцтва складаюць каталікі. Найбольш ведамаю з іх лічыцца агэнцыя «Фідэс».

У зьвязку з агульнымі грамадзкімі плынямі, якія нуртуюць у сучасным сьвеце, на асаблівую ўвагу заслугоўвае каталіцкі **сацыяльны рух,** за-

пачаткаваны энцыклікаю папы Льва XIII «Rerum Novarum» 15.V.1891 г. У далейшым яшчэ зьявілася некалькі энцыклікаў, якія беспасрэдна, ці пасрэдна займаліся сацыяльнымі пытаньнямі з гледзішча хрысьціянскае навукі. Для практычнага ажыцьцяўленьня каталіцкае навукі адносна сацыяльнага пытаньня зьявіліся адпаведныя арганізацыі і што найважнейшае — зьявіліся каталіцкія **работніцкія арганізацыі** ў форме хрысьціянскіх сындыкатаў. Гэты рух спачатку вельмі кволы, з году ў год мацнее і прыступае да канкрэтных вырашэньняў найбольш жыцьцёва важных пытаньняў у духу каталіцкае сацыяльнае навукі. У некаторых дзяржавах, як напрыклад у Францыі ад даўжэйшага часу ладзяцца Сацыяльныя Тыдні студыяў, дзе ўсебакова абгаворваюцца найбольш актуальныя сацыяльныя праблемы.

Беларуская эміграцыя так-жа жыва цікавіцца сацыяльнымі пытаньнямі і ўжо ад 1945 г. існуе ў Францыі Беларуская Сэкцыя Хрысьціянскага Сындыкату Работнікаў — яна гуртуе ўвесь актыў беларускіх работнікаў у Францыі.

**Радыё, кіно, тэатр** — так-жа не асталіся бяз увагі Каталіцкае Царквы. У шматлікіх краінах вольнага сьвету каталіцкія перадачы ўключаны ў радыёпраграму, а ў некаторых краінах ёсьць выключна каталіцкія радыёстанцыі. Найбольшая каталіцкая радыёстанцыя ёсьць у Ватыкане, якая надае свае радыёперадачы ў шматлікіх мовах, між імі так-жа і пабеларуску.

Справамі кіна займаецца спэцыяльная арганізацыя Цэнтр каталіцкага кіно, яна-ж вядзе маральную ацэнку ўсіх фільмаў. Шматлікія парахвіі маюць свае радыёўстаноўкі і ладзяць рэгулярныя сэансы.

Тэатр у старых часох быў дапаўненьнем да багаслужэньняў і катэхізацыі, а сёньня Каталіцкая Царква карыстаецца тэатрам для прапаганды добрых і маральна здаровых драмаў.

У некаторых з гэтых шматлікіх рухаў часам здараюцца выпадкі, што некаторыя адзінкі, ці групы робяць неадпаведныя крокі і тады вышэйшае кіраўніцтва Каталіцкае Царквы прымае адпаведныя захады для належнае направы.

Гаворачы аб усіх гэтых рухах, ня трэба забывацца, што найбольш істотнаю працаю Каталіцкае Царквы ёсьць **душпастырская праца:** выконваньне сьвятых Тайнаў, навучаньне праўдаў веры, аддаваньне найвышэйшага культу Богу ў багаслужэньнях — і ўся гэтая праца вядзецца няспынна, як няспынна тліцца ў кожнай царкве перад Найсьвяцейшымі Дарамі лямпадка з вечным агнём. Але і ў гэтай галіне ёсьць нямала новых рухаў, як рух сьвятароў-работнікаў, аб якіх колькі гадоў таму шырока гаварылася на старонках пэрыядычнага друку.

Гэты, хоць вельмі кароткі і няпоўны абраз дзейнасьці Каталіцкае Царквы, уняты ў агульных словах і абмежаваны толькі да пералічэньня найбольш актуальных рухаў, даволі вымоўна сьведчыць, што Каталіцкая Царква жыве поўным жыцьцём і адначасна з надпрыроднымі дарамі Божае ласкі выкарыстоўвае ўсе дачасныя асягненьні ўва ўсіх галінах жыцьця для выкананьня свайго апостальства. Яна перажывае ўсе болі і радасьці, якія займаюць сэрца і розум чалавека, маючы заўсёды на ўвеце сваё найбольшае заданьне: давесьці кожнага чалавека добрае волі да апошняе мэты людзкога жыцьця, якою ёсьць — Бог і неба.

У падсавецкіх краінах царкоўнае жыцьцё дазвалаецца толькі ў рамках выконваньня культу, а ўсякую іншую дзейнасьць або моцна абмяжоўваецца, або проста строга забараняецца. Такія адносіны да рэлігіі ёсьць ня што іншае, як спавольненае прасьледаваньне, якое спачатку стараецца спараліжаваць духовае жыцьцё ўсіх Цэркваў, каб потым іх зусім зьліквідаваць. Але за час свайго існаваньня Хрыстовая Царква перажывала часта розныя прасьледаваньні, з якіх заўсёды выходзіла адноўленаю і ўмацаванаю. Ня інакш будзе і цяпер, бо ўжо ёсьць шмат азнакаў, што ўва ўсіх падсавецкіх краінах рэлігійнае жыцьцё праяўляецца пры кожнай нагодзе з узрастаючаю сілаю.

Затое сумна, што ў вольным сьвеце сустракаецца шмат вернікаў, якія не праяўляюць ніякага духовага жыцьця, ня ўдзельнічаюць у ніводнай галіне рэлігійнага руху. Такая пасыўнасьць можа давесьці да поўнае духоўнае сьмерці, да страты апошняе мэты жыцьця. Каб перасьцерагчы перад гэтым страшэнным няшчасьцем паклікана да працы сьвецкае апостальства. У нас беларусаў тымчасам няма гэтае арганізацыі, але яе патрэба вельмі адчуваецца. Аднак пакуль яна будзе створана неабходна памятаць, што да апостальства забавязаны кожны вернік. На сумленьні кожнага чалавека ляжыць ня толькі збаўленьне яго душы, але і збаўленьне душ нашых бліжніх. Не дапускайма-ж да таго, каб нашыя бліжнія сталіся духовымі пакойнікамі. У радох беларускае эміграцыі не павінна быць непрактыкуючых вернікаў.

**а. Леў.**

# Рэлігійны элемэнт у Беларускай народнай творчасьці

У гісторыі беларускае культуры вусная народная творчасьць займае адно з найбольш пачэсных мейсцаў і ўжо хоць-бы дзеля гэтага заслугоўвае на асаблівую ўвагу.

На працягу вякоў шматлікім народам вусная народная творчасьць замянала сабою і літаратуру, і філязафічныя школы. Дакладней кажучы, яна была ўсенароднаю школаю, бо розныя сыстэмы паасобных філёзафаў звычайна мелі толькі невялікі гурт пасьлядоўнікаў і то ўсяго на кароткі час, а філязафічныя пагляды, выказаныя ў народнай творчасьці, былі школаю для ўсяго народу на працягу доўгіх вякоў. Так было і ў Беларусі. Нязьлічаныя прыказкі, пагаворкі, загадкі, казкі, бытавыя і абрадавыя песьні, прыпеўкі, быліны, лягэнды, пераказы — перадаваліся з пакаленьня ў пакаленьне, вытвараючы сьветапагляд, які найбольш адказваў душы беларускага народу.

За час свайго палітычнага паняволеньня беларускі народ страціў шмат сваіх скарбаў: шмат зруйнована памятак культуры, шмат пакрадзена гістарычных скарбаў, шмат іх зьнішчана зусім, зрабована бясцэнныя матэрыяльныя скарбы — але за гэты час бязупынна разьвівалася беларуская вусная народная творчасьць і сталася адною з багацейшых у сьвеце.

Няма дзіву, што сучасныя захопнікі Беларусі не прайшлі міма гэтага вялікага духовага скарбу беларускага народу. Яны рабілі і робяць шмат стараньняў, каб апаганіць гэты скарб. Сёньняшнія бязбожныя валадары Беларусі добра ведаюць, што народная творчасьць ёсьць голасам душы народу; ведаюць, што праз вусную творчасьць народ выказвае свае найглыбейшыя перакананьні, свае пажаданьні, сваю веру. І ўсё тое, што выказвала беларуская народная творчасьць востра супярэчыла камуністычна-матэрыялістычнаму сьветапагляду, які бязбожныя расейскія верхаводы стараюцца сіламоц накінуць беларускаму народу. Дзеля гэтага бальшавіцкае кіраўніцтва грубіянскім спосабам стараецца сфальшаваць аблічча беларускае народнае творчасьці, уводзячы ў яе напісаныя па заказу розныя вытвары партыйных пісакаў, сапраўдную-ж народную творчасьць імкнуцца гнобіць. Варта прыпомніць, што за час бальшавіцкага панаваньня на Беларусі было выдана ўсяго пару невялікіх зборнікаў беларускае народнае творчасьці, пры тым нават гэтыя дробныя выданьні былі зьнішчаны разам з старымі дарэвалюцыйнымі выданьнямі пад прэтэкстам ліквідацыі нацдэмаўшчыны.

Апошнім часам (ад якіх трох гадоў) у Савецкай Беларусі адчуваецца нейкае ажыўленьне ў адносінах да вуснае народнае творчасьці, але зноў ўсяго на толькі, каб з яе зрабіць дымную заслону, праз якую выстаўляюць камуністычныя агітацыйныя клічы быццам народную творчасьць. А таму што бязбожная прапаганда неразьдзельна зьвязана з камунізмам, дык робяцца ўсякія намаганьні, каб увесьці ў беларускую народную творчасць бязбожныя выдумкі агітатараў.

Няма ніякае патрэбы ўвайходзіць у спрэчкі з людзьмі, якія сьведама перакручваюць няпрыемную для іх праўду, бо яны лепш чым хто іншы ведаюць, як яны фальшуюць факты. Дзеля гэтага можна было-б наагул не закранаць гэтае тэмы, але нажаль ёсьць шмат прычынаў дзеля якіх беларуская народная творчасьць наагул была мала ведамая ў сьвеце і нават шматлікія беларусы, якіх цяжкія жыцьцёвыя абставіны адарвалі ад роднага карэньня, мала яе ведалі. Таму варта зьвярнуць увагу ўсяго беларускага грамадзтва на той вартасны духовы скарб, якім ёсьць вусная народная творчасьць. Нас у першую чаргу будзе цікавіць найбольш істотны элемэнт гэтае творчасьці — гэта рэлігійны элемэнт.

Кажучы, што найбольш істотным элемэнтам у беларускай народнай творчасьці ёсьць рэлігійны элемэнт, мы быццам забягаем напярод, але гэта на толькі ведамы факт для ўсіх тых, хто ведае беларускую народную творчасьць, што да нядаўна яго ніхто не аспрэчваў. Нават такі ваюючы бязбожнік, як К. Крапіва ў артыкуле аб беларускіх прыказках мусіў сьцьвердзіць: «Сярод прыказак, у якіх адбіліся вераваньні народу, першае мейсца займаюць такія, дзе аб'ектам зьяўляецца Бог» (Кандрат Крапіва. Зборнік твораў. Том 2, стар. 391. Мінск 1956). Да гэтага сказу трэба дадаць, што такое-ж мейсца Бог займае наагул ува ўсей беларускай народнай творчасьці, а напрыклад абрадавыя песьні дык амаль усе ёсьць рэлігійныя, прызначаныя для апяваньня сьвятаў, як: калядныя, шчадроўскія, валачобныя, сёмушныя, купальскія, пятроўскія. А колькі ёсць глыбокарэлігійных беларускіх казак і лягэндаў! Некаторыя з іх глыбінёю сваіх ідэяў і мастацтвам формы дараўноўваюць клясычным творам сусьветнае літаратуры. Напрыклад казка «Марка пякельны» гэта быццам кароценькая «Боская камэдыя» Алігіерэ Дантэ.

Характэрнаю азнакаю беларускае народнае творчасьці ёсьць іронія — высьмейваньне людзей з дрэннымі нахіламі. У казках і прыказках востра бічуюцца ўсе заганы людзкога характару. Зразумела, што і заганы духавенства так-жа не збыходзяцца моўчанкаю. Вось такія казкі і прыказкі, дзе дакараецца нягодных духоўных, камуністычныя пісакі стараюцца прадставіць быццам выяў бязбожнага настрою. Хоць у сапраўднасьці рэч маецца зусім наадварот. У тых казках і прыказках беларускі народ выказвае сваю глыбокую пашану да ўсяго рэлігінага, да ўсяго сьвятога і таму шчыра абураецца супраць тых людзей, якія нагодныя, каб займаліся сьвятымі рэчамі.

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць разячую непасьлядоўнасьць бальшавіцкае прапаганды. Калі-б крытыка дрэнных духоўных была нейкім доказам бязбожнасьці народнае творчасьці, дык тады бальшавіцкая крытыка розных недахопаў іхных кіраўнікоў (якіх яны зьліквідавалі цэлыя сотні) была-б доказам, што ў камуністычнай партыі

наагул няма ані камуністаў, ані верных партыйцаў.

Трэба так-жа заўважыць, што Сьвятое Пісаньне — кніга напісаная пад натхненьнем Сьвятога Духа, мае яшчэ больш вострыя дакоры супраць нягоднага духавентсва чым беларуская народная творчасьць. Напрыклад уся 23-я глава Эвангельля паводля Матэя пераказвае грозныя дакоры, якія выйшлі з вуснаў самога Ісуса Хрыста: «Гора вам, кніжнікі і фарысэі — крывадушнікі, што зачыняеце Царства Нябеснае перад людзьмі: бо і самі не ўвайходзіце і тых, што хочуць увайсьці, ня пушчаеце...» Царква так-жа ня гладзіць па галоўцы нягодных духоўных. У кадэксе кананічнага права ёсьць аж 202 каноны з азначэньнем караў на незахаваньне царкоўнае дысцыпліны. Аднак з гэтых фактаў яшчэ ніхто, маючы здаровы розум, не займеў ніколі думкі гаварыць аб бязбожнасьці Хрыста, ці Хрыстовае Царквы. І толькі бязбожныя агітатары ў Савецькай Беларусі надумаліся здаровую крытуку заганных людзей перакруціць на свой бязбожны капыл, прамоўчваючы пры гэтым найбольш істотную частку народнае творчасьці.

Свае філязафічныя і рэлігійныя пераканаьні народ выказвае найбольш ясна ў прыказках. Не дарма іх называюць скарбам народнае мудрасьці. Таму ў далейшым, разглядаючы рэлігійны элемэнт у беларускай народнай творчасьці мы абмяжуемся перадусім спасылкамі на прыказкі і пагаворкі.

Для беларускага народу праўда аб існаваньні Бога ёсьць бясcумніўна пэўнаю і дзеля гэтага для падцьверджаньня якоесь бясcумніўна пэўнае праўды ужываецца пагаворка: «Як Бог на небе». Аб пазнаньні-ж Бога гаворыцца коратка:

Бога ня бачыш, але чуеш.

Што да прыметаў Бога, дык народная мудрасьць больш зьвяртае ўвагу на тыя прыметы, якія выяўляюцца ў Божай дзейнасьці. Перадусім Бог зьяўляецца **абсалютным** валадаром сусьвету:

Бяз божае волі нічога ня станецца.
Бог бярэ, Бог і дае.
Бог захоча, і з рук адыме.
Бог лесу не параўнаваў, дык і людзей не раўнуе.
Бог так дае, як сам знае.
Бог усё можа.
Бяз Божае волі нічога ня станецца.
З Богам кантрактаў ня робіш.
З Богам не спрачацца.
З Богам ні біцца, ні судзіцца.
З Богам таргавацца ня будзеш.
З Богам у суд ня пойдзеш.
І людзі не памогуць, калі Бог не паможа.
Каго Бог злучыць, ніхто не разлучыць.
Тое будзе, што Бог дасьць.
У Бога нічога ня трудна.
Як Бог скажа, так і будзе.
Як Бог сьвет тварыў, дык цябе розуму ня пытаў.

Як абсалютны Валадар сусьвету Бог ёсьць **усемагутным.** Але з гэтага гледзішча ў дачыненьні Бога да людзей беларуская народная мудрасьць часам заходзіць задалёка і ня ўзгляднівае тае акалічнасьці, што Бог адзін раз даўшы чалавеку вольную волю, ніколі яе ня зьнішчае, ня гледзячы на сваю ўсемагутнасьць. А па-за тым выказваньне народнае мудрасьці аб Божай усемагутнасьці правільнае:

Бог захоча і сьляпы ўбача.
Бог не захоча, то як ня круціся, а нічога ня будзе.
Божае волі не пераможаш.
Бог з людзей робіць ігрыско, аднаго ўгару ,а другога нізко.
Бяз Бога людзі не памога.
Бяз Бога ні да парога, а з Богам хоць за мора.
Над Бога няма нікога.
Ніхто ў Бога ня быў, з Богам не меркаваўся. Зн. Ніхто ня ведае Божых плянаў і не ўмаўляўся з Ім.
Сілаю ў Бога ня возьмеш.
У Бога ўсё напагатове.
Чалавек круціць, а Бог разкручвае.
Што Бог дасьць, тое і будзе.

Божая ўсемагутнасьць праяўляецца тя толькі ў пэўных дачыненьнях, але ўва ўсім і на кожным мейсцы, **Ён усюдыпрысутны:**

Ад Бога нідзе не схаваешся — усюды знойдзе.
Ад Бога нікуды не ўцячэш.

Зусім згодна з аб'яўленаю багасловіяю беларуская народная мудрасьць прымае як бясспрэчную праўду, што Бог ёсьць **усёзнаючым:**

Бог бачыць з неба, чаго каму трэба.
Бог адзін ведае, а ня мы грэшныя.
Бог ведае, хто як абедае.
Бога ня думай амбмануць.
Бог найлепш ведае, хто чаго варт.
Бог усё бачыць, усё ведае; ад Яго нічога ня ўтоіш.
Грэх не схаваеш у мех — Бог далёка бачыць.
Заўтра аднаму Богу ведама.
Ня строй жарцікаў, Бога не абманеш.
Перад Бога нідзе не схаваешся.

Неразлучна зьвязана з папярэднімі Божымі прыметамі Ягоная **мудрасьць.** І так як Божыя прыметы твораць у сабе адну непадзельную суцэльнасьць, падобна і прыказкі часта выказваюць некалькі прыметаў адначасна, але дзеля эканоміі мейсца паўтараць іх ня будзем:

Бог ведае, што робіць.
Бог лепшы за нас гаспадар.
Бог так дае, як сам знае.

Бог стары гаспадар — ведае, што робіць.
Ведаў Бог, што ня даў сьвіні рог, а то ўвесь сьвет перавярнула-б.
Нам Бога ня вучыць, сам знае.
Так як ведаў Бог, чаму не параўнаваў гораў і далінаў, так ведае, чаму людзей не раўнуе.

Калі Божая мудрасьць часам можа выдавацца людзям вельмі строгаю, дык затое іншая азнака злагоднівае яе — гэта **доўгацерплівасьць.** Бог ніколі не сьпяшаецца вымерваць людзям сваю нагароду, ці кару:

Бог доўга цярпіць.
Бог цярпеў і нам казаў.
Сабака і на Бога брэша, а Бог маўчыць.

Зразумела, што доўгацерплівасьць не абмяжоўвае свабоднае **Божае волі,** ад якое залежыць увесь сусьвет, а тым самым і чалавек:

Усе пад Богам жывём.
Чалавек жыве з Божае ласкі.
Чалавек працуе, а Бог ім кіруе.

Часам людзям здаецца, што Бог запавольна выказвае сваю волю і сваю кіруючую руку і тут беларуская народная мудрасьць зусім згодная з багаслоўскаю навукаю, што для Бога часу няма, а ўсе свае **пляны і абяцанкі** Ён выконвае непамылна ў найбольш адпаведны мамэнт:

Абяцаў Бог даць, але казаў пачакаць.
Бог ня стучон, а лучон.
Бог праўду бачыць, але ня скора скажа.
Бог, што абяцае, тое й датрымае.

Найбольш істотныя Божыя абяцанкі адносяцца да вечнага шчасьця ў будучым жыцьці, але ў дачасным жыцьці кожнага чалавека Бог выстаўляе на **пробу,** дзеля гэтага і кажацца:

Каго Бог любіць, таму крыжык дае,

бо ведама, што вечнае шчасьце трэба заслужыць і ў зьвязку з гэтым народная мудрасьць добра азначае сапраўдны **сэнс цярпеньня:**

За цярпеньне дасьць Бог збаўленьне.
На гэтым сьвеце адпакутуеш, на тым ня будзеш.

Акрамя гэтага глыбокага сэнсу цярпеньня часта Бог яго пасылае як **перасьцярогу** людзям, каб яны апамяталіся:

Бог пакарае, Бог і памілуе.
Бог засмуціць, Бог і пацешыць.
Ня Божае караньне, а сваё дураваньне.
Як трывога, дык і да Бога.

Калі перасьцярога не памагае, тады грэшнікам Бог пасылае больш **даймаючыя дачасныя кары:**

Бог за ліха ліхам плаціць.
Забыўся аб Богу, Бог аб ім забыўся.
З Богам жартаў няма.
З Богам кепскія жарты.
Каго Бог хоча пакараць, таму перш розум адыме.
Калі Бог разгневаецца, то няпрыяцеляў пашле.

Кары ёсьць розныя, за лёгкія правіны праз шчырую пакуту можна нават унікнуць кары, але за нявінна пралітую кроў пакараньне нямінучае, бо:

Нявінная кроў будзе плакаць перад Богам аб помсту.

Дачасныя кары, хоць і нясуць з сабою цярценьне, але маюць на меце збаўленьне чалавека. Што-б з чалавекам ня сталася, але да апошняе хвіліны дачаснага жыцьця Бог не пакідае чалавека:

Чалавек у няшчасьці а Бог у парозе.

Наагул ува ўсей дзейнасьці, а парадусім у адносінах да людзей, Бог заўсёды выступае як найлепшы **нябесны Айцец:**

Бог бачыць сірочыя сьлёзы.
Бог дае на ўсіх долю.
Кожны аб сабе, а Бог аб усіх.
На ўсякага Бог родзіць.

Пры тым нават і ў пакараньнях:

Бог ласкавей судзіць за людзей.
Каго Бог любіць, таго не загубіць.

А любіць Ён усіх людзей і адпаведна да патрэбы нікому не адмаўляе свае **помачы,** якая патрэбна ўсім:

Бяз Божае помачы нічога ня зробіш.
Дапамог Бог зрабіць, дапаможа і спажыць.
З адным Богам на сто ворагаў.
За сіратою Бог з калітою.
Калі-б ня Бог, хто-б нам дапамог.
Калі Бог ня дасьць, то і людзі не памогуць.
Калі будзем у Бога годны, ня будзем галодны.
Над удавою Бог з калітою.
Удаецца, калі хто з Богам бярэцца.
Хто Богу, таму і Бог.
Хто-ж нам дапаможа, калі ня Ты, Божа!
Як Бог адбярэ, то і людзі добрыя не памогуць.
Як Бог адступіцца, то і добрыя людзі не памогуць.
Як Бог дапаможа, то усё пераможам.

Сьведамасьць таго, што Божая і караючая і мілуючая рука заўсёды кіруе чалавека да дабра, выклікае шчырую **ўдзячнасьць:**

За ўсё Богу дзякуйма.
За ўсё хваліць Бога.

Характэрна, што беларуская народная мудрасьць вельмі трапна азначае **спосаб Божае помачы:**

Калі Бог памілуе, то чалавека пашле.
Схоча Бог даць, то знойдзе кім пасланць.

Народная мудрасьць строга асуджае тых, хто дрэнна разумее Божую помач і спасылаючыся на яе апраўдвае сваё гультайства. Бязьдзейнасьць ёсьць грахом, бо-ж Бог дае чалавеку **сілы на тое,**

**каб карыстацца імі,** а не на тое, каб яны марналіся:

Адважнаму і Бог памагае.
Бог ды Бог, але і сам ня будзь плох.
За старанным Бог.
Калі хочаш, каб даў Бог, сам ня будзь плох.
На Бога надзейся, але і сам рук не апускай.
На Бога спадзявайся, але і сам, нябож, старайся.
«Памажы Божа!» да-й ты не ляжы, нябожа.
Працуй, нябожа, і Бог дапаможа.
Сьцеражонага і Бог сьцеражэ.
Хто позна ўстае, таму Бог не дае.
Хто стараецца, таго Бог ня цураецца.

Акрамя прыродных сілаў, якімі Бог абдзяляе чалавека ад нараджэньня, Ён укладае ў душу кожнага жаданьне да духовага росту. У першую чаргу гэта павінна праявіцца ў набыцьці багаслоўскіх і грамадзкіх **цнотаў.** Калі-ж замест цнотаў у душы чалавека закарэняцца заганы, гэткіх людзей народаня мудрасьць асуджае вельмі востра.

Гордага Бог з неба скідае.
Хто без надзеі ў Бога, той плача многа.
Хто Бога не баіцца, той баіцца людзей.

Асуджаючы заганнае жыцьцё і ўсе дрэнныя нахілы, народная мудрасьць прадстаўляе адначасна цноты ў іх сапраўдным сьвятле, каб ніхто ня думаў, што цнатліваму чалавеку жыцьцё будзе йсьці як па масьле, не: **цнатлівае жыцьцё,** гэта пабожнае жыцьцё. І цнатлівым людзям Бог часам можа пасылаць жыцьцёвы крыж цяжэйшы, як ліхадзеям, але ўва ўсіх цярпеньнях цнатлівым людзям Бог дае асаблівую ласку нясьці жыцьцёвы крыж з унутраным супакоем, бо:

Добраму Бог памагае.
Добрых людзей Бог не забывае, хлеб да хаты пасылае.
Госьць на дварэ і Бог на дварэ.
Каго Бог любіць, таго не загубіць.
У простых сэрцах Бог спачывае.
Хто для людзей добры, той і ў Бога шчасьлівы.
Хто з Богам, з тым і Бог.
Хто знае Бога, той знае ўстыд.
Хто па праўдзе жыве, таму Бог дае.
Шчырага Бог любіць, але долі не дае.
Шчыраму і Бог памагае.
Шчырая каянка Богу міла.

Цнатлівае жыцьцё вымагае ад чалавека нямала ахвяраў і вялікага гарту волі, але праз гэта чалавек зьбліжаецца да Бога, бо цнатлівае жыцьцё ёсьць праведным жыцьцём, а Бог любіць **праўду і праўдамоўнасьць;**

Адзін Бог праўду любіць.
Бог любіць праведніка, а чорт ябедніка.
Бог не такі, ня слухае сабакі.
Бога ня думай абмануць
Бог усякага праўду бачыць.
За праўду Бог стаіць.
За справядлівым Бог.
Праўда груба, але Богу люба.
У аднаго Бога праўда.

Затое крывадушных людзей Бог моцна нялюбіць і асабліва гідзіцца крывадушнаю пабожнасьцю, ці як яе інакш называюць **фарысэйствам:**

Анёлам ляцеў, а чортам сеў.
Абрыд і Богу і людзям.
Калі трывога, тады да Бога, а як па трывозе, дык і па Бозе.
Людзей ашукаеш, а Бога не.
Махлярствам да Бога ня дойдзеш.
Набожны, як жыд падарожны.
Набожны, як конь сьвятога Юр'я; сьвяты Юры да касьцёла, а конь да кабылы.
Перад Богам кленчыць, а людзей мэнчыць.

Гэтак сама востра асуджаецца **грэх,** як вялікае зло, да якога нельга адносіцца абыякава:

Грэх не схаваеш у мех, Бог далёка бачыць.
Грэх ня сьмех — не адстане, хіба папу (ксяндзу) аддасі.

Ня менш востра асуджаецца **нягодных духоўных,** што служыць:

Не для Ісуса, а для хлеба куса.

асабліва тады, калі яны на сьвятарства глядяць выключна, як крыніцу нажывы:

Каму мярцьвец, а каму таварэц.
Ксёндз кажа: «Падай, Божа, што высока, а што нізка, дык я і сам вазьму».
Поп адно ўмее, як браць, а ня знае, як даваць.
Поп і за жывога і за мёртвага бярэ.
Поп людзей карае, а сам ліха мае.

Народ асуджае дрэнных духоўных перадусім дзеля таго, што высока цэніць сьвятарскае становішча, якое павінны выконваць «залатыя людзі»:

Даўней былі чашы дзеравянныя, але папы залатыя, а сёньня чашы залатыя, але папы дзеравянныя.

Усё, што патрэбнае чалавеку для прыроднага і надпрыроднага жыцьця, Бог дае ці то ў форме прыродных сілаў, ці ў форме надпрыроднае ласкі, аднак для ўтрыманьня, умацаваньня і пабольшаньня ласкі неабходная **малітва,** яна так-жа патрэбная для ўсякае іншае надпрыроднае помачы і для падтрыманьня духовага жыцьця наагул:

Бога ня купіш, Ён толькі па малітвам дае.
Богу маліся і надзею мей.
Ездзеш у дарогу, памаліся Богу.

Не хваліся, упярод Богу памаліся.

Так нам Бог дае, як мы просім.

Хто Бога просіць, таму Бог дае.

Ведама, што малітва гэта зварот да Бога, каб Яго або славіць, або прасіць, або дзякаваць, але ўжо ад вякоў так вядзецца, што найчасьцей да Бога зьвяртаюцца з просьбамі ці то ў форме малітвы, ці ў форме кароткіх заклікаў, аднак **ня ўсе просьбы Бог выслухоўвае** і ў гэтым народная мудрасьць бачыць сапраўдную дабразычлівасьць Бога да людзей і бесканечную Боскую мудрасьць. Падумаць толькі, якое шчасьце для людзей, што Бог ня выслухоўвае праклёнаў:

Бог ня слухае, як сьвіня рухае.

Дзе «бадай» умяшаецца, там Бог адступаецца.

Калі-б Бог слухаў пастуха, то з чарады ні нагі не асталося-б.

Патуль Бог нам даваў, пакуль «бадай» не ўмяшалася.

Дзеля гэтага без дакораў, але з належнаю павагаю выказваецца прызнаньне Богу нават тады, калі Ён дзейнічае **зусім інакш,** як гэтага хацелі-б людзі:

Людзі так, а Бог інак.

Нечага на Бога грашыць.

Чалавек так думае, а Бог іначай.

Бо ў сваім кіраўніцтве сусьветам і людзкою доляю Бог усё робіць паводля сваіх плянаў і найлепш чалавеку будзе тады, калі ён зможа ўцяміць накіраваньне Божых плянаў:

Ні думаў ні гадаў, а так Бог даў.

Чалавек працуе, а Бог ім кіруе.

Чалавек страляе, а Бог кулі носіць.

Таму, калі Бог і пакрыжуе людзкія меркаваньні, дык Ён робіць гэта дзеля дабра людзей, бо як усюды, так і асабліва ў раздаваньні сваіх ласкаў Бог **добры для ўсіх:**

У Бога няма ні багатых, ні бедных: усе роўныя.

У Бога ўсе роўныя: няма горшых, ні лепшых.

А калі так, дык Божае кіраўніцтва і Божую волю трэба ўспрыймаць з **надзеяю і даверам,** што толькі ўзгодніўшы сваю дзейнасьць з Божаю воляю чалавек робіць найразумней:

Абы Бог і добрыя людзі, то усё добра будзе.

Без надзеі на Бога людзі не падмога.

Дасьць Бог дзень, дасьць і дарогу.

Дасьць Бог дзеці, дасьць і на дзеці.

Няхай так Бог дае, як Сам знае.

Няхай так будзе, як Богу падабаецца.

Нажаль людзкая натура вельмі **прывярэдлівая,** таму:

І Бог усім не дагодзіць.

Бог і то няпрыяцеляў мае.

З гэтага гледзішча ў адносінах людзей да Бога вялікі ўплыў мае **матэрыяльнае становішча** людзей:

Бедны Бога памятае, а багаты ўсіх забывае.

Сьведамасьць усяго вышэй сказанага ад вякоў дыктавала беларусу **практычныя рады** на штодзень:

Ад Бога пачынайма.

Бога не забывай, чужых грахоў не перасуджвай.

З людзьмі жыві, а з Богам памірай.

Не гані Бога ў лес, калі ў хату ўлез. Не наракай.

Не гняві Бога.

Памажы чалавеку ў худабе, то дасьць Бог і табе.

Гэтыя рады беларускі народ ня толькі ведаў, але іх практычна выконваў, стараючыся быць у заўсёднай лучнасьці з Богам, як гэта ясна выяўлялася ў розных **пажаданьнях:**

Барані, Божа, ад напасьці.

Дай, Божа, анельску сыць, а мядзьвежу сілу.

Дай, Божа, даваць, а не прасіць.

Дай, Божа, замаладу косьці грызьці, каб на старасьць мякіш есьці.

Дай, Божа, заўсёды сьмяяцца, а ніколі плакаць.

Дай, Божа, і сьмерць, абы не пад плотам.

Дай, Божа, каб было гожа.

Дай, Божа, на жыцьцё, на быцьцё, на добрае здароўе і на доўгі век.

Дай, Божа, на сваёй лаўцы ўмерці.

Дай, Божа, памяць.

Дай, Божа, працаваць, абы ўдома начаваць.

Дай, Божа, разам двое: і шчасьце, і здароўе.

Дай, Божа, старым вочы, а маладым розум.

Дай, Божа, у добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.

Дай, Божа, усё ўмець, але ня ўсё рабіць.

Дай, Божа, чутае бачыць.

Каб тваё слова, ды Богу ў вуха.

Тую-ж самую глыбокую пабожнасьць можна бачыць у беларускіх прывітаньнях працуючым: «Памажы, Божа!», «Прыспарай, Божа!», «Прыступі, Божа, к нашаму пачатку!», «Радзі, Божа!», «Сыць, Божа!».

Усё вышэй сказанае ёсьць толькі дробнаю часткаю рэлігійнага элемэнту ў беларускай народнай вуснай творчасьці. Тут няма прыкладаў з казкаў, лягэндаў, жартаў з заклікамі Бога, і як на пачатку ўспаміналася — прыкладаў з абрадавых песень, але і з таго, што вышэй сказана, відаць аж лішне ясна, што рэлігійнасьць беларускага народу, выказаная ў вуснай творасьці, ёсьць глыбокаю і шчыраю. Між іншым у гэтай-жа творчасьці ёсьць прыгожы адказ сучасным бязбожным бальшавіцкім верхаводам, якія стараюцца сіламоц

залічыць у народную творчасьць блюзьнерскія выдумкі бязбожных пісакоў:

Можна сабаццы і на Бога брахаць.
Ліхі ні Бога не баіцца, ні людзей ня слухае.
Ня конь вязе, а дарога; ня Бог паганяе, а пуга.
Хто Бога не баіцца, той і людзей не шануе.

Ужо ад даўна вядома, што «пабожнасьць народных масаў ёсьць непарушная, як вада ў глыбінях мора; плыні марское паверхні яе ня могуць пацягнуць за сабою, ані агрэць» — як гэта трапна сказаў бэльгійскі вучоны Фр. Кюмон (1868-1947). Таму ўсе намаганьні жменькі бязбожнікаў засланіць сапраўднае аблічча духовага жыцьця беларускага народу астануцця ня чым іншым, як намаганьні таго казачнага асла, які сваімі вушамі хацеў засланіць сонца.

На цяягу свае доўгавяковае гісторыі беларускі народ няраз перажываў вельмі цяжкія пэрыяды. Аднак ніколі не зьняверваўся ў тое, што пераможа ўсе цяжкасьці жыцьця і дачакаецца лепшае будучыні. Беларусы з упэўненасьцю казалі: «Перажылі канстытуцыю, перажывём і гэтую долю куцую». У падтрыманьні гэтае непахіснае веры і нязломнага духу змаганьня мела вялікі ўплыў вусная народная творчасьць, прасякнутая глыбокаю рэлігійнасьцю. Дзеля гэтага сёньня, падобна як гэта было заўсёды, беларускі народ, не зважаючы на ўсе цяжкасьці, якія цяпер перажывае, верыць у лепшае заўтра. А зарукаю непахіснае веры ў перамогу ёсьць гарт волі, выраблены глыбокаю рэлігійнасьцю, якое ня змогуць зьнішчыць ніякія варожыя сілы.

**а. Л. Гарошка.**

---

# Айцец Архімандрыт Фабіан Абрантовіч

**(1884—1940)**



Айцец архімандрыт Фабіян Абрантовіч ёсьць вялікім сынам беларускага народу. Ягонае імя ўпісана залатымі літарамі такжа ў гісторыю Каталіцкае Царквы наагул і Беларускае ў асаблівасьці, якой ён аддаў усе свае таленты і ўканцы — сваё жыцьцё.

Яго асоба і дзейнасьць заслугоўваюць на больш абшырныя студыі, чымся гэты сьціплы артыкул. Магчыма ў недалёкай будучыні, калі канчаткова зьбяруцца і ўпарадкуюцца ягоныя біяграфічныя матэрыялы, прыступім да выданьня яго поўнага жыцьцяпісу.

У жыцьці айца Фабіяна можна разрозьніць два пэрыяды: першы — 1884—1926, гэта значыць ад нараджэньня да ўступленьня ў закон Айцоў Марыянаў; другі — 1926-1940, ад уступленьня ў закон Айцоў Марыянаў да яго мучаніцкай сьмерці. Для яснасьці яшчэ ў гэтых пэрыядах пастараемся вызначыць адпаведныя падразьдзелы.

## 1. 1884—1926

### Сьвятарства, студыі

Фабіян Абрантовіч радзіўся ў старадаўным беларускім горадзе — Наваградку 14 верасьня 1884 г. Тымчасам мы нічога больш не знайшлі аб бацькох будучага сьвятара, апрача таго, што яны ня былі заможнымі, але шчыра веруючымі, практыкуючымі каталікамі. У сям'і Фабіяна Абрантовіча было чацьвра дзяцей: Фабіян, яго брат Казімер і дьзве сястры.

Скончыўшы пачатковую і сярэднюю школу на бацькаўшчыне і чуючы ў сабе пакліканьне да духоўнага стану, Фабіян уступіў у рыма-каталіцкую духоуную Сэмінарыю ў Пецярбурзе. Там-жа пасьля ў Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ён здабывае ступень магістра тэалёгіі. На сьвятара Фабіян Абрантовіч быў высьвячаны 9 лістапада 1908 г. Як аднаго з найбольш выдатных вучняў у Акадэ-

міі паслалі яго царкоўныя ўлады на далейшыя студыі ў заходнюю Эўропу. Выбар выпаў на каталіцкі Унівэрсытэт у Бэльгіі ў Лювэне, які славіўся тады асабліва высокім узроўнем навукі наагул і пашырэньнем кірунку, ведамага ў філязофіі пад назовам нэо-схалястыкі. У Лювэне закончыў студыі а. Фабіян Абрантовіч са ступеняй доктара філязофіі, пішучы навуковую працу на тэму філязафічных канцэпцыяў Лоскага. Пакольні ведама, а. Фабіян быў першым беларусам, які кончыў вышэйшыя студыі ў Лювэнскім унівэрсытэце з тытулам доктара.

Тымчасам не ўдалося ўстанавіць дакланае даты, калі а. Фабіян уступіў у Лювэнскі Унівэрсытэт і калі яго закончыў, бо дакуманты адносна яго асобы і шматлікіх ягоных сяброў былі зьнішчаны ў часе першае сусьветнае вайны. Найбольш праўдападобна, што Лювэн ён пакінуў у 1912 годзе і тады-ж вярнуўся назад у Пецярбург.

## Прафэсура ў Пецярбурзе

У царскай Расеі знайходзілася ў Пецярбурзе адзіная каталіцкая сэмінарыя на ўсю аграмадную Магілёўскую архідыяцэзію. Там-жа была адзіная Каталіцкая Акадэмія, куды йшлі здальнейшыя сэмінарысты і маглі там здабываць тытул кандыдата, або магістра.

Айцец Фабіян Абрантовіч быў пакліканы на прафэсара ў Пецярбурскай Каталіцкай Сэмінарыі. У той час было шмат выдатных адзінак сярод прафэсароў як у Сэмінарыі, так і ў Акадэміі — былі яны з розных нацыянальнасьцяў. Успомнім тут сяброў а. Фабіяна беларусаў: а. д-ра праф. Белагаловага Язэпа, д-ра праф. Эпімах-Шыпіллу Браніслава, а з палякаў: кс. д-ра праф. Сьвірскага, кс. д-ра праф. Фалькоўскага — якія сёньня ў Польшчы біскупамі; з летувісаў: кс. д-ра Рэклайтіса, кс. д-ра праф. Бучыса пазьнейшага біскупа і гэнэрала Айцоў Марыянаў, і інш.

У Пецярбурзе а. Фабіян належаў да групы актыўных беларускіх сьвятароў, якія разам з беларускаю інтэлігэнцыяю імкнуліся стварыць моцны грунт для беларускага рэлігійнага адраджэньня.

Пры гэтай нагодзе варта прыпомніць, што ўжо на пачатку XX-га стагодзьдзя ў Пецярбурзе была зарганізована беларускімі студэнтамі: Вацлавам Іваноўскім і Алёізай Пашкевічанкай («Цёткай») першая беларуская арганізацыя «Беларуская Рэвалюцыйная Грамада», якая на першым сваім зьездзе ў 1903 г. пераіменавалася ў «Беларускую Сацыялістычную Грамаду». І ў тым-жа 1902 г. паўстаў у Пецярбурзе «Кружок Беларускае Народнае Прасьветы і Культуры». З гэтага спачатку нелегальнага гуртка ў 1906 г., гэта значыць пасьля выданьня маніфэсту аб рэлігійнай і грамадзкай вольнасьці, было створана пад кіраўніцтвам праф. Браніслава Эпімах-Шыпіллы беларуская выдавецкая супалка «Загляне сонца і ў наша ваконца». У 1912 г. пачаў выходзіць літаратурны навуковы часапіс «Маладая Беларусь», а ў 1914 г. выходзіць у Пецярбурзе студэнцкі часапіс «Раніца».

Больш менш у тым-жа часе там паўсталі наступныя беларускія арганізацыі: Беларускі Навукова — літаратурны Кружок студэнтаў Пецярбурскага Унівэрсытэту, Беларускі Студэнцкі Хаўрус пры Сельска-гаспадарскім Інстытуце і арганізацыя Студэнтак Пецярбурскіх Жаночых курсаў. Побач гэтых арганізацыяў існаваў ад 1912 г. Беларускі Гурток у Каталіцкай Духоўнай Акадэміі, да якога належалі амаль усе беларускія каталіцкія сьвятары, якія часова ці стала знайходзіліся ў Пецярбурзе. У 1916 г. там пачалі выходзіць беларускія часапісы «Сьветач», «Дзяньніца» і ад 8-X-1917 г. «Крыніца».

Як бачым, беларусы ў царскай сталіцы над Нявою былі зарганізованы даволі добра і нямала рабілі для культурнага і рэлігійнага адраджэньня свае бацькаўшчыны.

Айцец Фабіян быў адным з актыўных удзельнікаў таго руху і творча прычыняўся да яго разьвіцьця. Разам з іншымі сьвятарамі ён арганізаваў Зьезд беларускага каталіцкага духавенства ў Менску, які адбыўся 24—25 траўня 1917 г. і на якім ён чытаў рэфэрат «Акцыя прасьветная». Ён такжа разам з а. Лук'янам Хвецкам запачаткаваў у траўні 1917 г. Беларускую Хрысьціянскую Злучнасьць, якая пазьней, зьмяніўшы назоў на Беларускую Хрысьціянскую Дэмакратыю, пад кіраўніцтвам а. Адама Станкевіча праіснавала да другое сусьветнае вайны.

Апрача прафэсарскіх заняткаў у Сэмінарыі і апрача розных справаў спалучаных з грамадзкаю і культурнаю дзейнасьцю, а. Фабіян выкладаў так-жа Закон Божы ў гімназіі пры касьцеле сьв. Кацярыны. Якое ўражэньне рабіў тады на вучняў прафэсар настаўнік, мы даведваемся з вуснаў сп. Пятровіча, які знайшоўшыся цяпер на эміграцыі, апісаў свае ўражэньні ў польскім тыднёвіку «Жыцe», што дагэтуль выходзіць у Лёндане.

Пятровіч між іншым піша: «Сярод прафэсароў, што вучылі ў нашай гімназіі, апрача палякаў і расейцаў, ведамых прафэсароў і дацэнтаў Пецярбурскага Унівэрсытэту, былі так-жа прафэсары з Духоўнае Рымска-Каталіцкае Акадэміі, слаўнае з падрыхтоўкі сьвятароў у Расеі... Да групы прафэсароў належаў тады яшчэ малады др. філязофіі кс. Ф. Абрантовіч. Ён заваяваў маю ўвагу прывабным удумлівым аблічам як і агульным выглядам. Сярэдняга росту, даволі танклявы, але з нахілам акругляцца на абліччы і ў фігуры, з пэнснэ ў залатой тонкай аправе, рабіў ўражэньне чалавека вельмі ўдумлівага, жывучага інтэнзыўным інтэлектуальным жыцьцём. Яго навучаньне рэлігіі, нядзельныя казаньні, рэкалекцыі для вучняў вы-

значаліся заўсёды глыбінёю думкі, арыгінальным падыходам, нябудзёным красамоўствам, а што найважнейшае, цьвёрдым перакананьнем, што паказвала ягоную пабожную рэлігійную натуру і гарачую думку аб Богу. Як школьнае навучаньне, так казаньні і прамовы адрозьніваліся інтэнзыўнасьцю дасьледаванае думкі і хаця грунтаваліся на здысцыплінованых пачуцьцях, вырозьніваліся спэкулятыўным філязафічным тонам. Я, як гарачы ад маладосьці гуманіст, быў заўсёды пад уражэньнем, што малады і вучоны сьвятар даканаў адразу акт аўтадэтэрмінізму, сьведамы свае творчае асаблівасьці, выбіраючы дабравольна дарогу свайго пакліканьня і прызначэньня ў сьвятле тых талентаў, дадзеных яму Богам, якія пабольшацца ў два, або і ў дзесяць разоў. Тым пакліканьнем была місійная дзейнасьць з візіяй будачае царкоўнае еднасьці Ўсходу і Захаду пад адным Хрыстовым Намесьнікам» («Zycie», Nr. 8. London 1952).

### Дзейнасьць у Менску

Рэвалюцыя ў Расеі, і розныя зьвязаныя з ёю падзеі, стварылі пэўныя ўмовы, якія на першы пагляд маглі абнадзеіць шмат каго адносна магчымасьці паўстаньня незалежнае Беларусі. Асабліва надзейным яно выглядала ў часе Усебеларускага Кангрэсу ў Менску і пазьнейшая дзейнасьць Выканаўчае Рады Кангрэсу, якая 25 Сакавіка 1918 г. абвесьціла незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Беларускія каталіцкія сьвятары, ідучы ў нагу з палітычнымі і грамадзкімі падзеямі ў нашым краі, стараліся арганізаваць сваё рэлігійнае жыцьцё. Бяз сумніву найважнейшым у тым часе здарэньнем царкоўнага парадку было зарганізаваньне ў Менску беларускае Каталіцкае Духоўнае Сэмінарыі. На чале Менскае дыяцэзіі быў тады нядаўна назначаны біск. Лазінскі, які паходзячы з Беларусі, спачатку стараўся шчыра ўладзіць беларускія царкоўныя адносіны, прызнаючы правы на беларускія казаньні ў сьвятынях і наагул на беларускую мову ў царкоўным жыцьці, ён сам 6.XII.1918 г. сказаў казаньне пабеларуску ў менскай катэдры.

Як толькі была прынятая думка аб арганізацыі Сэмінарыі, яе першым рэктарам быў назначаны а. д-р праф. Фабіян Абрантовіч. Прыехаў ён у Менск на пачатку лістапада 1918 г. Варта зацеміць, што адным з прафэсароў Сэмінарыі быў а. Андрэй Цікота, а сэмінарыстамі між іншымі былі Казімер Смулька, Віталіс Хамёнак — усё яны потым зыйшліся ў Друі і стварылі беларускі манастыр Айцоў Марыянаў.

Зразумела, што беларусы каталікі пакладалі вялікую надзею на Сэмінарыю. Вось што пісала «Крыніца» Нр. 12 ў 1919 г.: «Дужа цікавы і шмат значачы праяў у жыцьці беларускага народу — гэта клерыкі-беларусы. У тутэйшай Каталіцкай Сэмінарыі ўсіх 29 клерыкаў; з гэтых 25 асобаў — беларусы. Знача, творацца цэлыя кадры, цэлыя палкі беларускага маладога духавенства, якое з цэлай моцай выступае ў абароне свайго пакрыўджанага народу. Ёсьць тут і касьцёлак (капліца) для беларусаў, дзе кожную нядзелю кс. праф. Абрантовіч адпраўляе сьв. Імшу, гаворыць беларускія навукі, а хор пяе сьвятыя беларускія песьні». У тым-жа нумары асобна гаворыцца аб айцу Фабіяне: «Дужа многа працуе тут (у Менску) на ніве роднай культуры, на ніве адраджэньня беларускага народу кс. д-р праф. Ф. Абрантовіч, рэктар Менскае Каталіцкае Духоўнае Сэмінарыі. Гэты чалавек з беларускаю шчырасьцяй, з дзіўнаю сьветласьцю і шырокасьцяй розуму з нязвычайна людзкою і добраю шляхотнаю душою, сапраўды можа быць названы першараднаю сілаю беларускага народу і правадыром ягоным, якога працу ацаніць патрапіць толькі гісторыя». І сапраўды а. Фабіян вёў у Менску нязвычайна ажыўленую дзейнасьць: ён быў душою менскага гуртка Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратычнае Злучнасьці, якая разьвівала ўсебаковую дзейнасьць і яшчэ рабіў стараньні каб зарганізаваць беларускую Каталіцкую Духоўную Акадэмію ў Менску. Аднак далейшыя палітычныя падзеі разьвіваліся вельмі варожа для рэлігіі наагул, а для каталіцызму ў асаблівасьці. Праўда, яшчэ на пачатку 1921 г. пісала «Крыніца» ў сваім першым віленскім нумары з 1-га студзеня 1921 г.: «Бяз сумніву асяродак беларускага рэлігійнага жыцьця становіць наша сталіца — Менск. Там гэтае жыцьцё, ня маючы такіх перашкодаў як у Віленскай і Горадзенскай Беларусі, разьвілося буйна і надзейна. «Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць» у ліку больш як 500 чалавек, на чале з праф. Абрантовічам, духоўная сэмінарыя, а ў ёй клерыкі беларусы і катэдра беларускае мовы, капліца для беларусаў каталікоў, ды кожнае нядзелі і сьвята беларускія казаньні і песьні — вось прыгожая краска беларускага рэлігійнага жыцьць ў Менску. Аб жыцьці вёскі ўсходняе Беларусі ў гэтай справе нам ня ведама». Варта зацеміць, што на беларускія багаслужэньні, дзе гаварыў свае глыбокія і зьмястоўныя казаньні а. Фабіян, прыходзіў волат беларускага слова Янка Купала.

Нажаль надзеі аптымістычнага карэспандэнта «Крыніцы» (ды ці толькі яго?) ня спраўдзіліся. Варожае настаўленьне бальшавікоў да рэлігіі ператварылася ў вострае прасьледаваньне. У 1921 г. біскуп Лазінскі, ратуючыся ад арышту, пераапрануўшыся за селяніна, уцёк у Наваградак. Туды-ж афіцыяльна была перанесена Духоўная Сэмінарыя. У Наваградку яна аставалася нядоўга,; ёю далей кіраваў а. Абрантовіч і там атрымаў годнасьць пралата менскае капітулы. Хутка біскуп Лазінскі пераехаў у Пінск, пераносячы туды-ж Сэмінарыю.

## Дзейнасьць і цяжкасьці а. Абрантовіча ў Пінску

У Пінску а. пралат Фабіян Абрантовіч займаў розныя становішчы: праз некаторы час ён быў рэктрарам Сэмінарыі, пасьля духоўным айцом і заўсёды прафэсарам у Сэмінарыі. Ён дапамагае біскупу Лазінскаму грашыма, будуе Сэмінарыю. Усё гэта аднак не здавальняла яго, бо лятуцеў працаваць больш дзейна для беларускага народу хаця і не ў беларускай дзяржаве. Праўда Пінск гэта стары беларускі горад, але пасьля Рыскага дагавору знайшоўшыся ў межах Польшчы пачаў ставацца маленькім цэнтрам палянізацыйнае палітыкі, якую праводзілі польскія насланыя ўрадоўцы, асаднікі і нарэшце польскае духавенства. Пінская Духоўная Сэмінарыя пачала польшчыцца.

Айцец Абрантовіч шукаў для сябе выхаду, але нялёгка яго было знайсьці. Ён, як кожны каталіцкі сьвятар, быў залежны ад свайго біскупа. А біскуп Лазінскі за ўсякую цану жадаў яго затрымаць пры сабе, пры Сэмінарыі.

Тымчасам у Друі паўстаў дом беларускіх Марыянаў. Айцец Абрантовіч пастанаўляе паехаць туды і стацца законьнікам. На пачатку 1924 г. ён пісаў у гэтай справе ў Вільню да біскупа Матулевіча, гэнэрала Айцоў Марыянаў:

«Ваша Эксцэленцые, Ойчанька наймілейшы!

Я затрымаўся ў сваёй справе на мёртвым пункце — ні туды, ні сюды, ні для ног падпоры, ні для галавы выхаду — але мо Бог міленьні дасьць, што гэта зьменіцца. Наш біскуп (Лазінскі) бедны і сам мучыцца і нас мучыць — ні працаваць, ні кідаць — такая ў нас мудрасьць...»

Калі а. Фабіян пісаў, што «ні для ног падпоры, ні для галавы выхаду», ня цяжка было дагадацца, аб чым ён думаў. Будучы слабога здароўя, ён выдаваў усе свае грошы на пінскую Сэмінарыю, а частка грошаў, аб якіх будзе мова далей, ляжалі нявыкарыстанымі. З кожным годам ён вычуваў, што ў Пінску ён нікому не патрэбны, ані яго здольнасьці, ані навука. Сапраўды ня было для галавы выхаду!

Біскуп Матулевіч, добра ведаючы адносіны, у якіх знайходзіўся а. Абрантовіч, і ведаючы добра яго самога, у адказ на вышэй пададзены ліст пісаў: «Што датычыць дарагога ксяндза, спадзяюся, што Бог дапаможа яму адпіхнуць, або лепш кажучы, пераканаць цяжкасьці. Шкода толькі часу. Дарагі ксёндз, на маю думку, ня шмат там (у Пінску) зробіць; намучыцца, падарве нэрвы, страціць шмат часу, а скончыцца праўдападобна тым, што ўканцы будзе змушаны пакінуць тое становішча. Прашу прасіць Бога аб сьвятло і сілу да перамаганьня перашкод...»

## Падарак княгіні Магдалены Радзівіл для беларусаў

У 1916 г. княгіня Магдалена Радзівіл, ведамая з дабрадзейных адносанаў да беларусаў, падарыла кс. Францішку Будзьку ў Менску дыямантавы нашыйнік, прызначаючы яго на беларуска-вуніяцкія мэты. Кс. Будзька перадаў гэты нашыйнік а. Абрантовічу, а гэты завёз яго ў Петраград і там разам з іншым беларускім каталіцкім сьвятаром а. Лук'янам Хвецькам схавалі яго ў адным пакоі, каб пасьля, калі зьменяцца ўмовы жыцьця, выкарыстаць дарагую ахвяру згодна з воляю ахвярадаўцы.

Аб падарку княгіні Радзівіл ведалі толькі тры асобы: сьвятары Будзька, Абрантовіч і Хвецька. З іх а. Будзька памёр у 1920 г., а. Хвецьку арыштавалі бальшавікі ў зьвязку з працэсам архіб. Цепляка, астаўся толькі а. Абрантовіч. Ён ніяк ня мог знайсьці адпаведнае нагоды, каб ратаваць той нашыйнік. Толькі ў 1924 г. ён змог атрымаць дакуманты дыплёматычнага кур'ера і прыехаць ужо не ў Петраград а ў Ленінград і адшукаць той дыямантавы нашыйнік, які ў тым часе апыніўся ў руках польскае эвакуацыйнае камісіі, куды здолеў яго перавесьці а. Хвецька, перад сваім арыштам.

Падарак княгіні ў 1925 г. каштаваў 15.000 даляраў. За гэтыя грошы а. Абрантовіч будаваў праз два гады сэмінарыю ў Пінску. Калі аднак убачыў, што ўкладаныя ім грошы разьмінаюцца з тою мэтаю на якую іх прызначыла княгіня Радзівіл, інвэставаў часьць грошаў, купляючы маемасьць у Наваградку, а часьць пазычыў біскупу Лазінскаму на процант. Пасьлая, калі а. Абрантовіч уступіў у закон Айцоў Марыянаў, маемасьць у Наваградку і пазычаныя біскупу грошы, прынёс як пасаг і аддаў на Друйскі манастыр, які з волі яго закладчыкаў: біскупа Матулевіча і а. Цікоты меў за мэту адраджэньне духовага жыцьця сярод беларусаў і пашырэньне царкоўнае еднасьці.

У 1927 г. а. Абрантовіч інфармаваў княгіню Радзівіл аб тым, як ён выкарыстаў яе падарак і пытаўся, ці мэта, на якую ён прызначыў, была такім чынам асягнута. Княгіня падцьвердзіла, што падарак быў даны на карысьць Беларусі і перадусім для грэка-каталіцкае Царквы, што яе лятуценьнем было заснаваньне вуніяцкае беларускае калегіі ў Рыме. Яна была задаволена з інфармацыяў айца Абрантовіча і ў далейшым усю справу паручала апецы сьвятога Язэпа.

З вышэй расказанага відаць, з якімі людзьмі а. Абрантовіч меў справы і як іх сьмела і сумленна абараняў. Гэтым так-жа выясьняецца, адкуль Друйскі манастыр даставаў сродкі на сваё аднаўленьне, пабудову навіцыяту, гімназіі і пад. Злыя языкі рабілі закід друйскім Марыянам, што яны атрымоўваюць грошы з БССР ад бальшавікоў, пашыралі гэтую плётку асабліва тады, калі шукалі прычэпкі, каб хутчэй высяліць беларускіх айцоў Марыянаў з Друі.

### Пратэст супраць канкардату Польшчы з Апостальскім Пасадам

У 1925 г. а. Абрантовіч, як пралат Менскае капітулы, разам з іншымі беларускімі сьвятарамі: Яяэпам Рэшацем — прафэсарам Віленскае Сэмінарыі, Вінцэсям Гадлеўскім — парахам у Жодзішках, Адамам Станкевічам — паслом у польскі сойм, — падпісалі пратэстацыйны мэмарыял супраць 12 і 19 параграфаў канкардату Польшчы з Апостальскім Пасадам. У сілу тых параграфаў канкардату ўва ўсёй Польшчы, а тым самым і ў Зах. Беларусі, ужываньне беларускае мовы ў навучаньню дзяцей катэхізму і ў дадатковых набажэствах узалежнівалася ад згоды польскага эпіскапату. Калі польскі сойм прыймаў канкардат, дык а. Адам Станкевіч умысна пакінуў Варшаву, за што меў пасьля вострыя гутаркі і папскім нунцыем у Польшчы. Супраць канкардату пратэставаў такжа Вацлаў Ластоўскі ў імені экзыльнага ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі.

Як беларускія дзеячы прадчувалі, так потым і сталася; беларуская мова была выцісьнена са сьвятыняў. Хаця ў тагачасных абставінах пратэст беларусаў ня мог мець пазытыўных вынікаў, аднак астаўся сьвядоцтвам разуменьня беларусамі сапраўднасьці пад Польшчай і разуменьня патрэбы інфармаваньня і зьвяртаньня ўвагі Апостальскага Пасаду на ўсякія ненармальнасьці і несправядлівасьці ў Польшчы.

## II. 1926—1940 (?)

### Манастыр Марыянаў беларусаў у Друі

15 чэрвеня 1926 г. Пінскі біскуп Жыгімонт Лазінскі даў дазвол а. Фабіяну Абрантовічу пакінуць яго дыяцэзію і ўступіць у адроджаны закон Айцоў Марыянаў. Таго-ж самага году 2-га жніўня быўшы рэктар Сэмінарыі і пралат Яго Сьвятасьці — быў прыняты ў навіцыят бедных друйскіх Марыянаў і сеў за супольны стол разам з беднымі сялянскімі хлапчукамі, якія былі прыняты ў манастыр і басапож хадзілі ў гімназію, каб пазьней маглі «людзьмі звацца...» і выйсьці на працу між сваіх братоў.

Тут варта зрабіць невялікае адступленьне і паінфармаваць чытачоў аб мінулым Друі.

У часы Вялікага Літоўскага Княства Друя належала да Сапегаў. Славілася яна з прыгожых касьцёлаў і дамініканскага ды францішканскага манастыроў, якія не заўсёды былі ў належнай згодзе з тамтэйшым вуніяцкім парахам.

Пасьля паўстаньня 1830 году францішкане, якіх тады называлі бэрнардынамі, былі змушаныя пакінуць Друю (у 1835 г.), а пасьля другога паўстаньня 1863 г. былі выселеныя дамінікане. Землі як адных, так і другіх перайшлі да друйскае парахвіі як аўтарыя. Пафранцішканскі касьцёл сьв. Тройцы стаўся парахвіяльным. У сілу Рыскага дагавору пасьля першае сусьветнае вайны Друя была разрэзана на дзьве часьці: большая належала да Польшчы, а маншая — Прыдруйск — да Латвіі. Мяжа між Польшчаю і Латвіяю праходзіла Дзьвіною. Прыгожы востраў на Дзьвіне, абшарам 10 гэктараў зямлі і лесу належаў да друйскага манастыра. На адлегласьці 19 кілямэтраў на ўсход ад Друі пачыналася граніца з Савецкім Саюзам. Ня глядзячы на сваю старадаўнасьць і прыгожае палажэньне, Друя падзеленая і загнаная ў клін, ня мела ніякае змогі росту і разьвіцьця.

Замак над прытным берагам Дзьвіны, калісьці ўласнасьць паноў Мілашаў, а ў часы Польшчы сядзіба прыгранічнага войска (КОП); каталіцкі пафранцішканскі касьцёл, пабудаваны князем Казімерам Сапегаю, сынам Льва Сапегі ў 1644 г.; крыху далей ад яго над тою-ж Дзьвіною праваслаўная царква; за прытокам Дзьвіны Друйкаю старэнькая стараабрадзкая царкоўка, адна жыдоўская мураваная сынагога і адзін дзераўляны малітаўны дом — вось і ўсе знамянітасьці Друі, якая мела каля 5.000 жыхароў. Усе пералічаныя гістарычныя і будаўнічыя помнікі мелі сваю гісторыю і заслугоўвалі на пашану, аднак пакуль ня прышлі ў Друю Айцы Марыяне, усё даўнае і годнае пашаны аставалася бязуважным, быццам аджытым.

У 1918 г. на Віленскі пасад каталіцкага біскупа быў назначаны Юры Матулевіч, ён-жа аднавіцель і гэнэрал закону Айцоў Марыянаў. Будучы сам летувісам і трапіўшы ў асяродзьдзе розных нацыянальнасьцяў, біскуп Матулевіч сустрэўся з беларусамі і з іхнымі рэлігійнымі і нацыянальнымі праблемамі. Як ён глядзеў на беларускае пытаньне сьведчыць між іншым тое, што ён пісаў у адным з лістоў да кардынала Гаспаррі: «Калі на мяне рабілі націск, каб я быў супраць беларусаў, тады я адкрыта заявіў: няхай ня вымагаюць ад мяне таго, каб прыцясьняў і прасьледаваў у сьвятароў няпольскае нацыянальнасьці тое, што бачу хвалёным і ўзнагароджваным у сьвятароў палякаў; як пастыр я павінен быць аднолькава справядлівым для ўсіх, бо аднолькава я ёсьць вінаватым для ўсіх (Ліст з дня 22-IV-1924).

У лютым 1919 г. біскуп Матулевіч меў доўгую гутарку з маладым, здольным і поўным апостальскага духу беларускім сьвятаром Андрэям Цікотам. У сваім дзёньніку біскуп запісаў таго дня наступнае: «Я сказаў, што беларускага адраджэньня я ня толькі што ня буду сьцясьняць, але нават яму дапамагу, каб яно ня зышло з добрае дарогі... Я бачу, што беларускі народ ня мае дастатковае асьветы, ня знае катэхізму, ня ведае, як спавядацца — усё гэта ён найлепш вывучыць, калі будзе навучаны ў сваёй роднай мове...»

Палкасьць душы беларускага сьвятара знайшла поўнае водгульле і зразуменьне ў сэрцы сьвятога біскупа. Першага верасьня 1920 г. а. Андрэй Цікота ўступае ў навіцыят Айцоў Марыянаў у Марыямполі ў Летвуве, а 24 верасьня наступнага году складае першыя шлюбы. Пасьля выязджае ў Амэрыку, дзе зьбірае грошы на пляна́ваны будучы беларускі дом Марыянаў. Тымчасам біскуп Матулевіч заладжваў розныя фармальнасьці з Рымам у справе перадачы друйскага касьцёла і друйскае парахвіі сваім духоўным сыном Марыянам. Папа Пій XI дакумантам з дня 23 ліпеня 1923 г. передае пафранцішканскі касьцёл і парахвіяльную уласнасьць Айцом Марыянам, а 10 жніўня таго-ж году дазваляе адчыніць законны дом і навіцыят. У палове 1923 г. прыязджае ў Друю а. Андрэй Цікота, пакульшто назна́чаны на вікарага друйскаму параху кс. Зенкевічу, а фактычна з мэтаю пераняцьця ад яго касьцёлу, парахвіі і залажэньня беларускага дому Айцоў Марыянаў. Кс. Зенкевіч шчыра дапамагаў а. Цікоце і сам праз нейкі час думаў стацца марыянінам, пасьля аднак пакінуў Друю і быў назначаны дзеканам у Глыбокае.

Манастыр Айцаў Марыянаў і навіцыят у Друі адразу пачаў напаўняцца. Ужо ў 1924 г. там было 9 юнакоў беларусаў, якія рыхтаваліся да сьвятарства.

Пачаткі для Айцаў Марыянаў у Друі былі вельмі цяжкія. Трэба было адбудаваць манастыр з руінаў, аформіць гімназію, заняцца парахвіяю, якая налічвала каля 5.000 вернікаў. У айца Цікоты грошаў ня было, ваколічныя людзі пасьля вайны былі бедныя, а ворагаў друйскага манастыра ад самага пачатку было шмат. Польская адміністрацыя, розныя падпанкі, асаднікі, а такжа польскія ксяндзы суседніх парахвіяў — быццам змоўленыя дзеялі супраць Марыянаў. Польскія газэты, асабліва эндэцкія, не пераставалі абкідваць гразёю Друйскі манастыр і ягоных законьнікаў.

Аднак Бог бідавочна багаславіў ахвярнасьць і працу а. Цікоты. Да яго хутка далучылася некалькі беларускіх сьвятароў, а ў 1926 г. прыбыў у Друю а. пралат Фабіян Абрантовіч.

### Айцец Фабіян Абрантовіч у Друі, 1926—1928

Айцец Андрэй Цікота — гэта чалавек быстрага розуму, нязломнае волі, гарачае ахвярнасьці і сьвятасьці, парываючы прапаведнік. Айцец Фабіян Абрантовіч — гэта перадусім глыбіня і шырыня інтэлекту, а так-жа здольны рэлігійны пісьменьнік і нябудзённы красамоўца. Калі Божы правід злучыў іх у Друі разам, дык удзірванелая да гэтага часу друйская ніва зацьвіла.

Айцец Фабіян прынёс у Друю так-жа немалы «пасаг», аб якім ужо ўспаміналася вышэй, а такжа шмат дарагіх кнігаў пераважна ў беларускай мове.

Двухгадовае перабываньне а. Фабіяна ў друйскім манастыры пакінула па сабе незацёрты сьлед. Айцец Фабіян быў навіцыянтам, гэта значыць кандыдатам на законьніка, усе аднак ведалі, што з ім цяжка было зраўняцца так у веданьні духовага жыцьця, як і ў практыкаваньні яго. Калі Супэрыёр дому і настаўнік навіцыянтаў лічылі навіцыят а. Фабіяна больш за фармальную патрэбу, як за школу духовага жыцьця, дык ён сам думаў і паступаў інакш. Ён сапраўды вёў сябе ўсюды як навіцыянт: супольны скромны пасілак, раньняе ўставаньне (у манастыры ўставалі ў 4 гадз. раніцы), малітвы, фізычная і ўмысловая праца — вось занятки кожнага дня а. Фабіяна. Друйскія мяшчане, настаўнікі і ўрадоўцы здалёк абходзілі а. Фабіяна, калі ён ля манастыра замятаў вуліцу, або сек дровы, даношваючы свае пралацкія фіялеты. Айцец Фабіян, як і ўсе іншыя законьнікі ў Друі, працавалі фізычна дзеля дзьвёх прычынаў: дзеля здароўяе і дзеля апостальства працы. Дзеля здароўя, бо сапраўды было добра зімою на марозе папрацаваць каля дроў, або летам каля сена. Пры тым і людзі маглі пераканацца, што фізычная праца ня ганьбіць чалавека. На Беларусі быў вельмі пашыраны фальшывы ўстыд фізычнае працы: калі хто ставаўся ўрадоўцам, сьвятаром, або нават і гімназістам — дык лічыў сябе «вучоным» і да фізычнае працы не дакранаўся Айцец Фабіян быў ворагам надзьмутае «вучонасьці» і фальшывага ўстыду.

Азначаўся а. Фабіян шмат чым: ён страшэнна ня любіў, калі на манастырскіх карыдорах ці ў залях валялася сьмецьце, або некія паперкі. Пры кожнай нагодзе ён сам зьбіраў гэтыя паперкі, даючы тым самым прыклад малодшым дбайлівых адносінаў да чысьціні. З прыроды а. Фабіян ня быў гаварлівы, але калі гаварыў, дык заўсёды з адценем гумару і сакавітасьці. Яго некаторыя сказы на доўга пераживалі яго. Такія выразы, як «страшнае пракляцьце», «варона ты», «ты маё дзіцятка» — бытавалі праз доўгія гады ў друйскім манастыры, а «варона» дык сталася вельмі дамашняю і ўсе яе ведалі ад малога да старога.

У друйскай гімназіі, якою кіраваў а. Цікота, а. Фабіян вучыў рэлігіі і гісторыі, гаварыў казаньні да моладзі і да вернікаў у друйскім касьцеле, пісаў у беларускія часапісы пад псэўдонімам др. М. А. Вучань а. Фабіяна д-р Яз. Малецкі свае ўражэньні аб ім выказаў у сваім лісьце да ніжэйпадпісанга ў наступных словах: «Вучонасьць і рэлігійнасьць кс. Абрантовіча была годная падзіву. Яго шырокая філязафічная веда ўзбуджала заўсёды падзіў у слухачоў. Ён умеў прамаўляць да «вучоных» і да простых сялян і работнікаў» (Ліст з дня 19.I.1953 г.).

Тое, што кажа др. Малецкі я так-жа магу пацьвердзіць уласным дасьведчаньнем. У той час, калі а. Фабіян быў у друйскім манастыры, я хадзіў у

друуйскую народную школу. Мы школьнікі кожную нядзелю павінны былі прысутнічаць на т. зв. вучнёўскай Імшы, каторая адпраўлялася для нас і для гімназістаў. Пасьля трыццаці гадоў я яшчэ добра помню адно параўнаньне, якое а. Фабіян ужыў у часе свайго казаньня да вучняў, тлумачачы тое, што чалавек не павінен быць пустым і заносьлівым. Ён казаў:

— Чаму бочка гудзе?

— Бо пустая!

За час свайго пабыту ў Друі а. Фабіян напісаў дзьве невялікія, але вельмі цікавыя і глыбокія зьместам брашуры: «Бог» і «Чалавек». Абедзьве яны перш друкаваліся на старонках віленскае «Хрысьціянскае думкі» (у гадох 1928/29), а пасьля выданы былі асобнымі кніжкамі. Наступна ён маніўся апрацаваць у беларускай мове агульную гісторыю Царквы, але далейшыя падзеі выбілі яму пяро з рук.

### Выкліканьне ў Харбін і туга за Друяю

На вялікі жаль а. Фабіян Абрантовіч быў вельмі коратка ў Друі, бо ўсяго два гады. У 1928 г. ён быў пакліканы Апостальскім Пасадам у Харбін для кіраваньня, або лепш кажучы для арганізаваньня новастворанае там епархіі для каталікаў расейцаў у бізантыйска-славянскім абрадзе. Хто і чаму пастараўся пераканаць папу Пія XI, што а. Фабіян ёсьць неабходным для працы сярод расейцаў на Далёкім Усходзе ў Харбіне, а Друя і беларусы могуць абыйсьціся і без яго, дагэтуль нам ня ведама. Атрымаўшы ад гэнэрала Айцоў Марыянаў з Рыму і ад Апостольскага Нунцыя з Варшавы назначэньне ў Харбін, ён паміма свае волі і неахвоты шматлікіх беларусаў згадзіўся на той цярністы шлях, які закончыўся толькі разам з яго мучаніцкаю сьмерцю. Нам ведама толькі, што 27 траўня 1927 г. ведамы ў сваім часе біскуп езуіт Д'Эрбіні, старшыня Папскае Камісіі для Расеі, зьвярнуўся да айца Бучыса, Гэнэрала Айцоў Марыянаў, каб ён быў ласкаў выпаўніць апытальнік адносна асобы айца Фабіяна Абрантовіча, які «запрапанаваны на кандыдата ў царкоўныя дастойнікі для расейцаў бізантыйскага абраду ў Харбіне». Айцец Гэнэрал выпаўніў апытальнік і чакаў да 31 траўня 1928 г., калі тая самая Папская Камісія назначыла айца Абрантовіча Ардынарыем (Кіраўніком Епархіі) для каталікоў расейцаў, раскіданых па кітайскіх прасторах.

Назначэньне айца Абрантовіча ў царкоўныя дастойнікі было вялікім гонарам для яго асобы і для друйскага марыянскага дому, але гэты гонар прыйшоў вельмі няўчас і быў накінуты. Усе беларусы адчувалі гэта вельмі моцна.

Айцец Андрэй Цікота, супэрыёр друйскага дому, адказваючы на ліст Гэнэрала айца Бучыса 27 чэрвеня 1928 г. між іншым пісаў: «Усё падрыхтоўваючы ў дарогу (для а. Фабіяна і а. Язэпа, гэтага апошняга аднак удалося абараніць на некаторы час), паўтараю словы нашага Збавіцеля: «Ойча, калі магчыма, няхаў адойдзе ад мяне гэтая чаша, але не як Я хачу, але як Ты...» Страта айца Фабіяна Абрантовіча і нашаму дому і краіне нашай ёсьць найбалючэйшая».

І сам а. Фабіян не разумеў, хто і чаму пастараўся, каб забраць яго з Беларусі. Скрытыя сілы дзейнічалі і ён у чэрвені 1928 г. пакінуў родны край. Будучы ўжо ў Рыме, маючы адчыненыя свае разумныя вочы на красу Італіі, цярпеў ад тугі за Беларусяй. У лісьце да а. Цікоты ён пісаў: «Я неяк так сабе! «Катцэн'ямэр» троха маю, але Бог бацька як ніхто. Краса Італіі і яе сонца ўсё-ж такі беларусу не заступяць нашых ніваў і сьцюжы, а яшчэ менш далёкі орыент!»

### Аўдыенцыя ў папы Пія XI і туга за Бацькаўшчынаю

2-га жніўня 1928 г. акурат у дзень урачыстасьці Маці Божае Анельскае, якую ўрачыста сьвяткавалася ў друйскім касьцеле, а. Фабіян быў прыняты на спэцыяльнай аўдыенцыі папаю Піем XI. У лісьце да а. Цікоты ён аб гэтай аўдыенцыі кажа: «Быў з паўгадзіны. Сьвяцейшы Айцец пытаўся, ці далёка Друя ад Дзьвінска, як здароўе біскупа Лазінскага, як там ідуць справы. Прыпамінаў сваю бытнасьць у Варшаве, успамінаў з найбольшым піетызмам нябошчыка айца Юрага (Матулевіча), пацяшаў мяне тым, што necesse est ut veniant difficultates адносна да Вуніі ў нас. Словам я забыўся, што ў Сьвяцейшага Айца. Можна было многа чаго сказаць, але я быў вельмі sobrius — умысна. Трэба перш заслужыць на тое, каб маглі слухаць, а так толькі нараканьне ня шмат паможа...»

Вось прынцып айца Фабіяна ў адносінах да вышэйшых царкоўных уладаў: перш заслужыць на тое, каб нас слухалі, а не малоць пустаслоўіцу нараканьняў і прэтэнзіяў. Такі прынцып мог сабе паставіць і кіравацца ім у сваім жыцьці і дзейнасьці толькі чалавек скромны і поўнасьцю зраўнаважаны.

У тым самым лісьце, у якім апісваў аўдыенцыю ў папы, у далейшым чытаем: «Страшна мне цяжка ўжо тут у Рыме, а што-ж будзе далей... Думаю, што я для Бога нічога больш не зраблю, як ахвяру з майго адзіноцтва і настальгіі за беднаю бацькаўшчынаю, бо па людзку бяручы, на канвэрсіі лічыць нельга. Але чым хата багата, тым і рада... Хочацца прасіць, каб кс. Г. прыехаў на 24.VIII у Марсылію і разам далей, але гэта чуласьці — ня розум. Сядзеце ў Друі, як у гаросе і дышэце патросе...»

Каб абараніцца ад усіх «чуласьцяў» і каб ня браць з сабою з Друі яшчэ больш беларускіх сьвятароў у Харбін, а. Фабіян перад сваім выездам з Рыму папрасіў кардынала Сінцэро, каб даў

яму ў дапамогу расейскага каталіцкага сьвятара графа Калпінскага, які калісьці ў Пецярбурзе быў ягоным вучнем. Айцец Колпінскій, будучы карэнным расейцам, знаючы добра чужыя мовы, мог абуджаць надзеі будучага добрага працаўніка апостала. Нажаль, пасьля, калі ён прыехаў у Харбін, быў а. Фабіяну вякілаю застрамкаю ў працы. Аднак думка а. Фабіяна была вельмі здароваю. Ён шукаў памоцніка расейца, бо ехаў працаваць між расейцаў. Прытым ён мог спадзявацца, што расейскі сьвятар зможа пасьля яго наагул выручыць і тады ён зможа вярнуцца на бацькаўшчыну.

Перад выездам з Рыму ў Харбін а. Фабіян захварэў, тады прыкованы да ложка пісаў айцу Цікоце: «Дужа мне цяжка самому, а думаю яшчэ цяжэй будзе. Малецеся, каб вытрываў, а вытрываць хіба трэба для справы Божае і нашае — друйскае — беларускае. Але гэта ня значыць, каб вы мяне пасьля (за які год) не баранілі і не стараліся сьцягнуць да хаты...» Гэты ліст канчаецца характэрна «паабрантовічаўскаму». Ён ставіць некалькі пытаньняў: «Як тынкі прыбудоўкі, вокны, коміны і інш.?» Такія пытаньні сьведчылі, што ён увесь час жыў Друяю, думаў і лятуцеў аб ёй. У яго лістох няма нават цені ніякае асабістае гордасьці з таго, што ён назначаны на біскупскі пасад, што аб ім пішуць у газэтах усяго сьвету, што багаславіў на працу Вялікі Папа. Ён жыве тым, што ў даных абставінах для нас беларусаў і для ўсяе Царквы, ў пэўным сэнсе, ёсьць важным, а менавіта: як будуецца і разрастаецца першы беларускі манастыр над сінявокаю Дзьвіною? Як там кладуцца тынкі, строяцца прыбудоўкі і пад.?

Айцец Абрантовіч навонках заўсёды паважнасуровы, задуманы, быццам на нішто не рэагуючы, а калі сеў у Марсыліі на карабель 24 жніўня 1928 г. і пасьля, калі нечакана атрымаў ад друйскіх айцоў і манахіняў лісты, цешыўся з іх, як дзіця цешыцца з новае цацкі. «Варочаюся да сябе ў кабіну, — пісаў наступнага дня а. Цікоце, — і находжу вашыя лісты: Ваш і сясьцёр друйскіх. За 2—3 гадзіны па адыходзе параходу разабралі пошту і мне ўкінулі. Большае прыемнасьці вы мне зрабіць не маглі: будучы на моры — быў дома — чытаў я іх і на усе бакі...»

### Харбінскія злыбяды і пачаткі апостальскае дзейнасьці а. Фабіяна

Сваё падарожжа ў Харбін а. Фабіян апісаў вельмі арыгінальна і цікава. Яно друкавалася ў «Хрысьціянскай думцы» ў 1929 г.

У Харбін прыехаў ён 6 лістапада 1928 г. і ў першым лісьце з Харбіну да а. Цікоты вось як апісвае сваё першае ўражэньне:

«Вялікі Бог, але куды-ж я папаў! Roma vult decepi vel potius decepta est! Харбін горад вялікі, 3 часьці: 500.000 жыхароў, з каторых 150.000 рускіх разам з украінцамі, якіх каля 20.000 сем'яў, колькінаццаць цэркваў, 271 сьвяшчэньнікаў, «один архиепископ, два епископа — зависят от Антония». Быў у іх з візытам — «конечно смотрят волком». Уніяцкую царкоўку зладзілі на Крэшчэніе 1925 г. Наймаецца дом, да гэтага часу ўжо на 4-ым мейсцы, зараз будзе пятае. Першыя сьвяшчэньнікі Кроніны — бацька з сынам, памерлі. Сына пахавалі праваслаўныя. Другі — Фомічев — быў болей году. Запаскудзіўшы справу, выгнаны дэлегатам з Пэкіну, цяпер пяе ў Пэкіне ў кафэ-шантант. Пазнаў я яго — здольны, хворы, скандаліст. Трэці, што цяпер, Захар Кавалёў, 56 г. беларус з пад Магілёва, жаніўся з украінкаю, радзіў сямёра рускіх. Два старэйшыя сыны — праваслаўныя, бо незалежныя, але жывуць разам. «Будучи лишен должности, воссоединился». Артымоўвае 135 р., амэрыканскія інтэнцыі. Нас усіх разам уніятаў, разам са мною, з ім, яго сям'ёю, 7-ма вуніятамі з Галіччыны, з аднагоднім хлопчыкам — 18 — выразна васемнаццаць чалавек. Каштуемо ўсе разам у месяц 800 рублёў, каля 30 ам. доляраў. Царкоўка ў адным, стораж у другім, псаломшчык у трэцім, Кавалёў у чацьвёрным, а я ў пятым мейсцы жывём... Ёсьць тут 3 каталіцкія парахвіі: адна для кітайцаў, польская — Остроўскі, то-ж польская (беларуск.) — Ляшчэвіч. Апрача таго ёсьць тры капліцы... На першай вячэрні ў нашай царкоўцы было 7 асобаў — а на Літургіі 9. Перад маім прыездам і якраз у дзень (11-XI) першае мае пропаведзі пачалі рабіцца цуды ў цэрквах: «обновлятся иконы»... Калі і рабіць што, то толькі з моладзьдзю...» Успомнены тут а. Ляшчэвіч уступіў пазьней у закон Айцоў Марыянаў і ў часе апошняе вайны разам з а. Кашыраю быў жыўцом спалены немцамі каля Дрыссы ў часе, калі спавядалі ў касьцеле народ.

Калі айцец архімандрыт Абрантовіч пазваляе сабе на моцны сказ: Roma vult decepi, vel potius decepta est (Рым жадае быць абманутым, або лепш сказаць, стаўся абманутым), дык гэта сьведчыць толькі, што Рым быў вельмі дрэнна паінфармаваны аб расейскім каталіцтве ў Харбіне. Тое, што там існавала, калі ўважаць за пачаткі каталіцтва, дык — як а. Фабіян кажа ў іншым лісьце, лепш каб такіх пачаткаў зусім ня было. Тыя першыя сьвятары, як успомнены Фомічев, ды-й Кроніны, будучы дрэннымі сьвятарамі, толькі скампрамітаваліся самі і скампрамітавалі Каталіцкую Царкву. Мала таго, што нічога ня было зроблена, але пасьля іх а. Фабіян сустрэўся са страшэннымі перашкодамі з усіх бакоў: ад палякаў, бо быў беларус; ад расейцаў, бо быў беларус і вуніят; ад кітайцаў, бо для іх тады наагул ня існавала ніякае права і таму нападалі на нявінных людзей бяз дай прычыны.

«Хай я адзін задыхаюся наразе ад гора з усіх бакоў. Ну-й давялося-ж!...» але «подумаешь — горе, роздумаешь — воля Господня!» — пісаў у лісьце да а. Цікоты 7.XII.1928 г.

«Мне тут, як вам ужо, здаецца, пісаў, судзячы пад кутом вечнасьці, дужа добра, а пад кутом дачаснасьці, вельмі пагана і цяжка. Але Вы, як законьнікі, ведаеце, як трэба на рэчы глядзець... Андрэй, ня ведаю чаму, напамінае мяне за настальгію. «Потерявший голову, по волосам не плачет». Мне тут не да настальгіі... Хунхузы (бандыты) нападаюць у белы дзень на памешканьні; іх заусёды трэба спадзявацца. Езуіты ў Шанхаю не пазваляюць (ня гледзячы на мае просьбы) майму архімандрыту Мікалаю правіць імшы ў лацінскіх касьцёлах. Рым грошай ня прысылае. Жульля кругом поўна. Кантакту навязаць не магу; у цэркаўку ніхто ня ходзіць; словом, усё як трэба — труднасьцяў вышэй галавы, а тымчасам я, нічога ня робячы, чую што марную грошы і «невольно» кампрамітую Рым... Калі можаце зразумець, зразумейце. Часамі баюся, каб з мяне ня зроблена сьвятога. Больш як месяц хварэю на бранхіт... Але дзякую Богу, што духам ня падаю «пакуль дыхаю — спадзяюся і веру любові, якая цярпела» (лацінскі сказ) і вашымі малітвамі жыву. Малецеся болей і мацней. Падзякуйце ўсім: сёстрам, парахвіі, садаліскам, гімназіі, сабе. Лісту з гімназіі не атрымаў. Ах, каб у Польшчы маглі і хацелі зразумець, якое там поле для Вуніі.. Я тут pastor sine grege, а там grex sine pastoribus... Я не наракаю — веру, што і тут Бог нешта зробіць. Хай я за гэтую справу ўмру, то за 20—50—100 гадоў будзе лепей, але канстатую факт, з каторага і вы рабеце выснаўкі. За Друю трымайцеся і рукамі і нагамі... і зубамі» (Ліст да а. Цікоты за 16.I.1929).

Няраз у сваіх лістох а. Фабіян паўтарае: «Бог высока, Рым далёка, дык не магу дабіцца, што я буду мець, а чаго не».

Якія ў тым часе былі парадкі і правы ў Харбіне, сьведчыць такі выпадак, апісаны айцом Фабіянам у лістох да кардынала Сінчэро і да айца Цікоты. Да гэтага апошнята пісаў 7.III.1929 г.:

«Вот і будзьце Вы хітра-мудры. 18 лютага цэлы дзень сядзеў арыштаваны. 70 чалавек у маленькай каморцы. За што? Пашпарт не мэльдаваны, хоць ён замэльдаваны. Мала што сядзеў — судзілі мяне — 2 паліцыянты па бакох. Засудзілі 25 даляраў заплаціць. Словам усё як трэба... Вам гэта трудна зразумець, але аднак-жа ў Кітаі больш сабоды, як у іншых краінах...»

### Добрыя вынікі працы а. Абрантовіча ў Харбіне

Паволі а. Фабіян перамог усе злыбяды. На працягу 10 гадоў ён здолеў аформіць епархію, выбудаваць царкву, залажыць гімназію з інтэрнатам для хлапцоў, заапекавацца дзьвюмя школамі для дзяўчат, якімі кіравалі польскія і францускія законьніцы, выдаваць часапіс «Католический Вестник» і ўрэшце аснаваць дом Марыянаў расейцаў. Няма магчымасьці затрымоўвацца паасобна над кожным з вылічаных тут асягненьняў, з якіх кожнае вымагала напружанае працы, інтэлігэнтнага падыходу, а так-жа пабожнасьці і адданасьці справе. У Харбіне ён здабыў любоў у праяцялёў і пашану ў ворагаў.

У 1939 г. у гімназіі сьв. Мікалая самых толькі настаўнікаў было 27 чалавек, а вучняў 160. Усіх іх утрымаць і пракарміць у тых цяжкіх абставінах, даць ім высокі ўзровень у школе і ўзгадоўваць усіх у хрысьціянскім духу — усё гэта вымагала гэраізму з боку а. Фабіяна, які часта хварэў.

Адносна часапісу «Католический Вестник» неабходна зазначыць, што ён пачаў выходзіць у 1931 г. як орган Расейскае Епархіі Бізантыйскаславянскага абраду ў Кітаі. У першым нумары а. Фабіян вылічае мэты, якія ён прапанаваў асягнуць:

1) даваць арыгінальныя або запазычаныя творы хрысьціянскага сьветагляду, прыймаючы як аснову навучаньне старадаўнае Рымскае Царквы, Маці і Настаўніці ўсіх Цэркваў;

2) знаёміць расейскае грамадзтва з падзеямі ў каталіцкім сьвеце наагул;

3) унікаць усялякае палемікі, а зьвяртаць увагу на пазытыўныя факты, якія гавораць самі за сябе.

«Палітычна — пісаў а. Фабіян у тым-жа праграмовым уступе — мы вышэй усялякае палітыкі; у значэньні нацыянальным, мы нацыяналісты ў хрыстовым духу, гэта значыць мы ня прызнаём ані шавіністычных, ані інтэрнацыянальных крайнасьцяў».

«Католический Вестник» апраўдаў узложаныя на яго надзеі, хаця, калі прыйшлі малодшыя сьвятары на помач а. Фабіяну, ім няраз сьвярбела рука і ў часапісе калі-не-калі зьяўляліся палемічныя артыкулы.

Да вынікаў працы ў Харбіне трэба залічыць і тое, што двух здольных расейскіх юнакоў, па сканчэньні гімназіі, уступілі ў закон Айцоў Марыянаў і сталіся сьвятарамі: айцы Андрэй Катков і Юры Бранчанінов, абодва плённа працуюць між сваіх расейскіх суродзічаў і абодвы ўспамінаюць а. Фабіяна з найбольшым піетызмам.

### Крыніцы апостальскае дзейнасьці айца Фабіяна

Айцец Фабіян з прыроды быў здольным і меў шмат розных талентаў. Аб некаторых з іх гаварылася перш. Ён меў пранікліві розум і заўсёды знайходзіў у кожнай рэчы істотнае. Гэтым тлумачыцца, што ў драбніцах ён ня быў пэдантам. Навонках ён быў вельмі скромным. Яго інтэлігэнтнае аблічча і жывыя прыймаючыя вочы пры-

цягвалі да сябе ўвагу, і выклікалі павагу. Але належна яго пазнавалася і ацэньвалася толькі тады, калі мелася нагоду гаварыць з ім, або слухаць. У гутарцы ён азначаўся сваеасаблівым беларускім гумарам. Бог яму даў прыгожы голас, тэнар і музычныя здольнасьці; граў ён на арганах і фортэпіяне, аднак рэдка калі яго можна было «злавіць» граючым ці сьпяваючым. На пахаваньні кс. К. Сваяка ў Вільні ён адзін граў і сьпяваў і хто чуў гэта, захаваў надзвычайнае ўражэньне на ўсё жыцьцё. Помняць так-жа людзі, як ён на Вялікдзень сьпяваў «Хрыстос васкрэсе».

Апрача гэтых дараў ён яшчэ азначаўся глыбокім разуменьнем Сьвятога Пісаньня, багасловіі і хрысьціянскае філязофіі. Прыпадкам у рымскім доме Айцоў Марыянаў захавалася адна яго канфэрэнцыя, якую ён меў там у чэрвені 1939 г. для айцоў і братоў таго дому. Канфэрэнцыя была сказана палаціне на тэму «Аб місійным апостальскім духу». Хаця яна не апрацаваная, і ўсяго схэматычна падана галоўныя пункты, але добра выказвае, як а. Фабіян глыбока браў праўдзівае апостальства і як ён разумоў яго. Падамо тут прынамся некалькі пунктаў тае канфэрэнцыі:

Што такое — апостальскі місійны дух?

Руплівасьць у пашырэньні Божага Валадарства.

Абавязак кожнага, тымбольш законьніка да апостальскае місійнае працы вынікае:

а) з прыказаньня любові Бога і бліжняга;

б) з прыкладу Хрыста. Кожны хрысьціянін — паводля сьв. Васілія — ёсьць другім Хрыстом;

в) кожны ахрышчаны і мірапамазаны ёсьць апосталам і рыцарам Хрыста, як кажа Тэртуліян;

г) у Старым Запавеце аб'яўлена: «І даў прыказ ім кожнаму адносна свайго бліжняга» (Эклез. XVII, 12) — гэта датычыць збаўленьня душы бліжняга;

д) Царква апошнім часам вымагае, каб кожны вернік прыймаў удзел у ерархічна зарганізаванай працы Царквы для пашырэньня валадарства Хрыста (Каталіцкая акцыя).

Зразумела, што законьнік згодна са сваім прызваньнем забавязаны больш ведаць і працаваць у місійна-апостальскім духу.

А дзе сутнасьць апостальска-місійнага духу кожнага законьніка (тым самым і кожнага Марыяніна)?

1) У шуканьні на першым мейсцы Божага валадарства (вера, пабожнасьць).

2) У захоўваньні законнае дысцыпліны.

3) У хрысьціянскай мудрасьці (веда і разважнасьць).

Усё гэта выказана добра ў Марыянскіх конституцыях.

Да 1-га: «Шукайце перш Божага Валадарства і Яго справядлівасьці, а ўсё іншае будзе вам дададзена».

«Шукайце» — трэба заўважыць, што Ісус ня ўжыў іншага слова, прыкладам «пажадайце, старайцеся зразумець» ці пад, але шукайце, гэта значыць, накіроўвайце вашыя крокі, ідзеце ў дарогу, будзьце заўсёды дзейнымі, старайцеся, змагайцеся, так-жа ўжывайце вашых сілаў і здольнасьцяў, будзьце гвалтоўнікамі, бо Валадарства Божае церпіць гвалт і гвалтоўнікі яго вырываюць; Божага Валадарства трэба патрабаваць, трэба браць яго з боем.

«Перш» — шмат рэчаў ёсьць добрых і чалавеку неабходных, як: супакой, радасьць, хлеб і вопратка. Аднак хто шукае ў першую чаргу ўсяго гэтага, той, як кажа Госпад, ахвяруе дзеля гэтага і супакой і радасьць. Хто шукае перадусім Божага Валадарства, той імкнецца споўніць Божую волю, а не сваю.

«Усё будзе дададзена. — Перадусім сьвятло: хто шукае праўды, ідзе да сьвятла.

Далей а. Фабіян гаворыць аб хрысьціянскай мудрасьці, якая ёсьць сарамязьліваю, скромнаю; згодліваю, цешыцца з добрага, хаця яго выканаў і ня я, а хто іншы, поўнаю міласэрнасьці, не асуджаючаю, ня крывячы душою і ненавідзячаю крывыя сьцежкі, а выбіраючы заўсёды простую дарогу.

Апостальская праца а. Фабіяна між праваслаўных не апіралася на ніякіх зводных надзеях хуткага злучэньня Цэркваў, або шматлікіх навярненьняў. Ён уважаў, што перш чым прыйдзе сапраўднае злучэньне пад адным пастырам, трэба пераажыць падрыхтоўчы пэрыяд, трэба цярпліва і з любоўю працаваць дзеля аб'еднаньня Цэркваў. У лісьце да кард. Сінэро 6.XII.1928 г. ён пісаў: «Пропасьць выклікае пропсьць. Пропасьць упярэджаньняў і нянавісьці расейцаў да сьв. Царквы выклікае пропасьць цярплівасьці і любові з майго боку. Немагчыма вам паверыць, як мне цяжка, але няхай Ваша Эмінэнцыя ведае і, калі-б уважала за патрэбнае, няхай скажа Сьвяцейшаму Айцу, хаця-б я ў сапраўднасьці і нічога не зрабіў, умерці за Хрыста і за Царкву з Божаю помаччу, я гатовы».

Так могуць гаварыць толькі людзі сьвятыя. Мучаніцкая сьмерць а. Фабіяна сапраўды прышла, толькі ня там, дзе яе можна было спадзявацца, не ў Харбіне, але дзесьці бліжэй, у Савецкім Саюзе.

### Апошяе падарожжа ў Эропу, мукі ў турме

У 1938 г. а. архімандрыт Фабіян пакінуў Харбін і выехаў у Рым, каб удзельнічаць у гэнэральнай капітуле Айцоў Марыянаў і каб здаць справаздачу Сьвяцейшаму Айцу з дзейнасьці ў Харбіне ды пры гэтай нагодзе, каб адведаць сваю дарагую Беларусь. З сабою ён прывёз у Рым на далейшыя студыі двух сваіх гадунцоў.

Падчас прабываньня а. Фабіяна ў Рыме, я быў так-жа ў Рыме і не адзін раз меў гонар з ім спа-

тыкацца і гутарыць. Ён меў некалькі канфэрэнцыяў духовага зьместу для сяброў Марыянскага дому ў Рыме, меў так-жа даклад для студэнтаў «Руссікум».

Аднойчы, гэта было 29.V.1939, усе Марыяне рымскага дому выбраліся адумысловым аўтабусам адведаць славуты манастыр бэнэдыктынаў у Субіячо. Разам з імі былі так-жа а. Фабіян Абрантовіч і а. Цікота. Калі наш аўтабус мінаў прыгожыя італьянскія краявіды, хтосьці пачаў сьпяваць. Пачуліся італьянскія, летувіскія і польскія песьні. Помню, айцец Цікота пачаў: «Ой ляцелі гусі...» і мы гэтую песьню прасьпявалі ўтраіх: а. Цікота і нас двох беларускіх студэнтаў. Айцец архім. Фабіян праз усю дарогу маўчаў і, седзчы ля вакна кантэмпляваў красу Італіі. Іншым разам, помню, калі мы йшлі з ім па рымскіх вуліцах, гутарылі аб друйскім манастыры і аб высяленьні польскімі ўладамі беларускіх айцоў і студэнтаў Марыянаў; ён спакойна, але моцна зганіў палякаў.

У часе гэнэральнае капітулы Марыянаў, на якой адбыліся перавыбары айца гэнэрала закону, была так-жа разгляданая г. зв. друйская справа. Некаторыя ўдзельнікі капітулы — палякі, жадалі, каб друйскі дом, у які пасьля высяленьня Марыянаў беларусаў пераехалі Марыяне палякі, быў улучаны ў польскую правінцыю. Айцец Абрантовіч і айцец Цікота былі супраць гэтага, бо ўважалі, што несправядлівасьць і гвалт з боку польскага ўраду быў-бы падвоены, калі-б друйскі дом зьнік як незалежны нават на паперы. У выніку дыскусіі было пастаноўлена, што друйскі дом надалей астаецца пад апекай і наглядам гэнэральнае Марыянскае Ўправы.

З Рыму архім. Фабіян паехаў у Польшчу. Там засьпела яго вайна. Калі бальшавікі занялі Зах. Беларусь і Украіну, архім. Фабіян быў акурат у бацькаўскім доме ў Наваградку.

З усяго таго, што да нас дайшло рознымі шляхамі аб апошнім пэрыядзе жыцьця а. Фабіяна, можна як пэўнае ўважаць наступныя факты. Калі яшчэ была змога пераходу з-пад бальшавікоў на тэрыторыю Польшчы, у так званае Гэнэрал-Губэрнатарства, а. Фабіян паехаў да свайго прыяцеля мітр. Андрэя Шаптыцкага ў Львоў і там з некалькімі сьвятарамі украінцамі плянаваў вырвацца на Захад. Але якраз у часе намечанага пераходу ён быў слабы і хворы. Пераходзіць трэба было ўброд праз рэчку ў ён даверыў сябе жыду праваднiку правезьці цягнiком. Паводля пэўных меркаваньняў той жыд перавёў яго праз бальшавіцка нямецкую граніцу, але потым немцы яго злавілі і выдалі бальшавіком.

У 1947 г. польскі афіцэр у Ангельшчыне Язэп Белявскі, які быў у турме ў Львове разам з айцом Фабіянам расказвае наступнае: «Я быў арыштаваны 23 сьнежня 1939 г. Як прычына арышту — шпіянаж на карысьць Польшчы. У турме, у аддзяленьні Нр. 83, куды мяне пасадзілі, знаходзіўся ўжо монсіньёр Абрантовіч, заступнік старшыні горада Львова М. Хаес — жыд і др. Абрагам Швадрон — сябра жыдоўскае агэнцыі ў Жэнэве. Трэба зацеміць, што сп. Швадрон рабіў даносы савецкім уладам у турме, ён праўдападобна быў пасаджаны ў наш адзьдзел у якасьці абсэрватара».

«Монс. Абрантовіч амаль увесь час быў бяз сьведамасьці дзеля гвалтоўных катаваньняў у часе, сьледзтва і калі прыходзіў да сябе з дапамогаю перадусім сп. Хайеса, дык блізу ўвесь час праводзіў у малітве, у чым усе іншыя вязьні нашага адзьдзяленьня яго насьледавалі, а былі там яшчэ сп. Кароль Чэрвінскі, які памёр ад зьдзекаў, сп. Бабіч польскі паліцыйны агэнт і інш.».

«Монс. Абрантовіч ня прымаў амаль ніякае пажывы. Яму не дазвалялі спаць або аддыхаць днём, а начамі ад гадз. 9 вечара да 5 раніцы цягалі на дапросы. Ён штодня прыходзіў — лепш сказаць — яго ўносілі і кідалі як мяшок — зьбіты гумовымі палкамі. Ён увесь быў здэфармаваны, але пазнаць яго было лёгка, хаця за вопратку меў парванае лахмоцьце і яго прыгожая барада ўся была ў крыві. У часе сьледзтва яму закідалася шпіянаж на карысьць Японіі, гэта ён расказваў др. Швадрону дастаткова выразным і зразумелым голасам, так што можна яго было пачуць. Др. Швадрон стараўся ціхім голасам его пераканаць, каб ён прызнаўся да робленых яму закідаў і гэтым самым ухіліўся ад дрэннага абходжаньня з ім. Ясна, што ён яго падбухторваў да зрады, пераконваючы, што ў такім выпадку яго перастануць біць. Монс. Абрантовіч гутарыў з др. Швадронам і таму гэты штодня меў магчымасьць быць з ім і даваць яму сугэстыі. Што, др. Швадрон быў даношчыкам было ведама ня толькі дзеля таго, што ён жадаў з кожным гутарыць і здабыць давер вязьняў, але і дзеля таго, што пры адным здарэньні з украінцам М. Лопачком яўна выкрылася ягоная даношчыцкая дзейнасьць. Аднаго дня М. Лопачок расказаў яму зусім выдуманую гісторыю і пасьля трох дзён гэтую самую гісторыю ён пачуў ад савецкага асочнага, які са злосьцю пачаў яго біць і вымагаць, каб прызнаўся».

Сп. М. Белявскі помніць тры выпадкі асабліва моцнага катаваньня монс. Абрантовіча. Пасьля трэцяга мучэньня, калі М. Хаес, абліваючы яго вадою прывёў да прытомнасьці, тады монс. Абрантовіч расказаў частку свае гутаркі з савецкім асочным. У часе дапытваньня, калі а. Абрантовіч пачаў глуха стагнаць, тады асочны сказаў:

— Існуе-ж твой Бог, які робіць цуды, чаму-ж ты не папросіш Яго, каб ён зрабіў цуд і каб ты ня чуў болі ўдараў?

— Гэта мой Бог памагае табе цяпер мяне біць, — адказаў а. Абрантовіч.

Сп. Белявскі, сьведак цярпеньняў а. Фабіяна, быў з ім разам у Замарастынаўскай турме ў Льво-

ве больш трох тыдняў. Ён помніць, як яму а. Фабіян расказваў аб тым, што ён быў доўгі час місіянаром у Харбіне і як яго арыштавалі, калі ён пераязджаў цягніком раку на граніцы Гэнэрал-Губэрнатарства і калі меў заплаціць пагранічнікам даляры, яны яго выдалі НКВД.

Потым у 1941 г. сп. Белявскі даведаўся ад іншых асобаў, што а. Фабіян быў перавезены ў Сібір і там дзесьці памёр. Трэба заўважыць, што сп. Белявскі быў і астаўся пад вялікім уражэньнем маральнае сілы а. Фабіяна ў Львоўскай турме, хаця фізычна ён быў зусім зьнішчаны. Ён кажа, што найцяжэй за ўсіх катавалі а. Фабіяна. Ягоны асочны называўся Голенко. Гаварыў ён толькі парасейску, як з выгляду так і з абыходжаньня з вязьнямі, быў тып страшнага бандыта.

Аб зьдзеках і катаваньні ў той самай турме знайходзіцца яшчэ болей дэталяў у артыкуле, які быў апублікаваны бяз подпісу ў «Беларускай трыбуне» Нр. 3, з 1950 г. Нажаль дагэтуль не ўдалося ўстанавіць аўтэнтычнасьць пераказу, хаця апрача некаторых нязгодных з праўдаю дадзеных адносна асобы а. Фабіяна і яго выкліканьня ў Харбін, усё іншае не пярэчыць таму, што ёсьць ведама з іншых жаролаў. У тым артыкуле сказана: «Больш ён ня быў патрэбны савецкай уладзе і на падворку львоўскае турмы яго растралялі каты НКВД». Такая сьмерць была-б для а. Фабіяна лягчэйшаю ад далейшых мукаў у Сібіры, але гэта трэба было-б яшчэ сьцьвердзіць.

Зусім нядаўна адзін каталіцкі сьвятар, які пасьля доўгіх гадоў прабываньня ў савецкіх турмах прыехаў у Зах. Эўропу, чуў, што а. Абрантовіч у 1943 г. яшчэ жыў у паказовай Маскоўскай турме. Аднак зьняможаны папярэднім катаваньнем, меў хутка памерці Нажаль дата сьмерці і яму няведамая.

**Наш абавязак**

Уладыка айцец архімандрыт др. Фабіян Абрантовіч выбраў цяжкі шлях сьвятарства, які годна праўшоў служачы верна Богу і людзям. Працаваў ён даўгі час сярод беларусаў і для беларусаў. Пакліканы Апостальскім Пасадам да апостальскае працы сярод расейцаў, ён яе прыняў як горкую чашу і выпіў яе да дна. Каталіцкаа Царква і мы, беларусы, можам толькі ганырыцца нашым вялікім суродзічам, сынам нашае Наваградчыны.

Цяпер нам астаецца прасіць Бога, каб Ён у сваёй неабмежаванай дабраце захацеў уславіць свайго слугу Фабіяна.

Пішучы гэты скромны артыкул аб айцу Фабіяне, я пераканаdebны, што магчыма ў нядоўгім часе мы будзем маліцца да Бога праз яго заступніцтва. Цяпер-жа абавязкам кожнага з нас ёсьць пазнаць яго жыцьцё і веліч духа і там, дзе магчыма, ісьці за яго прыкладам.

**а. Ч. Сіповіч М. Н. П.**

---

(Матэрыял да гэтага жыцьцяпісу быў узяты з архіваў гэнэральнае управы Айцоў Марыянаў у Рыме, а так-жа з іншых крыніцаў, аб некаторых з іх успаміналася ў самым артыкуле).

---

## СТАРАЯ БЕЛАРУСКАЯ КАЛЯДКА

Нова радасьць сьвету ся явіла,
Прачыстая Дзева Сына парадзіла. (2).
У Віфлієме месьце дужа рана,
Вітаці Хрыста пастырам сказана. (2).
Зьвязда ўслугу тую адпраўляла,
Цароў пярсідзкіх к Яму прываджала. (2).
Прынясьлі Яму ліван, сьмірну, злато,
Узялі заплату нябесную за то. (2).
Ірад зласьлівы з таго засмуціўся,
Што Цар Прадвечны на сьвет нарадзіўся. (2).
Вялеў воям паўсюды шукаці,
У пень атрачата двулетны сьцінаці. (2).
Іосіф старац Марыю глашаець,
І да Ягіпта з Хрыстом убягаець. (2).
Няхай-жа Ірад вечна пагібаець,
Наш Цар раждзенны ўсіх нас уцяшаець. (2).
Мы ныня аб Ім вазвесялімося,
Раждзяству Яго нізка пакланімося. (2).
Каб нам ізволіў шчасьлівы век даці,
А па сьмерці з Ім у небе царстваваці. (2).

**(З Багагласьніка).**

---

# ІМКНЕНЬНЕ ДА БОГА

Колькі гадоў таму памёр у Вене мастак Глявацэк у веку 80 гадоў. Незадоўга перад сьмерцю яго адведаў адзін з ягоных пасьлядоўнікаў і зьвярнуў увагу на вялікі абраз, які быў выкананы вельмі акуратна ўва ўсіх драбніцах. Цэнтральнае мейсца ў абразе займала дарога абсаджаная абапал кіпарысамі. На перадзе абразу, дзе пачыналася дарога, усё было агорнута суценем і адтуль пачыналіся сходы, якія вялі з начное цемры да сьвету. На сходах віднелася постаць старога чалавека, які наважана накіроўваўся да сьвету, што быццам залатое зьзяньне заліваў верхні ка-

ней сходаў. У хмарах над кругазорам зарысоўваўся вобраз Хрыста. На запытаньне адведвальніка, што мастак хоча выказаць гэтым абразом, ён адказаў: «У гэтым вобразе я зьмясціў усю маю тугу да вечнага Сатварыцеля; усю маю веру і спадзяваньні мае душы. Стары чалавек на вобразе, гэта я сам, я вечны шукальнік, які цяпер убычаў сваю мэту».

# ЗАРА ХРЫСЬЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ

## ДАГЭТУЛЕШНІЯ ДОСЬЛЕДЫ

Пытаньне пачаткаў хрысьціянства на Беларусі да гэтага часу ляжыць адлогам, хоць ужо зьявілася вельмі шмат досьледаў адносна пачаткаў хрысьціянства ў Кіеўскай Русі, дзе даўжэйшы час быў аседак адзінае мітраполіі для «ўсяе Русі», гэта значыць для усіх усходне-славянскіх народаў. Гэты факт мае сваё апраўданьне ў тым сумным стане рэчаў, што адносна Кіеўскага цэнтру захавалася нямала дакумантаў, але вельмі мала захавалася адносна Беларусі.

Калісьці галоўнаю крыніцаю вестак аб хрысьціянізацыі Беларусі, Украіны і Расеі былі так званыя рускія летапісы пераважна кіеўскага пахожданьня. І паводля гэтых летапісаў выглядала быццам хрысьціянізацыя ўсіх усходне-славянскіх народаў была выключна дзелам кіеўскага князя Уладзімера. Аднак пачынаючы ад мінулага стагодзьдзя летапісныя весткі супастаўлена з хронікамі іншых народаў, з данымі археалёгіі і з рознымі іншымі дакумантамі. Тады выявілася, што ў рускіх летапісах ёсьць шмат недагавораў, памылак, а нават сьведамага фальшаваньня фактаў. Асабліва дзіўна, што шмат няясных пытаньняў маюць летапісы адносна пачаткаў хрысьціянства ў Кіяве, у тым Кіяве, дзе быў напісаны першапачатковы летапіс.

Выяўленьне недахопаў летапісных інфармацыяў і дапаўненьне іх з іншых крыніцаў, унясло шмат сьвятла ў пытаньне аб пачатку хрысьціянства на Русі, аднак яшчэ ня выясьнена ўсіх тых загадкаў, аб якіх маўчаць летапісы.

Калі так маецца справа з пачаткамі хрысьціянства ў Кіяве, пасьля таго, як шматлікія вучоныя гісторыкі прысьвяцілі гэтым досьледам найлепшыя гады свае творчае працы, дык што пасьля гэтага казаць аб пачатках хрысьціянства на Беларусі; пытаньні, якім займаліся толькі лічаныя адзінкі ды-й то толькі прынагадна. Старэйшыя гісторыкі у гэтым дачыненьні звычайна абмяжоўваліся да паўтарэньня вестак, зачэрпнутых з гісторыі хрысьціянізацыі Кіеўскае Русі, далаючы да іх некалькі сваіх меркаваньняў(1). А хто з іх займеў думку выясьніць дакладней шляхі хрысьціянізацыі Беларусі, дык станавіўся перад непераможнымі цяжкасьцямі. Напрыклад ведамы гісторык Даніелевіч сьцьвярджаў, што «беднасьць нашых крыніцаў не дае магчымасьці дакладна прасачыць распаўсюджаньне хрысьціянства ў Полацкай зямлі»(2). Нажаль і сёньня гэтыя словы ня страцілі свае праўдзівасьці. Пакуль ня выяўлена новых дакумантаў, для дасьледнікаў пачаткаў хрысьціянства на Беларусі, не аставалася нічога іншага, як абмяжоўвацца агульнымі выснаўкамі з гісторыі суседніх народаў. Так між іншым зрабіў успомнены вышэй Даніелевіч і далей не пайшоў у сваіх досьледах кс. Ад. Станкевіч, хоць займаўся гэтым пытаньнем 42 гады пасьля ўспомненага аўтара(3).

Такія агульныя інфармацыі, хоць як яны кароткія і маламоўныя, прынамся не пераступалі межаў гістарычнае праўды. Інакш выглядае справа, калі за гістарычную работу браліся людзі не абзнаёмленыя з гісторыяю. Іхныя «працы» і «нарысы» пачынаюцца і канчаюцца на перапісваньні жыўцом вестак з тых папулярных кніжак і брашураў, якія ім трапіліся пад рукі; але і гэта было-б яшчэ паўбяды, нажаль гэткія аўтары звычайна прысьвячаюць шмат больш увагі фантастычным выдумкам чым гістарычным фактам.

Адным з такіх фантастычных фактаў, які гісторыкі інакш не называюць, як лягэндаю, але якому прысьвячаюць шмат увагу ў розных «нарысах», ёсьць так званая Андрэяўская лягэнда, паводля якое ап. Андрэй быццам меў прайходзіць праз Беларусь. Зьмест лягэнды вельмі кароткі. У ёй гаворыцца быццам ап. Андрэй аднойчы падарожнічаў з Сінопы ў Рым водным шляхам «з Вараг у Грэк». Падарозе ён меў затрымацца на ўзгорку, дзе потым пабудована Кіеў і пабагаславіў гэты ўзгорак. І далей гаворыцца, што ён за-

1. Такімі былі: Сапуновъ. А. Матеріялы для исторіи Полоцкой епархіи, «Витебская старина», Т. У. Витебскъ 1888; П. Н. Батюшковъ. Бѣлоруссія и Литва. С.П.б. 1890; Stebelski Jgn. Dwa wielkie swiatla na horyzoncie polockim. Wilno, 1896 c. 238.
2. В. Е. Данилевичъ. Очерки исторіи Полоцкой земли до конца XIV ст. Кіевъ, 1896, с. 238.
3. Ад. Станкевіч. Хрысьціянства і беларускі народ. Вільня, 1939.

трымаўся аж у Ноўгарадзе, ды насьміхаўся з ноўгарадцаў, як яны парацца ў лазьнях.

Калісьці андрэяўская лягэнда была вельмі распаўсюджана ў Расеі і ўвайходзіла ў арсэнал імпэрыялістычных імкненьняў для падтрыманьня тэорыі аб «Маскве — трэцім Рыме», але ўжо даўно выясьнена, што ў той лягэндзе няма ніводнага слова праўды. Паўстала яна ў палавіне XI ст. у Кіяве на аснове бізантыйскіх лягэндарных вестак аб ап. Андрэю і хутка была ўпісана ў летапіс(4). Самая лягэнда невялікая, але мае шмат супярэчнасьцяў. Яна робіць з апостала Андрэя нейкага дзівака і кіеўскага патрыёта, які прарочыць веліч Кіеву, багаславіць яго, а наўгародцаў высьмейвае. У лягэндзе ня кажацца ні слова аб якой колечы апостольскай дзейнасьці ап. Андрэя, ня кажацца так-жа, як ён пераехаў волакі. Дзеля гэтага ведамы гісторык Расейскае Царквы Салаўёў казаў з абурэньнем, што тая лягэнда ёсьць толькі сьведчаньнем ганарлівасьці і марнасьці старых расейцаў, якія выкарыстоўвалі свой літаратаурны твор — лягэнду — для лашчаньня свайго нацыянальнага пачуцьця.

Калішняя царская ўлада даўжэшы час забараняла ўсякія спробы крытычнае ацэнкі андрэяўскае лягэнды(5). Аднак відавочныя супярэчнасьці змусілі прызнаць справядлівы прысуд гістарычнае навукі, што лягэнда зусім непраўдзівая. Але нават і пасьля таго, калі ўжо было ясна сказана слова праўды, яшчэ паасобныя расейскія дасьледнікі даўжэйшы час пад рознымі прэтэкстамі стараліся выцягнуць яе з забыцьця. Ня так даўно Пагодзін прысьвяціў лягэндзе немалую манаграфію нібыта шукаючы даты і мейсца яе паўстаньня. Праўда ён нават і словам ня важыцца гаварыць аб яе праўдзівасьці, называе яе толькі лягэндаю, і толькі стараецца даказаць, што яна паўстала ня ў Кіяве, а ў Тмутаракані каля 1051 г. і адтуль была перанесена ў Кіеў(6).

Між іншым варта зацеміць, што андрэяўская лягэнда пярэчыць нават і таму летапісу, дзе запісана, бо-ж у летапісе кажацца адносна абшару ўсіх усходніх славянаў: «яко сдѣ не суть ученія апостольска»(7).

Пры нагодзе андрэяўскае лягэнды само сабою напрошваецца вельмі цікавае пытаньне: хто жыў на абшары сучаснае Беларусі ў апостальскіх часох?

Весткі адносна дагістарычных пляменьняў, якія засялялі абшар Беларусі, вельмі скупыя. Некаторыя дасьледнікі лічаць, што найбольшым пляменьнем на гэтым абшары ў пачатку нашае эры былі Карваны, ці Карбаны, якія потым мелі даць пачатак Крывічом(8). Пражывалі так-жа іншыя меншыя пляменьні, але мейсцы іхняга аседку азначаюцца па рознаму. У часе вялікага перасяленьня народаў этнічныя зьмены на абшары Беларусі былі вельмі нязначныя. На зары нашае гісторыі ў IX ст. тут пражывалі: Крывічы, Дрыгвічы, Радзімічы, Северане і Люцічы.

Дахрысьціянская вера нашых продкаў ведала шмат большых і меншых боствў, абагаўляла сілы прыроды, але ня мела ані багаслужэньняў, ані зарганізаванага сьвятарства. Акрамя некаторых боствў, прызнаваных усімі пляменьнямі, як: Белбог, Пярун, Ярыла, Лада, Жыва, Грамавіца, Зюзя, Дажбог і інш., было шмат мяйсцовых бажкоў, багіняў, божычаў і багавіцаў, шмат добрых і дрэнных духаў. Вестак аб гэтых бостввах і духах захавалася мала, бо праўдападобна ў IX ст. паганская вера нашых продкаў пераўжывала ўпадак(8 б), дзеля гэтага хрысьціянства зьявілася вельмі ўчас і акрамя свае істотнае місіі — збаўленьня душ — мела так-жа аграмаднае грамадзкае, культурнае і палітычнае значэньне для народу.

## ШЛЯХІ І ЧАС ХРЫСЬЦІЯНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСІ

Пакуль летапісныя весткі аб старадаўным гістарычным мінулым усходніх славянаў ня былі крытычна перагледжанымі, агульна прыймалася, што ўсе ўсходнія славянскія народы прынялі хрысьціянства ўканцы X ст. выключна па загаду князёў бяз папярэдняе падрыхтоўкі.

Праўда, у тых-жа летапісах ня раз успамінаецца аб існаваньні хрысьціян на гэтых абшарах і ў ранейшых часох: былі ваякі хрысьціяне ў дружыне кіеўскага князя Ігара ў 944 г., існавала царква сь. Ільлі ў Кіяве, княгіня Ольга ахрысьцілася ў 955 г., у 983 г. замучана ў Кіяве двох хрысьціян — але ўсе гэтыя і іншыя весткі падаваныя ў летапісе бязьзьвязна з выразнаю мэтаю прыдаць большае значэньне кіеўскаму князю Уладзімеру і хрышчэньню, якое ён даканаў у 988 г.

4. Повесть временных лет. Часть I. Москва-Ленинград. 1950, с. 12. Кароткая гісторыя паўстаньня лягэнды падана у Ч. II. с. 218.
5. Др. Степан Томашівський. Історія Церкви на Україні. Philadelphia. с. 16. Пры гэтым аўтар падае дакладны разбор лягэнды.
6. Погодин А. Повесть о хождении апостола Андрея в Руси. «Buzantino-slavica». Tom. VII. Praha 1937-38. st. 147.
7. Повесть временных лет. Часть I. с. 81. Москва-Ленинград, 1950.
8. П. Н. Третьяков. Восточнославянские племена. Изд. 2. Москва, 1953. с. 106
8 б. Аб гэтым гл. мой артыкул «Дахрысьціянскія вераваньні нашых продкаў» у «Божым шляхам» Нр. 70-75, с. 29-35. Парыж, 1956.

Толькі агульны ўздым гістарычнае навукі ў XIX ст. даў магчымасьць гісторыкам больш свабодна і аб'ектыўна ацаніць летапісныя весткі, супаставіць іх з іншымі гістарычнымі крыніцамі і ў выніку гэтых спрыяючых для досьледаў зьменаў зьявіліся паважныя працы аб пачатках хрысьціянства між усходніх славянаў(9). Нажаль, як было зазначана перш, аграмадная большасьць тых досьледаў амаль выключна прысьвечана Кіеўшчыне, адносна якое захавалася больш вестак у розных гістарычных крыніцах. Тымчасам і шляхі і спосабы пашырэньня хрысьціянства ў кожнага з усходне-славянскіх народаў былі розныя і аб гэтым чамусьці дасьледнікі зусім нічога не гавораць.

Першыя сьляды хрысьціянства на Беларусі паходзяць з VI ст. У мінулым стагодзьдзі быў знойдзены каля Драгічына над Бугам нацельны крыжык у старым гарадзішчы, якое размыў Буг. Крыжык па сваёй форме і якасьці зусім падобны да тых крыжыкаў, якія ў IV—VI в. в. сустракаліся ў Корсуні і ня інакш, як быў прынесены адтуль(10).

Той факт, што найстарэйшы сьлед хрысьціянства на абшары Беларусі знойдзены на беразе ракі сьведчыць аб вялікім значэньні водных шляхоў у хрысьціянізацыі краю. Бязумоўна, што з гэтага гледзішча найбольшае значэньне меў водны шлях «з Вараг у Грэкі». На гэтым шляху недалёка ад Смаленску ў Гнёздаўскіх курганох знойдзена адну гліняную судзіну з надпісам кірылаўскімі літарамі «г о р о у щ а» (гарчыца). Разам з судзінаю знойдзена манэты з пачатку X ст., тым самым і першы кірылаўскі напіс на абшары Беларусі мае азначаную дату(11). Няма сумніву, што гэты напіс сьведчыць аб праніканьні на Беларусь кірыла-мяфодыявага хрысьціянства ўжо на пачатку X ст.

На шляху «з Вараг у Грэкі» праўдападобна найстарэйшым горадам быў Полацк. Мяйсцовы пераказ ягонае заснаваньне прыпісвае лягэндарнаму князю Полтэсу. Ужо ў IX ст. Полацк быў шырокаведамы ў суседніх гандлёвых цэнтрах. Ягоныя купцы былі частымі госьцямі ў Бізантыі ўжо ў X ст. Напэўна некаторыя з іх былі хрысьціянамі і разам з аднаверцамі кіеўлянамі гуртаваліся каля царквы сьв. Мамы ў Царгародзе(12).

Недалёка ад воднага шляху дзесьці каля Полацку была пабудована найстарэйшая, хрысьціянская царква на Беларусі — гэта царква сьв. Івана каля Полацку. Аб ёй успамінае Krisnasaga, у якой апавядаецца, як скандынаўцы Торвальд і Стэфэнэр рабілі паломніцтва ў Еruзалім і Канстантынопаль. Вяртаючыся адтуль назад па Дняпру і Зах. Дзьвіне, Торвальд памёр каля Полацку і быў пахаваны ў царкве сьв. Івана(13). Нажаль з гэтае загі немагчыма азначыць даты для апісанае падзеі.

З Скандынавіі праз беларускія землі прайходзілі ня толькі паломнікі — гэтых магчыма было мала — але затое было шмат скандынаўскіх ваякаў-варагаў, якія найма́ліся ў дружыны рускіх князёў. А ведама, што ўжо ў X ст. варагі былі хрысьціянамі лацінскага абраду і бязумоўна ў княжых дружынах сеялі хоць дробныя зерняткі хрысьціянскае навукі.

Апіраючыся хоць і на легэндарных вестках аб жыцьці сьвятых Кірыла і Мяфода можна прыняць як даволі верагодны факт, што прынамся час ад часу зьяўляліся ў некаторых гарадох хрысьціянскія сьвятары з Маравіі і Баўгарыі пасьля таго, як там зьявіліся кадры хрысьціянскага духавенства.

Да X ст. праніканьне хрысьціянства на абшар сучаснае Беларусі можна лічыць рэдкім зьявішчам, але ўжо на пачатку X ст. пашырэньне хрысьціянства на нашых землях значна ўзмацняецца, бо гэта быў час, калі хваля хрысьціянізацыі Эўропы ахоплівала ўсё новыя і новыя народы, зьбліжаючыся да нашых продкаў з розных бакоў. У IX ст. прынялі хрысьціянства: Данія, Скандынавія, Маравія, Баўгарыя, а ў палавіне X ст. хрысьціянства стае дзяржаўнаю libераю ў Мадзяршчыне і Польшчы. Аднак летапісныя весткі з таго часу датычна хрысьціянства вельмі скупыя. Летапісцы, відаць, сьведама прамоўчвалі шматлікія факты, якія не супадалі з пазьнейшаю рэлігійнаю

---

9. Спаміж шматлікіх працаў на гэтую тэму на большую ўвагу заслугоўваюць: М. Макарій. О христіанстве на Руси до равноапостольного князя Владимира. СПб, 1864.
   Е. Голубинскій. Христіанство на Руси до св. Владимира. «Ж. М. Н. П.», сентябрь, 1867 і яго-ж: Исторія Русской Церкви, том I, Москва, 1901.
   Н. И. Коробка. Къ вопросу объ источникахъ руского христіанства. «Изв. Отд. рус. яз. и слов. Им. Ак. Н.» Том XI, кн. 2, 1900.
   В. А. Пархоменко. Начало христіанства на Руси. Полтава, 1913.
   Н. Полонская. Къ вопросу о христіанстве на Руси до Владимира. «Ж. М. Н. Пр.», 1917.
   В. Заікин. Християнство на Україні за часів князя Ярополка I. (969-979). «Anal. Ord. S.B.M.». III p. I. 1928.
   Bilsumowski K. Najdawniejsze pomniki chrzescijanstwa na Rusi. «Pamietniki III Zjazdu historykow». Krakow, 1900.
   Michel de Taube. Rome et la Russie avant l'invasion des Tatares Paris, 1947. «Istina;. Hr. 1 et 3. 1957.
   Zajikyn W. Chrescijanstmo w Europie wshodniej od czasow apostolskich do ksiencia Igora Starego. Warszawa, 1929.
10. Н. Леопардовъ. О значеніи археологіи въ оцѣнкѣ историческихъ памятниковъ. «Труды Виленскаго отдѣленія Моск. предв. комит. по устройству въ Вильнѣ IX Археологическаго съезда». Вильна, 1893, ст. 332.
11. А. В. Арциховский. Основы археологии. Москва, 1954, ст. 207.
12. Ст. Томашівский. op. cit. p. 68.
13. С. В. Беренштейн-Коган. Путь из варяг в греки. «Вопросы географии». Сб. 20. Москва, 1950, ст. 242.

палітыкаю «рускіх» князёў. Загое яны вельмі шырока расьпісваюцца аб хрышчэньні кіеўскага князя Уладзімера, уплятаючы ў тое апавяданьне шматлікія лягэнды. Дату хрышчэньня Уладзімера летапісы падаюць 988 г. і ў гэтым-жа годзе Уладзімер меў сіламоц хрысьціць сваіх падуладных з помаччу бізантыйскага духавенства. Перадумоваю хрышчэньня Уладзімера меў быць ягоны шлюб з сястрою бізантыйкага імпэратара Аннаю, дзеля якое ён ішоў вайною на Корсунь. Дзіўна аднак, што акрамя рускіх летапісаў аб гэтых падзеях гаворыць некаторыя арабскія крыніцы, але маўчаць зусім бізантыйскія гісторыкі з X ст.(14). Шматлікія лягэнды рускіх летапісаў датычна хрышчэньня Уладзімера, як: пасыланьне пасланцоў у розныя краіны для абзнаямленьня з рэлігіямі, дыспуты з прадстаўнікамі паасобных рэлігіяў і інш. зусім неверагодныя факты далі падставу гісторыкам стварыць мноства розных дагадкаў мала верагодных і сабе супярэчных. І яшчэ да сёньня ў тых дагадках шмат чаго астаецца нявырашаным і дзеля гэтага яшчэ сёньня пытаньне хрышчэньня Русі астецца «заблытаным пытаньнем, якога гісторыкі яшчэ ня выясьнілі ўва ўсіх падрабязнасьцях»(15).

Ня будзем пералічаць усіх тых дагадкаў адносна хрышчэньня Русі. Хоць яны і маюць нямала арыгінальнасьці, але нажаль маюць бадай што яшчэ больш палітычных ці нацыяналістычных тэндэнцыяў. Аднак бесьпярэчнаю заслугаю ўсіх тых крытычных ацэнак летапіснага апавяданьня аб хрышчэньні Русі ёсьць усьведамленьне таго факту, што хрысьціянізацыя Русі была вынікам доўгага працэсу, у якім удзельнічала шмат дзейнікаў: Адзін з сучасных дасьледнікаў слушна ў гэтай справе кажа: «з аднаго боку йшлі старыя рэлігійныя ўплывы з Паўдня — грэцкія, гоцкія, баўгарскія; а з другога боку — скандынаўскія, мараўскія нямецкія»(16). Але зразумела, што ня ўсе гэтыя дзейнікі былі аднолькава важныя і трывалыя: адны з іх мелі меншы ўплыў, а другія большы.

Да найбольш важных дзейнікаў у хрысьціянізацыі ўсходніх, заходніх і часткава паўднёвых славянаў была дзейнасьць сьвятых братоў Кастуся (у манастве Кірыла) і Мяфода, празваных раўнаапостальнымі.

Браты Кастусь і Мяфод паходзілі з мешанае сям'і. Іхны бацька грэк быў высокім бізантыйскім урадоўцам у Салуні, а маці праўдападобна была славянка. У ваколіцах Салуня ад VII ст. жыло некалькі невялікіх славянскіх пляменьняў: Драговічы (пагрэцку — Другувіты), Люцічы і Бэлікэі(17). Паводля бізантыйскіх вестак Драговічы гэта адно з сэрбскіх пляменьняў, але былі так-жа выказаны дагадкі гісторыкаў, што гэта частка беларускага племені Дрыгвічоў, якія зайшлі туды ў часе вялікага перасяленьня народаў. Тады-б іхняя мова была падобнаю да мовы нашых продкаў. Але незалежна ад паходжаньня Драговічаў і іншых пляменьняў з ваколіц Салуня, Кастусь і Мяфод з маленства добра ведалі тую славянскую мову, якую чулі ў ваколіцах Салуня і магчыма ў самым Салуні.

Старэйшы брат Мяфод (радз. 815 г.) вучыўся перш у Салуні, потым у Канстантынопалі і быў назначаны адміністратарам аднае з правінцыяў у Македоніі. А малодшы брат Кастусь (радз. 826 г.) вучыўся толькі ў Канстантынопалі і атрымаў там найбольшую асьвету, якая ў тыя часы была магчымаю; ягоным школьным сябрам быў будучы імпэратар Міхаіл III. Чуючы пакліканьне да духовага жыцьця, Кастусь адмовіўся ад усякіх урадавых становішчаў і схаваўся ў манастыр. Праз паўгоду яго такі знайшлі ў манастыры і ўгаварылі выкладаць філязофію ў Канстантынопалі.

Каля 760 г. хазарскі хан зьвярнуўся да бізантыйскага імпэратара Міхаіла III з просьбаю прыслаць яму хрысьціянскіх місіянароў. Імпэратар выслаў братоў Кастуся і Мяфода. Яны праводзілі сваю місійную дзейнасьць на ўзьбярэжжы Азоўскага мора і магчыма, што тады сустрэліся з паўднёва-украінскімі пляменьнямі(18).

Місія Кастуся і Мяфода між хазараў трывала вельмі коратка. Ужо ў 862 г. іх зноў бачым у Канстантынопалі і ў тым часе мараўскі князь Расьціслаў, жадаючы вызваліць сваю дзяржаву ад палітычнага ўплыву нямецкіх біскупаў і здабыць незалежную ерархію для Маравіі, зьвярнуўся да бізантыйскага імпэратара Міхаіла III, каб прыслаў яму місіянароў, якія-б ведалі славянскую мову. Імпэратар даручае місію братом Кастусю і Мяфоду. Гэтым разам яны перш чым выбрацца ў дарогу паважна рыхтуюцца да свае новае місіі. Кастусь (у манастве Кірыла) вынайшоў альфабэт адпаведны да тае славянскае мовы, якую ён ведаў з ваколіц Салуня і пералажыў на гэтую мову найбольш неабходныя багаслужэньні і часткі Сьвятога Пісаньня. Ці той першы альфабэт быў

14. М. В. Левченко. Взаимоотношения Византии и Руси при Владимире «Византийский временник». Том VII. Москва, 1953, ст. 200.

Гэтае маўчаньне бізантыйскіх гісторыкаў і

15. Б. Д. Греков. Киевская Русь. Изд. 2. Москва, 1953, ст. 475.

16. Michel de Taube Rome et Russie avant l'invasion des Tatars. Paris, 1947, p. 100.

17. Драговічы захаваліся каля Солуня даволі доўга, бо яшчэ ў XIV ст. Філіпопальскі мітрапаліт меў тытул экзарха Драговічаў. Гл. аб гэтым: F. Dvornik Les Slaves. Byzance et Rome au IX siècle. Paris, 1926, p. 236-237.

18. Апошнім часам некаторыя украінскія дасьледнікі выказваюць дагадкі, што ў тым часе Кастусь і Мяфод маглі заехаць глыбока ў украінскія землі. Гл.: о. Ізидор Нагаэвський. Кирило-Методіівське христыянство в Русі-Україні. Рим, 1954, ст. 109-125.

глаголіца, ці кірыліца, яшчэ да гэтага часу вучоныя не дайшлі да аднагоднага выснаўку. У мінулым стагодзьдзі большасьць вучоных лічыла, што тым альфабэтам была глаголіца і сёньня яшчэ некаторыя трымаюцца гэтае думкі([19]). Аднак навейшыя знахадкі прыносяць доказы на тое, што старэйшым альфабэтам ёсьць кірыліца([20]). Але якім-бы той альфабэт ня быў, ён мае свой пачатак ад сьвятога Кірыла. Праўда навейшыя знахадкі сьведчаць аб тым, што нейкая славенская пісьменнасьць была і перад тым([21]), ды і сьвятыя браты падчас сваё місіі між хазараў знайшлі ў Корсуні псалтыр, пəратлумачаны на славянскую мову, але гэта былі часы, калі славянская пісьменнасьць была рэдкім зьявішчам і дзеля гэтага яе значэньне да часу дзейнасьці Кірыла і Мяфода было невялікае.

На дарозе ў Маравію браты затрымаліся на кароткі час у Баўгарыі вядучы там плённую місійную дзейнасьць.

Кірыла і Мяфод прыехалі ў Марывію летам 864 г. і разгарнулі адразу ажыўленую дзейнасьць. Да гэтага часу там працавалі нямецкія сьвятары, пашыраючы хрысьціянства ў лацінскім абрадзе, ня ведаючы зусім мовы народу. А Кірыла і Мяфод павялі сваю дзейнасьць у зразумелай для насельніцтва мове і праз гэта мелі вялікі посьпех. Тады нямецкае духавенства з заздрасьці і з палітычных меркаваньняў абвінаваціла іх у Рыме як гэрэтыкаў. На заклік папы Мікалая I браты мусілі ехаць у Рым выясьняць правільнасьць і прававерласьць свае місіі. Новавыбраны папа Адрыян II у 867 г. адобрыў іхнюю дзейнасьць, больш таго, у паразуменьні з мараўскім і панонскім князямі ён заплянаваў арганізацыю нармальнае ерархіі для Маравіі і Панонії, высьвячваючы Мяфода на япіскапа. Усе гэтыя захады і мерапрыемствы працягваліся даволі доўга і як на няшчасьце яшчэ ў міжчасе паважна захварэў Кірыла. Прадчуваючы блізкую сьмерць ён уступіў у манастыр і хутка памёр (14.II.869).

Пахаваўшы брата, Мяфод адзін вяртаўся ў Маравію з тытулам архібіскупа і папскага легата на славянскія краіны. Гэтым разам нямецкае духавенства ў Маравіі ўзьняло супраць Мяфода надзвычайна варожую дзейнасьць, абвінавачваючы яго зноў як злоснага гэрэтыка. Трох аўстрыйскіх біскупаў зрабілі над ім суд і замкнулі ў турму, не паведамляючы Рым ні адным словам аб сваёй дзейнасьці. Толькі новавыбраны папа Іван VIII, даведаўшыся аб лёсе Мяфода, загадаў неадкладна выззваліць яго і засуспэндаваў тых біскупаў, што яго судзілі. Аднак і пасьля гэтых энэргічных захадаў папы, ня спыняліся даносы ў Рым на Мяфода. Ён яшчэ раз у 880/81 гадох мусіў ехаць у Рым. І гэтым разам атрымаў адабрэньне свае дейнасьці, а Маравія і Панонія прызнаныя новаю царкоўнаю правінцыяю на чале з рхібіскупам Мяфодам.

У дзейнасьці сьвятога Мяфода важнае мейсца займала падрыхтоўка кадраў духавенства з мяйсцовага насельніцтва. Ягоны сапраўды апостальскі дух не абмяжоўваўся Маравіяю і Панoніяю. Ёсьць весткі, што ён з Маравіі высылаў сваіх вучняў у суседнія краіны і між імі так-жа «ў Русь»([22]). Праўда гэтая вестка ўзятая з лягэнды і гістарычныя крыніцы аб ёй маўчаць, але факт высыланьня вучняў у іншыя краіны вельмі магчымы і адказвае характару дзейнасьці сьв. Мяфода.

Апошнія гады свайго жыцьця Мяфод прысьвяціў падрыхтоўцы духавенства і перакладу Сьвятога Пісаньня, хоць розныя інтрыгі нямецкага духавенства не давалі яму супакою да апошніх дзён жыцьця. Памёр сьв. Мяфод 6.IV.885 г., вызначыўшы перад тым свайго вучня Гаразда на свайго наступніка([23]).

Пасьля сьмерці сьв. Мяфода нямецкае духавенства змагло перацягнуць на свой бок мараўскага князя Сьвятаполка (870—894) і ён уканцы 886 г. выгнаў з Маравіі ўсіх мяфодавых духоўных. Яны ўцяклі ў Баўгарыю, дзе іх ахвотна прынялі. Ёсьць падставы дагадвацца, што некаторыя мяфодавы вучні накіраваліся на поўнач і дзейнічалі ў Галіцыі, а магчыма нават і над Дняпром([24]).

У Баўгарыі мяфодавы вучні знайшлі вельмі ўраджайную ніву для свае дзейнасьці. Яны заняліся падрыхтоўкаю духавенства, катэхэтаў і перапісчыкаў. Адна з лягэндаў кажа што сам сьв. Клімэнт вучань сьв. Мяфода меў аж 3.000 вучняў. У выніку дзейнасьці мяфодавых вучняў у Баўгарыі хутка ўзрасла колькасьць асьвечаных людзей, зьявіліся баўгарскія рэлігійныя дзеячы і пісьменьнікі. Баўгарыя хутка сталася незалежнаю і з рэлігійнага гледзішча — цар Сымон (893—927) змог вызваліцца ад Бізантыйскага патрыярха, засноўваючы Баўгарскі патрыярхат у Ахрыдзе([25]).

---

19. Е. Э. Гронсгрэм. О происхождении глаголической азбуки. «Труды Отдела древнерусской литературы». Т. XI. Москва-Ленинград, 1955. с. 300-313.
20. Черепин Л. В. Русская палеография. Москва, 1956, с. 83-III.
21. Емиль Георгиев. Славянская письменность до Кирилла и Мефодия. София, 1952.
22. Захаваўся адзін чэскі пераказ у якім між іншым кажацца, што на Русь быў высланы Наврок. Літаратуру адносна гэтае весткі падае Др П. Ісаів. Звідки Русь-Україна прийняла християнство? Філядельфія, 1952, ст. 37.
23. Аб жыцьці і дзейнасьці сьвятых братоў Кірыла (Кастуся) і Мяфода, ёсьць аграмадная літаратура, але міма гэтага яшчэ шмат мамэнтаў з іхняга жыцьця і дзейнасьці астаецца нявыясьненымі.
24. о. Ізидор Нагаєвський. Кирило-Методіївське християнство в Русі-Україні. Рим, 1954, с. 109-125.
25 F. Dvornik. Les Slaves Byzance et Rome au IX siècle. Paris, 1927, у. 317.

## БАЎГАРСКІ УДЗЕЛ У ПАШЫРЭНЬНІ ХРЫСЬЦІЯНСТВА МІЖ УСХОДНІХ СЛАВЯНАЎ

Дзякуючы спрыяючым умовам кірыла-мяфодавае хрысьціянства ў Баўгарыі хутка разьвівалася і ўшыр, і ўглыб. Пад кіраўніцтвам цара Сымона Баўгарыя перажывала росквіт свае магутнасьці, а разам з тым разьвівалася і мацнела рэлігійнае жыцьцё(26). Распачатыя ў 918 г. стараньні мець свой патрыярхат, кончыліся тым, што Бізантыйскі патрыярх прызнаў у 927 г. Ахрыдзкі патрыярхат.

Між Баўгарыяю і ўсходнімі славянамі, якія ў тых даўных часох часам называўся агульным імем Русь, былі даволі ажыўленыя культурныя зьвязкі(27). У даным выпадку нас перадусім цікавяць рэлігійныя зьвязкі.

Ёсьць весткі, што ўжо ў 886 г. выслана з Македоніі «на Русь» архірэя і двох людзей для прапаведваньня хрысьціянства. Іхняя дзейнасьць мела быць плённаю(28). У далейшым падобныя высылкі паўтараліся няраз. Расейскі гістрык Татішчев, які карыстаўся крыніцамі, што потым загінулі, кажа, што Сымон баўгарскі «выслаў на Русь іерэі учоны і кнігі довольны»(29). Няма сумніву што гэтыя пасланцы дзейнічалі на абшары нашае бацькаўшчыны, бо-ж як успаміналася на пачатку, каля Смаленску ў Гняздове знойдзена гліняную судзіну з X ст. з надпісам кірылаўскімі літарамі.

Наагул баўгарскае хрысьціянства вельмі актыўна ўдзельнічала ў хрысьціянізацыі «старое Русі»(30). Найлепшым доказам гэтае дзейнасьці ёсьць царкоўна-славянская мова ў багаслужэньнях, у царкоўным жыцьці наагул і нават у прыватным жыцьці асьвечаных кругоў ужо ў X ст.(31). Больш таго — няма ніякіх гістарычных дадзеных аб існаваньні грэцкае мовы ў багаслужэньнях на Русі.

Ужо даўно вучоныя зьвярнулі ўвагу, што багаслужэбныя кнігі Русь атрымала не з Бізантыі, але з Баўгарыі(32), аднак дзеля розных палітычных меркаваньняў у Расейскай імпэрыі стараліся аб гэтых фактах прамоўчваць. Толькі перад самаю першаю сусьветнаю вайною Прысёлкаў апублікаваў папважную працу(33), у якой пайшоў ажні задалёка, прыпісваючы баўгарам выключную ролю ў хрысьціянізацыі старое Русі. Нічога дзіўнага, што царская расейская афіцыяльная крытыка сустрэла працу Прысёлкава вельмі няпрыхільна. Аднак навейшыя досьледы прыносяць усё больш доказаў, якія сьведчаць, што спаміж усіх дзейнікаў хрысьціянізацыі Русі баўгарскае хрысьціянства мела найбольшы ўплыў. Сучасны баўгарскі гісторык Ніколаеў спробаваў аднавіць тэорыю Прысёлкава, вышукваючы доказы на падмацаваньне слабых мейсцаў у ягонай тэорыі. Ніколаеў цьвердзіць, што рускія летапісы маўчаць аб дзейнасьці баўгарскага духавенства на Русі таму, што прайшлі праз ачыстку пазьнейшых грэцкіх мітрапалітаў, якія звычайна ненавідзелі баўгараў(34).

Аднак з другога боку трэба сказаць, што ў тых-жа летапісах, якія нічога не гавораць аб баўгарскім духавенстве, ёсьць нямала сьлядоў баўгарскага ўплыву. Напрыклад лягэнда аб тым, што Уладзімер кіеўскі перад сваім хрышчэньнем пасылаў пасольствы ў розныя краіны, каб «іспыталі веры», пераліцована з баўгарскага апавядзяньня. На гэты факт ужо даўно зьвярнуў увагу Шахматаў(35). А навейшыя досьледы летапісаў дадаюць, што агулам апавяданьне аб хрышчэньні Уладзімера створана на ўзор лягэнды аб хрышчэньні баўгарскага цара Барыса(36). Бязумоўна вялікую сілу для праменяваньня хрысьціянства ў іншыя краіны даваў баўгарскі патрыярхат у Ахрыдзе(37).

Усе вышэйпералічаныя факты ўплыву баўгарскага хрысьціянства на пашырэньне хрысьціянства на Русі наагул, зразумела, адносяцца да Беларусі, але ёсьць яшчэ факты ў гэтым дачыненьні, якія адносяцца амаль выключна да Беларусі. Факты гэтыя вартасныя тым, што паходзяць не з якіх тэндэнцыйных крыніцаў, але з найбольш аб'ектыўнае археалёгіі.

Ведама, што сьвятыя браты Кірыла і Мяфод

---

26. E. Georgiev Aufblühen des slavischen Schrifttums in Bulgarien im IX Jahrhundert. «Vorträge auf der berliner Slavistentagung 11-13. Nov. 1954» Berlin. 1956. S. 68-79.
27. Тихомиров М. Н. Исторические связи русского народа с южными славянами с древнейших времен до половины XVII в. «Славянский сборник», Москва, 1947. Гл. так-жа: Снегаров Иван проф. Духовно-културни връзки между България и Русия през средните векове (X-XVI в.в.) София, 1950.
28. Йордан Иванов. Северна Македония. Исторически издирования. София, 1906, с. 68-69.
29. В. Н. Татищев. Исторія Россійская. Кн. I, ч. I. Москва, 1768, с. 18.
30. А. Шахматовъ. Замѣтки къ древнейшей исторіи русской церковной жизни. «Научно-историческій журналъ». СПб. 1914. Том II. Вып. I. Нр. 4, ст. 52.
31. А. А. Шахматовъ. Введенѣніе въ курсъ исторіи рускаго языка. Часть I. Петроградъ, 1916, с. 81-82.
32. Е. Голубинскій. Обращеніе всей Руси въ христіанство Владимиромъ. «Ж. М. Н. Пр.» ч. 190, СПб 1877, с. 144.
33. Присёлковъ М. Д. Очерки по церковно-политической исторіи Кіевской Руси X-XII в.в. СПб, 1913.
34. В. Николаев. Словянобългарският фактор в християнизация на Киевска Русия. София, 1949.
35. А. А. Шахматовъ. Одинъ изъ источниковъ лѣтописнаго сказанія о крещеніи Владимира. «Сборникъ статей по славяновѣденію, посвящ. М. С. Дринову». Харьковъ, 1908, с. 74.
36. И. У. Будовниц. К вопросу о крещении Руси. «Вопросы истории, религии и атеизма». Сборник 3. Москва, 1956, с. 493.
37 H. Koch. Byzanz, Ochrid nud Kiev (987-1037). «Kyrios». Bd. IV, 1938. S. 253-292.

падчас свае місійнае дзейнасьці ўсюды везілі з сабою мошчы сьв. Клімэнта I папы рымскага, якія знайшлі ў Хазарыі, і часткі мошчаў іншых сьвятых. Магчыма дзеля гэтага яны пераважна ўжывалі шасьціканечны крыж (з двумя перакладзінамі), які часта ўжываўся ў Бізантыі і ў Заходняй Эўропе, як рэліквіяр. Гэткі-ж крыж сёньняшняя Славакія мае ў сваім нацыянальным гэрбе, называючы яго кірыла-мяфодавым крыжам. І вось гэткі кірыла-мяфодавы крыж быў калісь вельмі пашыраны на ўсім абшары Беларусі. Падчас раскопкаў гарадзішча Швэдская гара каля Ваўкавыску ў 1948 г. знайдзена невялічкую пячатку нейкага Сімеона з шасьціканцовым кірыла-мяфодавым крыжам. Нажаль пячатка ня мае даты, а знойдзеныя разам з ёю рэчы паходзяць з XI—XIII



**Бізантыйская стаўратэка з XI ст. знайходзіцца ў Ленінградзім эрмітажы.**

вв.([38]). Гэткі-ж крыж бачымо на ўсіх так званых Барысавых камянёх і на Рагвалодавым камені з XII ст. ([39]). Гэткім-жа ёсьць агульнаведамы крыж сьв. Еўфрасіні Полацкае. Наагул гэта была найбольш распаўсюджаная на Беларусі форма крыжа, якая розьнілася ад расейскае васьміканцовае формы крыжа з косаю перакладзінаю.

Папулярнасьць сьвятых Кірыла і Мяфода на Беларусі была калісь даволі вялікая. Напрыклад у Тураўшчыне мяйсцовая традыцыя праз доўгія стагодзьдзі захавала пераказ аб пашырэньні на гэтых абшарах кірыла-мяфодавага хрысьціянства([40]). Магчыма дзеля гэтага сьв. Кірыла Тураўскі прыняў сабе манашае імя Кірыла.

Трэба яшчэ зазначыць, што разам з баўгарскім кірыла-мяфодаўскім духавенствам часам прыходзіла да нас баўгарская сьвецкая інтэлігэнцыя магчыма нават зусім недабравольна. Прычынаю гэтых вандровак былі зацятыя войны Баўгарыі з Бізантыяю. Напрыклад у 972 г. бізантыйскі імпэратар Іван Цімісхей зьнішчыў усходнебаўгарскае царства, скасаваў патрыярхат і хоць заставалася яшчэ незалежнаю заходняя Баўгарыя, дык шмат баўгарскае інтэлігэнцыі падалося на поўнач. І ў далейшым няраз здараліся падобныя выпадкі. Зразумела, што пры такіх нагодах баўгарскія бежанцы забіралі з сабою найбольшыя каштоўнасьці, да якіх у тыя часы належалі кнігі. Зразумела, што такія зьвязкі былі неафіцыяль-





**Пячатка Сімеона, знойдзеная каля Ваўкавыску.**

нымі([41]) і так-жа зразумела, што яны для грэкаў былі вельмі няпрыемныя. Таму нічога дзіўнага, што потым грэцкае духавенства старанна згладжавала памяць аб тым найстарэйшым і найважнейшым шляху «распаўсюджаньня хрысьціянства на Русі»([42]).

У сваёй супрацьбаўгарскай дзейнасьці грэкі выкарысталі асаблівую нагоду. У палове X ст. у Баўгарыі была зьявілася дуалістычна-гнастычная гэрэзія багамілаў. Вось-жа разам з усім тым добрым, што да нас ішло з Баўгарыі прыйшла сюды так-жа і багамільская гэрэзія. Сьледам за ёю зьявіліся «паученія», у якіх востра асуджалася

38. В. Р. Тарасенка. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г. «Материалы по археологии БССР». Том І. Минск, 1957, с. 271-272.
39. П. И. Батюшковъ. Бѣлорусія и Литва. С. Петербургъ, 1890, с. 15, 35.
40. Архим. Николай. Историко-статистическое описаніе Минской епархіи. СПб, 1864, с. 34. Нажаль мне не ўдалася знайсьці гэтае кнігі.
41. М. В. Левченко. Очерки по истории русско-византийских отonшений. Москва, 1956, с. 379.
42. В. В. Мордовин. Очерки истории СССР. Древнерусское государство. Москва, 1956, с. 140.



**Крыж сьв. Еўфрасіні Полацкае з 1161 г.**



**Барысаў камень з 1171 г.**

двуверства, а багамільства часам называлася «праклятымі баўгарамі». Пасьля такога натаўраваньня гэрэзіі нічога дзіўнага, што летапісцы і самі маглі наагул ўнікаць успамінаў аб баўгарах. Але зразумела, што ад гэтага нічуць не зьмяншаецца значэньне іхняе дзейнасьці.

---

## ІНШЫЯ ДЗЕЙНІКІ ХРЫСЬЦІЯНІЗАЦЫІ

З іншых дзейнікаў неабходна ўспомніць заходне-эўрапэйскія краіны і дзяржавы. Ведема, што сувязь рускіх княстваў з Захадам ад найдаўнейшых часоў была даволі ажыўленая. Вось зусім нядаўна паведамілі савецкія газэты, што ў вёсцы Дзегцяны Капыльскага раёну знойдзена скарб 246 старых манэтаў з X—XI ст. У скарбе пераважаюць чэскія манэты. Падобных скарбаў на абшары Беларусі знойдзена шмат. Зразумела, што купцы, якія іх прынесьлі, разносілі так-жа хоць некаторыя весткі аб хрыстовай навуцы.

Вельмі частымі былі сужэнскія зносіны рускіх князёў з Захадам([43]). Няма дзіву, што беларускія князі з гэтага гледзішча дзякуючы сваймy палажэньню былі «найбольш заходнімі».

Дзякуючы гэтым уплывам у старой так званай агульна-рускай літаратуры астаўся вельмі значны ўплыў заходняе літаратуры. З лацінскае мовы былі пераложаныя: лягэнда аб жыцьці папы сьв. Клімэнта I, жыцьцё сьвятога Юрыя, жыцьцё сьвятога Віта, мучаніцтва папы сьв. Сьцяпана, гаміліі сьв. Рыгора Вялікага, апокрыфічнае Эвангельле Нікадыма. Так-жа некаторыя лацінскія малітвы былі ператлумачаны на царкоўна-славянскую мову. Большая частка гэтых перакладаў прыйшла да нас з Чэхіі ў гатовым перакладзе, які там зрабілі бэнэдыктынскія манахі, пасьлядоўнікі сьвятых Кірыла і Мяфода. Тых манахаў выселілі з Чэхіі ў 1095 г.([44]).

Да заходніх уплываў так-жа адносіцца хрысьціянскі ўплыў варагаў, бо яны былі хрысьціянамі лацінскага абраду, нават калі асяляліся на Русі ці ў Бізантыі([45]). Некаторыя гісторыкі стараліся прыпісаць варагам дэцыдуючую ролю ў хрысьціянізацыі Русі. Найдалей у гэтым кірунку пайшоў Баумгартэн, прыпісваючы асаблівае значэньне прыязьні Уладзімера кіеўскага з скандынаўскім князем Оляфам Трыгвэзонам([46]). Падобныя пагляды

---

43. N. de Baumgarten. Génealogies et mariages occidentaux des Rurikids russes du X au XIII siècle. Roma, 1927.
44. Fr. Dvornik. Les benedictins et le christianisation de la Russie «L' Eglise et les Eglises». 1054-1954' Tome I, p. 324-329. Chevetogne, 1954.
45. Др. Ст. Томашівський, op. cit. ст. 69.
46. N. de Baumgarten. Saint Vladimir et la conversion dela Russie' Roma, 1932

выказваў вядомы рэлігійны дасьледнік Жіжі(47) і інш. Ад іхных намаганьняў мала што асталося, бо яны празьмерна разьдмухвалі значэньне дробных фактаў, зусім не ўзглядніваючы іншых фактаў. Аднак зусім адкідаць тыя факты, на якія гэтыя дасьледнікі зьвярнулі ўвагу, як гэта робяць сучасныя савецкія гісторыкі, ёсьць так-жа памылкова, бо факт астаецца фактам, што з скандынавіі такжа йшоў немалы ўплыў на Русь(48). Варта зацеміць, што толькі на Беларусі ў Гняздове каля Смаленску знойдзена 250 скандынаўскіх магілаў(49).

У ліку іншых заходніх краінну, з якімі старая Русь мела зносіны, былі: Нямеччына і Францыя(50). Каталіцкія місіянары, пераважна з Нямеччыны няраз прынагадна траплялі ў рускія княствы(51). У годах 961/962 прыязджаў у Кіеў біскуп Адальбэрт. Зьявіўся ён сюды не па сваёй ініцыятыве, але на просьбу кіеўскае княгіні Ольгі, якая высылала да нямецкага імпэратара Оттона I спэцыяльнае пасольства ў гэтай справе. Нажаль яе просьба была выканана з вялікім апазьненьнем, калі ўжо замест Ольгі княжыў у Кіяве яе нехрышчаны сын. У 977 г. прыязджалі ў Кіеў паслы ад папы Бэнэдыкта VII да князя Яраполка.

## БІЗАНТЫЯ І РУСЬ

Аднак з усіх дзейнікаў хрысьціянізацыі ўсходнеславянскіх народаў па некаторым часе на першае мейсце выйшла Бізантыя, адсунуўшы ў цень усе іншыя дзейнікі і нават стараючыся прыпісаць сабе ўсе плады іхняе дзейнасьці.

Зьвязкі ўсходніх славянаў з Бізантыяю былі даволі старыя. З гэтага гледзішча найбольшае значэньне меў водны шлях «з Вараг у Грэкі». Таму што на гэтым шляху быццам цэнтральнае мейсца займалі волакі, якія знайходзіліся на абшары Беларусі і на ім-жа знайходзіліся такія старыя гандлёвыя цэнтры, як Полацк і Смаленск, дзе грэцкія купцы мусілі абавязкова затрымлівацца, дык няма сумніву, што нашыя продкі спатыкаліся з прадстаўнікамі бізантыйскага хрысьціянства ад вельмі даўных часоў.

Для закраненае тут тэмы нас перадусім цікавяць адносіны з X ст. У гэтым часе Бізантыя была наймагутнейшым культурным цэнтрам у тагачасным культурным сьвеце. Яе культура праменявала на ўсю Эўропу(52). Бізантыйскае хрысьціянства так-жа не аставалася пасыўным, маючы немалое поле да дзейнасьці нават у межах самое-ж Бізантыйскае імпэрыі. Яно вытварыла сваеасаблівыя місійныя мэтады для народаў у межах свае імпэрыі і для народаў іншых дзяржаваў(53). Але для гэтых апошніх не заўсёды праяўлялася аднолькавая актыўнасьць. Большае ажыўленьне місійнага духа Бізантыі назіраецца ў IX ст.(54). Але ў тым часе Русь была для Бізантыі далёкаю і дзікаю краінаю, якая ня прыцягвала асаблівае ўвагі.

Уканцы X ст. унутраны уклад палітычнага жыцьця ўсходніх славянаў і суадносіны з суседнімі народамі ўлажыліся так, што прызнаньне хрысьціянства дзяржаўнаю рэлігіяю сталася вельмі актуальнаю і жыцьцёваю справаю. Гэта было тады, калі паасобныя княствы Украіны, Беларусі і Расеі знайшліся ў некаторай залежнасьці ад Кіеўскага князя Уладзімера. А ён з розных меркаваньняў як дзяржаўную веру прызнаў бізантыйскае хрысьціянства ў 988 г.

Ужо ўспаміналася перш, што і да 988 г. кіеўскія князі прымалі хрысьціянства: у 867 г. ахрысьціяліся Аскольд і Дір, у 955 г. ахрысьцілася княгіня Ольга — але яны не накідвалі хрысьціянства ані сваім падуладным, ані іншым князём. Уладзімер-жа адразу пасьля свайго хрышчэньня загадаў ахрысьціць кіеўлян, а наступна і жыхароў іншых гарадоў. У выпадку супраціўленьня хрышчэньне адбывалася сіламоц. Напрыклад у Ноўгарадзе хрышчэньне адбылося пасьля крывавага бою, у якім уладзімерава дружына на чале з Дабрыняю і Пуцятаю справіла наўгародцам сапраўдную крывавую лазьню(55). Гэткія паводзіны Уладзімера тлумачацца тым, што ён уводзіў новую хрысьціянску веру з палітычных меркаваньняў, дзеля цэмэнтаваньня апанаваных перад тым народаў. З гэтаю мэтаю перад тым ён пробаваў стварыць нейкую сваеасаблівую паганскую рэлігію, выбраўшы з кожнага падуладнага племені тое боства, якое было ў найбольшай пашане і пазьбі-

---

47. Jugie M. Les origines romaines de l'Eglise russe. «Echos d'Orient». XL, Paris 1937, p. 257-270
48. Arne I. La Suède et l'Orient. Upsala 1914.
49. Max Vasmer. Wikingerspuren in Russland. «Sitzungsberichte der Preusischen Akademie der Wissenschaften» XXI, 1931, St. 650.
50. Ediger Th. Ruslands alteste Bezihungen zu Deutschland, Frankreich und der romische Kurie. Halle, 1911.
51. Пархоменко В. О латинских проповедниках на Руси Киевской в X и XI в.в. «Чтения». Киев, 1923; Латинские миссіонары в Кіевской Руси в X-XI в.в. «Труды Истор. О-ва Нестора», III, СПб, 1879.
52. A. M. Ammann S. J. Untersuchungen zur Geschichte der kirchlichen Kultur und religiösen Lebens bei den Ostslawen. Würzburg, 1955. S. 14.
53. Fr. Dvornik. Les Slaves, Byzance et Rome au IX siècle. Paris, 1926, p. 63-106.
54. Louis Bréhier. Les Missions chrétiennes chez les Slaves aux IX siècle. «Le Monde Slave», Octobre, 1927. Paris, p. 40.
55. В. Н. Татищевъ. Исторія россійская съ самыхъ древнейшихъ временъ. Москва, 1768. Кн. I. ч. I. ст. 38-40.

раў гэтыя боствы ў агульную бажніцу — пантэон — у Кіяве(56). Але, відаць, хутка пераканаўся, што такое мерапрыемства было бясьсільным, каб асягнуць узложанае на яго заданьне і таму мусіў разглянуцца за мацнейшымі сродкамі.

Зусім эразумела, што Уладзімер як паганін і як палітычны дзеяч глядзеў на рэлігію з свайго палітычнага гледзішча. Чаму ён, выбіраючы хрысьціянства як новую рэлігію, выбраў хрысьціянства з Бізантыі, а ня з Рыму? На гэтае пытаньне ведамы расейскі царкоўны гісторык Галубінскі дае такі адказ: Хрысьціянская Царка ў тыя часы яшчэ была непадзеленая і грэкі былі для Русі шмат бліжэйшымі, з імі былі частыя зносіны. А найважнейшаю прычынаю мела быць тое, што навакол папы быў шматлікі круг валадароў і між імі Уладзімер быў-бы апошнім, а прыняўшы хрысьціянства ад грэкаў ён астаўся сам сабою(57). Ці гэтыя меркаваньні гісторыка супадаюць з меркаваньнем Уладзімера, можна адказаць і так, і не, але ад гэтага ў гісторыі нічога ня зьменіцца. Факт астаецца фактам, што з пачыну Уладзімера на абшары Украіны, Беларусі і Расеі запанавала як дзяржаўная рэлігія хрысьціянства бізантыйскага абраду.

Сучасныя савецкія гісторыкі прысьвячаюць нямала ўвагі зьвязком старое Русі з Бізантыяю(58) з выразнаю мэтаю прыдаць ёй выключную ролю ў дзеле хрысьціянізацыі старое Русі — гэта значыць аднаўляюць афіцыяльныя пагляды царскае гісторыяграфіі.

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ХРЫСЬЦІЯНСКІ КНЯЗЬ ІЗЯСЛАЎ

Прыняцьце хрысьціянства нашымі продкамі як дзяржаўнае рэлігіі супадае з крытычным перажываньнем долі князёў у найбольшых тагачасных цэнтрах: у Полацку і ў Тураве. Каля 980 г. іх заваяваў Уладзімер. Паводля летапісных вестак гэта сталася такім чынам.

Пленуючы вайну з сваім братам Яраполкам, які княжыў у Кіяве, Уладзімер як наўгародзкі князь пасватаўся да Рагнеды — дачкі полацкага князя Рагвалода. У тым-жа часе праслаў сватоў і кіеўскі князь Яраполк. Тады Рогвалад аставіў выбар нарачонага самой Рагнедзе. Яна выбрала Яраполка, а Уладзімеравым сватом дала зьняважлівы адказ: «Не хачу раззуць рабыніча, пайду за Яраполка». У гэтым адказе намякаецца на тое, што Уладзімер быў незаконным сынам кіеўскага князя Сьвятаполка і ягонае служанкі Малушы.

Уладзімер, разгневаны такім адказам і асабліва ягоны ваявода, брат Малушы, зрабілі раптоўны напад на Полацк, узялі ў палон Рагвалода з усёю сям'ею. І ў знак помсты, на вачох Рагнеды забілі Рогвалада, ягоную жонку і двох сыноў, а самую Рагнеду, агідна зьняважыўшы, Уладзімер узяў сабе за жонку. Гэта мела здарыцца ў 980 г.

Далей летапісы гавораць, што ў Рагнеды ад Уладзімера мела быць чатыры сыны і дзьве дочкі: Ізяслаў, Мсьціслаў, Яраслаў, Усевалад, а імён дачок не падаюць. Рагнеда жыла не ў самым Кіяве, але каля Кіева на рацэ Лебедзі. Відаць, што Рагнеда ніколі не забылася свае крыўды, а калі з часам Уладзімер набраў больш жонак і Рагнеду пачаў зусім легкаважыць, дык яна наважылася памсьціцца. Аднойчы ў 987 г. Уладзімер прыйшоў да Рагнеды і заснуў. Яна ўзяла нож і хацела яго зарэзаць, але выпадкова князь праснуўся і ўхапіў ея за руку. На запытаньне, што пабудзіла яе да такога кроку, адказала: «Засумавала я, затужыла, бо ты забіў майго бацьку, паланіў яго зямлю дзеля мяне, а цяпер ужо і ня любіш мяне за гэтым маладзенцам». Тады Уладзімер загадаў ёй убрацца ў царскую вопратку, як у дзень шлюбу і сесьці на сьвяточна ўбраны ложак, каб там забіць яе, а сам пайшоў па меч. Рагнеда зрабіла, як сказаў Уладзімер, але пры гэтым дала свайму сыну Ізяславу меч і сказала: «Як толькі ўвойдзе бацька, ты выступі насупраць і скажы: «Ойча, хіба ты думаеш адзін жыць?» Ізяслаў так і зрабіў. «А хто-ж ведаў, што ты тут?» — адказаў Ізяславу зьбянтэжаны Уладзімер і, кінуўшы свой меч, склікаў баяраў і расказаў ім аб здарэньні. «Не забівай яе ўжо хоць-бы дзеля дзіцяці, але завязі яе на бацькаўшчыну і аддай яе ёй з сынам», — параілі баяры. Уладзімер збудаваў горад і падарыў яго Рагнедзе з Ізяславам, назваўшы яго Ізяслаўлем. Гэтае апавяданьне падаюць толькі некаторыя летапісы і толькі пад 1128 годам(59) і заканчваюць яго сказам: «З тае пары ўнукі Рогвалада бяруць меч супраць Яраслававых унукаў»(60).

Далейшая гісторыя Рагнеды і Ізяслава паводля летапісаў выглядае так. У Ізяслаўлі яны, відаць, жылі нядоўга і перанесьліся ў Полацк. Там Ізяслаў

56. Погодин А. Опыт языческой реставраціи при Владимере. «Труды русских ученых заграницей». Том III, Брлин, 1923.

57. Е. Голубинскій. Исторія Русской Церкви. Томъ I. I-я пол. ст. 158. Москва, 1901.

58. Левченко М. В. Взаимоотношения Византии и Руси при Владимире. «Византийский Временник». Том VII, стр. 194-233. Москва, 1953. И асобная публікацыя: Очерки по истории русско-византийских отношений. Москва, 1956. А так-жа: Греков Д. Киевская Русь. Москва, 1953.

59. Запісана гэтая падзея аж пад 1128 г. у зьвязку з сьмерцю полацкага князя Барыса. «Полн. Собр. Руск. Летописей». Том I. Изд. 2-ое. Ленинград, 1926. Лаврентийская летопись. Ст. 299-300.

60. Усе адмены тэксту летапісаў што да гэтае падзеі падае Д. С. Леонардовъ Полоцкій князь Всеславъ и его время. Полоцко-Витебская старина». Вып. III, ст. 90. Витебскъ, 1916.

ажаніўся з якоюсь княжнаю і меў двох сыноў Усяслава і Брачыслава. Аб ягонай дзейнасьці летапісы маўчаць. Памёр ён у 1001 г., а год перад тым памерла Рагнеда. Цела Ізяслава было перанесена ў царкву Багародзіцы ў 1007 г.

Асоба першага беларускага хрысьціянскага князя бязумоўна заслугоўвае на тое, каб яго пазнаць лепш, але няма іншых вестак, як дробныя і скупыя ўрыўкі з летапісаў, якія нажаль ня ўсе годзяцца з праўдаю, не астаецца нічога іншага, як крытычна разгледзець іх. Ужо самая храналёгія падзеяў, зьвязаных з Ізяславам і Рагнедаю, аніяк не дазваляе прызнаць Ізяслава сынам Уладзімера. Бо паводля летапісу Ізяслаў мог радзіцца толькі ў 981 г., а ў 987 г. ён ужо быў адасланы з маткаю ў Ізяслаўль і хутка стаўся Полацкім князем — гэта значыць самастойна кіраваў княствам. Гісторыя яшчэ ня ведае такіх выпадкаў, каб сямігадовае дзіця кіравала дзяржаваю. Памёр Ізяслаў аж 14 гадоў перад Уладзімерам і ў веку ўсяго якіх 20 гадоў, але пакінуў двох дарослых сыноў. Старэйшы з іх Усяслаў памёр у 1003 г., а малодшы Брачыслаў Ізяславіч зноў такі як маладзенец стаецца самастойным Полацкія князем. Так-жа і адносна Рагнеды летапісныя даты вельмі сумніўныя, бо памерла яна ў 1000 г. напэўна немаладою, а паводля летапісу выглядала-б наадварот. Дзеля гэтага трэба думаць, што калі да яе сваталіся Яраслаў і Уладзімер, яна была немаладою дзяўчынаю, бо Рогвалад даручыў ёй самой зрабіць выбар. Таму што сваты прыйшлі адначасна, можна дагадвацца, што ў тым часе нешта мусіла стацца ў яе жыцьці, што такое сватаньне зрабіла магчымым.

Дзіўна так-жа, калі летапісы гавораць, што ў яе было больш дзядзей, а яна сама ў адказе Уладзімеру пасьля няўдалага замаху на жыцьцё, гаворыць толькі аб адным «маладзенцу» і Уладзімер яе адсылае толькі з Ізяславам, відаць іншых сыноў і дачок пакінуў пры сабе, значыць між імі і Ізяславам была нейка розьніца.

Гэтыя супярэчнасьці гісторыкі заўважылі даўно. Напрыклад у «Біяграфічным Слоўніку» кажацца, што апавяданьне Лаўрэнційскага летапісу аб Рагнедзе і Ізяславе супярэчнае само ў сабе і выклікае пытаньні, якія немагчыма ўзгодніць з сабою. «А заканчэньне апавяданьня, што ад таго часу Рагвалодавы ўнукі бяруць меч супраць Яраслававых унукаў, гучыць вельмі дзіўна, бо і Ізяслаў і Яраслаў былі роднымі сынамі Рагнеды і Рогвалад быў іх супольным дзедам»([61]). Дзеля гэтае-ж прычыны вядомы украінскі гісторык Грушэўскі гэтае апавяданьне летапісу называе «паэтычнаю апрацоўкаю»([62]).

Да ўсіх гэтых сумніваў неабходна дадаць, што самыя-ж летапісы выразна падчырківаюць, што заўзятае змаганьне полацкіх князёў з кіеўскімі мела нейкія глыбокія прычыны. На гэты факт ужо даўно гісторыкі зьвярнулі ўвагу, але ў абставінах расейскае царскае цэнзуры не маглі ясна выказаць свайго пагляду, абмяжоўваючыся толькі намёкамі. Напрыклад Данілевіч казаў: «Зразумела, што прычыны, якія выклікалі гэтае змаганьне, крыюцца ня ў тых родавых пераказах, аб якіх кажа летапіс — змаганьне выцякала зусім з другіх крыніцаў. Нажаль у летапісе няма ніякіх паказаньняў, чаму полацкія князі сталі ў такое выняткавае палажэньне адносна да іншых патомкаў Уладзімера, якое мы бачым на ўсім працягу гісторыі старое Русі. У тым часе, як кіеўскі пасад займаюць прадстаўнікі розных лініяў патомства Уладзімера, дык Ізяславічы ўсё абмяжоўваюцца Полацкаю зямлёю, быццам яны паходзілі з іншага роду, чым другія рускія князі»([63]). Такі-ж пагляд выказаў Прэсьнякоў: «Для кіеўскіх князёў, унукаў Яраслава, патомкі Ізяслава — чужыя Рагвалодавы ўнукі»([64]).

Апіраючыся на Пэсьнякова і іншых, М. Таубэ прызнае як пэўны факт, што Рагнеда перад сужэнствам з Уладзімерам «была замужам за якімсьці швэдам і мела з ім сына Ізяслава. Гэтым вясьняецца факт, што ў 987 г. Ізяслаў быў вялікім юнаком і змог абараніць маці супраць паднятага на яе мяча, яго прыпушчальнага бацькі»([65]).

Вось-жа з вялікаю праўдападобнасьцю можна прыняць, што Ізяслаў ня быў сынам Уладзімера, а летапісы яго залічаюць да Уладзімеравых сыноў толькі як пасынка. Зрэштаю на такой самай аснове яны залічаюць да Уладзімеравых сыноў і Сьвятаполка сына Яраполка і грэкіні, бо пасьля сьмерці Яраполка Уладзімер узяў сабе тую грэкіню за жонку([66]).

Зразумела, што пакуль ня знойдуцца адпаведныя гістарычныя дакуманты, пытаньне полацкага князёўскага роду Ізяславічаў вырашыць з усёю пэўнасьцю немагчыма. Але паколькі да гэтага часу ўсе бяз вынятку гісторыкі аднагодна наракаюць на страшэнную нястачу дакумантаў адносна старое гісторыі ўсіх беларускіх княстваў, дык тымчасам не астаецца нічога іншага, як здаволіцца вышэй выказанаю дагадкаю.

---

61. Русскій біографическій словарь. СПб, 1905, ст. 404.
62. Михайло Грушевський. Історія України-Руси. Вид. 2. Том І. ст. 429. Львов, 1904.
63. В. Е. Данилевичъ. Очеркъ исторіи Полоцкой земли до конца XIV стол. с. 61. Кіевъ, 1896.
64. А. Е. Пресняков. Лекции по русской истории. Том І. Киевская Русь. с. 94. Москва, 1938.
65. Dr. Michael Fr. de Taube. Russische und litauische Fürsten an der Düna zur Zeit der deutschen Eroberung Livlands. «Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slawen». Band XI. Heft 3/4, S. 395. J. 1935. Breslau.
66. Перад хрышчэньнем Уладзімер меў шмат жонак і меў ад іх шмат дзяцей. Усіх іх пералічае: N. de Baumgarten. Généologies et mariages occidentaux des Rurikides Russes du X au XIII siècle. Roma, 1927, p. 7.

Пытаньне родавае лініі Ізяславічаў тым важнае, што яно дае нейкі ключ да разуменьня своеасаблівых адносінаў між палачанамі і іхнымі князямі, якія хораша выказаў Янка Купала:

Слухалі князя, а князь што ня ўрадзіў,
Слухаў, што веча казаў яму звон.

Не дарма ўнук Ізяслава Усяслаў празваны чарадзеем так моцна любіў сваё княства, што нават пакліканы кіеўлянамі на князя, пакінуў кіеўскі пасад і ўцёк у Полацк, бо і ў далёкім залатаверхім Кіеве чуў, «як у Полацкая Сафіі зазвоняць званы на завутраню». Дзякуючы гэткім адносінам між князем і народам увядзеньне хрысьціянства на Беларусі адбывалася на свой лад.

## ПРЫЗНАНЬНЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА ДЗЯРЖАЎНАЮ РЭЛІГІЯЮ

Хрысьціянізацыя Беларусі і прызнаньне хрысьціянства дзярджаўнаю рэлігію адбывалася ня так як у Кіеўшчыне. Праўда летапісы аб гэтым гавораць наагул вельмі мала. Толькі ў Цьверскім летапісу адносна Рагнеды кажацца: «Уладзімер паслаў к сваёй жонцы Рагнедзе паслоў, кажучы: «Я ўжо ад цяпер ахрышчаны і прыняў веру і закон хрысьціянскі; мне можна мець толькі адну жонку, якую я ўзяў у хрысьціянстве, а ты выбяры сабе каго хочаш з маіх вяльможаў і зьвянчайся з ім». Яна-ж адказала яму: «Ці ты адзін хочаш атрымаць нябеснае і зямное валадарства, а мне ня хочаш даць гэтага дачаснага і будучага? Ты адступіўся ад ідальскага зману да Божага ўсынаўленьня, а я-ж быўшы князёўнаю, не хачу быць служанкаю ні зямному валадару, ні князю, але хачу зьвянчацца Хрысту, каб успрыняць ангельскі вобраз»... Гэта сказаўшы, Рагнеда пастрыглася ў манашы вобраз і назвалася Анастасіяю»(67). Бачым, што пабожны летапісец-манах прыкрасіў мову гордае палачанкі Рагнеды так, быццам яна ўжо даўно ведала і хрысьціянства і манашае жыцьцё.

З гэтае зацемкі летапісца выглядае, што ў Полаччыне да гэтага часу ўжо на толькі было пашырана хрысьціянства, што існавалі нават манастыры, прынамся той, у які мела ўступіць Рагнеда.

Хоць летапіс нічога ня кажа, але прымаецца як зразумелы факт, што адначасна з Рагнедаю прыняў хрысьціянства Ізяслаў. Гэта мусіла стацца хутка пасля хрышчэньня Уладзімера, магчыма ў 989 г., але не пазьней 990 г. Мяйсцовая традыцыя ў Ізяслаўлі лічыць, што гэта мела быць у тым-жа Ізяслаўлі, дзе з іменем Рагнеды зьвязваюць заснаваньне парахвільнае Прэабражэнскае царквы і манастыра сьв. Анастасіі(68). Хрышчэньне Ізяслава і ёсьць датаю прызнаньня хрысьціянства дзяржаўнаю рэлігіяю на Беларусі.

Ані летапісы, ані мяйсцовыя традыцыі не ўспамінаюць аб насільным хрышчэньні ў беларускіх гарадох, а з тае характарыстыкі Ізяслава, якую падае Ніканаўскі летапіс можна з пэўнасьцю сказаць, што прымусовага і гвалтоўнага хрышчэньня на абшары Беларусі ня было нідзе. Аб Ізяславе кажацца, што ён быў пабожным і лагодным валадаром: «быў гэты князь ціхі, лагодны, пакорлівы, міласэрны і меў у вялікай пашане сьвятароў і манахаў, любіў чытаць Сьвятое Пісаньне»(69).

Наагул княжаньне Ізяслава прайходзіла ў супакоі. Праўда адзін з гісторыкаў гэта тлумачыць тым, што ён ня меў магчымасці выявіць сваіх сапраўдных намераў адносна Кіева, бо памёр за чатырнаццаць гадоў да Уладзімера(70).

Падобна як ува ўсёй Эўропе так і на Беларусі хрысьціянства спачатку пашыралася ў гарадох і толькі потым пранікала ў вёскі. Пры тым кожны большы горад, меў сваю гісторыю прыняцьця хрысьціянства. Нажаль не захавалася ніякіх пісаных дакумантаў адносна тых часоў. Затое мяйсцовыя традыцыі пераказваюць вельмі цікавыя факты. Напрыклад у Тураве пачатак хрысьціянства зьвязваецца з іменем лягэндарнага князя Тура, які меў ахрысьціцца ў калодзезі, што потым доўгія стагодзьдзі называўся Тур-калодзезь(71). Іншы пераказ гаворыць, што ў Тураве за часоў таго-ж Тура меў прапаведваць мучанік Дыянізі, якога потым забілі якіясь пагане Міхнаўцы(72). А Давыд-Гарадок і Петрыкаў нават свае назовы выводзяць ад князёў Давыда і Пятра, саюзьнікаў Тура, якія мелі ахрысьціцца разам з ім. Так-жа Ігумень выводзіць свой пачатак ад ігуменьні, якая заснавала жаночы манастыр на мейсцы калішняе паганскае бажніцы(73).

У барацьбе за сваю незалежнасьць Тур загінуў і ў Тураве на некаторы час зьявіліся пасаднікі кіеўскага князя Уладзімера, але хутка на іх мейсца Уладзімер праслаў сюды князя Сьвятаполка, які падобна як Ізяслаў ня быў сынам Уладзімера, хоць і жыў разам з дзецьмі Уладзімера

67. Полн. Собр. Рус. Лѣт. Тверская лѣтопись. Том XV. СПб, 1863.
68. П. Н. Батюшковъ. Бѣлоруссія и Литва. СПб, 1890. с. 18.
69. Полн. Собр. Рус. Лѣт. Том IX. Никоновская лѣтопись. с. 68. СПб, 1862.
70. Д. С. Леонардовъ. Полоцкій князь Всеславъ и его врмя. с. 100. «Полоцко-Витебская старина». Вып. III. Витебскъ, 1916.
71. М. Садкович, Е. Львов. Георгий Скорина. Минск, 1957. с. 186.
72. Архім. Анатолій. Воспоминанія о древнемъ православіи Западной Руси. Древній городъ Туровъ. «Чтенія въ Моск. О-ве любит. дух. просв.». Москва, 1865. Цытяю паводле: Малышевскій И. Творенія отца нашего Кірилла еп. Туровскаго. Кіевъ, 1880.
73. П. Н. Батюшковъ. op. cit. c. 18.

ў Кіяве. Таму што бацька Сьвятаполка загінуў у вайне з Уладзімерам, дык ён захаваў няпрыязьнь да Уладзімера і ягоных плянаў. Жонкаю Сьвятаполка была дочка польскага караля Балеслава (992—1025). Яна была хрысьціянкаю лацінскага абраду і ў сваёй сьвіце мела лацінскага біскупа немца Райнбэрна. I вось насупраць плянаў Уладзімера Райнбэрн у паразумленьні з Сьвятаполкам пачаў хрысьціць тураўцаў у лацінскім абрадзе(74). Калі Уладзімер дачуўся аб гэтым, напаў на Тураў, увязьніў Сьвятаполка, ягоную жонку і біскупа. Біскуп у турме хутка памёр, а Сьвятаполка і ягоную жонку вызваліў польскі кароль Балеслаў(75).

Паўтара стагодзьдзя пазьней падобны выпадак здарыўся ў Полацку, але цікава што аб ім, падобна як і аб вышэй апісаным здарэньні рускія летапісы не ўспамінаюць і словам. Аб гэтым апошнім здарэньні былі дакладныя весткі ў Полацкім летапісе. з якога яшчэ карыстаўся Татішчэв, перш чым той летапіс хтосьці зьнішчыў. Паколькі гэта адзіная вестка з Полацкага летапісу, якая прыпадкам захавалася, дык перакажам яе поўнасьцю паводля таго, як яе падае Сапуноў.

«Полацкі князь Барыс Давыдавіч († 1195) ажаніўся другі раз з Сьвятохнаю дачкою Памэранскага князя Казімера. Сьвятохна хоць і прыняла грэчаскае веравызнаньне, але тайна трымалася каталіцызму і нават між яе дваран памаран быў каталіцкі сьвятар. У Барыса ад Сьвятохны радзіўся сын, каторага бацька назваў Уладзімерам, а маці — Войцехам. Але ў Барыса было двох сыноў ад першае жонкі: Васілько і Вячко. Сьвятохна іх вельмі нялюбіла і з яе подступу Барыс аддаліў іх ад сябе і даў ім у надзел Дзьвінскую вобласьць. Пасьля гэтага Сьвятохна пачала старацца, каб яе сыну перайшла ўся бацькава спадчына. Але ў Васілька і Вячка было ў Полацку шмат прыхільнікаў між баяраў. Сьвятохна пачала выганяць прыхільнікаў княжычаў і насаджваць ува ўсе чыны і ўстановы памаранцаў. Барыс глядзеў на ўсё вачыма Сьвятохны. Уканцы палачане, бачачы як прышлыя людзі нішчаць горад, грабяць народ, у дзень Спаса пад гукі вечавога звону зрабілі паўстаньне, Сьвятохну пасадзілі пад моцную старожу, усіх памаранцаў пабілі, а іншых выгналі, князю-ж не зрабілі ніякае шкоды. Неадкладна паслалі па Васілька знатных людзей»(76). З апавяданьня відаць, што каталіцкі сьвятар у сьвіце Сьвятохны абмяжоўваў сваю дзейнасьць толькі да памаран. Гэта значыць, што ў тым часе ў Полацку ўжо замацавалася хрысьціянства бізантыйскага абраду.

Трэці важны палітычны і культурны беларускі цэнтр — Смаленск — прыняў хрысьціянства толькі ў 1013 г.(77), але яно знайшло там вельмі спрыяючыя ўмовы і хутка духовае жыцьцё ў Смаленску квітнела больш чым у іншыэ цэнтрах.

## ЕПАРХІІ

Ня толькі пачаткі хрысьціянства на Беларусі маюць шмат нявыясьненых мамэнтаў, але бадай яшчэ больш загадкаў маюць пачаткі беларускіх епархіяў. Дзеля гэтага і тут нельга абыйсьціся без дагадкаў.

Зразумела, што першыя сьвятары, якія зьявіліся на Беларусі, мусілі залежаць ад нейкага япіскапа. А таму што праўдападобна першыя сьвятары прыйшлі да нас з Баўгарыі, дык і залежалі яны хоць да некаторае ступені ад баўгарскіх япіскапаў, а потым ад патрыярха ў Ахрыдзе. Ужо перш успаміналася аб тым, што адзін чэскі пераказ гаворыць, што быццам сьв. Мяфод меў паслаць япіскапа на Русь (78), тады-б ужо быў тут япіскап нават перад прыходам баўгарскіх сьвятароў. Аднак незалежна ад таго, праўдзівая гэтая вестка, ці не, да часу афіцыяльнага прыняцьця хрысьціянства як дзяржаўнае рэлігіі, няма вестак аб тым, каб дзе на Русі былі епархіі.

Першая епархія была ўтворана толькі пасьля хросту кіеўскага князя Уладзімера і іншых князёў. Але колькі было епархіў за часоў Уладзімера На гэтае пытаньне летапісы даюць няясны адказ. Кажацца, што япіскапы былі высланы з Кіева ў: Ноўгарад, Чарнігаў, Ростаў, Уладзімер і «ў іншыя многія гарады паслаў япіскапаў»(79). Аўтарытэтны расейскі царкоўны гісторык Галубінскі лічыць, што тымі «іншымі гарадамі» маглі быць толькі Полацк і Тураў — вельмі праўдападобна, што тут епархіі былі заснованы ў 992 г.(80). З гэтаю думкаю годзіцца дасьледнік старое беларускае гісторыі Сапуноў(81), а іншы дасьледнік мінулага Полаччыны, Беляеў адносіць дату заснаваньня Полацкае епархіі да 988 г.(82). Затое Несецкі

74. Thitmarus. Chronici libri... «Monumenta Germanie historica scriptores». T. II, p. 859.
75. Bernard Leib. Rome Kiev et Byzance à la fin du IX siècle. p. 155. Paris, 1924.
76. В. Н. Татищевъ. op. cit. III. с. 403-409. Цытую паводля А. П. Сапунова. Историческій очеркъ Витебской Бѣлоруссіи. с. 14. Витебскъ, 1911.
77. И. П. Виноградовъ. Историческій очеркъ города Вязьмы съ древнейшихъ временъ до XVII в. Москва 1890; М. Н. Тихомиров. Древнерусские города. Изд. 2. с. 355. Москва, 1956.
78. Глядзі ўвагу 22.
79. Выражэньне «многія гарада» магчыма летапісец дадаў для ўпрыгожаньня дзейнасьці Уладзімера.
80. Е. Голубинскій. Исторія Русской Церкви. Том. I. I-я пол. с. 334-335. Москва, 1901.
81. А. П. Сапуновъ. Историческій очеркъ Витебской Бѣлоруссіи. «Полоцко-Витебская старина». Кн. I. Витебскъ, 1911. с. 17, а так-жа ў «Витебская старина». Том V. Витебскъ, 1888.
82. Бѣлявъ Ив. Разсказы изъ русской исторіи. Кн. 4. Исторія Полоцка или Сѣверо-Западной Руси отъ древнейшихъ временъ до Люблинской уніи. с. 194. Москва, 1872.

цьвердзіць, што гэтая епархія заснавана ў часе пабудовы жаночага манастыра на верхнім замку — у 1000 г. Гэтую-ж дату з некаторымі засьцярогамі прымае Стэбэльскі(83). У жыцьцяпісе сьв. Леонція япіскопа ростаўскага гаворыцца, што Уладзімер Кіеўскі паслаў япіскапа між іншым такжа і ў Полацк.

Пакуль будуць знойдзеныя якія больш пераконваючыя дакуманты, дата заснаваньня Полацкае епархіі астаецца няпэўнаю, аднак няма сумніву, што Полацк ёсьць найстарэйшым япіскапскім пасадам на Беларусі.

Летапісы ўспамінаюць аб полацкім япіскапе першы раз толькі ў 1105 г., калі кіеўскі мітрапаліт Нікіфар пасьвяціў у Кіеве манаха Кіева-Пячэрскага манастыра Міну на полацкага япіскапа. Але як падае Татішчэў сам-жа мітр. Нікіфар быў перад тым япіскапам полацкім(84). і пастаўлены быў мітрапалітам у 1096 г. Нажаль Татішчэў ня кажа адкуль узяў гэтую вестку, дзеля гэтага гісторык Полаччыны Данілевіч, лічыць, што гэта выдумка самога Татішчэва(85).

У жыцьцяпісе сьв. Еўфрасіні Полацкае наступнік яп. Міны яп. Ільля казаў да сьвятое, што ў Сяльцы каля Полацку «пахаваныя яго папярэднікі» — значыць іх было больш, а не адзін толькі Міна.

Мала менш старая як Полацкая ёсьць Тураўская епархія. Як успаміналася перш, Галубінскі лічыць, што яны абедзьве заснаваны адначасна ў 992 г. Але ёсьць даволі праўдападобныя весткі, што яе заснаваў Уладзімер у 1005 г. У рукапісным патэрыку Кіева-Пячэрскага манастыра тамтэйшы архімандрыт Іосіф Трызна (1647-1656) пад зацемкаю «Туровской епископии завѣтъ блаженнаго Владимира» між іншым піша (падаю ў перакладзе): «Трэцюю япіскопію я паставіў у Тураве ў годзе 6513 (1005) і прыдаў к ёй гарады з погастамі ў послух і асьвячэньне і ў багаслаўленьне дзяржаць сабе Тураўскай япіскопіі: Пінск, Наваградак, Горадзень, Берасьце, Ваўкавыск, Зьдзітаў, Дубровіца, Высокае, Случэск, Копыль, Лахва, Неблясьцепень, Сьмядынь — і паставіў першага япіскапа Томаша (Ѳому), і прыдаў сёлы, вінаграды, бортныя землі. вобласьці з усімі прыдаткамі... сьвятому Спасу і сьвятой Бгародзіцы»(86). Таму што гэтая вестка знойдзена ў рукапісе з XVII ст. дык некаторыя гісторыкі лічаць яе «маланадзейнаю», аднак няма ніякіх падставаў яе адкідаць(87). Затое ёсьць падставы прыпушчаць, што пасьля сьмерці яп. Тамаша даўжэйшы час япіскапскі пасад быў неабсаджаны, бо ў 1010 г. калі пінскі князь Сьвятаполк ажаніўся з дачкою польскага караля і разам з яе сьвітаю прыехаў лацінскі біскуп Райнбэрн, дык не знайшоў у Турове ніякага япіскапа, а мяйсцовае духавенства не рабіла ніякіх перашкодаў, калі пачаў пашыраць хрысьціянства ў лацінскім абрадзе.

Трэці з чаргі япіскапскі пасад заснаваўся ў Смаленску ў 1137 г. Праўда і адносна Смаленску былі дагадкі, што там япіскапскі пасад мог быць заснаваны значна раней — прынамся ў 1101 г., калі пачалі будаваць сабор, а ў 1137 г. мела быць толькі аднаўленьне япіскапскага пасаду, аднак супраць гэтае дагадкі сьведчыць тэкст устаноўчае граматы, якая на шчасьце захавалася. У грамаце смаленскі князь Расьціслаў Мсьціславіч выразна кажа: «Яз грэшны сын Мьстиславль, надеялся на Матерь Божью, на святую Богородицу, уставляю сию епископию»(88). Паколькі гэты дакумант лічыцца бяссуміўна аўтэнтычным, дык дата заснаваньня Смаленскае епархіі — год 1137 г. ёсьць пэўнаю. Першым смаленскім япіскапам быў грэк Мануіл (1137—1169).

Непадзельна з датамі заснаваньня епархіяў у Полацку і Тураве стаіць пытаньне першых япіскапаў: хто яны былі. У Смаленску першым япіскапам быў грэк, у Тураве яп. Тамаш, паколькі можна дагадвацца з імені, ня быў грэкам, але хто і якія япіскапы былі ў Полацку да 1105 г. нічога ня ведама.

Наагул у летапісах адносна япіскапаў заўважваюцца дзіўныя адносіны: найбольш вестак падаецца аб япіскапах грэках і вельмі мала аб япіскапах мяйсцовага паходжаньня, ды і то толькі аб тых, што нечым асаблівым вызначаліся. Дзеля гэтага нават такі паважны гісторык як Галубінскі выказаў памылковую дагадку, што «самыя першыя япіскапы... усе або амаль усе былі грэкі»(89). У сапраўднасьці гэтае цьверджаньне можа быць правільным толькі адносна тых япіскапаў, аб якіх успамінаюць летапісы.

Але з таго настаўленьня летапісаў да япіскапаў зусім лягічна можам дагадвацца, што сапраўды першыя япіскапы на Русі, аб якіх летапісы маўчаць, напэўна былі нягрэкі. А з таго, што перш гаварылася аб пачатках хрысьціянства між усходніх славянаў, можна дагадвацца, што пер-

83. Stebelski Ignat. Dwa wielkie swiatla na horyzoncie polockim... czyli zywoty sw. Panien i Matek Eufrozyny i Parascewii. Tom I. Wilno, 1787
84. Пераказвае яе А. П. Сапуновъ «Витебская Старина». Кн. V. Матеріалы для исторіи Полоцкой епархіи». Витебскъ, 1888. с. VIII.
85. В. Е. Данилевичъ. op. cit. с. 233.
86. И. И. Малышевскій. Творенія с-таго отца нашего Кірилла еп. Туровскаго. с. XLIII, Кіевъ, 1880.
87. Аб. пачатках Тураўскае епархіі наагул аб пачатках хрысьціянства ў Тураўшчыне падае шмат цікавых вестак архім. Николай. Историческія сведенія о началѣ и судьбѣ православной Церкви въ нынѣшней Минской епархіи. СПб. 1864. Нажаль мне не ўдалося знайсьці гэтага твору.

чаць, што пасьля сьмерці яп. Тамаша даўжэйшы

88. Памятники русского права. Вып. 2. с. 39-42. Москва, 1953.
89. Е. Голубинскій. op. cit. с. 344.

шыя япіскапы на гэтых абшарах паходзілі з Баўгарыі.

Асобна ад пытаньня пачатку епархіяў стаіць пытаньне утварэньня мітраполіі для «ўсяе Русі» і пытаньне першых мітрапалітаў, ня толькі таму, што яна ахоплівала даўжэйшы час усю Беларусь, усю Украіну і ўсю Расею, але і таму што гэтае пытаньне ёсьць адначасна пытаньнем першапачаткавага кірунку рэлігійнага жыцьця ў мітраполіі.

Важнасьць пытаньня прыцягвала да сябе ўвагу шматлікіх гісторыкаў, але нажаль да гэтага часу хоць шмаг уложана працы ў досьледы гэтае справы, але яшчэ шмат чаго недаказана.

Найбольш лягічна шукаць паўстаньня мітраполіі ў рэлігійным кіраўніцтве тае краіны, адкуль ішла хваля хрысьціянізацыі — гэта значыць у Баўгарыі. І такога пагляду трымаўся ўспамінаны няраз Прысёлкаў(90). Ягоную думку лічыць вельмі праўдападобнаю украінскі царкоўны гісторык Тамашіўскі(91), а баўгарскі гісторык Нікалаеў, апіраючыся на Іоахімаўскі летапіс, даказаў што першы Кіеўскі мітрапаліт быў Міхаіл (988—992) і што ёа быў родам баўгарын(92). Цяпер нават некаторыя савецкія гісторыкі схіляюцца да гэтага пагляду(93). Такі пагляд, хоць і вельмі няпэўны, мае сваё апраўданьне ў пазьнейшых падзеях. У гадох 1018—1025 кіеўскі пасад займаў «архіяпіскап» Іван і ён праўдападобна быў прысланы сюды баўгарскім патрыярхам з Ахрыды(94). Калі-б сапраўды было так, дык тады зразумела, што спачатку Кіеўская мітраполія ня была прызнаная Бізантыйскім патрыярхам і таму яе не было ў сьпіску епархіяў Бізантыйскага патрыярха.

Калі-ж архіяпіскап Іван памёр, ужо патрыярхату ў Ахрыдзе ня было, яго зьнішчыў бізантыйскі імпэратар Васіль II Баўгарабойнік. Для кіеўскае мітраполіі палажэньне было крытычным, трэба было шукаць нейкага выхаду. Паводля некаторых вестак кіеўскі князь Яраслаў меў зьвярнуцца да папы Бэнэдыкта VIII і ў Кіеў быў прысланы мітрапаліт Аляксей Баўгарын(95), і толькі пасьля яго кіеўскі князь зьвярнуўся да Бізантыйскага патрыярха і ў 1039 г. прыехаў у Кіеў першы мітрапаліт грэк.

У расейскай царкоўнай гісторыі да апошніх часоў афіцыяльна трымаюцца пагляду, што мітраполія ў Кіяве ўтворана Бізантыйскім патрыярхам яшчэ за часоў Уладзімера і першым мітрапалітам меў быць грэк Міхаіл. Але іншыя трымаюцца пагляду, што той першы мітрапаліт грэк называўся Леонцій. У летапісах першы раз гаворыцца аб кіеўскім мітрапаліце толькі ў 1039 г., калі быў прысланы з Канстантынопаля грэк Тэопэмпт; гэта значыць 24 гады пасьля сьмерці Уладзімера, калі ў Кіяве княжыў яго сын Яраслаў. І ад таго часу ўжо Кіеўская мітраполія была зазначаная ў сьпісках ерархаў Бізантыйскага патрыярхату.

Але вось зусім нядаўна савецкі бізантыналёг Леўчэнко(96) зрабіў спробу даказаць, што Кіеўская мітраполія магла быць заснована ў 988 г. Як падставу для свайго прыпушчэньня ён бярэ адзін сьпіс епархіяў з часоў імпэратара Аляксея Комнена (1081—1118), аднак ягоны доказ пабудованы на вельмі хісткіх меркаваньнях. І таму прыходзіцца згадзіцца з фактам, што «на аснове ведамых нам крыніцаў за часоў Уладзімера няма падставы гаварыць аб упарадкаваньні Кіраўніцтва Царквы на Русі»(97).

Заслуга ўпарадкаваньня царкоўнага кіраўніцтва належыць наступніку Уладзімера на кіеўскім вялікакняжым паседзе, яго сыну Яраславу. У выніку ягоных стараньняў, як ужо гаварылася перш, былі зьявіліся з Баўгарыі архіяпіскапы Іван і Аляксей, але нажаль былі недаўгавечнымі, толькі тады князь зьвярнуўся ў Канстантынопаль і ў 1039 г. зьявіўся ў Кіяве мітр. Тэопэмпт — грэк. І ад таго часу пачаўся новы кірунак ў рэлігійным жыцьці Кіеўскае мітраполіі.

Сьледам за мітрапалітам зьявілася шмат грэкаў на япіскапскіх пасадах. Ад тады распачалася тэндэнцыя ачышчаць летапісы ад усяго таго, што грэкам непадабалася, адначасна паволі распачынаецца прышчэпліваньне варожасьці да ўсяго таго, да чаго варожа адносіліся грэкі.

## ЦАРКОЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА

### МІТРАПАЛІТЫ

Мітрапаліта для «ўсяе Русі» назначаў Бізантыйскі імпэратар, а Бізантыйскі патрыярх яго толькі высьвячваў. Пры тым ані адзін, ані другі зусім ня пыталіся згоды ані кіеўскага, ані тымбольш іншых рускіх князёў. А мітрапаліт у сваю чаргу стараўся, ня пытаючыся волі мяйсцовых князёў, назначаць і высьвячваць япіскапаў у падуладныя яму епархіі. Гэткім чынам пасьля 1039 г.

---

90. М. Приселковъ. op. cit. c. 23
91. Др. Ст. Томашівский. op. cit. c. 82. Гэты пагляд прыняў так-жа Ад. Станкевіч. Хрысьціянства і Беларусі народ. Вільня, 1939.
92. В. Николаев. op. cit.
93. В. В. Мавродин. Очерки по истории СССР. Древнерусское государство. с. 141. Москва, 1956.
94. H. Koch. Byzanz, Ochrid und Kiew. «Kyrios». Bd. IV. S. 264, 1938.
95. Chr. G. Friese. De episcopatu kioviensi... eiusque praesulibus brevis commendatio. (Warszawa, 1763, p. 27-28. Цытую паводля іншых гісторыкаў.
96. Левченко М. В. Взаимоотношения Византии и Руси пры Владимире». «Византийский временник». Т. VII. с. 218. Москва, 1953. Тое-ж паўтарае ў кнізе: Очерки по истории русско-византийских отношений. Москва, 1956.
97. Albert Amman S. J. Die Anfange der Hierarchie in Kiever Rus'-Reich. «Ostkirchliche Studien». Bd. I. S. 64. Würzburg, 1952.

зьявіліся на Беларусі япіскапы грэкі. Праўда з часам такая незалежнасьць мітрапаліта ўсё больш і больш абмяжоўвалася і, як убачым далей, князі няраз адносіліся да япіскапаў вельмі самавольна.

Нажаль шмат мітрапалітаў грэкаў і аграмадная большасьць япіскапаў грэкаў сваё душпастырскае становішча лічыла толькі капальняю золата, а навонках выказвала жаль, быццам яны на Русі цярпяць выгнаньне ў барбарскую краіну. Нічога тады дзіўнага, што гэткімі адносінамі, яны выклікалі да сябе агульную няпрыхільнасьць. Ужо пасьля першага мітрапаліта Тэопэмпта кіеўскі князь Яраслаў, якога стараньнем заіснавала ў Кіяве мітраполія, склікаў у 1051 г. япіскапаў і яны выбралі мітрапалітам Іларыёна, што быў сьвятаром у Бярэставе каля Кіева. Гэты выбар быў раўназначыны з разрывам залежнасьці мітраполіі ад Бізантыі. Дзеля палітычных падзеяў Іларыён займаў мітрапалічы пасад усяго да 1054 г. — дата сьмерці князя Яраслава. А далейшыя падзеі ў Кіяве складаліся так, што наступнік Яраслава Ізяслаў (1054—1078) годзіцца з Бізантыйскім патрыярхам і прызнае назначаных ім мітрапалітаў, якія да 1147 г. былі грэкі. На добры лад для маладое царкоўнае правінцыі ерархі з такое старое Царквы, як бізантыйская мусілі-б быць вельмі карысным зьявішчам, але нажаль было наадварот, бо сюды прысылаўся горшы элемэнт, якому зусім не ляжала на сэрцы дабро Царквы. Прасякнутыя духам бізантыйскага цэзарапапізму, мітрапаліты і япіскапы не праяўлялі свае ініцыятывы і тым самым стваралі грунт для разьвіцьця т. зв. рускага цэзарапапізму. Праўда, калі вялікакняжы пасад дзеля ўзаемнага змаганьня князёў часта пераходзіў з рук у рукі, дык яго няраз займалі недарослыя да свайго становішча людзі, якія ня мелі ўплыву на мітрапалітаў, і тады аб дзейнасьці мітрапалітаў нічога ня чуваць, а грэкі на мітрапалічым пасадзе стаюцца традыцыйным зьявішчам, якое потым зьмяняць было цяжка.

Калі ў 1147 г. кіеўскі князь Ізяслаў Мсьціславіч захацеў мець мітрапаліта нягрэка дык дайшло да канфлікту з Бізантыйскім патрыярхам. Князь склікаў у Кіеў усіх япіскапаў і зьвярнуўся да іх з запытаньнем, ці Руская Царква мае права сама выбіраць мітрапаліта? Аб тым, што якраз гэтае пытаньне мела быць вырашана на саборы, япіскапы ўжо ведалі і таму прыехалі ў Кіеў толькі чарнігаўскі, пераяслаўскі, белгародзкі, юр'еўскі, тураўскі і ўладзімерскі япіскапы, а япіскапы грэкі: ноўгарадзкі, полацкі і смаленскі на сабор не зьявіліся.

Згодна з прапановаю чарнігаўскага яп. Андрэя сабор япіскапаў вырашыў, што паводля царкоўных канонаў яны маюць права выбіраць мітрапаліта і няма ніякіх цяжкасьцяў з яго высьвячэньнем, бо ў Грэцыі пастаўляюць мітрапаліта рукою сьв. Івана, а ў Кіяве ёсьць галава сьв. Клімэнта. На мітрапаліта выбралі ігумэна зарубскага манастыра Кліма Смаляціча, «кніжніка і філёзафа, якога яшчэ ня было ў рускай зямлі»(98). Пасьля такіх выбараў, варожыя новаму мітрапаліту япіскапы грэкі Кузьма Полацкі і Мануіл Смаленскі ўцяклі ў Канстантынопаль.

Аднак мітрапаліт Клім нядоўга змог затрымацца на мітрапалічым пасадзе. У 1154 г. Ізяслаў пад напорам Юрыя Манамахавіча пакінуў Кіеў, а Юрый, апанаваўшы Кіеў, як доўгагадовы саюзьнік бізантыйскага імпэратара Мануіла Комнэна, пастараўся мець мітрапаліта грэка.

Новы мітрапаліт Канстантын прыехаў у 1156 г., прывозячы з сабою япіскапаў Кузьму Полацкага і Мануіла Смаленскага. Сваю дзейнасьць новы мітрапаліт пачаў ад таго, што выкляў мітр. Кліма, выкляў пакойнага князя Ізяслава Мсьціславіча, скасаваў багаслужэньні заведзеныя Клімам і ўняважніў ягоныя сьвячаньні. — Так насаджваўся мітрапалітамі грэкамі дух бізантынізму ў Царкве з падтрымкаю япіскапаў грэкаў.

Князі ў Кіяве мяняліся часам вельмі хутка і разам з імі мянялася палажэньне мітрапаліта. Так было і з ваяўнічым Канстантынам. Ужо ў 1158 г. кіеўскі вялікакняжы пасад заняў Ізяслаў III, а ў наступным годзе выгняў яго Мсьціслаў Ізяславіч — сын таго Ізяслава, якога выкляў мітр. Канстантын. Зразумела, што перад гэтым князем мітрапаліт уцёк з Кіява. У справе абсады мітрапалічага пасаду распачаліся зацяжныя перагаворы з патрыярхам.

У далейшым аб дзейнасьці мітрапалітаў летапісы падаюць вельмі мала вестак. Відаць, што іх дзейнасьць бала нязначная.

У адносінах да япіскапаў звычайна мітрапаліты ня ўмешваліся ў іхнюю дзейнасьць, але калі нехта з іх важыўся ўводзіць нейкія навіны, дык рэагавалі вельмі востра.

## ЯПІСКАПСТВЫ

У наўстарэйшай устаўной грамаце кіеўскага князя Уладзімера, гэта значыць у грамаце, якою ўстанаўлялася япіскапства ў Кіяве, кідаецца ў вочы, што гэтае япіскапства арганізавалася не на бізантыйскі, а на заходне-эўрапэйскі лад. На ўзор капітулаў пры лацінскіх біскупах тут устанаўляліся клірасы. Для утрыманьня япіскапа і клірашанаў князь забавязваўся плаціць дзесяціну з сваіх

98. Асоба мітр. Кліма Смаляціча, дзякуючы ягонай вучонасьці і тым абставінам, у якіх быў выбраны, прыцягвала да сябе асаблівую ўвагу гісторыкаў: Н. Никольскій. О литературныхъ трудахъ митрополита Климента Смолятича, писателя XII вѣка. СПб, 1892.

99. Н. С. Суворовъ. Следы западно-католическаго церковнаго права въ памятникахъ древнерусскаго права. «Софійская кормчая». Ярославъ, 1888.

лаходаў, чаго ў Бізантыі ў той час ня было([99]). Нават бізантыйскі номаканон быў пашыраны ў баўгарскай рэдакцыі, якая ня мела канонаў няпрыхільных да Заходняе Царквы. Наагул у кіраўніцтве усходне-славянскае Царквы было шмат заходніх уплываў([100]). Тым самым яшчэ раз пацьвярджаецца перш выказаны пагляд, што першыя япіскапы на Беларусі падобна як на Украіне і ў Расеі напэўна былі нягрэкі. Калі-ж потым, пасьля зьмены царкоўнае палітыкі ў мітраполіі, на япіскапскіх пасадах зьявіліся грэкі, дык ужо была закарэнена на толькі моцная традыцыя своеасаблівага кіраўніцтва, што яе грэкі ня важыліся пераіначваць. Наагул шмат япіскапаў грэкаў былі вельмі пасыўнымі дзеля, тае простае прычыны, што пераважна былі скапцамі.

Нажаль аб дзейнасьці япіскапаў на Беларусі захавалася вельмі мала вестак. Аб большасьці з іх няведама даслоўна нічога акрамя імёнаў. Ёсьць так-жа нямала зусім няведамых япіскапаў. І толькі аб больш дзейных коратка ўспамінаецца ў летапісах, або ў жыцьцях сьвятых; аб іх будзе мова ў разьдзеле аб духовым жыцьці.

Япіскапы сілаю свайго высокага становішча мусілі быць у блізкіх суадносінах з князямі нават тады, калі былі пастаўлены мітрапалітам бяз згоды мяйсцовага князя, але найчасьцей сам мяйсцовы князь выбіраў сабе кандыдата на япіскапа і пасылаў яго да мітрапаліта на сьвячаньне. Калі-ж у выніку міжусобных войнаў князёўскі пасад пераходзіў у іншыя рукі, тады часта япіскап уцякаў з свайго пасаду, бо былі выпадкі, што новы князь помставаў дзеля нейкіх прычынаў. Так напрыклад здарылася ў Тураве, калі ў 1146 г. Ізяслаў II заваяваў Тураў, выгнаўшы адтуль тураўскага князя Вячэслава, дык увязьніў яп. Іоахіма, як варожага да сябе, а на япіскапскі пасад выбраў прыхільнага да сябе яп. Івана.

## ПАДЗЕЛ ЦЭРКВАЎ І ЯГО РЭХА НА БЕЛАРУСІ

Падзел Цркваў на Каталіцкую і Праваслаўную стаўся ў 1054 г., а хрысьціянства як дзяржаўная рэлігія ў Беларусі была прынята каля 990 г. Дзеля гэтага такія выславы, як: «Беларусь прыняла праваслаўнае хрысьціянства», або «Беларусь прыняла каталіцкае хрысьціянства» ёсьць анахранізмамі, бо ў 990 г. яшчэ была адна Праваслаўная Каталіцкая Царква і таму хрысьціянства, якое прынялося ў нас было праваслаўным каталіцкім хрысьціянствам. Гэта значыць, што на багаслужэньнях успаміналіся і папа Рымскі і патрыярх Бізантыйскі, як гэта было і ў самой Бізантыі. Розьніцы ў багаслужэбных абрадах, у мове — зразумела былі і тады, але нашыя продкі лічылі гэта самазразумелым зьявішчам, бо-ж і самі маючы бізантыйскі абрад, гэта значыць такі абрад, які быў у Грэцыі, замест грэцкае мовы ў багаслужэньнях — мелі царкоўна-славянскую мову.

Праўда спрэчкі між грэкамі і рымлянамі былі ўжо і тады, найчасьцей за юрысдыкцыю ў некаторых краінах, але ў нас лічылі, што гэта іхныя партыкулярныя або палітычныя справы, якія да нашага рэлігійнага жыцьця не адносяцца.

У няшчасны год падзелу Цэркваў — 1054 — Кіеўская мітраполія ня мела лучнасьці з Бізантыйскім патрыярхам пасьля самавольнага выбару на кіеўскага мітрапаліта Іларыёна (1051—1055). Таму лічыла, што акт выкляцьця, які папскія легаты кінулі на бізантыйскага патрыярха Керулярыя, зусім да нас не адносіўся і дзеля гэтага летапісы аб ім нават не ўспамінаюць. Перажываючы самі непаразуменьне з Бізантыйскім патрыярхам, напэўна не спагадалі яму ў ягоным канфлікце з Рымскаю Цэрквою. А ў справаздачы рымскае дэлегацыі з яе дзейнасьці ў Канстантынопалі гаворыцца, што рымскія паслы ў паваротнай дарозе былі ў «горадзе Русаў» і што адтуль выслалі імпэратару Канстантыну аўтэнтычны акт экскамунікі патр. Керулярыя([101]).

Калі пасьля мітр. Іларыёна ў 1055 г. кіеўскі мітрапалічы пасад зноў увайшоў у зьвязкі з Бізантыйскім патрыярхам і ў Кіяве зьявіўся спачатку пераяслаўскі яп. Ефрэм, а потым прысылаліся мітрапаліты з Бізантыі, агульны настрой япіскапаў і князёў ува ўсёй Русі астаецца такім-жа, як гэта было да 1054 г. Відаць дзеля гэтага мітр. Юры грэк (1072—1073) лічыў патрэбным напісаць твор «Стязаніе з Латінаю», быццам абвінавачаньне ўсёй Усходне-славянскай Царкве за яе прыхільнасьць да лацінскага Захаду. Але гэты-ж мітрапаліт за сваё настойлівае ўводжаньне грэцкіх настрояў і за супрацію прызнаць рускіх сьвятых мусіў вельмі хутка пакінуць мітрапалічы пасад.

У Рыме так-жа даўжэйшы час пасьля падзелу Цэркваў «мітраполію ўсяе Русі» хоць і лічылі залежнаю ад Бізантыйскага Патрыярха, аднак не варожаю да Рыму. Таму калі ў 1075 г. сын кіяўскага князя Ізяслава Яраполк зьвярнуўся да папы Рыгора VII, каб той прыняў Кіеўскую Русь пад сваю апеку і ад сябе перадаў уладу кіеўскаму князю, ахвотна выканаў гэтую просьбу і ў сваім лісьце да князя Ізяслава (Дзімітрыя) з 17.IV. 1075 год. нават і не намякае на якое небудзь разьяднаньне між Кіеўскаю мітраполіяю і Рымскаю Царквою.

Калі ў 1090 г. папа Урбан II устанавіў сьвята перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая (9.V) з Мір Лікійскіх у італьянскі горад Бары на памятку насільнага перавязеньня мошчаў, якое было дако-

100. Н. К. Никольскій. Къ вопросу о западномъ вліяніи на древнерусское церковное право. «Библіографическая лѣтопись». Т. III. с. 110-127. 1917.

101. Др. Ст. Томашівський. op. cit. с. 121.

нана ў 1087 г., дык на Беларусі, Украіне і ў Расеі гэтае сьвята прынялі насупраць варожага настрою грэкаў супраць гэтае падзеі.

Наагул аж да XIII ст. Усходне-славянская Царква трымалася традыцыі свае мацернае Баўгарскае Царквы, якая абрадова паходзіла з Бізантыі, а духова была злучана з Апостальскім Пасадам. Дзеля гэтага нічога дзіўнага, калі навейшыя досьледы выяўляюць, што на старую рускую хрысьціянскую літаратуру мела вялікі ўплыў заходне-эўрапэская хрысьціянская літаратура. Жыцьцяпісы першых рускіх мучанікаў Барыса і Глеба былі напісаны па прыкладу чэскіх лягэндаў аб сьв. Вацлаве і аб сьв. Людміле(102). У XII ст. быў ведамы і распаўсюджаны на Русі «Рымскі патэрык», зрэдагованы на Захадзе(103). Былі так-жа ўложаны малітвы, у якіх успаміналіся заходнія сьвятыя(104).

Вельмі вымоўным ёсьць факт, што кіеўскія летапісы міма іх выразнае пазьнейшае апрацоўкі пад націскам мітрапалітаў грэкаў захавалі весткі аб шматлікіх зносінах кіеўскіх князёў з Рымам, успамінаючы аб пасольствах з Рыму ў Кіеў і наадварот(105). Акрамя афіцыяльных пасольстваў з Рыму прыходзілі і ня толькі ў Кіеў, але і на Беларусь рэлігійныя дзеячы, якія тут аставаліся на ўсё жыцьцё і плённа працавалі. Напрыклад смаленскі князь Раман Мсьціславіч у сваёй школе, якую заснаваў у 1180 г. меў настаўнікаў і грэкаў і лацінян. А шырокаведамы на Беларусі сьв. Мэркуры Смаленскі († 1238) быў родам рымлянін. Так-жа і ў суседнім Ноўгарадзе жыў і дзейнічаў сьв. Антоні, які паводля лягэнды прыехаў сюды «на камені» з паўднёвае Італіі. Бачым, што лягэнда выразна намякае на «каменя веры» — ап. Пятра.

102. Н. Н. Ильин. Летописная статья 6523 года и ее источник. с. 52-65, 209. Москва, 1957.
103. Ф. И. Буслаевъ. Исторія Русской литературы. Вып. 2. с. 26-41. Москва, 1905.
104. А. Соболевскій. Русскія молитвы съ упоминаніемъ западныхъ святыхъ. «Сборникъ От-ла рус. яз. и слов. Им. Ак. Наук». Томъ 88. СПб, 1910.
105. М. А. Таубэ, проф. Рим у Русь в домонгольскій період X-XIII в.в. «Католическій Временникъ». Вып. I. 1927.

Агулам беларускія князі ставіліся вельмі прыхільна да заходніх лацінскіх сьвятароў. Калі ў 1186 г. нямецкі місіянар Мэйнгард зьвярнуўся да полацкага князя Уладзімера з просьбаю дазволіць яму на місійную працу міжЛіваў, якія залежалі ад Полацку, дык атрымаў гэты дазвол бяз ніякіх засьцярогаў.

Такія суадносіны Усходне-славянскае Царквы да Рыму выклікалі ў некаторых мітрапалітаў і япіскапаў грэкаў ваяўнічы настрой. Тады с-пад іхняга пяра зьяўляліся розныя супрацьлацінскія «словы», «пасланія» і пад. Гэтым пісаньням з пэўных мэтаў у мінулым стагодзьдзі Расейская Царква прысьвячала нямала ўвагі(106), дакладна разьбірала іх, але аднабока(107). Праўда гэная супрацьлацінская літаратура мае сваю вымову, але зусім ня тую, якую ёй прыпісвалі рсейскія гісторыкі. Яна можа сьведчыць толькі аб тым, што ўжо было зазначана вышэй, а менавіта, што ў старой Беларускай Царкве, падобна як і ў Цэрквах суседніх народаў, былі вельмі прыхільныя адносіны да Рыму. Уплыў супрацьлацінскае прапаганды на вернікаў быў даслоўна ніякі, бо нічога і ніколі ня выконвалася з тых вымаганьняў супраць лацінь-нікаў, якіх дамагалася тая прапаганда. На Беларусі ў большых гарадох лацінькікі мелі нават свае сьвятыні, напрыклад у Смаленску немцы гуртаваліся каля лацінскае царквы сьвятое Багародзіцы, аб якой успамінаецца ў Смаленскім догаворы з Рыгаю з 1229 г.(108).

Але ў XIII ст. зьявіўся на паўночным захадзе Беларусі дзейнік, які паважна прычыніўся да таго, што беларускае рэлігійнае жыцьцё пайшло ў іншым кірунку, а на Усходзе зьявіліся татары, якія прычыніліся да таго, што і дзяржаўнае беларускае жыцьцё прыняло зусім новыя формы.

**а. Л. Гарошка**

106. А. Н. Поповъ. Историко-литературный обзоръ древне-русскихъ сочиненій противъ латинянъ XI-XV ст. Москва, 1875.
107. А. Павловъ. Критическіе опыты по исторіи древнейшей греко-русской полемики противъ Латинянъ. СПб, 1878.
108. Памятники Русского права. Вып. 2. с. 67. Москва, 1953.

# НЕПАРОЧНАЕ ЗАЧАЦЬЦЕ ДЗЕВЫ МАРЬИ У ТРАДЫЦЫІ ЎСХОДНЯЕ ЦАРКВЫ

У багаслужэбных кнігах бізантыйскага абраду ёсьць вельмі шмат прыгожых выславаў, якія ўслаўляюць Прэсьвятую Дзеву Марыю. Гэтыя выславы ёсьць вынікам глыбокага разуменьня нявымоўна вялікае годнасьці Багародзіцы. Лішнім было-б тлумачыць, што гэтае разуменьне не заўсёды было такім глыбокім. Яно выраблялася паволі ў меру таго, як Сьвятая Царква перамагала і асуджала розныя гэрэзіі, якія выступалі супраць належнае пашаны да Богамаці.

Між усіх годнасьцяў Багародзіцы самаю першаю ёсьць Яе Непарочнае Зачацьце, якое сталася асноваю іншых годнасьцяў.

Але перш-на-перш спытайма: што трэба разумець пад выславам Непарочнае Зачацьце?

Для яго разуменьня неабходна пазнаць хоць

у агульных рысах навуку багасловіі аб пачацьці людзкое душы і аб першародным граху.

Пачацьце чалавека мае два асноўныя мамэнты. Актыўнае пачацьце, праз якое бацькі даюць пачатак змысловае часткі чалавека — тут разумецца пачатак людзкога цела з усімі ягонымі змысловымі сіламі. І другі мамэнт: пасыўнае зачацьце — гэта злучэньне цела з душою, якую дае Бог новазачатаму чалавеку ў першым-жа мамэнце яго заіснаваньня.

Пасьля ўпадку ў грэх нашых прабацькоў Адама і Эвы, яны страцілі асьвячаюючую ласку і ад таго часу людзі родзяцца з першародным грахом. Гэта значыць, што ад тады Бог не абдзяляе новаствораныя душы асьвячаючаю ласкаю. І гэтая нястача асьвячаючае ласкі ў душы дзіцяці зьяўляецца найгоршым ліхам першароднага граху. Вось-жа прыналежнасьць да першароднага граху палягае на тым, што чалавек зачаты ў лоне свае мацеры пазбаўлены асьвячаючае Божае ласкі. І гэтая нястача ёсьць плямаю, якая пазбаўляе чалавека права быць дзецям Божым, пазбаўляе права быць у небе з Богам, а робіць чалавека дзецям пракляцьця.

Ад гэтага пятна ў Новым Запавеце мы ачышчаемся ў сьвятой Тайне Хрышчэньня, у якой атрымоўваем дзеля заслугаў Хрыста асьвячаючую ласку, стаемся дзецьмі Божымі.

Душа ахрышчанага дзіцяці становіцца чыстаю, сьвятою, аднак гэтая чыстасьць ня ёсьць спачатнаю, бо такая душа ёсьць ачышчана чыстаю.

У адрозьненьне ад усіх людзей душа Марыі была заўсёды чыстаю, яна была сатворана Богам адразу ў стане асьвячаючае ласкі. Гэта значыць, што яна ад першага мамэнту свайго існаваньня і ад мамэнту злучэньня з целам у лоне свае маці сьвятое Ганны была ў такім-жа стане асьвячаючае ласкі, як душы нашых прабацькоў у раі да іх упадку ў грэх. Таму яе сьвятыя Айцы часта называюць другою Эваю, лепшаю Эваю. Значыць яна ніводнага мамэнту ня была пад пракляцьцем, пад уладаю д'ябла; ні на мамэнт яна ня мела плямы першароднага граху. — Гэткае зачацьце і называецца непарочным, беззаганным, няспляміленым.

Такое зачацьце ня ёсьць бязмужным зачацьцем. Цела Багародзіцы мела такі-ж пачатак, як і ўсіх людзей, толькі душа мела іншы, сьвяты пачатак; яна была адразу поўнаю ласкі. Толькі адзін Ісус Хрыстос быў зачаты бязмужна і бясьсеменна ад Духа Сьвятога.

Праўду веры аб Непарочным Зачацьці абвесьціў як догму папа Пій IX 8. XII. 1854 г., але яна з даўных давён была ведамая ў Сьвятой Царкве.

Ужо ў Старым Запавеце Госпад Бог, праклінаючы д'ябла, казаў: «І палажу варажнечу між табою і між жанчынаю, і між тваім насеньнем і між яе насеньнем: яна сатрэ тваю галаву, а ты будзеш жаліць яе ў пяту» (Быць. III, 15). Тою жанчынаю, якое насеньне перамагло валадарства д'ябла, ёсьць ня хто іншы, як Найсьвяцейшая Дзева Марыя — такая аднազгодная думка сьвятых Айцоў.

А на пачатку Новага Запавету анёл Гаўрыіл, абвяшчаючы Марыі аб тым, што Яна мае стацца Маткаю Збавіцеля, зьвяртаецца да Яе такімі словамі: «Радуйся, поўная ласкі, Госпад з Табою; багаславенная Ты між жанчынаў» (Лук. I. 28). Паўната ласкі, аб якой гаворыць анёл, неабходна мусіць уключаць заўсёднае прабываньне ў стане ласкі — гэта значыць на працягу ўсяго існаваньня ад самага першага мамэнту Яе жыцьця, ад мамэнту зачацьця.

Калі-б Марыя была зачатая з плямаю першароднага граху, як усе іншыя людзі, і толькі потым была ачышчана, дык яна нічым ня розьнілася-б ад тых сьвятых, якія былі ачышчаны ад першароднага граху ў лоне мацеры: ад прарокуў Ерамії і Івана Хрысьціцеля. Але Сьвятое Пісаньне выразна кажа, што Яна ёсьць больш чыстая і непарочная, чым хтонебудзь з людзей. Дзеля гэтага Сьвятая Царква і называе Яе «адзінаю чыстаю і непарочнаю».

На аснове гэтых тэкстаў Сьвятога Пісаньня і царкоўнае Традыцыі праўда аб Непарочным Зачацьці была ведамая ўжо ад даўных часоў. Гэта толькі пад уплывам пратэстанцкае прапаганды пашырылася думка нават між праваслаўнымі, быццам Непарочнае Зачацьце ёсьць нейкім наватворам Каталіцкае Царквы. У праўднасьці справа маецца зусім наадварот. Гэта Усходняя Царква першая пачала пашыраць думку аб Непарочным Зачацьці Дзевы Марыі і ў зьвязку з гэтым устаноўлена ўжо ў VI ст. ува ўсёй Усходняй Царкве сьвята «Зачацьця Прэсьвятое Дзевы Марыі ад сьв. Ганны». А ў Заходняй Царкве сьвята Непарочнага Зачацьця пачалі сьвяткаваць аж пяць стагодзьдзяў пазьней (у XI ст.).

Аб тым, якую думку мела Усходняя Царква адносна зачацьця Дзевы Марыі найлепш сьведчаць багаслужэбныя кнігі і наагул малітвы, з якімі Царква зьвяртаецца да Багародзіцы. Бо-ж да ўсіх людзей адносіцца сказ: права маленьня ёсьць правам вераваньня. І вось у багаслужэбных кнігах бізантыйскага абраду знайходзяцца такія звароты да Божае Маці:

8-га верасьня. **Раство Багародзіцы.** На утрэні чытаем: «Прачыстая Уладычыцэ і ўсенепарочная» (Канон, песьня 1). «Прэвысшая ангелаў на зямлі раждаецца» (Кан. п. 4). «Прачыстае Твае раждзество, Дзева непарочная, несказаннае і зачаціе неізглаголаннае» (Кан. п. 5). «Паем Твае Раждзество, чцім і НЕПАРОЧНАЕ ЗАЧАЦІЕ ТВАЕ, нявеста богазванная і Дзева» (Кан. п. 6). «Благаславенная ўсечэсная... Богамаці прачыстая» (Кан п. 9). «Усемірная ат праведных вазсія нам ат Іакіма і Анны, усяпетая Дзева, яжэ прэмногія радзі чыстаты храм Божый адушэўленный быва-

сг». (На сьціх). «Прыйдзіце ўсі верніі к Дзеве прыцецэм... Васпеваем Дзевы ўсенепарочнае раждзество» (На сьціх).

9-га верасьня. **Сьвятых Праведных багаацец Іоакіма і Анны.**

«Іоакім і Анна... прачыстую Багародзіцу радзіша прэбольшую ўсея твары сьвятасьцію». «Спасенія ўсяго начальніцы, блажэньнейшый Іоакім і Анна слаўная, чыстую і непарочную і прачыстую Багародзіцу радзіша» (Кан. п. 1). «К ней жа ўзываем, яко НЕСЬЦЬ НЕПАРОЧНЫ ПАЧЭ ЦЯБЕ УЛАДЫЧЫЦЭ» (п. 3).

13-га верасьня. **Сьвята абнаўленьня сьв. храма Васкрасенія.**

«Ты адзіна ва ўсех родах Дзева прачыстая, Маці Божая паказалася есі, Ты Бажэства была есі абіталішчэ ўсенепарочная» (Кан. п. 8).

21-га лістапада. **Увядзеньне ў храм Прэсьвятое Багародзіцы.**

«Ва сьвятая сьвятых, сьвятая і непарочная, Сьвятым Духам уводзіцца» (Сціх. на Госп. ваз. 4). «Прыйдзіце верніі, АДЗІНУ НЕПАРОЧНУЮ васхвалім» (Сціх. на літіі 3). «ПРЭЖДЗЕ ЗАЧАЦІЯ ЧЫСТАЯ асьвяцілася есі Богу» (Сед. на 2 кат.). «Усенепарочная чыстая» (Кан. п. 3). «Страннае Твае зачаціе, странно Твае і раждзество... прачыстая» (Кан. п. 5). «Днесь у храм прыводзіцца ўсенепарочная Дзева... днесь чысьцейшая сьвятыня... той вазапіім яко ангел: радуйся адзіна ў жэнах благаславенная» (На хвал.).

9-га сьнежня. **Зачаціе сьвятыя Анны, егда зачат прэсьвятую Багародзіцу.**

«Сія убо да ублажым і вераю лікаўствуем у зачаціі бажэственне» (стіх. на Госп. ваз.). «Лік прарочэскій прапаведа дрэўле непарочную чыстую і богаатракавіцу... сію днесь сердца ублажым, спасшеся яе радзі, яко ЕДЗІНУ НЕПАРОЧНУЮ» (Сед. па 2 кат.). «Ея-жэ СЬВЯТОЕ ПАЧІЦІМ ЗАЧАЦІЕ» (Сед. па 3 к.). Яжэ па закону сканчаўшымі і Богу непарочна работаўшы чрэванасішы... Анно ўсечэсная» (Кан. п. 3). «Прэслаўнае зачаціе Багародзіцы сьветла празднуем» (Стіх. на хвал.).

1-га лютага. **Прэдпраздзенство Срэценія Гасподня.**

«Хрыстос адзін сый прачыст і прэнепарочэн і Ця адзіну чысьцейшую саблюдая і прэсьвятую» (Кан. п. 8).

25-га ліпеня. **Сьв. Анны.**

«О прэслаўнага чудесе: іcточнік жызьні прэслаўна рождша, адзіну ў жэнах благаславенную чыстую» (Стіхір.). «Тем-жэ ныня чэстна ублажаем Ця (Анно) АДЗІНАЙ ЧЭСТНОЙ І НЕПАРОЧНАЙ ваісьціну Багародзіцэ сушчую мацер» (Сед. па 2 кат.).

Наагул у багаслужэньнях бізантыйскага абраду няма даслоўна ніводнае царкоўнае службы. дзе-б не ўслаўлялася найвышэйшая годнасьцю між усіх людзей — Дзева Марыя Маці Божая. Амаль кожная ектынія мае заклік: «Пресьвятую. прачыстую, прэблагаславенную, слаўную Уладычыцу нашу Багародзіцу і прыснадзеву Марыю...». У нядзельных сьціхірах Багародзіцы (твор Паўла Амарэйскага) пяецца: «...усенепарочная Дзева, спасі мя, малюся». Нават і ў заупакойных трапарох на паніхідзе падчырквaецца непарочнасьць Багародзіцы: «Адзіна чыстая і непарочная Дзева, Бога без семені рождшая...». А ўканцы шматлікіх багаслужэньняў на чэсьць Прачыстае пяецца цудоўная песьня: «Дастойна есьць яка ваісьціну блажыці Ця Багародзіцу, прыснаблажэнную і ПРЭНЕПАРОЧНУЮ МАЦЕР БОГА НАШАГА. ЧАСТНЕЙШУЮ ХЕРУВІМ і слаўнейшую без сраўненія серафім... Ця велічаем».

Акрамя гэтых тэкстаў, дзе з найбольшаю яснасьцю гаворыцца аб Непарочным Зачацьці Дзевы Марыі ёсьць яшчэ ў багаслужэбных кнігах мноства тэкстаў з выславамі, якія вобразна ўслаўляюць Непарочнае Зачацьце.

Разуменьне Непарочнага Зачацьця ў літургічных тэкстах з багаслоўскага гледзішча баззаганнае. Веліч годнасьці залежыць ад паўнаты Божае ласкі, якую шчыра ўспрыняла Дзева Марыя і праз гэта Яна ўзьнятая ня толькі вышэй усіх людзей, але нават вышэй анёлаў, якія ніколі ня мелі ніякага граху, ані ніякe плямы. Коратка кажучы, у літургічных кнігах бізантыйскага абраду вера ў непарочнае зачацьце Дзевы Марыі выказваецца якнайбольш ясна і якнайбольш рашуча.

## УСХОДНІЯ АЙЦЫ ЦАРКВЫ АБ НЕПАРОЧНЫМ ЗАЧАЦЬЦІ

Як відаць з літургічных кнігаў, думка аб Непарочным Зачацьці Дзевы Марыі мусіла быць ува ўсёй Усходняй Царкве паўсюднаю і з даўных часоў. І сапраўды, шматлікія Айцы Царквы, гаворачы аб Марыі, супастаўляюць Яе Эве, называюць Яе «другою», «лепшаю Эваю». Такія выславы, гэта толькі намяканьні на Непарочнае Зачацьце, але ў сувязі з агульным духам іхняе творчасьці і духам Царквы, яны маюць сваю ясную вымову. Прытым ёсьць нямала Айцоў Царквы, якія зусім ясна гавораць аб тым, што Найсьвяцейшая Дзева Марыя ніколі ня была пад уладаю першароднага граху.

Сьв. Амфілохій япіскап іканійскі (†395) кажа аб Марыі: «Той, што першую дзеву (Эву) бяз змазы сатварыў. Той-жа сам і другую (Марыю) бяз нічога нячыстага і бяз граху сатварыў».

Сьв. Ефрэм Сірыйскі (306-379) так апявае Прачыстую Багародзіцу: «Гаспажа мая Прачыстая Багародзіца, Ты поўная ласкі, Ты ўся прыгожая, уся непарочная, уся прачыстая, уся беззаганная... без параўнаньня вышэйшая Ты за херубімаў і серафімаў і больш слаўная». (Or. ad Deipar. Opp. gr. T. 3. p. 528). На іншым мейсцы ён піша: «Сапраўды Ты, Госпадзе, і Твая Маці,

адзіныя мaeцe ўсю прыгажосьць, бо ў Табе, Госпадзе, няма ніякае заганы, ані ў Тваe Маці — ніякае плямы» (Enchir. Patr. Ed. 67. p. 719).

Падобна вучаць аб Багародзіцы сьв. Амброзі Мэдыялянскі (333-397), сьв. Прокл Канстантынопальскі (†446), сьв. Андрэй Крыцкі (660-740). А сьв. Іван Дамаскін (675-749) — стоўп усходняе багасалоўскае навукі — называе Багародзіцу «новым раем», у які ня змог уступіць зьмей (Слова на Усьпеньне Дз. М.). І далей у той-жа гаміліі на тое-ж сьвята кажа: «Як сонца, ад мамэнту свайго сатварэньня, бязутстанку асьвячае, так сама і душа Прачыстае Дзевы заўсёды зьзяла бляскам ласкі». У слове на Раство Багародзіцы ён гаворыць: «О сьвяцейшая дочка Іоакіма і Ганны... Ты без парока захавалася, каб быць невестаю Бога і прыродным чынам — Маці Божаю».

Вышэй успомненыя Айцы ўсе лічацца сьвятымі у Усходняй Царкве. Вось-жа аб іхняй праввернасьці ня можа быць ніякага сумніву. Але ўсе яны ані чуць ня сумняваліся, што навука аб Непарочным Зачацьці Багародзіцы ёсьць навукаю Праваслаўнае Царквы.

## ПЕРАКАНАНЬНЕ АБ НЕПАРОЧНЫМ ЗАЧАЦЬЦІ МІЖ УСХОДНІХ СЛАВЯНАЎ

Прыняўшы хрысьціянства ў бізантыйскім абрадзе, усходнія Славяне прынялі і ўвесь духовы скарб гэтага абраду. А з таго, што вышэй сказана, відаць ясна, што Бізантыйская Царква ўслаўляла Багародзіцу як Непарочна Зачатую, дык і яе дочарная Царква прыняла гэтую навуку аб Багародзіцы, як праўду веры.

У кіяўскай Праваслаўнай Акадэміі, якая існавала ў XVII ст. прафэсары ў сваёй прысязе перад абняцьцем катэдры забавязваліся абараняць праўду аб Непарочным Зачацьці, а студэнты засноўвалі арганізацыі ў чэсьць Непарочна Зачатае Багародзіцы (Гл.: Вишневскій. Кіевская Академія. Кіев 1903. с. 227).

Падобна і беларуская праваслаўная моладзь у Полацку заснавала 2 лютага 1650 г. брацтва, статут якога вымагаў ад братчыкаў, каб яны пасьвячалі сябе Непарочнаму Зачацьцю Найсьвяцейшае Дзевы Марыі.

Рэктар Кіеўскае Акадэміі слаўны вучоны казальнік Іоанікі Галятоўскі († 1668) так разважае аб Багародзіцы: «Третья вещь великая, которую содѣлал Бог Пречистой Дѣвѣ, что Ее освободил от грѣха первороднаго, ибо Пречистая Дѣва без грѣха первороднаго была зачата и родилась». (Ключ разумѣнія. Кіев, 1638. с. 172).

Ведамы беларускі рэлігійны і асьветны дзеяч Сымон Полацкі (1629-1680), выхадзец з Кіеўскае Акадэміі, у сваім творы «Вечеря душевная» між іншым пісаў: «Пречистая Дѣва Марія чиста есть... яко свободна есть от всякія вины грѣховныя, от всякого порока душевнаго, чиста от грѣха, иже волею Адамлею содѣяся, и в нас чрез рожденія приходит, и именуется грѣх первородный. И того бо, по нѣким умствованію прежде зачатія си очистися». Падобна піша і ў іншым творы «Жезлъ правленія». Падчас свае доўгагадовае дзейнасьці ў Маскве Сымон Полацкі вельмі актыўна пашыраў культ да Маці Божае Непарочна Зачатае.

Іншы выхадзец з Кіеўскае Акадэміі ведамы красамовец Лазар Барановіч († 1694) ў слове на сьвята Зачацьця Багародзіцы кажа: «Како Тя ублажим, Пресвятая Дѣва, мы в беззаконіях зачатые, без грѣха зачатую? Ангелы дивятся зачатію Твоему, Чистая, како Ты от сѣмени зачатая, грѣху бысть непричастная?» (Трубы словесъ. Кіев, 1684. с. 99).

Не ад рэчы будзе заўважыць, што сьв. Дзімітры Растоўскі (1651-1709) у сваім першым выданьні Четьі-Миней так-жа апублікаваў некаторыя тэксты з услаўленьнем Непарачнага Зачацьця. У наступных выданьнях гэтыя тэксты павыкідалі. Наагул калісь Праваслаўная Царква ў Беларусі, Украіне і Расеі прызнавала Непарочнае Зачацьце Дзевы Марыі як самую праваслаўную праўду веры. Дзеля гэтага расейскія стараверы, якія зьявіліся ў часе Ніканаўскае рэформы Расейскае Царквы ў XVII ст., захавалі гэтую праўду веры да сёньня.

Нажаль ад XVIII ст. Праваслаўная Царква падпала пад моцны ўплыў пратэстантызму, які зусім адкідае культу Багародзіцы. У некаторых галінах багаслоўскае навукі уплыў пратэстантызму пранік вельмі глыбока, хоць часам зусім прыпадкова. Так было якраз з навукаю аб Непарочным Зачацьці Дзевы Марыі. Калі ў 1854 г. папа Пій IX абвесьціў гэтую праўду веры догмаю Каталіцкае Царквы, дык пратэстанты ўзьнялі крык, што гэта ёсьць выдумкаю Каталіцкае Царквы і шматлікія праваслаўныя ерархі, настроеныя варожа да каталіцызму, пайшлі на павадку пратэстанцкае прапаганды, уводзячы пратэстанцкі дух у афіцыяльную навуку Праваслаўнае Царквы адносна гэтае праўды веры.

Аднак на шчасьце масы праваслаўных вернікаў яшчэ і сёньня верна захоўваюць векавыя традыцыі і Праваслаўнае і Каталіцкае Царквы і нароўні з каталікамі ўслаўляюць Маці Божую Непарочна Зачатую.

**а. Кузьма**

# Сьвяты мучанік Мэркуры Смаленскі

Асоба сьвятога мучаніка Мэркурыя Смаленскага ёсьць найбольш загадкаваю з усіх беларускіх і агулам усіх славянскіх сьвятых. Справа ў тым, што не захавалася ягонага жыцьцяпісу, але ў Смаленску бытавалі аб ім вусныя пераказы, якія з цягам часу дапаўняліся фантастычнымі ўпрыгожаньнямі. І на аснове тых ужо далёкіх ад гістарычнае праўды пераказаў дзесь на пачатку XVI-та і ў XVII стагодзьдзях напісана дзьве лягэнды, якія ў далейшым атрымалі розныя перапрацоўкі і дайшлі да нашых часоў у пяці даволі розных рэдакцыях і ў 37 сьпісках. Гэта знак, што асоба сьвятога была папулярнаю.

Сваею арыгінальнасьцю лягэнды зацікавілі ў палавіне мінулага стагодзьдзя некаторых гісторыкаў і яны стараліся шляхам прыраўнаньняў з іншымі дакумантамі і рознымі дагадкамі ўстанавіць гістарычную аснову лягэнды. Пачын у гэтым кірунку даў Буслаеў (Буслаевъ Ѳ. И. Смоленская легенда о св. Меркуріи. Москва, 1859), выклікаючы гэтаю працаю шырокі розгалас у кругох дасьледнікаў старадаўнае гісторыі.

А на пачатку гэтага стагодзьдзя гісторыкі зноў загаварылі аб сьв. Мэркурыю. Яму шмат увагі прысьвяціў у сваіх досьледах Каллубоўскі (А. Кадлубовскій. Очерки по исторіи древне-русской литературы житій святыхъ. Варшава, 1902). Нажаль ён дайшоў да выснаўку, што «Мэркуры Смаленскі хутчэй зьяўляецца гэроем літаратурнае лягэнды, як гістарычнаю асобаю» (с. 74).

Такі высьнавак адносна асобы, якое сьвятыя астанкі захоўваліся ў Смаленску да 1611 г.. і якая была ўпісана ў сьпіскі сьвятых Праваслаўнае Царквы — быў паважным выклікам для царкоўных гісторыкаў. Аднак адказ на той выклік зьявіўся няскора і меў шмат слабых мейсцаў. Гэта была спроба ачысьціць гістарычную праўду адносна сьв. Мэркурыя ад лягэндарных дадаткаў (П. Миндалевъ. Повесть о Меркуріи Смоленскомъ и былевой эпосъ. «Сборникъ статей Д. А. Корсакова». Казань, 1913). Нажаль гэтая спроба зроблена вельмі адвольна і часам зусім неабгрунтавана. Магчыма што якраз гэтая неабгрунтаванасьць выклікала Беляева напісаць вялікую рэцэнзію, у якой падаў дакладную гісторыю ўсіх ведамых рэдакцыяў і сьпіскаў мэркурыявых лягэндаў (Бѣлецкій Л. Т. Къ литературной исторіи повести о Меркуріи Смоленскомъ. «Журн. Мин. Нар. Просв.». 1914. Нр. 12). Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што ў савецкіх часох, у 1922 г., Бялецкі вярнуўся зноў да гэтае-ж тэмы.

Ня будзем пералічаць далейшых дасьледных і дыскусійных артыкулаў на гэтую тэму, бо нажаль яны ня ўнесьлі амаль нічога новага адносна асобы Сьвятога, а займаліся перадусім літаратурнымі крыніцамі лягэнды.

Вось-жа маючы перад сабю такія цяжкасьці, якія да гэтага часу дарэмна стараліся разьвязаць дасьледнікі старадаўнага мінулага Царквы, цяжка напісаць больш-менш ясны жыцьцяпіс сьв. Мэркурыя. Аднак паколькі ягоная асоба ёсьць такою вынятковаю, варта з ёю зазнаёміцца бліжэй хоць-бы з тых лягэндаў, якія аб ёй створана. У асноўным будзем трымацца лягэнды запісанае ў Чэты-Мінэях («Великія Минеи Четьи, собранныя всерос. митр. Макаріем. Москва, 1910, Ноябрь. с. 3297-3306).

***

Радзіўся Мэркуры ў Італіі прыблізна на пачатку XIII ст. праўдападобна ў самым Рыме. у сям'і блізкай да правячых кругоў, зразумела — каталіцкай. У некаторых сьпісках выразна кажацца, што «родам быў рымлялін». Аб ягонай асобе гаворыцца ўсяго, што ён быў адважны і высокага росту. З невядомых прычынаў ён у юнацкім веку прыйшоў у Смаленск і прыстаў да князя на жаўнерскую службу. Зусім магчыма, што ён ужо ў Рыме быў жаўнерам, бо-ж тады быў час крыжовых паходаў. На службе азначаўся акуратным выкананьнем усіх сваіх абавязкаў і шчыраю пабожнасьцю. Нираз ён маліўся да позьняе ночы. Захоўваў цялесную чыстасьць. У ягонай пабожнасьці паважнае мейсца займала Прэсьвятая Дзева Марыя, Якое цудатворная ікона Смаленскае Годзігітрыі (вельмі падобная да славутае рымскае іконы «Салюс Пополі Романі»), прыцягвала шматлікіх малельнікаў у катэдральны сабор.

Калі татарскі хан Батый, заняўшы і моцна спляжыўшы Кіеў і Маскву, накіраваўся на Смаленск — так кажацца ўва ўсіх лягэндах — пляну ючы напасьці на яго тайна, дык смаленцы зьвярнуліся з малітвамі да свае нябеснае заступніцы. Мэркуры ня менш за смаленцаў перажываў долю краю і шчыра маліўся да Гаспадняга крыжа за мір.

Бог выслухаў шчырыя малітвы і паслаў збаўленьне для гораду праз заступніцтва Багародзіцы. Яна прамовіла ў саборы ад свае цудатворнае іконы да панамара, ці інакш кажучы да царкоўнага старасты: «Ідзі хутка на Падольле да майго раба Мэркурыя — і двор сказала яму — ды перакажы яму, што яго кліча Гаспажа ўва ўсім ваенным азбраеньні». Хоць гэта была позьняя ноч, царкоўны староста зара-жа пайшоў у азначаную Багародзіцаю часьць гораду, знайшоў Мэркурыя; ён укленчыўшы на двары маліўся з узьнятымі да неба рукамі, і пераказаў яму загад Багародзіцы. У гэтым мейсцы лягэнды маюць паважныя разьбежнасьці, бо ў адных гаворыцца, так як пераказана тут, а ў іншых дадаецца, што Мэркурыю быў аб'яўлены загад Багародзіцы ўжо перад тым, як

прыйшоў да яго царкоўны стараста, таму стараста засьпеў яго ўва ўсім ваенным азбраеньні. Але ў такім выпадку невядома нашто было патрэбнае тое пасольства царкоўнага старасты.

Далей гаворыцца ўва усіх лягэндах, што яны абодва прыйшлі ў царкву і там убачылі перад іконаю запаленую сьвечку. Мэркуры кінуўся на калені і маліўся перад іконаю шчыра да сьлёз. Праз колькі хвілін пачуўся голас Багародзіцы ад сьвятое іконы. Яна пасылала Мэркурыя супраць татараў, дакладна азначала мейсца куды ён павінен ісьці — Доўгі Мост (сёньня вёска Доўгамосьце), абяцала яму сваю дапамогу і ўканцы мучаніцкую карону. Наагул у гэтым мейсцы лягэнды робяць з Багародзіцы вельмі-ж гаваркую кабету і адносна татараў даволі сварлівую.

Мэркуры ваконвае загад Багародзіцы. Ён адразу выбіраецца ў дарогу. Паводля адных лягэндаў ён ідзе, паводля другіх едзе да Доўгамосьця (гэта якіх 20 км. ад Смаленску), там яшчэ раз зьвярнуўся да Багародзіцы з кароткаю малітваю і накіраваўся ў татарскі лягэр. Незаўважана прайшоў вайсковыя старожы, забіў вялікана, што наводзіў на ўсіх страх сваею сілаю і жарстокасьцю, забіў так-жа шмат татарскіх начальнікаў і вярнуўся назад да Доўгамосьця, каб вымаліць сабе мучаніцкі вянок.

Калі на золку зары прачнуліся татары і ўбачылі забітага вялікана і шматлікіх сваіх начальнікаў, кінуліся ў пагоню за няведамым ваякам. Мэркуры стрэнуў іх адважна ды так пасек, што яны ў перапалоху кінуліся наўцёкі. Толькі якісьці адзін люты татарын, а ў некаторых лягэндах сын забітага вялікана, у іншых дык гэта сам анёл — адсек голаву Мэркурыю.

Батый, убачыўшы вялікія страты ў сваім войску, ня меў адвагі наступаць на Смаленск і падаўся назад.

Мэркуры-ж, узяўшы сваю адсечаную галаву ў рукі, прыйшоў у горад. На такое дзіва назьбягалася шмат людзей. Адсечаная галава ім абвесьціла, што горад вызвалены ад небясьпекі.

Тут зноў лягэнды на розны лад гавораць аб ролі царкоўнага старасты ў абвешчаньні перамогі.

Мэркурыя ўрачыста пахавалі ў саборнай царкве. Некаторыя лягэнды дадаюць, што ён яшчэ цудоўным спосабам пераказў праз царкоўнага старасту, каб над ягоным гробам павесілі ягонае аружжа, бо яно будзе на прышласьць служыць Смаленску цудоўнаю агародаю ад ворагаў.

Ува ўсіх мэркурыявых лягэндах ёсьць шмат паэтычных дадаткаў і разьвіта вельмі моцна нацыянальнае самапачуцьцё.

Год сьмерці сьв. Мэркурыя прымаецца 1238, відаць, узяты з летапісу, як час нападу Батыя на Кіеў. А дзень сьмерці прымаецца той самы, у якім сьвяткуецца памяць вялікамучаніка Мэркурыя Кесарыйскага (з III ст.) — 24-га лістапада.

Акрамя тых супярэчнасьцяў у лягэндах, аб якіх ужо ўспаміналася прынагадна, яшчэ неабходна заўважыць, што ў іх ёсьць паважная супярэчнасьць гістарычным фактам. Гісторыя ня ведае паходу Батыя на Смаленск. Летапісы вельмі дакладна апісваюць паход Батыя, але зусім не ўспамінаюць аб тым, каб ён падыходзіў да Смаленску.

Мэркурыявы лягэнды створаны аж 300 гадоў пасьля сьмерці сьвятога, дык ня дзіва, што яны маюць шмат фантастычных дадаткаў. Асноваю да ўтварэньня лягэндаў бязумоўна мусіў служыць мяйсцовы вусны пераказ аб Мэркурыю, які меў зерне гістарычнае праўды, бо-ж доўгія стагодзьдзі былі ў вялікай пашане ягоныя мошчы ў Смаленску і яшчэ ў XVI ст. смаленцы ведалі «мейсца крыві», дзе быў забіты Мэркуры .

Фармаваліся ягоныя лягэнды на аснове заходніх уплываў аб сьвятых, якія несьлі сваю адсечаную галаву (сьв. Дзяніс Парыскі і інш), запазычаючы некаторыя падзеі з «жыцьця Аляксея чалавека Божага», лягэнды аб Дыянізію Арэопагіце, а так-жа бяручы шмат з усходніх лягэндаў: аб жыцьці і сьмерці вялікамучаніка Мэркурыя Кесарыйскага, які меў забіць Юліяна Адступніка і з лягэнды аб забойстве Батыя — паколькі ўсе гэтыя лягэнды былі ведамыя ў Смаленску.

Ад калі пачалі Мэркурыя лічыць сьвятым, няма ніякіх вестак, бо не захавалася ніякага акту ў гэтай справе, ані нават ніякага ўспаміну, калі гэта адбылося. Саборы Праваслаўнае Царквы, якія займаліся справамі кананізацыі «рускіх сьвятых», аб сьвятым Мэркурыю не ўспамінаюць. У сьвятцах ягонае імя зьяўляецца ўканцы XV ст.

Служба сьв. Мэркурыю мае аж 7 розных сьпіскаў. Найстарэйшая служба напісана ў часе, калі смаленскім япіскапам быў Варсофоній (1509-1514) і вельмі праўдападобна, што гэта сам Варсафоній напісаў тую службу на аснове першых лягэндаў аб сьвятым.

Сьвятыя астанкі Мэркурыя мелі перахоўвацца ў смаленскім Аўраамавым манастыры, дзе ў ягонае імя была асьвячана царква. Праўда часам ягоныя сьвятыя астанкі блыталі з астанкамі прэпадобнага Мэркурыя так-жа смаленскага сьвятова і з таго-ж XIII ст., якія перахоўваліся ў Кіяве. Жалезны шалом і абутак сьв. Мэркурыя да першае сусьветнае вайны перахоўваліся ў саборнай рызьніцы.

Вялікія колькасьць лягэндаў аб сьвятым мучаніку Мэркурыю вымоўна сьведчыць аб ягонай вялікай папулярнасьці ў народзе. Толькі патрэбна яшчэ ўважлівых студыяў, каб асоба гэтага мучаніка зазьзяла ў поўным сьвятле Богу на славу і людзтву на карысьць.

**а. Л. Гарошка**

# Лекары аб рэлігіі і Богу

Спаміж усіх людзей, з якімі чалавек спатыкаецца ў хвілінах гора і радасьці, лекары амаль на роўні з сьвятармі займаюць асаблівае мейсца. Дзеля гэтага адносіны лекараў да рэлігіі маюць вельмі вялікі ўплыў на рэлігійны стан таго асяродзьдзя, у якім яны выконваюць свой занятак.

Лекараў на сьвеце было ёсьць і будзе вельмі многа. Цяпер іх налічваецца бадай каля сотні тысяч. Аднак як у кожнай галіне людзкое веды, так і ў мэдыцыне, тыя людзі якія ёю займаюцца, ня ўсе стаяць на адным узроўні. У мэдыцыне больш чым дзе заўважваецца аграмадная розьніца між вядучымі лекарамі-вучонымі і звычайнымі лекарамі практыкантамі.

Лекары-вучоныя гэта тыя лекары, якія пасоўваюць упярод мэдыцынскую навуку і практыку. І нас у даным выпадку будуць цікавіць якраз гэтыя людзі; якія іх адносіны да Бога і да рэлігіі агулам?

Зразумела, што адносіны кожнага лекара да Бога маюць вялікае значэньне ня толькі для яго самога, для збаўленьня яго душы, але і для ягонага асяродзьдзя. У якім заўсёды цікавяцца ягоным сьветапаглядам. Аднак паколькі ведама, што ў аграмаднай лекарскай сям'і побач сапраўдных лекараў сустракаюцца так-жа і бяздушныя п'яўкі, якія толькі жыруюць на людзкой бядзе і цярпеньні, дык няма нічога дзіўнага, што ў гэткім асяродзьдзі можа трапіцца бязбожнік. Аднак пераглядаючы імёны вызначных лекараў-вучоных, з прыемнасьцю можна сьцьвердзіць факт, што між імі бязбожнікі ёсьць рэдкім зьявішчам. Больш таго — ад пачатку гэтага стагодьдзя ў вялікай лекарскай сям'і адчуваецца выразнае ўзмацненьне духу рэлігійнасьці. Напрыклад у Францыі заснована Таварыства Каталіцкіх Практыкуючых Лекараў ім. сьв. Лукі — колькасьць сяброў Таварыства з году ў год пабольшваецца. У Італіі так-жа паўстала Асоцыяцыя Каталіцкіх Мэдыкаў. Павялічваюцца так-жа рады лекараў-місіянароў, якія нароўні з сьвятармі аддаюць усе свае здольнасьці для пашырэньня хрысьціянства.

Ніжэй падаём думкі тых вызначных вучоных лекараў з двох апошніх стагодзьдзяў, аб якіх аўтару гэтых радкоў удалося прынагадна знайсьці весткі ў кнігах і часапісах. Гэтую акалічнасьць лічу неабходным падчыркнуть з асаблівым націскам, што тут будуць успомнены далёка ня ўсё вызначныя веруючыя лекары-вучоныя, а толькі тыя, якіх імёны трапілі ў даступную мне прэсу.

**Бартэз** (Barthez) Павал-Язэп (1734 - 1806). Францускі лекар і біялёг, увёў індукцыйны мэтад ў мэдыцыну. Быў веруючым і абразіўся, калі Лялянд залічыў яго да бязбожнікаў, бо ўважаў, што «пасьля сьмерці людзкое цела раскладаецца на складовыя элемэнты, а прынцып жыцьця лучыцца з сусьветам; душа-ж вяртаецца да Бога, які яе яму даў і забясьпечыў ёй трываньне і несьмяротнасьць».

**Леэннэк** (Laënnec) Юльян-Францішак (1748-1822) Слаўны францускі лекар у Нансі, дзядзька і першы настаўнік вялікага Леэннэка. У адной з інаўгурацыйных лекцыяў казаў: «О Божа маіх продкаў! Калі-б студыі майго фаху мелі вясьці мяне не да чаго іншага, як толькі да таго, каб сумнявацца аб Тваёй магутнасьці, калі-б праз іх я ў гэтым немачным целе не знайходзіў прылады мае думкі — гэтае несьмяротнае і вольнае душы, якую я маю з Твае дабраты; калі-б я меў прыпадобніцца да неразумнае жывёлы, здэградаваць усю маю істоту... о, тады лепш вярні мне маё нязнайства! Не дазволь, каб я зьневажаў Тваё Імя. Тады-б я лепш ня студыяваў!»

**Зоммэрынг** (von Sommering) Самуіл Тамаш (1755-1830). Выдатны вучоны анатом-паталёг, шмат прыслужыўся ў досьледах паталёгіі органаў зmыслу. Верыў у Бога і прызнаваў існаваньне душы.

**Ганэман** (Hahnemann) Самуіл Фрыдрых (1755-1843). Адзін з асновапаложнікаў гомэопатыі. Яго выхадным пунктам было: Ёсьць адзін Бог, Які адначасна ёсьць самою дабратою і мудрасьцю; Ён мусіў стварыць сродкі, каб лэўна лячыць хваробы.

**Кабані** (Cabanis) Пятро, Ян, Жорж (1757-1808). Францускі вучоны лекар, які запачаткаваў псыхафізыялёгію. У сваёй пачаткавай кар'еры быў бязбожнікам, але потым прыйшоў да прызнаньня Бога і несьмяротнасьці душы.

**Гуфэлянд** (Hufeland) Хрыстафор, Вільгльм (1762-1836). Выдатны нямецкі лекар. У жыцьці і дзейнасьці праяўляў сваю шчырую веру.

**Лярэй** (Larrey) Дамінік-Ян (1766-1842). Слаўны хірург наполеонаўскае арміі, званы «Правід для жаўнераў». Ён шмат прычыніўся да разьвіцьця захаваўчае хірургіі. Быў глыбока веруючым.

**Рошлянд** (Roschland) Й. А. (1768-1835). У сваім часе быў выдатным і шырокаведамым лекарам і так-жа ведамым з свае шчырае веры.

**Біша** (Bichat) Марыян Францішак (1771-1802). Вельмі здолны і выдатны францускі мэдык-анатом, творца агульнае навучнае анатоміі, не зважаючы на сваю маладосьць. Заўсёды захаваў сваю веру і практыкаваў яе.

**Эсквіроль** (Esquirol) Ян Сьцяпан Дамінік (1772-1840). Францускі мэдык, стварыў так званую мэнтальную паталёгію. У маладосьці меў нахіл да сьвятарства, а стаўшы лекарам захаваў сваю шчырую веру.

**Байль** (**Bayle**) Гаспард Лаўрэнт (1774-1816). Выдатны францускі лекар у хваробах лёгкіх. Быў шчыра і глыбока веруючым.

**Бэль** (**Bell**) Шарль (1774-1812). Славуты хірург і фізыялёг, першы разрозьніў матарычныя і чуцьцёвыя нэрвы. Глыбока веруючы, на выкладах часам казаў: «Лекцыі анатоміі, якія я вам чытаю, гэта ўласьціва мусіць быць гымн для ўслаўленьня Стварыцеля». Паводля пратэстанцкага звычаю перад сьмерцю казаў сабе чытаць псальмы і малітвы.

**Бюісон** (**Buisson**) Матэй Францішак (1776-1805). Вызначны францускі лекар, быў першым старшынёю Кангрэгацыі Дзевы Марыі.

**Фіцо** (**Fizau**) Людовік (1776-1865). Выдатны францускі лекар, сябра Кангрэгацыі Дзевы Марыі.

**Дюпійтрэн** (**Dupytren**) Вільгэльм (1777-1835). Адзін з найбольшых хірургаў XIX веку. Меў вельмі сварлівы і няўступчывы характар, але як хірург быў беззаганны. Быў веруючым і паколкі дазваляў час — практыкуючым.

**Леэннэк** (**Laënnec**) Рэнэ Хведар (1781-1826). Свайго часу быў найбольшым лекарам у Францыі, асновапаложнік аскультацыі і пэркусіі. На тле бязбожнага і абыякавага асяродзьдзя, яго пабожнасьць зьвяртала на сябе агульную ўвагу. Аднойчы падчас падарожжа з Брэста ў Парыж, зударыліся вагоны, ён упарадкаваўшы свае рэчы, адазваўся да свае жонкі: «Мы ў чотках спыніліся...» І далей маліліся быццам нічога ня сталася.

**Рэкам'е** (**Recamier**) Язэп Клёд (1784-1852). Выдатны хірург, увёў шмат новых мэтадаў апэрацыяў і новых інструмэнтаў, мае так-жа нямала заслугаў у гінэкалёгіі. Быў глыбока веруючым і выступаў у абароне Царквы.

**Прішар** (**Prichard**) Жэмс (1786-1848). Выдатны мэдык і анпрапалёг, быў веруючым.

**Сэр** (**Serres**) Антон Сьцяпан Рэно (1787-1868). Выдатны вучоны ў галіне эмбрыялёгіі і параўнаўчае анатоміі. Хоць з сваею вераю ня надта маніфэставаўся, але і не хаваўся. У сваіх творах прыпагадна гаварыць аб: «прадбачлівай інтэлігэнцыі твораньня», аб «Правідзе, які выціскае сваё таўро».

**Бэрар** (**Berard**) Язэп Фрыдрых (1789-1828). Выдатны францускі лекар, адзін з асновапаложнікаў мадэрнае псыхафізіялёгіі. Актыўна выступаў супраць бязбожжа: «Гісторыя рэлігійных ідэяў сьведчыць аб тым, што яны нясуць з сабою ўдасканаленьне, а так-жа і прагрэс у навуцы. Найбольшыя фізыкі былі людзьмі рэлігійнымі. А ўсе тыя фізыкі і астраномы, якія не ўзьняліся да Бога, ёсьць людзьмі з абмежаваным духам, які быў усяго на толькі здольным, каб усхрыняць толькі мэханічную частку іхняе навукі, але ня змог узьняцца па-над матэматычныя формулы».

**Карус** (**Carus**) Карл Густаў (1789-1869). Вялікі вучоны анатом; быў веруючым, аб чым ясна выказваўся ў сваіх творах.

**Ростан** (**Rostan**) Людовік Лявон (1791-1866). У сваім часе шырокаведамы францускі лекар, арганізатар т. зв. арганіцызму, які сёньня аджыў свой век. Міма матэрыялістычнае рэпутацыі верыў у Бога і прызнаваў несьмяротнасьць душы.

**Крувэйе** (**Cruveilhier**) Ян (1791-1874). Выдатны францускі лекар, які ўнёс шмат новага ў анатома-паталягічную веду. Ягоная нязвычайная інтэлігэнцыя зрабіла яго ведамым ужо з-замаладу. Быў глыбока веруючым і перш нават думаў стацца сьвятаром.

**Шэнляйн** (**Chönlein**) Людовік (1793-1864). Выдатны лекар — быў веруючым.

**Флюрэнс** (**Flourens**) Мар'ян Ян Пятро (1794-1867). Вялікі і плодны францускі фізыялёг, асновапаложнік экспэрымэнтальнае фізіялёгіі. Асабліва ведамыя яго працы ў галіне фізіялёгіі мозгу. Спачатку быў вольнадумцам, але потым супрацівіўляўся матэрыялістам, прызнаваў існаваньне Бога і душы.

**Буйод** (**Bouillaud**) Ян (1796-1881). Выдатны францускі лекар клініст. Спачатку быў пад уплывам матэрыялістаў, але ў меру сваіх студыяў здабыў веру, быў практыкуючым хрысьціянінам і прызнаваў эвангельскія цуды.

**Дужэ** (**Dugês**) Антон Людовік (1797-1838). Францускі мэдык-фізіялёг. У сваіх выкладах казаў, што «фізіялёгія хутчэй прыводзіць людзкі дух да асноўных прынцыпаў рэлігіі, як аддаляе ад іх».

**Андраль** (**Andral**) Гаўрыіл (1797-1840). Выдатны францускі лекар. Ягоныя досьледы крыві і залозкаў яшчэ і да сёньня ня страцілі свае вартасьці. Быў веруючым і практыкуючым.

**Эшрыхт** (**Eschricht**) Даніла Фрыдрых (1798-1863). Выдатны нямецкі вучоны анатом, вызначыўся сваімі назіраньнямі развою істотаў і гэнэтычнае марфалёгіі. Быў веруючым і пабожным, выступаў супраць матэрыялізму.

**Бойль** (**Bayle**) Антон (1799-1858). Выдатны францускі лекар, напісаў некалькі паважных твораў з галіны мэдыцыны. Быў глыбока веруючым і належаў да марыйскае кангрэгацыі.

**Труссо** (**Trousseau**) Арно (1801-1867). Выдатны францускі лекар клініст і сябра Акадэміі. Сваю веру выказаў нават у акадэмічных прамовах.

**Вольман** (**Volkmann**) Альфрэд Вільгэльм (1801-1877). Вельмі плодны фізіялёг. У адным з сваіх твораў кажа: «Мы ня можам бачыць і намацваць сілаў, якія дзейнічаюць паводля пляну, але мы можам рабіць выснаўкі аб іх існаваньні па выніках іхняе працы... Калі-б у пустыні, дзе паводля нашае думкі, ня ступала людзкая нага, мы наткнуліся на будову з чэсаных каменяў і склееных вапнаю, дык нам будзе зусім ясна, что гэтую будову рабіў нехта з нейкаю мэтаю і паводля раней абдуманага

пляну... Але-ж арганічныя целы куды больш плянамерныя, чым такія будынкі. Галоўнаю прычынаю кожнага арганічнага разьвіцьця ёсьць валадараньне аднае разумнае сілы, якая дзейнічае паводля азначанага пляну і выбірае неабходныя для ўзьнікненьня ўмовы».

**Боннэ (Bonnet)** Андрэй (1802-1858). Выдатны францускі хірург; быў веруючым і практыкуючым.

**Вагнэр (Wagner)** Рудольф (1805-1864). Ведамы нямецкі прафэсар фізіялёгіі ў Гэттінгэн. Шмат пісаў аб духовасьці душы. Свабоду волі і несьмяротнасьць прызнаваў як неаспрэчныя праўды. Публічна выступаў супраць матэрыялістычнае дактрыны Фогта, цьвердзячы, што філязафічныя праўды і багаслоўскія догмы веры ня ёсьць зьбітыя прагрэсам прыродазнаўчае навукі.

**Кост (Coste)** Жан-Жак (1807-1873). Ведамы францускі лекар і вучоны эмбрыялёг. Прынагадна казаў: «Навука, такая як мы яе разумеем, выяўляе законы ў сусьвеце: адны ніжэйшыя, неарганічныя, якія ня могуць абыйсьці фатальнасьці ухілу, калі так можна сказаць; другія вышэйшыя, духовыя, актыўныя, якія падпарадкоўваюць тыя першыя законы, авалодваюць іх, каб паслугоўвацца імі для сваіх плянаў, для Божага права і для прагрэсу. Адны слухаюцца, другія загадваюць. Такім чынам Бог, як пачаткавая сіла, ўпарадкаваў, што жывёла ёсьць матэрыяльным сродкам, а чалавек — мэтаю. Такая ёсьць формула, якая выплывае з навукі і паводля мае думкі ёсьць рэгабілітацыяю духа, прычынаю прагрэсу. Адгэтуль навуку можна здэфініяваць так: гісторыя сьвету, якая вучыць аб Богу».

**Нэлятон (Nelaton)** Аўгуст (1807-1873). Выдатны францускі хірург, вынайшаў шмат прыладаў і вынайшаў новыя спосабы апэрацыяў — быў веруючым.

**Пірогов** Мікола Іванавіч (1810-1881). Выдатны расейскі хірург і псыхалёг, сябра Акадэміі Навук, вынайшаў шмат новых мэтадаў у апэраваньні косьцяў. Выступаў востра супраць бязбожжа, называючы яго «вераю ў нішто». Аб Богу пісаў: «Існаваньне Найвышэйшага Розуму, а значыць і найвышэйшае Творчае Сілы, я лічу неабходным і нямінучым вымаганьнем майго розуму, так што, каб я і хацеў няпрызнаваць існаваньня Бога, дык ня мог-бы гэтага зрабіць, не звар'яцеўшы».

**Лянгэнбэк (Langenbeck)** Бэрнард (1810-1887). Выдатны нямецкі хірург, які ўславіўся сваімі плястычнымі апэрацыямі; быў веруючым.

**Гіртль (Hyrtl)** Язэп (1811-1894). Выдатны аўстрыйскі анатом і фізіялёг. Калі быў рэктарам унівэрсытэту ў Вене (1864 г.), якраз выпалі сотыя ўгодкі заснаваньня унівэрсытэту. На урачыстасьці з гэтае нагоды ён востра асудзіў матэрыялізм, які там раней сустракаўся.

**Саймпсон (Simpson)** Джэмс Юнг (1811-1870). Выдатны ангельскі хірург у Эдынбургу. Першы прымяніў мэтадычна і рашуча анэстэзію ў вялікіх апэрацыях. Быў веруючым.

**Лёнжэ (Longet)** Францішак Ахіл (1811-1871). Выдатны лекар, канзультант імпэратара, азначаўся досьледамі ў фізіялёгіі нэрвовае сыстэмы. Быў практыкуючым католікам.

**Майер (Mayer)** Робэрт (1814-1878). Нямецкі лекар і фізык. Быў пратэстантам, але глыбокаверуючым. У ягоных творах часта сустракаюцца прыгожыя рэлігійныя думкі. Дзейнасьць мозгу ён прыраўноўваў да дзейнасьці тэлеграфу, і падобна як зьмест дэпэшы нельга выясьніць тэхнічна, так і зьмест думкі. У сваіх творах выразна зазначыў, што стаіць на антыматэрыялістычным становішчы.

**Ван Віерорд (van Vierordt)** Карл (1818-1884). Выдатны прафэссар анатоміі. Казаў да сваіх студэнтаў: «У чаканьні, пакуль вашая інтэлігэнцыя будзе даволі сьпелая, каб ясна ўстанавіць рэлігійныя пагляды, верце майму запэўненьню, якое вам даю па прыяцельску Вера ў боскасьць рэлігіі Ісуса Хрыста паручаецца нам не бяз прычыны; сапраўдная пабожнасьць ёсьць так-жа далёкая ад сумна замкнёнага піетызму, як і павярхоўны дух, які хвастаецца, што ўсё выясьніў. Яна пакідае розуму ўсе яго правы, як адносна сумненьня ў нашае надпрыроднае прызначэньне, так і адносна даверу ў Божы правід».

**Бушю (Bouchut)** Аўгень (1818-1891). Выдатны лекар нэўралёг, які першы выдзяліў «нэрвізмы» з нэўро-паталягічных замяшаньняў. Быў веруючым.

**Гэўктон (Haughton)** Самуіл (1821-1897). Ведамы ангельскі лекар. Нямала пісаў на розныя тэмы. Быў веруючым.

**Вірхоў (Virchow)** Рудальф (1821-1902). Нямецкі лекар і паталёг. Спачатку быў матэрыялістам, але пасьля 28 г. заняў зусім супрацьлеглае становішча і аб тым пэрыядзе свайго жыцьця казаў: «Нажаль маё ранейшае перакананьне было цяжкаю памылкаю».

**Шофар (Chauffard)** Паўло Эміль (1823-1879). Выдатны прафэсар мэдыцыны, быў шчыра веруючым і ў сваіх творах выступаў у абароне рэлігіі.

**Дэ Вэрней (de Verneuil)** Арыстыд Аўгуст (1823-1896). Выдатны францускі хірург, які шмат прычыніўся да распрацаваньня мэтаду затрыманьня крыві пры апэрацыях, а так-жа паглыбіў веды лячэньня сухотаў і слупняку. Быў веруючым.

**Потэн (Potain)** Пятро Карл (1825-1901). Вучоны лекар клініст, ведамыя ягоныя досьледы паталёгіі сэрца. Быў веруючым, але непрактыкуючым.

**Фон Грэфэ (von Gräfe)** Альбэрт (1828-1870). Вызначны нямецкі лекар акуліст. Быў веруючым.

**Нусбаум (Nussbaum)** Й. М. (1829-1890). Выдатны нямецкі хірург. Быў веруючым і памёр са славамі на вуснах: «Слава Ісусу Хрысту!»

**Більрот (Billroth)** Тэодар (1829-1894). Адзін з вызначнейшых хірургаў свайго часу, быў веруючым.

**Фолькман (Volkmann)** Рышард (1830-1889). Аб ім свайго часу гаварылі: «Слаўны нямецкі хірург і вялікі хрысьціянін».

**Пэан (Péan)** Юлі Эміль (1830-1898). Выдатны францускі хірург, які адначасна з Кэбэрлі пачаў ужываць падчас апэрацыі гэмастатычныя сродкі. За жыцьця хоць быў веруючым, але непрактыкуючым. Калі-ж адчуў надыходзячую сьмерць, крычаў: «Хутчэй паклічце мне сьвятара» і памёр хрысьціянскаю сьмерцю.

**Фон Графэ (von Grafe)** Альфрэд Карл (1830-1899). Выдатны нямецкі лекар, быў веруючым.

**Оліе (Ollier)** Людовік Эдвард (1830-1900). Выдатны францускі хірург з Ліёну. Уславіўся рэнавацыйнымі апэрацыямі косьцяў і нават суставаў. Быў веруючым, але непрактыкуючым.

**Фабр (Fabre)** Аўгуст (1836-1884). Выдатны францускі лекар. Аб ягонай глыбокай веры найлепш сьведчыць тое, што народ яго ўважаў за сьвятога.

**Бэргман (Bergmann)** Эрнэст (1836-1906). Выдатны нямецкі хірург, які першы ў Нямеччыне ўвёў асэптыку пры апэрацыях. Быў глыбока веруючым і калі сам мусіў легчы на апэрацыйны стол, дык прасьпяваў перш пабожную песьню.

**Тэр'е (Terrier)** Людовік Фэлікс (1837-1908). Выдатны францускі хірург, які першы ўвёў асэптыку ў Францыі. За жыцьця быў вольнадумцам, але падчас свае 6-ці месячнае хваробы навярнуўся і памёр выспавядаўшыся ў запрычашчаўшыся.

**Готье (Gautier)** Арман (1837-1920. Францускі лекар і хэмік, прафэсар мэдыцынскага факультэту. Вызначыўся сваімі студыямі лячобных ўласьцівасьцяў аршэніка. Быў «вялікім хрысьціянінам».

**Кох (Koch)** Робэрт (1843-1910). Славуты нямецкі лекар і бактэрыялёг, адкрыў бактэрыі сухотаў, віброн халеры інш. Удасканаліў лекарскую тэхніку. Быў веруючым.

**Люкас Шампіённер (Lucas Championnière)** Юст Мар'ян (1843-1913). Выдатны францускі хірург, які шмат прычыніўся да пашырэньня ў хірургічнай практыцы антысэптыкі. Калі аднойчы яму гратулявалі за добрыя вынікі апэрацыяў, адказаў: «Магчыма што мой асабісты спрыт тут да чагосьці прыдаецца, але ў добрых выніках ёсьць іншая прычына: Я ніколі не запускаю скальпеля ў цела, не згаварыўшы перш «Ойча наш» і «Прывітана будз».

**Рэно (Renaut)** Язэп Людовік (1844-1917). Шыракаведамы францускі лекар і вучоны гісталёг. Зрабіў шмат адкрыцьцяў. Быў вельмі глыбока рэлігійным і аб сваіх рэлігійных пераканань-нях казаў: «Я ня веру, што ёсьць Бог, я знаю што Ён ёсьць. І ня пытайце мяне: чаму? Бо я вам адкажу, што гэтая ідэя сама кладзецца ў мой дух зусім незалежна ад якога небудзь доказу». Памёр, прыняўшы ўсе Сьвятыя Тайніцы.

**Грассэ (Grasset)** Язэп (1849-1918). Шыроккаведамы францускі лекар нэўралёг, унёс шмат новага сваімі нэўралягічнымі студыямі. Уважаў, што навука і вера «не супрацьставяцца сабе, ані ня супярэчаць сабе, але дапаўняюцца».

**Рішэ (Richet)** Карль (1859-1935). Францускі лекар фізіялёг, выкрыў зьявішча анафіляксыі і сфармуляваў права сэратэрапіі. Ляўрэат ноблеўскае нагароды ў 1913 г. У часапісе Revue scientifique 2. VII. 1899 г. пісаў: «Адаптацыя органаў да тае дзейнасьці, якую яны выконваюць, ёсьць на толькі дасканалаю, што змушае зрабіць такі выснавак: адаптацыя ня ёсьць прыпадковаю, але намеранаю».

**Ван Гэхухтэн (Van Gehuchten)** Артур (1861-1914). Выдатны бэльгійскі лекар нэўралёг, зрабіў шмат вартасных выясьненьняў адносна нэрвовае сыстэмы. Быў глыбокаверуючым і практыкуючым каталікам, які ня стыдаўся голасна ў лябораторыі заявіць: «Сёньня я мушу хутчэй выйсьці, бо йду спавядацца, каб заўтра разам з ўсёю сям'ёю прыступіць да сьвятога Прычасьця».

**Дэлянгляд (Delanglade)** Эдвард (1868-1917). Выдатны францускі ваенны хірург. Памёр на фронце з словамі на вуснах: «Цяпер я належу толькі да Бога». Штодзенна прычашчаўся нават на фронце. Аб ягонай пабожнасьці пісаў капэлян да ягонае ўдавы: «Мадам, вы можаце сказаць вашым любым дзецям,... што іхны бацька быў сьвятым чалавекам, прынамся я яго лічу такім».

**Адлер (Adler)** Альфрэд (1870-1937). Аўстрыйскі лекар нэрвовых хваробаў і асновапалоўжнік індывідуальнае псыхалёгіі. Ягоныя маральныя вымогі зусім адказваюць каталіцкай этыцы: «Суб'ектыўнае паддаваньне сябе сэксуальным гонам і няпрыстасаваньне сябе да грамадзкае рэальнасьці зьяўляецца прычынаю нэрвіцаў, а дабравольнае прыстасаваньне да грамадзкіх і этычных нормаў ёсьць умоваю здароўя і характару».

**Карэль (Carrel)** Аляксей (1873-1944). Выдатны францускі лекар фізыялёг, адкрыў спосаб прышчапленьня скуры, закон біялягічнага веку і інш. У пачаткавай лекарскай кар'еры быў няверуючы, навярнуўся пасьля падарожжа ў Люрд і напісаў некалькі глыбокарэлігійных твораў, якія атрымалі сусьветны розгалас. Атрымаў нагароду Нобля ў 1913 г. У сваіх творах даказваў неабходнасьць захаваньня каталіцкае маральнасьці, бо «чалавек выраднее, калі поўнасьцю заспакойвае ўроджаныя фізіялягічныя схільнасьці». А на ін-

шым мейсцы кажа: «Атрофія сэнсу сьвятасьці і маральнасьці ёсьць аднолькава шкодныя, як і атрофія інтэлігэнцыі». «Простыя душы могуць адчуваць Бога так-жа лёгка, як яны адчуваюць сонечнае цяпло, ці дабрату прыяцялёў».

**Москатьті (Moscatti)** Язэп (1880-1927). Выдатны італьянскі лекар, прафэсар мэдыцыны ў Нэапалю і хірург сусьветнае славы. Напісаў 32 навуковыя працы. Быў шчыра і глыбока веруючым. Для яго «пад постацьцю хворых знайходзіўся цярпячы Хрыстос». Аб крыніцы свае ахвярнае працы пісаў у сваім дзёньніку: «Ісусе, Твая любоў падымае мяне ўвысь, асьвячае мяне і схіляе ня толькі да аднаго сатварэньня, але да ўсіх, да бесканечнага прыгаства ўсяго таго, што мае Твой абраз ў падабенства». Народ яго лічыў за сьвятога і ад 1949 г. вядзецца **ягоны бэатыфікацыйны працэс.**

**Дікінсон (Dickinson)** Робэрт. Вызначны амэрыканскі лекар гінэкалёг, які нядаўна памёр у глыбокай старасьці. Быў глыбока веруючым і сам укладаў малітвы. Вось адна з іх: «Дзякую Табе, Стварыцелю і даўцу ўсіх рэчаў за прыгаство і велічнасьць гэтага сьвету; за цудоўнасьць неба і мора; за прасьцяглыя і квяцістыя нівы; за хвалюючыя палі... Памажы нам, о Божа, каб ніколі не забыліся аб пачатку гэтых дараў! Вучы нас дзякаваць Табе ня толькі ад шчырага сэрца, але ўсімі ўчынкамі нашага жыцьця. Каб тая падзяка была такая вялікая, як Тваё мора; адкрытая і чыстая, як Тваё неба; і каб ставалася ўсё большаю і прыгажэйшаю! Аман».

**Мэнар (Menard).** Францускі лекар дасьледнік, памёр як ахвяра сваіх досьледаў, не пакідаючы іх да апошняе хвіліны свайго жыцьця. Быў практыкуючым каталікам і памёр пабожнаю сьмерцю.

**Баўэр (Bauer)** К. Н. Прафэсар мэдыцыны і рэктар унівэрсытэту ў Гайдэльбургу. Падчас адкрыцьця 1945/46 акад. навучальнага году казаў: «Для унівэрсытэтаў цяпер найбольш актуальным ёсьць кліч: «Назад да рэлігіі!» Сапраўды цяпер у Унівэрсытэтах мусіць дзейнічаць божая мудрасьць... Вялікія лекары заўсёды былі толькі тыя, якіх прыродазнаўчая навука і веда моцна стаялі на фундамэнце рэлігійнае асьветы і глыбокае этыкі».

**Мак Кормік (McCormick)** Эдвард. Шырокаведамы амэрыканскі лекар і старшыня Амэрыканскага Лекарскага Таварыства. Аднойчы заявіў студэнтам мэдыцыны: «У мэдыцыне няма мейсца бязбожнікам і матэрыялістам. У мэдыцынскім пакліканьні маецца дачыненьне з «сьвятарскім заданьнем». І калі хто йдзе за голасам гэтага пакліканьня, Той мусіць тым самым дбаць так сама аб людзкой душы, як і аб людзкім целе. Кодэкс мэдыцынскае этыкі мае сваю аснову на дзесяці Божых прыказаньнях. А чыста рамесьленьніцкае ўзгадаваньне лекараў, якое можа прывесьці да запярэчаньня існаваньня вышэйшае Істоты, на ўзор і падабенства якое сатвораны чалавек, ёсьць бессансовасьцю».

**Франкль (Frankl)** Віктар. Ведамы сучасны аўстрыйскі лекар, прафэсар нэўралёгіі і псыхіятрыі ў Вене і старшыня Аўстрыйскага Таварыства Псыхіятрыі. У зьвязку з ягонаю тэорыяю аб рэлігійнай псыхалёгіі вучоныя загаварылі, што «псыхіятрыя адкрыла Бога», бо др. Франкль цьвердзіць. што «людзі маюць непераможнае жаданьне Бога». «Рэлігія ёсьць чымсьці, што мы хаваем у сабе, ёсьць жыцьцёвым вымаганьнем. Мы можам затаіць перад іншымі людзьмі нашыя найглыбейшыя пачуцьці адносна Бога, але калі мы іх утойваем перад нашаю ўласнаю сьведамасьцю, тады выклікаем у сабе страшэнныя канфлікты».

**Гаўзэр (Hauser)** Густаў. Нямецкі лекар і прафэсар анатоміі ў Эрлінгэн. У сваёй аўтабіяграфіі піша: «Народ, які ў сваёй большай часьці страціў веру ў Бога і ў духовы сьвет, ёсьць прыгавораны на найгоршы матэрыялізм, а тым самым і на загубу. Ня прызнаючы асабовага Бога, увесь сусьвет, чалавек і людзкое жыцьцё — ня маюць ніякага сэнсу».

**Мак Крэкэн (McKreken)** Ведамы сучасны амэрыканскі лекар. Прамаўляючы аднойчы ў Нью Ёрку аб значэньні малітвы для здароўя між іншым сказаў: «Каб увесь чалавек быў здаровы, ён мусіць дбаць і аб здароўі цела, і аб здароўі душы. Мусіць дбаць і пра дзейнасьць цела і пра дзейнасьць душы. Сьветам для духовае дзейнасьці ёсьць рэлігія, а ў ёй важнае мейсца займае малітва. Яна падносіць чалавека па-над будзёншчыну; мацуе яго сілы; прыводзіць да раўнавагі; раскрывае перад чалавекам вышэйшы сьвет — ідэальны. Малітва лечыць духовыя немачы, якіх нішто іншае ня можа вылечыць. Яна ёсьць жыватворчаю сілаю для ўсяго чалавека...»

**Кільліян (Killiam).** Сучасны ведамы як і ягоны бацька, нямецкі прафэсар хірургіі ў Франкфурце. Нядаўна апублікаваў кнігу аб сваёй лекарскай практыцы. У кнізе нічога аб Богу не гаворыць, але загаловак кнігі: «За намі стаіць толькі Бог» кажа вымоўна, аб рэлігійных пераканальнях аўтара.

**Вайт (Whit)** Павал Дудлей. Выдатны сучасны амэрыканскі лекар, спэцыяліст хваробаў сэрца. Лячыў прэзыдэнта Айзэнгаўэра. У сваім артыкуле для Асошэйтэд Прэс між іншым пісаў: «На гэтым мейсцы хачу падчыркнуць сьцьверджаны факт, што рэлігійнае разважаньне, адправы багаслужэньняў і малітва — часта прыносяць ня толькі ўздым духа, але так-жа супакой розуму і фізычны адпачынак».

***

Да гэтага сьпісу яшчэ трэба было-б залічыць так-жа тых вучоных з блізкіх да мэдыцыны галінаў навукі, якія сваімі працамі шмат прычыніліся

да поступу мэдыцыны. Напрыклад гэніяльны францускі біялёг, фізіялёг і хімік **Пастор** Людовік (1822-1895) сваім вынаходам іммунітэтнага шчэпленьня зрабіў аграмадны крок уперад у лячэньні шматлікіх хваробаў. І гэты гэніяльны вынаходнік быў агулна ведамы з свае глыбокае пабожнасьці. Калі яго аднойчы спыталіся, як ён такі вялікі вучоны і верыць у Бога,. адказаў: «Якраз дзеля таго, што я шмат перадумаў і шмат студыяваў, я стаўся веруючым, як брэтонец (Брэтонія — найбольш пабожная правінцыя Францыі). А калі-б я больш разважаў і больш студыяваў, дык-бы стаўся веруючым як брэтонка». Ён востра выступаў і словам і на пісьме супраць моднага ў тым часе пазытывізму. Памёр ён з крыжам у руках і вызнаньнем веры і надзеі на вуснах. І такіх вучоных ёсьць нямала.

Нажаль рамкі артыкулу змушаюць сьцісла трымацца тэмы. Бо як ужо было ўспомнена перш, нават і гэты немалы сьпіс ёсьць толькі дробнаю часткаю ўсіх тых выдатных вучоных лекараў, якія ня толькі верылі ў Бога, але і выконвалі практыкі свае рэлігіі.

**Сабраў а. Л. Гарошка**

# Вучоны аб сваім наверненьні да Бога

Адзін з шырокаведамых вучоных у Злучаных Штатах Паўн. Амэрыкі Н. Я. Стовэл, які разам з экіпаю вучоных супрацоўнікаў працаваў ў галіне атамнае энэргіі, быў зацятым атэістам. Але падчас сваіх досьледаў, робячы нямала вялікіх адкрыцьцяў, ён зрабіў і такія, якія змусілі яго паважна задумацца над сваім сьветаглядам. Гэтыя разважаньні давялі вучонага 12 чэрвеня 1952 г. да Бога. Вось, як піша аб гэтым сам Н. Я. Стовэл:

«Я быў перакананым атэсістам і лічыў, што Бог ёсьць прадметам фантазіі веруючых энтузіястаў. Але ў нашай навуковой працы мы зрабілі дзіўнае адкрыцьцё з дзейнасьці людзкіх мазгоў. Мы знайшлі, што мазгі зьяўляюцца свайго роду надаўчаю радыёстанцыяю. Хутка пасьля гэтага нам удалося знайсьці даўжыню яе хваляў і выявіць цэлую скалю тых хваляў. Даўжыня гэтых хваляў рэзка адрозьнівалася адна ад другое.

Мы былі зацікаўлены ў тым, каб зрабіць такі экспэрымэнт, які-б выяўляў, што дзеецца ў мазгох, калі чалавек памірае. Нам трапіўся выпадак, што мы мелі магчымасьць назіраць сьмерць аднае веруючае жанчыны. Яна нават не дагадвалася, што ў суседнім пакоі мы расставілі інструманты і апараты неабходныя для досьледу. Нас было пяцёх ведамых вучоных і ўсе мы з нецярпеньнем чакалі вынікаў нашага досьледу. Усе мы былі атэістамі, але я быў найбольшым спаміж іх. Між нашымі апаратамі быў адзін, што вымяраў сілу думкі. Гэты апарат меў шкалю з падзелкаю: на сярэдзіне быў нуль, а ў адзін і ў другі бок па 500 ступеняў. Сьпярша гэтым апаратам мы вымералі сілу электрамагнэтычных хваляў аднае з наймагутнешых радыёстанцыяў ЗША — стрэлка нашага апарату паказвала 9 ступеняў.

Калі зблізжаўся час сьмерці тае кабеты, яна пачала дзякаваць Богу і ўслаўляць Яго. Яна прасіла ў Бога ласкі і дараваньня ўсіх сваіх правінаў; выказвала сваю веру ў дараваньне грахоў праз крыжовую сьмерць Ісуса Хрыста. Яна цешылася, што хутка пераселіцца ў іншы сьвет. Мы, вучоныя, седзечы ў суседнім пакоі, былі так узрушаны яе шчыраю малітваю, што забыліся аб нашых інструмэнтах. Я мушу прызнацца, што ў нас на вачох былі сьлёзы. Нас прабудзіў званок апарату. Калі мы глянулі на шкалю, дык не хацелі верыць сваім вачом. Стрэлка стаяла на плюс 500 ступеняў і намагалася падняцца яшчэ вышэй, але канструкцыя апарату яе далей ня пускала. Мы, неімаверна зьдзіўленыя, паглядалі адзін на другога; першы раз у гісторыі чалавецтва была зьмерана сіла малітвы веруючага чалавека. Яна была ў 55 разоў большая за наймагутнейшую радыёстанцыю ў ЗША. Гэта разваліла ўсе мае атэістычныя перакананьні.

Праз некаторы час мы вырашылі паўтарыць гэты досьлед над другім уміраючым чалавекам, які быў заўзятым бязбожнікам. Мы зноў паставілі апараты ў суседнім пакоі і папрасілі мэдыцынскую сястру пагаварыць з уміраючым. Ён расказаў сястры, што расчараваўся ў Бога і людзях. Стрэлка нашага апарату пачала пасоўвацца ў ад'емны бок, а калі ўміраючы пачаў праклінаць усіх і ўсё — тады зазваніў званок апарату; стрэлка паказвала мінус 500 ступеняў. Гэткім спосабам была зьмерана так-жа і сіла злых думак, праклёнаў. Тут я паважна задумаўся: калі мы, вучоныя, можам зьмераць сілу электрамагнэтычных хваляў веры, малітвы дабра, а так сама і сілу зла, што паходзіць з нашае істоты, дык чаму-ж тады ня можа Бог чытаць нашых думак і адначасна прымаць сьведчаньня нашых мазгоў, якое выказваецца ў малітве?! Гэтае пытаньне паставіла мяне тварам у твар перад усебачучым і ўсёзнаючым Богам. Увесь мой дагэтулешні атэсістычны сьветагляд разьляцеўся ў друзы. Як чэсны дасьледнік, я ня мог запярэчыць праўды. Цяцер я шчасьлівы хрысьціянін і верую ў Хрыста, як майго Збавіцеля».

**Паводля часапісу**

**«Духоўнае прабуджэньне».**

# АБ СЯМЕЙНЫМ ВОГНІШЧЫ

## МЭТА СУЖЭНСТВА

Аб тым, якая ёсьць мэта сужэнства і аб тым, чаго можна і трэба шукаць у сужэнстве, магчыма даведацца не з нашых людзкіх меркаваньняў, але перадусім з волі Валадара сусьвету. Першыя жывыя істоты зьявіліся на зямлі з волі Бога; іхняе далейшае існаваньне Бог унармаваў законамі, якія звычайна называюцца прыроднымі законамі. Паводля гэтых законаў для далейшага разьвіцьця людзкога роду Бог устанавіў сужэнства, багаславіў яго як асаблівае сужыцьцё мужчыны і жанчыны: «Пакіне чалавек бацьку свайго і маці сваю і прыстане да жонкі свае, і будуць двое ў адным целе» (Быц. 2. 24), «Дык ужо іх ня двое, але адно цела. Вось-жа што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае» (Мар. X, 8-9).

Вось-жа мэтаю сужэнства ёсьць найшчырэйшая лучнасьць людзей рознае плоці для прадоўжаньня людзкога роду і для ўзаемнае помачы. Значыць у першую чаргу — роджаньне і ўзгадаваньне дзяцей, а далей узаемная дапамога на жыцьцёвым шляху, ўзаемнае падтрыманьне. Дзеля гэтага Бог даў мужчыне і жанчыне розныя характары, якія ў сужэнстве сябе дапаўняюць. Энэргія, адвага, здабыўчасьць — у мужчыны і ласка, дбайлівасьць, чуласьць ды гаспадарнасьць — у жанчыны. Заўсёднае змаганьне за жыцьцё зламала-б хутка жанчыну без дапаможнае рукі мужчыны; а без жаночае ласкі і сэрца счарствела-б адвага і выгасла-б дамашняе вогнішча. Творчая і дзейная сіла жанчын значна меншая чым у мужчын, але затое цярплівасьці і вытрываласьці жанчыны маюць куды больш чым мужчыны. У супольным спалучэньні з шчырае любові гэтых адменных натураў ствараецца нявычарпальны чар сямейнага жыцьця. У прыпадковых злучэньнях такога чару ніколі ня бывае; наадварот, яны выклікаюць сум, расчараваньне і нясупакой.

Вышэй азначаныя рысы характараў мужчыны і жанчыны ўнятыя ў вельмі агульных сказах, да якіх неабходна дадаць, што кожны мужчына і кожная жанчына маюць шмат сваеасаблівых рысаў характару, якія рэдка спатыкаюцца ў іншых. Дзеля гэтага чалавек і называецца асобаю. Дзеля гэтага сустракаюцца такія характары, якія з сабою могуць жыць у найбольшай згодзе, і сустракаюцца такія, што сябе цярпець ня могуць. Калі маладыя людзі сходзяцца з сабою і ня могуць сабе з пэўнасьцю сказаць, ці іхныя характары сабе ўзаемна адказваюць, дык тады лепш нейкі час пачакаць, каб пазнаць сябе лепш, бо аб гэтых нязгодных характарах сёньня гаворыцца аж за шмат і часта нават надужываецца.

Звычайна калі маладым людзям зьвяртаць увагу на закраненую тут тэму, дык яны ўсьміхаюцца, думаючы сабе: «Гавары, гавары, а я маю свой розум». На гэтую заўвагу, а яна найчасьцей выходзіць з вуснаў моладзі, я хацеў-бы адказаць перш, чым гаварыць далей.

— Мой дарагі, нязнаны чытачу! Магчыма, што я цябе ніколі ня ўбачу і адносна цябе ня маю ніякага іншага зацікаўленьня, як толькі жаданьне дабра. Так, як ты думаў адносна навучаньняў сьвятароў, думалі вельмі і вельмі многія, але глянь навокал сябе, на жанатых людзей і паспрабуй знайдзі між імі шчасьлівых. Сумняваюся, ці знойдзеш такіх. І вось што вартае асаблівае ўвагі: найбольш нешчасьлівыя ў сужэнстве тыя, што шукаюць у ім зусім не таго, да чаго Бог прызначыў сужэнства. І ў гэткім палажэньні адзіным жаданьнем сьвятара, які піша гэты артыкул, ёсьць памагчы табе хоць добрымі радамі, якія зможаш выкарыстаць, каб лепш уладзіць сваю будучыню.

Нараканьні пачасе ніколі нікому нічога добрага не прынясьлі, таму неабходна напярод застанавіцца ўважней і глыбей над тым важным крокам, якім ёсьць сужэнства, каб ня толькі пазнаць выкананьня. Перадусім неабходна з усёю шчырасьцю пераканацца, што ў сужэнстве нельга шукаць таго, да чаго яно ня прызначана, ані ня яго мэту, але і належна падрыхтавацца да яе выкарыстоўваць яго да іншых мэтаў ад тых, якія намеціў сам Бог. Асабліва тыя, якія глядзяць на сужэнства выключна толькі як на нейкую крыніцу змысловае насалоды, а ўсё іншае адкідаюць — балюча на гэтым ашукваюцца. Нязьлічаныя выпадкі сужэнскае нявернасьці рэкрутуюцца якраз з гэткіх сужэнстваў, а колькі гэта за сабою нясе няшчасьцяў, дык гаварыць было-б лішнім. Жанчыны ў такіх сужэнствах раней ці пазьней мусяць запазнацца з лекарамі, бальніцамі; стаюцца хваравекімі і часта ў маладым веку сходзяць у магілу. Варта хоць адзін раз заглянуць у жаночы адзьдзел любое бальніцы, каб аб гэтым вачывідкі пераканацца. Часам там здараюцца такія выпадкі, што ўзрушаюць да глыбіні душы ня толькі кожнага прыпадковага прысутнага, але і прывычных да ўсякіх жудасных сцэнаў лекараў. На гэтым мейсцы як жывыя прыпамінаюцца словы, аднае маладое жанчыны, якая ў цьвеце сіл умірала ў адной палескай бальніцы і, сабраўшы апошнія сілы, галасіла: «Усе, што чуеце мяне акаянную і выйдзеце жывымі з гэтага мейсца мукаў, перакажэце ўсім кабетам мае апошнія словы, хай стаўшы маткамі, ня ганьбяць сябе забойствамі сваіх дзяцей...» А далейшыя словы не надаюцца да таго, каб іх паўтараць на гэтым мейсцы.

Адпаведна да асноўнае мэты сужэнства Бог даў жанчыне жаданьне мацярынства. Не дарма

дзяўчаты ўжо з маленства забаўляюцца лялькамі і памацярынску апякуюцца сваімі малодшымі братамі і сёстрамі. Колькі ёсьць чароўнага прыгаства ў гэтым імкненьні, хораша выказаў паэт Максім Багдановіч, апісваючы маленькую вясковую дзяўчынку, што туліла свайго браціка, якога спалохаў чужынец:

«Можа не краса была ў дзяўчынцы той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой,—
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі»
(У вёсцы).

Гэтае жаданьне стацца маткаю ўложана жанчыне Богам і ніякая сіла ня можа выдзерці яго з жаночых грудзей. Штосьці хваравлівае і нясуразнае маюць у сабе тыя вечна ялавыя кабеты, якіх можна сустрэць на вуліцах вялікіх гарадоў. Якія-ж яны жалюгодныя! Пазбавіць сябе магчымасьці стацца маткаю, акалечыць сябе — вельмі лёгка. Але гэтае калецтва не пазбаўляе жанчыну мацярынскага гону. І вось такія акалечаныя кабеты на ганьбу для сябе і на сьмех для людзкасьці песьцяць сучанят ці іншых жывёлаў замест родных дзяцей; хочучы надаць сабе больш ханабэры і зьніжаюцца да вельмі непачэснае ролі.

Неразьдзельна з нараджаньнем дзяцей зьвязана і права і абавязак іхняга выхаваньня. Дзеля гэтага розныя таталітарныя намаганьні некаторых партыяў, якія пазбаўляюць бацькоў магчымасьці ўзгадоўваць дзяцей і накідаюць усім партыйную навуку — ёсьць праціўнае Божым законам; але і другая крайнасьць — калі бацькі зусім ня дбаюць аб узгадаваньні сваіх дзяцей, ёсьць грахом.

Так асноўная мэта сужэнства, як і другарадныя мэты вымагаюць неразрыўнасьці сужэнства. — Любоў, якая адзіная павінна быць вырашальным дзейнікам у выбары сяброў жыцьця, вымагае вечнае вернасьці. Зрэштаю ўжо такая прырода інтымных пачуцьцяў чалавека, што першая любоў наймацнейшая і звычайна яна ў большай або ў меншай ступені астаецца назаўсёды і вымагае сужэнства, што трывае аж да сьмерці. Так-жа і ўзгадаваньне дзяцей дамагаецца неразрыўных сужэнскіх зьвязкоў.

Ёсьць людзі, якім здаецца, што такія вымогі вельмі строгія. На гэта трэба адказаць: усе вышэй пералічаныя вымогі падыктаваны жыцьцём і Божымі законамі і яны яшчэ можа менш строгія, як самое жыцьцё. Але ўсе гэтыя і іншыя ўмовы прамаўляюць за тым, каб перш чым уступіць у сужэнства, паважна перадумаць, чаго ты спадзяешся ад сужэнства і што будзеш мець у сапраўднасьці, каб потым ня трэба было жалаваць пачасе і не калечыць жыцьця сабе і іншаму. Ведай, што як ты ня ў сілах заставіць зямлю круціцца ў іншы бок, так ня ў сілах зьмяніць правоў, устаноўленых Богам.

Кожны, уступаючы ў сужэнства, ужо напярод мусіць быць прыгатаваны да таго, што ў гэтым жыцьці яго спаткаюць розныя прыкрасьці і расчараваньні, а часам і паважныя неспадзеўкі і непаразуменьні, якія трэба будзе перамагчы і перажыць, ці проста перацярпець. Падобна як на небе не заўсёды сьвеціць яснае сонца, але няраз яго закрываюць чорныя хмары, прайходзяць страшэнныя навальніцы, так здараецца і ў сужэнскім жыцьці. Але пасьля навальніцаў неба зноў праясьняецца і зноў зьзяе яснае сонца, так прамінаюць і сямейныя непаразуменьні, калі сямейнае вогнішча мае пад сабою моцныя асновы.

## АСНОЎНАЯ УМОВЫ СЯМЕЙНАЕ ЗГОДЫ — АХВЯРНАСЬЦЬ

Найбольш нармальным сужэнствам ёсьць тое, да якога вядзе шчырая любоў і гэткія сужэнствы найбольш трывалыя; у іх калі і здараюцца непаразуменьні, дык мінаюць хутка, не пакідаючы глыбокага сьледу. Сакрэтам такое сужэнскае згоды ёсьць дух ахвярнасьці, які выплывае з любові як нешта самазразумелая. Апостол Павал так гаворыць аб любові: «Любоў доўга цярпіць, яна міласэрная, любоў не завідуе, ня вывышаецца, не надзімаецца, ня буяніць, ня шукае свайго, не гняўлівая, ня думае благога, ня радуецца з крыўды, але радуецца з праўды. Усё пакрывае, усяму верыць, усяго спадзяецца, усё цярпіць» (І. Кар. XIII, 4-7). Дзеля гэтага там, дзе пануе сапраўдная любоў, яна будзе найлепшаю дараднікцаю ўва ўсіх жыцьцёвых цяжкасьцях.

Аднак у штодзенным жыцьці ўсё траціць свой чар, усё будзяньнее і нават моцная любоў мусіць няраз пераходзіць паважныя пробы. Народны жарт вельмі яскрава характэрызуе гэтае зьявішча такім прыкладам. Маладыя сужонкі, калі ў першым годзе па шлюбе йдуць у госьці і падарозе мусяць абыходзіць лужыну, дык ён перасьцерагае яе:

— Уважай, галубка, бо ножку памочыш!

У другім годзе на тым самым мейсцы і ў тых самых абставінах, ён ужо кажа:

— Глядзі, бо ў лужыну ўступіш.

А ў трэцім годзе ў тых-жа абставінах ужо так адзываецца:

— Куды лезеш, няздара! (або нават і «падла»).

Калі так маецца справа між тымі, што сапраўды любяцца, дык пэўна шмат горш будзе там, дзе да шлюбу давяла ня любоў, але нейкія іншыя меркаваньні. Там жыцьцё часта псуецца ўжо пасьля першых тыдняў супольнага сужыцьця. Адна народная казка апавядае, як аднойчы нейкі празорлівы чалавек, вандруючы па сьвеце, зайшоў у адну вёску, дзе нядаўна ажаніліся два браты. Прайходзчы ўначы каля іхняе хаты, ён убачыў,

што каля аднаго акна сядзіць салавейка і прыгожа пяе; каля гэтага акна спалі абняўшыся маладыя сужонкі, а з другога акна чулася нейкае шыпеньне; заглянуўшы праз ако падарожны ўбачыў іншых маладых сужонкаў — між імі на ложку ляжала гадзіна-мядзянка. На заўтра падарожны пабачыў, што адзін брат жыве з свае жонкаю так, што люба глянуць, а другі з сваею жонкаю за чубы дзяруцца, бо кожны хоча сваё права правіць, кожны хоча на сваім паставіць.

Якое можа быць жыцьцё там, дзе зыйдуцца адзін задзірака і другі няўступака, кожнаму ясна. І калі-б у вас, маладыя людзі, былі такія нязгодныя характары, такія рагатыя душы, што вам ад першага знаёмства пры вырашэньні нейкіх справаў цяжка даходзіць да згоды, дык для вашага-ж дабра лепш з сабою ня сходзьцеся. Лепш абыйдзеце сябе за сотні кілямэтраў, чым-бы вы па часе мелі сябе вечна праклінаць і атрауляць сабе наўзаем жыцьцё. Аб гэткіх сужонках народная мудрасьць кажа: «Як ня бачу — душа мрэць, як убачу — з душы прэць».

Сямейная згода або нязгода залежыць ад абодвых сужонкаў, але дух утульнасьці ў сямейным вогнішчы большаю часткаю вытварае жанчына. Трапна выказаў гэта Вінцук Дунін-Марцінкевіч:

Добра жонка — дома рай.
Злая — з хаты цягу дай!

Што можа быць больш сумнейшым, калі сужонкі замест узаемнае помачы стаюцца для сябе цяжкім крыжам. У 1931 г. адбывался місія ў аднэй з нашых вёсак. Людзі праз цэлы тыдзень уважна слухалі навукаў прыезнага айца місіянара. а ўканцы місіі адбывалася пасьвячаньне мэдалікаў і крыжыкаў. Людзі пасталі вялікім паўкругам на царкоўным пагосьце, трымаючы ў руках рэчы да пасьвячаньня. Толькі адзін дзябёлы мужчына, які стаяў з сваею невялічкаю жонкаю на вострараньні, нічога ня меў у руках. Калі місіянар з крапілам падыйшоў да яго, дык ён раптам ухапіў у свае магутныя рукі сваю жонку, падняў яе і сказаў: «Ойча, пасьвяці мой крыж!»

Бываюць і адваротныя зьявішчы, такім крыжам для жанчын стаецца муж, калі ён тыранізуе ўсю сям'ю, калі дамоў зьяўляецца п'яны, паводзіцца як разбойнік.

Усе гэткія і яшчэ горшыя выпадкі звычайна маюць мейсца там, дзе любові або ня было ніколі, або дзеля нейкіх прычынаў выгасла. У такіх выпадках гнеў, нараканьні, сваркі — ня толькі нічога не памагаюць, але яшчэ пагоршваюць сужыцьцё, быццам даліваюць алівы ў агонь. І вось калі як калі, але ў такіх выпадках трэба ведаць. што з Божае волі ёсьць асаблівы сродак, каб наладзіць сужэнскае жыцьцё — тым сродкам ёсьць ахвярнасьць. Дзеля агульнага дабра нехта мусіць цярпець, хтосьці мусіць ахвяравацца. Дзеля збаўленьня ўсяго людзтва Хрыстос ахвяраваў самога Сябе — Ён перацярпеў страшныя мукі, зьдзекі, і ўканцы жудасную сьмерць на крыжы, але праз гэта адчыніў дзьверы да вечнага шчасьця. Для дабра сям'і так-жа патрэбна ахвярнасьць з боку абодвых сужонкаў, але ў некаторых выпадках жанчына мусіць мець большую гатоўнасьць да ахвярнасьці. Аб гэтым і ў народных песьнях пяецца:

Замуж выйсьці, трэба знаць,
Позна легчы, рана ўстаць...

Ня трэба думаць, што гэта нейкае ўпакораньне жанчыны. Калі хто так думае, дык не разумее сужэнства, бо пасьля сужэнства муж і жонка твораць нешта суцэльнае і адзінае, таму і ўсякія ўпакораньні і вывышшэньні ёсьць супольнымі. А таму што жанчына мае з прыроды такую натуру, што лягчэй можа прыстасавацца да абставін і да характару іншых, дык у першую чаргу гэтую сваю здольнасьць мусіць праявіць у сямейным сужыцьці. Агульна ведамая жаночая зьменьлівасьць і часта мужчыны насьміхаюцца з гэтае рысы жаночага характару. Такія насьмешкі ёсьць сапраўдным праклядцем, бо не насьміхацца, але трэба дзякаваць Богу за тое, што даў такі характар жанчыне.

Стоpажам сямейнага вогнішча ёсьць жанчына, уся хатная работа ляжыць ня яе плячох, але хоць гэтая работа вельмі крапатлівая, яна не пакідае па сабе бачнага сьледу. Штодзеннае гатаваньне ежы, прыбіраньне і ўсякія дробныя паслугі, а так-жа абавязкі жанчыны-маці, хоць як яны займаюць шмат часу і вымагаюць шмат цярплівасьці — усе яны не разрахованы на розгалас. І усё гэта, як нешта самазразумелае выконвае жанчына штодзенна, толькі муж павінен ведаць належна ацаніць гэта і ня вымагаць парзьмерна, бо тады пэўна-ж жонка пяройдзе да самаабароны, а гэта ня выйдзе на дабро ніводнаму.

Дзякуючы ахвярнасьці нават і няшчасьці пераносяцца ў сям'і значна лягчэй, як у адзіноцтве. Спагаднае слова шчырага спачуцьця сужонкаў лагодзіць боль, быццам дзеліць яго і адначасна зблїжае сужонкаў да сябе. З гісторыі ведама, якое вялікае ўражэньне ўва ўсім сьвеце выклікаў факт. калі пасьля так званага бунту дзекабрыстаў, цар іх усіх засудзіў на катаргу ў Сібір і пасьля гэтага бальшыня іх жонак дабравольна згадзілася йсьці за сваімі мужамі на засланьне, пэўна-ж не сварыцца і лаяцца з імі, але ахвярна памагаць ім нясьці цяжар катаржных ланцугоў.

Імёнаў вялікіх жанчынаў гісторыя нам пераказвае параўнальна няшмат, але трэба памятаць. што кожны вялікі чалавек меў сваю маму, якая ўзгадоўвала яго, даглядала і гадавала. гладзіла яго галоўку прыгаворваючы: «Сынок мой родны!». І дзякуючы сваім турботам узьвяла яго на высокі самастойны шлях жыцьця. на якім ён пры-

служыўся ўсяму людзтву. Але да гэтага жанчына мусіць штодзенна верна і ахвярна выконваць акуратна ўсе свае абавязкі. У гэтым ляжыць вялікая мэта туземнага жыцьця жанчыны. Кажу вялікая — бо што можа быць большым за штодзенную ахвярнасьць?! Аднаразова зрабіць вялікі ўчынак, на гэта ў пэўных абставінах можа назьбіраць сілы бадай што кожны чалавек, але штодзенна праз усё жыцьцё выконваць акуратна свае абавязкі без ніякага розгаласу — гэта больш чым гэройства.

Вялікі настаўнік Пэсталоцьці ў адным з сваіх твораў вельмі прыгожа прыраўноўвае жанчыну маці да сонца: «Калі вечарам заходзіць сонца, мы ведаем, што заўтра рана яно зноў узыйдзе і будзе зноў асьвячаць і аграваць усю зямлю. Калі змучаная цэладзеннаю працаю і турботамі маці, апошняя ў хаце йдзе на спачынак позна вечарам, дык яна заўтра рана ўстане першая і зноў сваім сардэчным цяплом і ласкавым словам ажывіць усю сям'ю».

Не дарма ў нас на Беларусі маладая на вясельлі мела на галаве вянок з вечна зялёнага зелейка — руты, што і зімою і летам ня траціць свайго зялёнага колеру, як сымбаль вечнае вернасьці жанчыны. Калі жанчына не зразумее гэтага свайго пасланьніцтва, дык можа стацца сапраўдным крыжам для свайго акружэньня. Магчыма тут і ёсьць адказ на тое ўсім ведамае каверзнае пытаньне: «Усе дзяўчаты добрыя, але адкуль бяруцца ліхія жонкі?» Хіба адтуль, што забываюцца аб сваіх абавязках.

Веліч штодзеннае ахвяры амаль немагчыма ацаніць у дачасным жыцьці, асабліва тае ціхае акуратнае ахвяры, зробленае не для славы, а для вернасьці. Толькі ў іншым жыцьці мы зможам убачыць усю іхнюю веліч, калі будзем годнымі пачуць за іх ацэнку з вуснаў самога Бога перад аблічча усіх сьвятых.

Але ўжо і ў дачасным жыцьці людзі на ўсім сьвеце ня могуць быць абыякавымі супраць штодзеннае безінтэрэсоўнае ахвярнасьці, незалежна ад таго, хто яе выконвае. У 1933 г. газэты апублікавалі сэнсацыйную вестку, што ў Токіё буддыйскія духоўныя ў ліку аж 16 чалавек урачыста вялі хаўтурную працэсію праз горад аднаго сабакі. Чым-жа той сабака так уславіўся? Недалёка ад Токіё ў Шібуня жыў лекар Гідэсабуро Уено. Ён штодзенна цягніком прыязджаў у горад, дзе працаваў у шпіталі. Гэты лекар меў вернага сабаку Гашіко. Калі лекар садзіўся ў вагон, дык сабака, ня маючы права ўступу ў вагон, бег за цягніком у горад, там на станцыі спатыкаў свайго лекара. Далей са станцыі яны разам ішлі ў шпіталь. Там зноў разлучаліся аж да папалудня, калі лекар вяртаўся дамоў. Ізноў яны разам ішлі адваротнаю дарогаю, ізноў Гашіко бег да станцыі Шібуня і там радасна лізаў на прывітаньне руку свайго гаспадара і суправаджаў яго дамоў. Лекар быў слаўны і сабака яго быў ведамы. Так яны хадзілі і езьдзілі шмат гадоў. Але аднаго дня лекар не вярнуўся папалудні з шпіталя. Ён лёг разам з сваімі пацыентамі. Папалудні дарэмна чакаў Гашіко свайго гаспадара. Ён жаласна завыў, пачаў бегаць па пляцы, але дарэмна. Лекар спачыў навекі, а верны сабака ў звычайнай гадзіне прыбягаў на плошчу і чакаў яго. Калі Гашіко з голаду ледва трымаўся на нагах, сябры лекара хацелі яго ўзяць да сябе, але ён да нікога не пайшоў, тады яго кармілі на мейсцы чаканьня. І так верны сабака аж 10 гадоў чакаў свайго гаспадара. Калі нарэшце са старасьці сканаў, дык за вернасьць яму ў Токіё справілі такія хаўтуры, якіх рэдка хто меў з людзей, а потым на станцыі Шібуня паставілі яму помнік.

Гэты прыклад з жыцьця неразумнае істоты вельмі яскрава сьведчыць аб тым, што людзі, якія-б яны ня былі, ці інтэлігэнцыя, ці простаьюдзі; ува ўсіх краёх на сьвеце патрапяць ацаніць вернасьць і вартасьць ахвярнасьці. І ня толькі ацаніць!

Ціхая, бескарысная ахвярнасьць можа ўтрымаць згоду, лад і парадак у кожнай сям'і. Нават надломанае сужэнскае жыцьцё яна можа нанава прывесьці да нармальнага стану. У адным з нашых гарадоў маладое сужэнства пасьля некалькігадовага суладнага жыцьця пачало развальвацца. Жонка з жахам глядзела, што яе чалавек стаў да яе зусім абыякавы, ды каб-жа толькі гэта... Яна адчула, што сварыцца на яго, ці хоць-бы дакараць, азначала-б — дарэшты разарваць з ім лучнасьць і навекі абяздоліць дзяцей і сябе. Тады, нічога ня кажучы нікому, стала моўчкам пераносіць усе няпрыемнасьці, якія вынікалі з іхняга палажэньня. Прытым, захоўваючы сваю годнасьць, з усіх сілаў старалася дагадзіць свайму чалавеку так, каб ён ня меў ніякае прычыны наракаць на яе. Яна старалася наперад угадаць ягоныя жаданьні і выканаць іх. І гэтаю свае дабратою яна яго ня толькі абязброіла, але нанова завалодала ягоным сэрцам.

Вышэй асабліва падчырквалася неабходнасьць ахвярнасьці з боку жанчын, але калі-б з гэтага нехта зрабіў такі выснавак, што мужчынаў у сямейным жыцьці забявязвае меншая ахвярнасьць, дык зрабіў-бы зусім памылковы выснавак. Толькі тады магчыма сапраўдная ахвярнасьць у сямейным жыцьці, калі абое сужонкі ў аднолькавай ступені гатовыя да ахвярнасьці. Калі-ж нехта ўжо перад сужэнствам спадзяецца толькі на тое, што будзе вымагаць ад іншага ахвярнасьці, а сам толькі з гэтага карыстаць, дык такі няхай лепш зусім ня думае аб сужэнстве.

Вялікаю крываваю ахвяраю на Крыжы адкупіў нас Хрыстос ад няволі граху; праз цярпеньні мацеры зьявіліся мы на сьвет; праз ахвярную працу бацькоў узгадаваліся мы, а дробнымі ахвярамі ў

штодзенным жыцьці трэба будаваць сваё сямейнае сужыцьцё. Такая Божая воля, такія жыцьцёвыя правы; і вы маладыя людзі, рыхтуючыся да сужэнства прымеце глыбока да сэрца гэтую праўду.

**а. Л. Гарошка**

## Старая песьня об Лясьнянскай Цудатворнай Іконе Багародзіцы

Сьпявайце людзі, хто жыве на сьвеце,
Дзева Марыя ёсьць ў Бельскім павеце.
У Лясьнянску абіцель там ся аб'явілась,
Каб усе хрысьціяне да яе маліліcь.
Хто веру мае ў Бога і застаўсь хрышчоны,
Няхай пасьпяшае да тае іконы.
Нех моліцца шчыра, дзяцінна, пакорна;
Парадзіць, прыгорне яго Чудатворна.
Маці усеблагая памілуе грэшных,
Заступніца перед Сынам, Господам Усявышнім.
І Гасподзь уважыць і падасьць надзею,
Хто сэрца прыклоніць прад стопы Марыі.
І як-жа шчасьліва та старонка Лесьна;
Там ўдрэўле явілась ікона нябесна!
Сваім ліцом ясным храм увесь асьвяціла,
Няраз помач людзям сьмірэнна явіла.
Прыйдзеце хрышчэны ў Лясьнянскі храм Божы,
Царыца нябесна ўсім вам дапаможа.
Прыйдзеце ўдавіцы, прыйдзеце храмыя,
Прыйдзеце калекі і дзеці малыя!
Усіх заспакоіць Маці Усеблагая,
Усё падасьць людзям ікона сьвятая.
Дзева Марыя, міласэрна Маці!
Дай лёгку гадзіну, як будзем ўміраці.
Перад Сынам у небе за нас заступіся,
А пакуль жавемо, за нас маліся.
К Табе прыпадаем, сьмірэнна ўзываем,
Ад бяды ізбаў нас, на Ця упаваем.
Заступніца ўсердная і сірат і ўдоваў!
Выбаў нас па сьмерці ад цяжкіх аковаў!
На сім сьвеце научы нас,
Як ся нам тут жыці.
Цябе просім прэкланіўшысь
Мы, пакорны дзеці. **(З Багагласьніка)**

# Малітва і здароўе

За апошняе стагодзьдзе мэдыцынская навука пайшла ўпярод сапраўды мілёвымі крокамі. Выпадкі заразных хваробаў усьцяж зьменшваюцца, апэрацыі сэрца і мазгоў ужо перасталі быць сэнсацыямі; шматлікія захворваньні, якія калісь лічыліся амаль нявылячальнымі, сёньня вылечваюцца лёгка і пэўна. Такі поступ мэдыцыны ў шмат каго выклікае неймаверныя ружовыя пэрспэктывы адносна здароўя і сьмерці людзей.

Сапраўды, апіраючыся на дасюлешнія асягненьні можна з усёю пэўнасьцю спадзявацца, што мэдыцына і далей будзе рабіць паважны поступ у лячэньні хваробаў і ў перамаганьні іх, аднак няма ніякага сумніву, што старасьць і сьмерць назаўсёды астануцца неперāможанымі.

Ува ўсім поступе сучаснае мэдыцыны назіраецца вельмі характэрная плынь, якую чамусьці вельмі неахвотна папулярызуюць, але якая заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Характэрнаю азнакаю сучаснае мэдыцыны ёсьць тое, што яна вымагае ад лекара, каб ён не здавальняўся толькі сьцьверджаньнем, што той ці іншы мае запаленьне мігдальных залозкаў, а таму далягае печань — для гэтых недамаганьняў прыпісаў адпаведныя лякарствы і на гэтым кончаў займацца хворымі. Не! Гэтага замала: ён павінен даведацца, кім ёсьць ягоны пацыент; калі і як ён захварэў. Мусіць так-жа ведаць: якое было мінулае жыцьцё хворага і ягоныя спадзяваньні ў будучыні; што значыць для яго тая хвароба? Сучасная мэдыцына лічыць, што цела чалавека можа захварэць праз памылковае дзеяньне; праз неадпаведныя суадносіны да асяродзьдзя; праз зьвіхненьні ў сваім спосабе думаньня, любові і веры. Дзякуючы такому ўняцьцю справы мэдыцына сталася сапраўды людзкою. Перад тым яна была мэханічнаю, або часам біялягічнаю. Сапраўды гэты факт ёсьць годны асаблівае ўвагі, бо-ж гэтая гуманізацыя мэдыцыны адбываецца якраз цяпер у наш тэхнічны век.

### СУПРАЦЬ СТРАХУ І НЕПАКОЮ

Сучасная мэдыцына сьведамая таго, што яна можа сказаць вельмі мала адносна магчымых захвораньняў у будучыні. Можна спадзявацца, што з часам мэдыцына зможа перамагчы вірусныя і плесянёвыя хваробы, а так-жа зможа значна абмежаваць перашкоды, якія абумоўліваюць агульнае разьвіцьцё чалавека. І тады людзтво зможа прыйсьці да веку, у якім ворагам чалавека будзе толькі сам чалавек. Гэта значыць, калі іншы чалавек, які жыве каля нас, або і сам чалавек можа стацца ворагам супраць самога сябе, калі ён ня будзе ведаць як апанаваць, або ведаючы як, не хацець апанаваць разбуральныя сілы, якія бытуюць у чалавеку.

З лекарскага дасьведчаньня вынікае, што ў будучыні людзі пярэсячна будуць жыць даўжэй, але

яны будуць больш хваравітымі, бо ўзрастае страх і непакой. Трацiцца раўнавага нэрвовае сыстэмы, якая кіруе асноўнымі жыцьцёвымі актамі. Утрачаньне гэтага паардку, які дзейнічае ў найвышэйшых пластох, ёсьць істотнаю асноваю для хістаньняў у тых прыемных пачуцьцях, якія дае чалавеку сьведамасьць, што ён здаровы і гэта стаецца далейшаю прычынаю для арганічных захворваньняў. Мэдыцына ўпэўнена, што чалавек заўсёды будзе сьмяротнаю істотаю і хворыя людзі ніколі ня будуць нейкім выняткам між людзьмі — яны заўсёды былі і заўсёды будуць у большай ці меншай колькасьці, толькі час на іх клаў і будзе класьці сваё адменнае гістарычнае таўро.

А цяпер, усьведаміўшы сабе магчымыя пэрспэктывы разьвіцьця мэдыцыны ў яе намаганьнях, захаваць здароўе чалавека, можам ёй паставіць пытаньне: якія існуюць дачыненьні між малітваю і здароўем?

Малітва мае паважныя дачыненьні адносна здароўя, бо-ж ёсьць паважным людзкім актам. Мэдыцынская навука аб здаровым і хворым чалавеку дае нам шмат цікавага матэрыялу для высьвятленьня гэтага пытаньня.

Малітва стварае спакойную сьведамасьць. У малітве чалавек пазнае лепш самога сябе. Непакоючыя пытаньні «адкуль?» і «куды?» уступаюць перад духовым малітаўным супакоем, у якім чалавек усьведамляе сэнс і мэту свайго жыцьця і ставіць сябе пад Божую ахарону. Гэткі супакой мае дабрадзейны ўплыў на цела, бо-ж кожная камарачка людзкога цела зьвязана праз нэрвовую сыстэму з мазгамі, ад якіх залежыць наш настрой. — Чалавек, які моліцца, укладае ў сваю малітву сваё быцьцё, сваю радасьць, свае цярпеньні, сваю хваробу, усе свае немачы. Праз гэта ён набірае бадзёрасьці, зьвяртае ўвагу на сваю сьведамасьць.

## УЗГАДАВАЎЧАЕ ДУХОВАЕ ПРАСЬВЕЧАНЬНЕ

Маленьне вучыць праўдзіва глядзець на сябе, а гэта заўсёды было важным для людзей. Сёньня-ж гэтая магчымасьць мае асаблівае значэньне. Ведама, што ўсе сьведамыя жыцьцёвыя працэсы папераджаюцца асноўнымі жыцьцёвымі зьявамі, аб якіх мы ня маем сьведамасьці. Пры тым, калі напрыклад зьвяртаць увагу на сэрца, каб мець пэўнасьць што да яго спраўнасьці, дык гэта стаецца перашкодаю ў ягонай дзейнасьці. Цікавасьць і кантроля, выкліканыя страхам, шкодзяць. Гэтая фальшывая сьведамасьць, якая цяпер нам вельмі блізкая, перамагаецца праз малітаўную бадзёрасьць, бо-ж малітва з аднаго боку абымае ўсю нашую асабовасьць, а з другога боку адначасна вызначае граніцы для бесканечнае рэфлексыі. У часе малітвы мы становімся перад абліччам Таго, Хто ведае нас лепш, чым мы ведаем самі сябе. Глыбокая пашана Бога ёсьць умоваю адпаведнае пашаны да самога сябе. Богапашана дае нашай сьведамасьці цалюшчую меру, а сьведамасьць Божае ахароны адганяе страх. Гэткім чынам малітва стаецца ўзгадаваўчаю школаю духовага прасьвечаньня.

Далей: Выяўлена, што для належнага разьвіцьця людзтва неабходна паступова збольшваць самасьведамасьць. Праз гэта зьяўляюцца паважныя духовыя напружаньні дзеля супярэчнасьці з духам часу, з агульным кірункам духовага руху, які прыходзіць да нас праз усякія іўфармацыйныя крыніцы, праз сустрэчных людзей і змушае нас заняць адносна іх нейкае становішча. Калі людзі трапляюць у фальшывыя супярэчнасьці — зьяўляюцца масавыя нэўрозы. Яскраваю формаю гэткіх нэўратычных праяваў ёсьць выбухі грубіянства ў моладзі падчас канцэртаў так званае мадэрнае музыкі. А як прыклад лёгкае формы нэрвозаў можна назваць загляданьне ў гараскопы, сьледам за чым ідзе часта прынараўленьне свае дзейнасьці. Асабістае практыкаваньне сапраўднае самасьведамасці ў малітве аблягчае нам уліцца ў аб'ектыўны працэс разьвіцьця людзтва. У самапазнаньні мы ўбіраем у сябе з аднаго боку сапраўднасьць і робім з яе нашую духовую ўласнасьць, а з другога боку крыху адступаем ад яе. Бо калі мы гаворым аб пазнанай сапраўднасьці, называем славамі нашы паняцьці, дык даконваецца афармленьне і прысваеньне тае сапраўднасьці, як і нас самых. Тое-ж ёсьць і з нашаю хваробаю.

Усё вышэй сказанае адносіцца наагул да кожнае мовы, але асабліва — да мовы малітвы. Але як далёка? Кожная мова зьвяртаецца да некага — значыць прыпушчае існаваньне слухача. Падчас маналёгаў слухачом ёсьць той-жа, што гаворыць. Гутарка з іншым ёсьць вышэйшаю формаю мовы, бо яна ёсьць зьдзейсьненьнем чалавека, паколькі тады размаўляючыя ўзьдзейнічаюць на сябе ўзаемна. Дзеля гэтага няма асобы, якая-б заспакойвалася сваім маналёгам. Апошняе замацаваньне гэтае праўды бачым у хрысьціянскай навуцы аб трыадзіным Богу.

У малітве мы ня толькі выказваем нейкія думкі і робім з гэтага адпаведныя заключэньні, ладобна, як гэта чыняць дасьледнікі, якія пазнаўшы напрыклад хэмічны склад нейкага матэрыялу, пішуць для яго формулу — у малітве мы йдзём значна далей. Мы так-жа ў часе малітвы не астаёмся на ўзроўні гутаркі з іншым, які нам можа шмат памагчы; у такой гутарцы наш субяседнік можа слухаць нас спагадна, падзяляць нашы пагляды, можа ўзбагаціць сваімі думкамі нашую веду і нас або ўспамагчы, або адкінуць. У гутарцы мы карыстаемся словамі, а словы ў сваім зьмесьце маюць ня толькі праўду і пачуцьці, але так-жа зьяўляюцца носьбітамі, праз якіх мы пасылаем сябе іншым і даём сябе пазнаць ім. Чым больш ажыўленаю будзе гутарка, тым больш выяўляецца шчасьце зьдзейсьніць нашую натуру, якая мае ўроджаны нахіл да дыялёгаў, — але адначасна

выяўляецца, што гаворачыя астаюцца адзін для другога нейкаю тайнаю і ўзаемна бясьсільнымі. Бо мова ня мае даволі сілы, каб выказаць веліч чалавечага нахілу да пазнаваньня і да любові. Мы маем духовы скарб, які нельга выказаць словамі, ані перадаць яго іншым. Адгэтуль вынікае, што людзкая гутарка ёсьць пакажчыкам па-за сябе самую. Значыць людзкая мова можа атрымаць паўнату толькі ў малітве да Таго, Які ёсьць усім і ўсё знае, Які ведае нас з па-за гарніцаў нашае мовы і прымае нас.

Мова належыць да істоты чалавека — гэта выключна людзкая магчымасьць. А ведама, што кожнае завяршэньне прыродных магчымасьцяў і здольнасьцяў развязвае цялесныя і духовыя сілы ды цешыць нас. Гэта адносіцца так-жа і да завяршэньня мовы ў малітве. Да гэтага прыемнага пачуцьця дзейнасьці згоднае з людзкою натураю даходзіць яшчэ глыбокае шчасьце праз цалюшчы зьмест самога факту маленьня. У малітве чалавек адчувае і зьдзейсьнівае тую праўду, што ён ня ёсьць дробнаю пылінкаю, загубленаю ў бязьмежным сусьвеце, бясьсільнаю супраць стыхіяў; ён адчувае, што заўсёды мае каля сябе Бога, свайго Сатварыцеля. Да таго яшчэ ў часе малітвы чалавек усьведамляе дачыненьні свайго Я да іншых людзей. Малітва вядзе нас па-за нашу асабовасьць і пры тым уводзіць нас назад глыбока ў нас самых. Хто моліцца, той не адзін. Ён хутка можа адчуць, што стаіць у хоры іншых малельнікаў і зьдзейсьнівае радасную і просячую дапамогі людзкую супольнасьць. Тут спаўняецца разьвязваючая і вызвольная дзейнасьць апанованага гавораньня. Нявымоўным зьместам шчырае малітвы стаецца перамога свае зьбянтэжанасьці, якая зьяўляецце падчас адвароту ад сябе і павароту да Бога і бліжняга. Гэткім чынам разрываецца ліхое кола эгаістычнае сьведамасьці, якая заўсёды кружыць толькі навокал сябе. Нашае Я перастае быць адзіным і выключным зьместам наша жыцьця.

Шматлікія нэўрозы выклікаюцца фальшываю павагаю адносна самых сябе. Чалавек можа быць зусім здаровым толькі тады, калі ён цьвёрда наважаны не глядзець выключна толькі на сябе, але калі так-жа зьвяртаецца з актам глыбокае пашаны і любові да найбольш праўдзівага Быцьця. І гэты так адпаведны і ашчасьліўлюючы акт заўсёды магчымы, пакуль мы можам думаць. Гэта вельмі важна, бо-ж у кожным чалавеку захоўваецца дзесьці ў глыбіні душы страх, каб ня ўпасьці ў стан бясьсільля. Такі прыхаваны страх няраз стаецца галоўнаю прычынаю суму і зьняверу. Адгэтуль так-жа зароджваецца страх перад магчымасьцю стацца нічым, бо-ж і пагаворка кажа, што сапраўды існуе той, хто дзейнічае. Таму кожны чалавек баіцца так захварэць, што будзе для іншых толькі цяжарам; што з яго ўжо ня будзе ніякае карысьці. Аб гэтым вымоўна сьведчаць нараканьні цяжка хворых. Нават калі мы будучы ў найлепшым здароўі чуемо, што недзе ў шахтах засыпала людзей, або недзе ў акіян зваліўся самалёт, ці-ж нас тады не апаноўвае боль дзеля нашага бясьсільля адносна тых ахвяраў? Калі-ж чалавек дзеля якіх колечы прычынаў ня можа памагчы іншым, дык пакуль мае сьведамасьць, ён можа маліцца і праз гэта дзейнічаць.

У так важнай дзейнасьці, якою ёсьць малітва, неабходна каб удзельнічаў увесь чалавек, выяўляючы парадак свайго цела і душы. Толькі такая малітва ёсьць здароваю і дапамагае нашаму здароўю, а інакш яна будзе хвораю і будзе перашкаджаць нашаму здароўю.

А цяпер спытайма: што кажа мэдыцынская навука аб людзкім целе і аб ягоных функцыях адпаведна да здаровае малітвы? Тут трэба зьвярнуць увагу на тры вартасьці: якасьць скупленьня падчас малітвы; адзінства ўсяго чалавека праз мову малітвы і дамаганьне цела як сымбаль. На пачатку малітвы патрэбны нейкі час дзеля скупленьня. Гэта можа заняць некалькі мінут, або ўсяго некалькі сэкунд. Потым мы стараемся заняць такую паставу, каб можна было быць спакойным і пры тым адлажыць на той час усю вонкавую і ўнутраную заблытанасьць. Пасьля гэтага мы ўжо ані ў воку, ані ў вуху, ані зьвернены навонках. Сьледам за тым ідзе ўнутранае маўчаньне. Гэты адыход ад усяго вонкавага ня ёсьць самамэтаю, ня мае так-жа на мэце, каб з чалавека зрабіць нейкага віртуоза, які выстарчае сам сабе — але гэтае адарваньне неабходна на тое, каб малельніка не ўзрушалі ні радасьць, ні бяда ў ім самым і навакол яго. Малітаўнае засяроджаньне адчыняе сэрца і мае ўжо зерне суадносін да Іншага, а так-жа стварае гатоўнасьць да шчырага ўспрыняцьця сапраўднае вартасьці. Гэта ў сваю чаргу адпаведна дзейнічае на цела, на яго нэрвы, якія вытвараюць агульнае суладнае ўпарадкаваньне. Гэткім чынам нашае цела стаецца жывою суцэльнасьцю, падпарадкаванаю ўнутранаму голасу.

Зразумела, што да малітвы належыць здысцыплінаваная мова, якая вымагае ня толькі гавораньня, але і ўважна слухаючага маўчаньня. Мова дзейнічае на вышэйшыя цэнтры, якія фармуюць людзкое адзінства. Зьмест сказаў вымагае дзейнасьці кары вялікага мозгу, а пачуцьці, з якімі выказваем сказы, вымагаюць дзейнасьці чаловае часьці мозгу; дыханьне адбываецца пад узьдзеяньнем асноўных цэнтраў, якія кіруюць моваю. Значыць у мове ўдзельнічае ўвесь чалавек у сугучным адзінстве.

Уключэньне музычнае сфэры і аддыханьне адбываецца пад рытм сьпеву духоўных песень, таму той хто сьпявае — моліцца падвойна. У шчырай малітве ўдзельнічае ўсё цела. Духовае значэньне жэстаў спануквае малельніка да адпаведнае паставы цела. Рух з нутра на вонках адпавядае ру-

ху з вонку ў нутро — адзін садзейнічае другому. Стаяць проста, ці ляжаць крыжам; сядзець, ці стаяць на каленях; глядзець увысь, ці мець заплюшчаныя вочы; толькі крыху схіліць галаву, ці зусім нахіліцца ў глыбокай пашане; распасьцерці рукі, ці сашчаміць іх, ці зложыць іх на грудзіне як на цэнтры нашага Я; спакойна стаяць, ці засяроджана хадзіць; пабожна ўважаць навонках і прыслухоўвацца, ці маўчаць, ці гаварыць — усё гэта ёсьць выяўленьнем духовага зьместу і адначасна ўцелаўленьнем яго, завяршэньнем цела ў ягонай найвышэйшай дзейнасьці і сымбалем уздыму душы да надпрыроднае Істоты.

Здароўе ня ёсьць нейкім станам, які выстарчае сам для сябе. Яно мае напружаньне, намераньне, накіраваньне да чагосьці ўнутранага, а іменна: каб выконваць такую дзейнасьць, якя займае здароўе да найглыбейшых ягоных заложаньняў. Яго сэнс напаўняе чалавека, які моліцца і душою і целам у дзейным выконваньні культу.

**Паводля Юрага Фолька.**

# ЦІКАВЫ ПАЧЫН

У Нямеччыне з нагоды некаторых пабожных урачыстасьцяў выдаецца для ўспаміну «Білет на падарожжа ў рай», які мае такі зьмест:

### БІЛЕТ НА ПАДАРОЖЖА У РАЙ

На ўспамін з . . . . . . . . . . . . .
Ад'езд: У кожнай гадзіне.
Прыезд: Калі Бог захоча.

**Цэны мейсцаў**

1. **Кляса. (Пасьпешны цягнік).** Нявіннасьць або мучаніцтва, або захаваньне эвангельскіх радаў. (Убоства, чыстасьці, послуху).
2. **Кляса. (Беспасрэдны цягнік).** Пакута. Надзея на Бога і вернае выконваньне добрых учынкаў. (Малітва, пост, дарэньне убогіх).
3. **Кляса. (Звычайны цягнік).** Захаваньне Божых і царкоўных прыказаньняў і сумленнае выконваньне абавязкаў свайго стану.
4. **Кляса. (Ад'язджае вельмі рэдка).** Наверненьне на ложу сьмерці.

**Заўвагі**

1. Зваротныя білеты не выдаюцца.
2. Турыстычных цягнікоў няма.
3. Малыя дзеці, якія яшчэ не дайшлі да ўжываньня розуму, ня плацяць нічога, калі яны толькі знайходзяцца ў лоне свае Мацеры — Каталіцкае Царквы.
4. Просіцца пасажыраў, ня браць з сабою ніякіх пакункаў, акрамя добрых учынкаў, каб ня страціць цягніка, або каб ня трапіць на перадапошнюю станцыю — Чысьцілішча — дзе будуць мець няпрыемную затрымку і страцяць усе тыя пакункі.
5. Падарожныя прыймаюцца на кожнай станцыі і на працягу ўсяго шляху.
6. Кожны білет мусіць мець пячаць асьвячаючае ласкі.
7. Падчас падарожжа кожны падарожны можа перасесьці з ніжэйшае клясы да вышэйшае, але спускацца з вышэйшае клясы да ніжэйшае забаронена дзеля сьмяротнае небясьпекі для вечнага жыцьця.

# *БАЙКІ*

### ХТО ЛЕПШЫ?

Падзеяў нейкіх сплётам
Цягнік спаткаўся з самалётам. —
Тут гутаркі, тут жарты
І спрэчкі: хто чаго быў варты?
Абодвых горка служба...
Нязгода тут і дружба.
— Я разьвіваюся штогод, —
Хваліўся самалёт —
А хмары штораз ніжэй,
А зоркі штораз бліжэй!
Як мухаў у паветры,
Глытаю кілямэтры;
А вёрсты, мілі — гэтым знакам —
Як-бы хто сеяў макам!
— Калі-ж узношуся над морам,
Паміж зямлёй і неба хорам,
Плыву як рыба ў акіяне,
Арол свабодны — у Божым пляне!..
— А ты, цягнік, той самы:
Замурзаны, зашмальцаваны.
І лёс твой манатонны;
Вугля зьядаеш тоны;
Дрыжаць застаўкі ўсе,
Вада у трыбусе,
Ў грудзях — агонь
І каштыляеш ты, як дыхавічны конь;
Прышпілены да шынаў —
Дык што-ж ты за машына?!
— Стаю на грунце цьвёрда, —
Цягнік адкажа горда —
— Людзей і лес, і збожжа
Міг-мігам перавожу.
Як кроў цячэ па жылах,
Плыве дабро па шынах,

Багацьце, праца, шчасьце...
Што чалавек ускласьці
На мой хрыбет захоча,
Мой воз вязе, валоча.
Працую за мільёны. — —
— А ты, ха-ха, шалёны,
Куды ця' ліха прэ?
Як лопнеш,
чорт касьцей не пабярэ!

---

Спрачайцеся, браты: ці позна, ці рана,
Ці шчыра, ці шыбка вазіць будзеш пана.

## ЖАБЫ

1-ая. — Кума, чаго так горла
Ты цэлу ночку дзёрла?
2-ая (Скромна). — Пяяла я,
Так, як магла,
Аж салаўя перамагла!
Паслухай: Менск, Варшава і Масква:
Ква-ква, ква-ква!

---

На сцэне іншы так равець,
Куды табе, мядзьведзь?!

## ПЕВЕНЬ І АРГАНІСТЫ

Чырвоны певень залацісты
Убачыў раз, як арганісты
Заўзята школіў хор касцьцельны;
Стаяў гармідар там пякельны,
Цягнуў бо кожны трудну ноту
Ледзь не да сьльёзаў, аж да поту!
Сам арганісты бяз прыпынку,
Ня дасьць палёгкі, адпачынку.
Ня прыступіцца, ані зблізку!
Толькі махае пугавіскам;
Тут гукне-стукне, там падцягне,
Ажно захрыпне, аж засьмягне!
І вось даехаў — працы годзе!
І ўся гармонія ў згодзе,
І нотка ў нотку, як патрэба,
Імкнецца песьня проста ў неба...
Аж певень крыкнуў: — Вось дык крама!
Зраблю я рыхтык гэтак сама.
Скарэй курэй і цэлы двор
Сабраў і склаў «мяшаны хор»!
Казёл, баран
Рагамі б'юць як ў барабан.
Цялё раве,
Хоць стань на галаве!
Гусак галосіць штось парускў,
Індык балбоча пафранцуску.
— Загінем мы, загінем! —
Бядуюць, плачуць сьвіньні.
А нашы куры, народ слабы,
Сакочуць штось як бабы.
Дык песьня пустапасам ходзіць,
Бо кожны зьвер свой плот гародзіць.
Крычыць ім певень: — Кут-куды?
Ці вы касьцельныя дзяды? —
Аж злосьць і сьмех мне чысты,
Што скажа нам пан арганісты?

---

Вучыў п'яны крывога танцаваць,
Бязрукага на скрыпцы граць,
Сьляпога ў цэль страляць.
Аркестру давялося разагнаць,
А дырыгэнта за каўнер ўзялі
І кудысьці павялі.

## ЗЯЗЮЛЬКА

Пяюць ўсе птушкі так прыгожа;
Зязюлька долю нам варожа:
— Ку-ку, ку-ку!
Каму на шчасьце, на руку;
Каму на гора, на бяду:
— Ці скора замуж я пайду?
— Мець буду грошы я, ці не?
— І колькі жыць прыдзецца мне?
— Калі-ж то будзе (Божа дай)
Наш родны-мілы вольны край?
Зязюлька скажа: — Будзь гатоў,
За столькі-гэтулькі гадоў!

---

Мо' хто разумны нам рассудзе,
Ці лёс спрыяць бяз працы будзе?

## ХТО САБАКА?

Рабы сабака, сучка бела —
(Каму да іх якое дзела?)
Усю ноч брэшуць, як здурнеўшы,
Ці выюць, як тры дні ня еўшы.
А суседзям толькі мука.
Ня йшла прафэсару навука;
А гаротна, квола маці
Не задрамала пры дзіцяці.
Артыстка зблытала свой танец;
Змыліла бабка свой ражанец;
Карцёжнік не з «свае» пайшоў,
Законьнік псальму не знайшоў.
Дзяўчынка, хвора на сухоты,
Згубіла сон ад тэй турботы.
А трэцяклясьнік проста плача,
Ніяк ня склеіць ён задачы...
Сабакі-ж то катоў ганяюць,
А то собак суседніх лаюць,
На месяц выюць ноч-у-ноч — —
А сон, малітва, праца — проч!
Хто тут сабака — чорны, белы, рудзька
Ці гаспадар там — добры цюцька?

---

На сон ёсьць спосаб ўсякі:
І радыё — ня горш сабакі.

## ЗЬВЯРЫНАЕ «*CREDO*»

Шпак ў дзень зьядае колькі важыць —
Сырое есьць — ня смажыць:
Дае тым прыклад нам,
Людзям.
Сьпяшыць-бяжыць, лятае ды клапоча —
Так воўк галодны есьці хоча.
І ты жывеш для хлеба,
Не для неба!
Прырода ўся цудоўна расьцьвіла
І птушка вунь гняздо зьвіла;
А ты, байбак, як палец той, як цьвек
Ты — пустацьвет — не чалавек!
Прырода любіць, свой бароніць род,
І дрэвы — глянь! — жывы народ;
Ты сам сабе — людзям ня вер —
Ты — Гітлер — зьвер!
А птушкі дружна так пяюць вясной —
Ах, Божа-ж мой!
А ты дзяры-бяры, дык будзе толк;
Бязбожнік ты, ці воўк?
Гдзе сіла, шчасьце там гдзе сала;
Нам усяго на сьвеце мала!
Мой бог — то я!
Тут падпісалася: «Сьвіньня».
Прырода нас і жывіць і галубіць,
Як маці любіць
А вы прыдумалі атом — навукі цьвет —
Браты, нашто?... каб згубіць сьвет?...

## ДЗЯЦЕЛ І ВЯВЁРКА

### I. Вясельле

Уздумаў неяк дзяцел раз
З вявёркай жаніцца:
— Будзе, кажа, пара з нас,
Трэба падзівіцца!
— У нас падобна рамясло —
І мы дэмакраты
Лесу досыць нарасло —
Скрозь пустыя хаты.
Стань вявёрка варажыць.
Так і гэтак мроіць:
— ... і адной ня лёгка жыць.
Дай вясельле строіць!
Шлюб даваў ім сам арол,
А воўк паліў сьвечкі,
Арганістым быў асёл,
А дружкі — авечкі.
Стук і грук! Кругом пяюць —
Кожны хоча бачыць;
Дрэвы ўсе ў далоні б'юць,
А бярозы плачуць.
Эх, пусьціліс танцаваць!...
Дуб сасьне гавора:
— Пойдуць дурні жабраваць,
Як скаштуюць гора.
Зразу строілі банкет —
Усе вастрылі зубы:
Прыглядаўся цэлы сьвет —
Цякла сьлінка з губы.
Там каршун гасьцей сабраў,
Тут варылі піва;
Бусел з жабаў скуру драў —
Хор быў — проста дзіва!
Нанёс дзяцел рабакоў,
Вявёрка — гарэхаў:
Тут-жа крык у іх пайшоў —
Было многа грэху...
Дзяцел жонку біў дзюбой,
Вявёрка кусалась:
Быў такі страшэнны бой —
Сонца аж схавалась!
Разьляцеліся уміг,
Куды вецер бродзіць —
Бо то кажуць: — Лёс благі
Людзей бедных зводзіць.

### II. Дзе згода?

Увесь лес ажно гудзіць:
— Ах, якая шкода! —
Трэба-ж дурняў пагадзіць —
— Згода, дзе ты, згода?
Людзі парамі жывуць,
Бо інакш ня можна:
Разам сеюць, разам жнуць —
Зьвер і птушка кожна.
А маланка чах і мах!
Разгулялась бура:
Пяруны — і трэск і страх —
Дрыжыць ўся натура.
Птушкі ўсе і ўсе зьвяры
Скрозь шукаюць згоду:
Так прапала — ночкі тры —
Проста — камень ў ваду! —
Так працуе гаспадар:
Пот цячэ па сьпіне, —
А тут злодзей, ці пажар —
І ўсё ў момант гіне. —
Дзецел вельмі стаў тужыць,
А вявёрка плача:
Як бяз згоды будзеш жыць?
То-ж жыцьцё «сабача»...

### III. Развод

— Стук-стук! — Дзяцел на машыне,
Да лісіцы носіць
На вявёрку — можа прыйме? —
Скаргу — вельмі просіць.
Кажа: — Каб афіцыяльны
Развод, проста-з-мосту,
Ну, бо шлюб быў не фармальны —
У палавіне посту.

— Няхай баба сядзіць дома —
Ёсьць на то прычына, —
Бо я — птушка, як вядома,
А яна — скаціна.
Напісала і вявёрка
Дзьве, ці гры паперы,
І на дзятла плача горка
Бяз ніякай меры!
— Хацеў, шэльма, на вясельлі
Мяне з сьвету зьвесьці:
Рабакоў мне на пахмельлі
Маніў-радзіў есьці.
— Лжэ яна, судзьдзя, ня слухай!
Што датычыць ежы... —
— Баба, ты мяне ня рухай!
Рабак быў там сьвежы.
— Шлюб-ня-шлюб: я памылілась!
Вунь якое дзела,
Бо я неяк з толку зьбілась,
На дразда глядзела.
... і асёл там крычаў дужа,
... і здароўе мне ня служа;
... ня люблю чамусьці мужа,
... і баялася жаніцца
... і другі мне сьніцца.
— Ці-ж вы перш не меркавалі? —
Ліса гаманіла:
— Як зьвяры асьцерагалі,
Мой ты, мая міла!

### IV. Судзьдзя

А лісу судзьдзёй назначыў
Певень з цэлым домам:
Людзі кажуць (я ня бачыў),
Што яна з дыплёмам.
Вочкі у лісы праворны,
Сама як сьвятая;
Языком закруіць жорны,
Хвастом сьлед зьмятае.
Судзіць воўк грахі авечы,
Шчупак-быстру рыбку,
Агонь судзіць дровы ў печы,
Павук — муху шыбку.
У Сібір ідуць мільёны,
А судзьздя парадзіць:
Ён, як чарадзей натхнёны, —
Гладзіць, посьле... садзіць.
Ані сьведкаў, адваката
Не патрэба зроду!
Дасьць на дваддаць пяць на брата
Вольнаму народу.
Загранічнік зара крыкне:
— Гэта лішне многа! —
Дэмакрат наш, як прывыкне,
Дык яно — нічога...

### V. Дзіўны канец

— Справа кончана і годзе!
Ліса кажа тое:
— Дурань дзьмухае па шкодзе —
Садзіць разам двое!
— А пакуль рабіцца будзе
Разрахунак з вамі,
Дзеткі, вы аб мілай згодзе
Пагукайце самі.
Яны сталі ўспамінаці
Шчасьце залатое:
«Жыцьцё ў хаце — то багацьце —
Лепш як што якое!»
Стала згода — ясна сонца
Выглядаць з-за хмараў,
Як дзяўчынка праз ваконца
Засьмяялась зара.
Пасьля так даўгой разлукі
Паглядаюць ў вочкі;
Падаюць ўзаемне рукі
Мілы галубочкі. —
Аж лісіца закружылась,
Штось сказаць хацела,
Посьле... мусіць памылілась?
Узяла іх... ды зьела...

### VI. Думка

Ах, як міла ў згодзе жыць,
Дзе зямля сумежна!
Ды лепш з шлюбам не сьпяшыць —
Так жыць — незалежна.

---

## ЛАСТАЎКІ І ВЕРАБЕЙ

Была радасьць у мястэчку
Ластаўкі вярнуліс:
Людзі спалі ў запечку,
А тут — гоп! — прачнулісь.
Ой, дазналі птушкі гора! —
Чужы край — ня хата:
Доля там, за сінім морам,
Ведзьма, хоць багата.
Вельмі ластаўкі любілісь,
Шлюб у парах бралі;
Як на сем'і падзялілісь,
Грамадою сталі.
Пачалі фундамант класьці:
Строіць гнёзды дзецям.
Вось дык будзе радасьць, шчасьце
Ў сама серадлецьце!
Хоць у школу не хадзілі
Нашы інжынеры,
Гнёзды ластаўкі рабілі
Усе пад адну меру.
І бяз рук, бяз інструмэнтаў —
Самых толькі двое,
Строяць хату ў трох мамэнтах
Так — адной дзюбою.

### II. Вераб'і

Калі ластаўкі працуюць —
Згода ў іх нядрэнна,
Вераб'і кругом шальмуюць,
Сварацца страшэнна.
    Хоць і дзерліся, пішчэлі,
    Гнёзды так схавалі,
    У такія нетры селі,
    Што хлопцы ня зналі.
Верабей і з вераб'іхай
Шэпчуць штось набожна:
Сядзяць ціха — будзе ліха!
Верыць ім ня можна...
    А тут ластаўкі снуюцца:
    Маладая пара
    Аж з апошніх сілаў б'юцца —
    Гняздо скончаць зара.
Верабей цьвірчыць-сьмяецца,
Сакрэт кажа звонка:
— У чужым гнязьдзе нясецца
Мая міла жонка!
    Вераб'іха — каб ты счэзла! —
    У гняздо чужое,
    Як сьвіньня ў гарох залезла,
    Як-бы што якое!
Сталі ластаўкі ганяці
Вераб'я-бандыта, —
Ён дзяўбе ўсіх ў чужой хаце,
Сядзіць, кажа: — Квіта!

### III. Першая рада

    Бедны ластаўкі галосяць —
    Б'е у неба лямант:
    Сабраць Раду дужа просяць,
    Сойм або парлямант.
Старшыня на тыя весткі
Сабраў ўсіх на плоце:
Пасьля тых, хто меў павесткі, —
Між слупоў на дроце.
    Муж із жонкай расказалі
    Сваё сьлёзна дзела
    Вераб'я тут праклінаці,
    Аж зямля гудзела!
Пастанова: — Згодным шыкам
Чарадой лятаем —
Зычным, страшным, вострым крыкам
Вераб'я спужаем.
    Добра! Кожна рэзва звонка
    Ластаўка прыскоча —
    Крыкне!... Верабей, як шпонка,
    Рушыцца ня хоча.
Усе ахрыплі, зьнемагліся —
Ажно сэрца б'ецца! —
Але выгнаць не ўдалося —
Верабей сьмяецца...
    Ці у будні, ці ў нядзелю,
    Часта так бывае:
    Куска хлеба не падзелім —
    Чужы карыстае.

### IV. Другая рада

Рана перад сонца ўсходам,
Ластаўкі ў разьлёце —
Аж з усім сваім народам
Селі ўміг на дроце.
    Адна кажа: — Зьдзек мы зносім!
    Як ня зможам самі,
    У хаўрус варон папросім
    Біцца з вераб'ямі.
Другі кажа: — Як так біцца?
Ды-ж тых злыдняў многа!
І кот часам нас баіцца —
Верабей — нікога!
    Трэці кажа: — Разьляцецца,
    Трэба ў сьмелым бою —
    Ён няхай-жа пасьмяецца,
    А ты дзюб — здюбою!
Памяць нат' аб ім загіне —
І на векі вечны
Мы праславім сваё імя —
Будзем жыць бязьпечны.
    Птушкі б'юць таго зладзея —
    Кожны яго длубаў —
    Ды дарэмна іх надзея —
    Ён усіх надзюбаў!
«Гоп!» кажы, як пераскочыш:
Здарыцца часамі,
Напярод хваліцца хочаш,
Ажно сядзеш ў яме...

### V. Трэцяя рада — апошняя

    Рана-рана у клапоце
    Ластаўкі лятаці:
    Як учора, зноў на дроце
    Ціха пасядалі.
І перш-на-перш к таму слову
Ластаўка старая
Кажа: — Думку дам здарову, —
Пасьля гэтак рае:
    — Я ў Эгіпце была тройчы,
    Разы два ў Судане;
    Каб яшчэ зьлятаць аднойчы,
    Ох, ці сілы стане?
З вераб'ямі, мае дзеці,
Крык-стук не паможа;
То-ж вядома на ўсім сьвеце,
Што-й клясьці ня гожа.
    — Як галоўкаю пакруціш —
    Грамада — то сіла;
    А як справу збаламуціш —
    Тут табе магіла!
— Вы так дружна ваявалі —
Сэрца аж палала:
Ён адзін — вы уцякалі,
Сонцу стыдна стала.
    — Вераб'я ў гнязьдзе шануйце,
    Хай дзяцей там родзіць:
    Дзірку толькі замуруйце,
    Хай і ня выходзіць!...

## VI. Думка

Ня крычалі больш, ня білі —
Пайшла справа гладка;
Але як яны зрабілі?
Вось для нас загадка.
Казаў Ганді, што «Свабода
Любіць Праўду, Згоду,
Працу шчыру для народу
І ў душы пагоду».

---

## ЯКІ ЁН ЧАЛАВЕК?

Жыў-быў Тамаш; яго як зналі,
Па-суседзку заўважалі:
«Ён такі дзіўны удаўся» —
На ўсім знаўся, за усё браўся.
Сваю працу ён адложа —
Таму-гэтаму паможа;
Часта дома не начуе,
Таго-іншага ратуе.
Сёй-той кажа: — Ён цікавы,
Садзіць нос не ў свае справы.
Тыя кажуць: — Між людзей
Тамаш першы фарызэй;
Ці што зробіць, ці што скажа,
Сваю цноту — тыц! — пакажа.
Іншы кажа, што ў сакрэце
Мае ён карысьць на мэце;
Удаве, што памагае —
«Хто іх знае — што бывае?...»
Тыя-ж кажуць: — Не, ня тое!
Ён, Тамаш, цялё дурное.
Крычыць жонка: — Ты лятаеш,
А пра хату і ня дбаеш.
Там карысьці — ані згрызьці!» —
Адазьвецца нам калісьці...
— Тамаш — кажуць зноў другія —
Так жыве, як усе сьвятыя. —
Скажу праўду вам пра тое:
Варажылі вы на двое.
У тамашовым дзіўным сэрцы
Адчынялі розны дзьверцы. —
Ды якраз з свае вантробы
Бралі ўласныя хваробы
І, ня церпячы іх далей,
На яго перакладалі. —
— А Тамаш быў цэлы век
Проста — добры чалавек!
— А вы самі
Тымчасамі —
Га?...

---

## МАЙСТАР

Андрэй — добры майстар, але ходзіць босы:
Робіць к лету санкі, а к зіме калёсы.

## СПРЭЧКА

Конь гаворыць да ваза:
— Эх, трашчыш ты як каза!
Знаць, людзі дарма кажуць,
Што цябе мажуць.
А воз адкажа: — Я маўчаў,
Але раз ты ужо пачаў,
Скажу табе: «Акыш!»
Ты горш трашчыш.
Парфумай чадзіш неаптэчнай,
І словы цэдзіш недарэчны.
Прытым мяне паганіш,
А другіх ганіш.

---

## У СУСЕДЗТВЕ

Якуб — добры чалавек,
Каб не яго сьвіньні!
Людзей мучыць цэлы век
І сам праз іх гіне.
Ну, і як з ім жыць у згодзе?
Чуць зара — сьвіньня ў шкодзе:
Крадзе ў сенях, ў бульбе рые, —
А скажы што — хай Бог крые!
Будзеш вораг.
Супакой мне болей дораг,
Як там шкода —
Нявыгода...
І праклён, і нэрвы, злосьць:
Сьвіньня — горш як ў горле косьць!
Воўк яе — ёй мала дня —
Лезе ўночы як... сьвіньня.
Гаспадар і гаспадыня
Мусіць яшчэ больш сьвіньні...

---

## КВАХТУХІ

— Як ня люба, дык ня слухай!
Маіх дзетак ты ня рухай:
Іх нікому не аддам, —
Бо як дам, дык ужо дам!
Дам-дам-дам!...
— Я васпані не баюся;
Захачу — адбаранюся!
Мае курачкі прыгожы:
Чорна з белым — дзеткі божы.
На сьмерць буду бараніць —
Буду біць, буду біць,
Біць-біць-біць!...
Так кудахкалі, кракталі,
Пад апеку сваіх бралі,
Чужых жорстка далоў гналі
Дзьве квахтухі...
— Клоп! — Як скочуць,
У злосьці вочы дзерці хочуць:
Як счапілісь,
Білісь, білісь!...

Як нямчасная асіна
Двор дрыжэў і ўся скаціна. —
Каб ня певень, мусіць ведзьмам
Сьмерць была-бы тут абедзьвем!
    Аж індык з гакой нагоды —
    (Ён філёзаф ад прыроды) —
    Думаў, думаў, пасьля кажа:
    — Дурань розум свой пакажа,
    Як сабака, калі ў злосьці
    З родным братам дзеліць косьці.
— Мы, зьвяры, а вунь як людзі
Зубы б'ём, ці рвём за грудзі...
А вот мудрая задача:
Згодных бабаў ці хто бачыў?

### ДЗІВА

Асёл убачыў вярблюда,
Каню гаворыць: — Вот брыда!
Патароча: няма складу
Ані сьпераду, ні з-заду,
Ані зьверху, ні са-споду.
Каб я жыў! — такога зроду
Я ня бачыў...
Шмат чаго асёл сабачыў. —
Аж конь кажа: — Мы ня знаем,
Каго лаем.
А ён можа быць ярказ
Лепшы сто разоў за нас. —
Вярблюд быў-бы прыгажэйшы,
Каб чуць вушы меў даўжэйшы;
Бо з кароткімі вушамі
Мы ня можам быць асламі.

### САНІ І ВОЗ

Хваліцца сані сталі
Перад вазом: — Эх мы ляталі!
Пушыць дарожка як масьлянка,
Ляцішь як куля, як маланка:
Пярун ня будзе такі быстры —
На сонцы крэсім іскры...
- - Ты, воз, тырчыш тут як ражон, - -
Каціся вон! —
Была зіма, трашчаў мароз.
У пуні мёрз, дрыжаў той воз.
    Воз успамінамі багаты,
    Быў вельмі думкамі заняты:
    Ён мроіў аб грунтоўнай працы —
    Ня то, што сані — цацы-цацы!
    І кажа: — Бліскуча дзела, ды пустое:
    Вот прыйдзе лета залатое,
    Тады пабачым, хто заскача,
        А хто заплача!

### РАБІН

Вучноы рабін новы
Навукі клаў асновы. —
— Такія, кажа, ідуць слухі,
Што людзі так жывуць як мухі:
Адна з іх — проста, шэра;
А дзе яе кватэра?
Хоць гоніш вон, а лезе ў хату —
Ці ў бедну, ці ў багату,
І есьць з стала людзкое
    Усякае — такое.
    — Ну, а другая?
    — Другая муха залатая!
    Уй, можна пабажыцца,
    Яна прыгожа як царыца!
— Аднак... (мне гэта слова ня выходзіц) —
Што есьць яна? Дзе ходзіць?
    Так людзі: той вунь—пан «вяльможны»—
    З ім будзьце асьцярожны.
    А другі—шэры... Ну, што дальш казаць?
    Ці вы ня можаце згадаць?

### ЗУБРЫ

Вайной чамусь ў чужыя межы
Зубры ўступалі з Белавежы. —
Аж ўсяму сьвету было дзіва:
Магутны карк і горб, і грыва,
І голас звонкі, быстры ногі,
А над усё дык вострыя рогі,
Ды позірк зоркі, самаўладны! —
    Па сьвеце гоман йшоў няскладны:
    — Адкуль народ шаноўны гэты?
    Ці мо' з якой-такой пляеэты
    Ідуць да нас, каб што-якое
    Задумаць проціў нас ліхое?...
Ды не! Зубры ад мамы й таты
Былі ціхія моў цяляты;
А толькі, толькі між сабой
Увайшлі ў страшны, крывавы бой!
    Дык яшчэ больша сьвету дзіва:
    Ці месяц кружыцца фальшыва?
    Ці мо' ў сусьветным самавары
    Ня стала ні вады, ні пары?
    Ці Нёман з дуру, або з гора
    Паплыў чамусьці ў Чорна мора?
    Ці то зубры ў душы і ў целе
    На чужыне так пачмуцелі?
Уся прырода пасумнела,
І сонца яснае сацьмела,
І паўцякалі з неба зоры,
І род людзкі зрабіўся хворы —
Сьвет ўвесь гатоў быў з глузду зьбіцца —
Зубры-ж не перасталі біцца!
    Няма больш сілы, ні красы:
    Пахрыплі звонкі галасы,
    Падбіліся, крывавяць ногі,
    Зламаліся іх востры рогі
    І аслабеў іх карк грубы —
    Трымаюцца аднак гарбы...

---

Здалёку шчасьце к нам прыходзе —
Яго здабудзем у братняй згодзе.

СЬВІНЬНІ

Я бачыў раз такіх сьвіней —
Яны ўсё елі, спалі —
(Ня буду раўнаваць іх да людзей):
Нічога больш ня зналі.
Любілі бульбу, зельле, брагу;
Да працы — ні ахвоты, ні пацягу!
Так дзень пачаўшы, елі-елі,
І спалі ад нядзелі да нядзелі.
А елі смачна, ласа,
Бо... гадаваліся на мяса.

---

А людзі як? Казаць было-б абрыдла,
Бо людзі — то ня быдла!

**В. А.**

# Няведамыя шляхі

**(Заканчэньне)**

## СУЦЯШАЛЬНАЕ АДКРЫЦЬЦЁ

Першы год унівэрсытэцкае навукі прайшоў для Андрэя шчасьліва. Працярпеўшы звосені розныя нястачы, ён перад Калядамі атрымаў невялікую стыпэндыю і быў вельмі задаволены, што больш ня трэба галадаваць і з усім сваім юнацкім захапленьнем налёг на студыі. А таму, што адразу запісаўся на два факультэты, дык працы хапала аж па самыя вушы так што мусіў адмовіцца ад лекцыяў, якія даваў сыну аднаго з шэфаў Міністэрства земляробства. Аднак у віры працы ён умеў знайходзіць час, каб сягды-тагды павесяліцца з сябрамі, а сяброў за пару месяцаў ён меў ужо многа. Вядома маладосьць і супольныя студыі да знаёмства і да спрэчак могуць давесьці як бачыш.

На летнія канікулы Андрэй прыехаў дамоў з гонарам маладога студэнта. Праўда ён не ганарыўся сабою; ня меў гэтае пыганае заганы, але яго ўсе аднавяскоўцы называлі няйначай, як маладым адвакатам і часта зьвярталіся з рознымі просьбамі. Такія адносіны сваіх блізкіх суродзічаў змушалі яго ставіцца паважна да свае будучае прафэсіі і высока цаніць яе.

Перад касавіцаю надвячоркамі каля хаты ўдавы Зосі няраз адбываліся сапраўдныя нарады — пасядзенікі, у якіх дзядзька Сьцяпан звычайна быў галоўным завадатаем. Падчас такіх пасядзенікаў закраналася толькі розных пытаньняў, што Андрэй не заўсёды мог даць на іх патрэбнае выясьненьне. Дзеля гэтага ён нават пробаваў унікаць пасядзенікаў, ўбо зводзіць гутарку на звычайныя падзеі дня, але калі прыслухоўваўся ўважна да таго, што цікавіць людзей, дык усьведамляў сабе штораз больш, як паважна трэба студыяваць, каб належна выканаць сваё прызваньне.

На адным з такіх пасядзенікаў Андрэю прыгадалі, што на сьвятога Яна мае быць вялікі фэст у Глінінскай царкве, гэта якіх 12 кілямэтраў ад Старабродаў. А таму, што каля Глініна, у Падлесьсі было аж двох быўшых гімназійных сяброў, дык рашыў пайсьці на фэст, каб пры гэтай нагодзе адведаць старых знаёмых. У сваіх меркаваньнях не памыліўся. На дзядзінцу каля царквы Андрэй сустрэў Аркадзя Краўцэвіча і Міколу Берага, хадзілі яны з нейкім незнаёмым. Аркадзь заўважыў Андрэя першы і крычаў яму на сустрэчу:

— О, глядзеце, варшавяк прэцца.

— Прывітаньне засьцянкоўцам! — у тон Аркадзя адказаў Анрэй.

— Ня быў-бы то адвакат, ня дасьць сабе напляваць у кашу, — заўважыў Мікола вітаючыся.

— А куды-ж цябе нялёгкае загнала? — запытаў Міколу, бо ня ведаў, што ён студыюе.

— Ці-ж ты ня бачыш, што ён нават і на фэст прышоў са скальпелем? — жартаваў Аркадзь, выцягваючы з Міколавае кішэні нейкія прылады, — бачыш у хірургі накіраваўся.

А трэці студэнт прадставіўся аграномам і быў сынам аднаго з ваколічных панкоў, але відаць больш цікавіўся дзяўчатамі чым сваімі студыямі. Пакуль сябры абменьваліся сваімі першымі ўражэньнямі са студыяў, ён пасьпяшыў адлучыцца «на хвілінку» і больш да іх не зьявіўся.

Пакуль сябры дзяліліся сваімі ўспамінамі, пакуль расказвалі, што ведалі аб старых знаёмых і аб тым, як дзе хто з іх уладзіўся, дык і багаслужэньне даходзіла да канца. А пасьля багаслужэньня, калі ўжо народ пачаў расходзіцца, яны яшчэ шмат аб чым хацелі пагутарыць. Так іх і засьпеў стары Краўцэвіч.

— Аркадзь, дзе-ж ты забавіўся, ужо ўсе едуць дамоў, а яго ўсё няма... А выбачайце, — панізіўшы голас прадаўжаў ён — я й ня гляджу, што тут сабраліся старыя знаёмыя. Як-жа маецеся, хлопцы!

— А вось, дзядзька, жывём пакрыху. Даўно ня бачыліся і няма ведама, ці зноў хутка стрэнемся, дык забарыліся крыху, — казаў вітаючыся Андрэй.

— Э, дык на гэта ёсьць рада. Гайда да нас на абед, гэта недалёка.

— Шчыра дзякую, але гэта мне зусім непададарозе, бо ад Глініна да вашага Падлесься яшчэ здаецца пару кілямэтраў ды зусім у праціўны бок ад Старабродаў, — спрабаваў адмаўляцца Андрэй, а Мікола маўчаў.

— Што значыць «непададарозе», для маладых ног дзесятак кілямэтраў не ў наклад. І во нядаўна з вашых Старабродаў паехаў у Падлесьсе зяць тае цёткі Палагеі, аб якой калісь сам нямала апавядаў у бурсе, дык падпільнуем яго і адправім цябе дамоў з пачасьцямі.

Далей адмаўляцца ня было як і яны ўсе гуртам праз якое паўгадзіны ўваліся ў хату Краўцэвіча.

— Вось добра, што толькі госьцяў назьбіралася! — цешылася старая Краўцэвічыха — цяпер дык будзе сьвята, як мае быць. Пайдзі, Янка, яшчэ пакліч сястру. — зьвярнулася яна да старога.

— Дык вы, дзядзька, называецеся Янкам, я і ня ведаў, — падхапіў Андрэй — гэта-ж вы сёньня імяніньнік Дазвольце вас павіншаваць.

— Павіншаваць, то павіншаваць, але гэта бацьку на суха не абыйдзецца, — захапіўся Аркадзь.

— А ўжо-ж трэба гэты дзень азначыць як належыць.

Абед у Краўцэвічаў ператварыўся ў невялікі банкет і зацягнуўся даволі доўга. Па абедзе ўсе грамадою выйшлі ў поле на прагулку. Недалёка за вёскаю нівы збожжа сутыкаліся з прыгожым лугам. У адным канцы лугу былі ніцыя хмызьнякі, а між імі быццам схавалася невялікае азярцо. Вось туды ўсе і накіраваліся.

Насядзеўшыся за сталом ніхто не сьпяшаўся садзіцца, але прыбярэжны мурог аж сам прасіўся, каб расьцягнуцца на ім, дык сёй той лёг, а Мікола Бераг падышоў да вады і пачаў узірацца.

— Ты што там цікуеш? — заўважыў Аркадзь, які з маленства любіў назіраць за прыроднымі зьявамі, а цяпер яшчэ да звычайнага зацікаўленьня даходзіў фаховы нахіл, ён студыяваў прыродазнаўства.

— А вось гляджу, што тут круцяцца нейкія рыбкі, адкуль яны маглі ўзяцца? Гэтае-ж азярцо ў сухія гады зусім высыхае.

— Ці дасьцё веры, — загаварыў стары Краўцэвіч — я ўжо няраз дзівіўся з гэтага азярца. Іншы год у сьпякотнае лета яно бывае высахне зусім і ўсе водныя жывёлы ці самі пагінуць, ці вароны іх падзюбаюць, а прыйдзе восень, пачнуцца дажджы, глядзіш, зноў азярцо ажывае, а вясною і рыбкі зьяўляюцца. І адкуль яно ўсё бярэцца?

— Гэта ўжо ня так і цяжка сказаць, — загаварыў паважна Аркадзь.

— Ну, во ты гаворыш ня цяжка. Хаця, ты-ж вывучаеш прыродазнаўства, дык павінен крыху кумекаць у такіх праявах.

— А хіба-ж вы ня чулі, што нашыя ўюны і вугры могуць перапаўзаць па роснай траве па некалькі кілямэтраў, пакуль ня трапяць у якую рэчку ці возера, а некаторыя дробныя рыбкі могуць перажываць у гразі даўжэйшы час?

— Аб гэтым то крыху чуў.

— Але вось ёсьць яшчэ ў прыродзе вельмі цікавае зьявішча, — гаварыў Аркадзь штораз больш захапляючыся — аб якім магчыма і ня чулі, што дробныя аднакаморкавыя жывёліны, якія жывуць у лужынах і невялікіх вадаёмах, як гэтае возера, калі тыя вадаёмы высыхаюць, дык яны акручваюцца спэцыяльнаю плёнкаю, усе іхныя жыцьцёвыя працэсы спавольніваюцца, быццам заміраюць і жывёлінкі ператвараюцца ў дробныя пылінкі. Гэтае зьявішча пагрэцку называецца анабіёз. У стане анабіёзу іх разам з пылам вецер носіць па сьвеце, аж пакуль не занясе ў якую лужыну ці возера. Там растае іхняя плёнка і яны ажываюць, адгэтуль і назоў самога зьявішча анабіёз, што пагрэцку значыць ажываньне. У вышэйшых жывёлаў ёсьць іншыя зьявішчы, падобныя да анабіёзу, дзякуючы якім яны перажываюць пяспрыяючыя ўмовы. Розныя кузурукі, мухі, рыбы, жабы, смаўжы, яшчаркі, вужакі, чарапахі — дранцьвеюць на зіму. А яшчэ вышэйшыя жывёлы, як: суслікі, вожыкі, кажаны, барсукі, вявёркі, мядзьведзі — на час зімовых халадоў залягаюць у сьпячку, каб пераежыць люты час бесхарчоўя. А прыйдзе вясна — прабуджаюцца да нармальнага жыцьця.

— Вось Боская прамудрасьць — загаварыў быццам да сябе стары Краўцэвіч. — Як гэта на сьвеце разумна ўладжана, каб захаваць безбаронныя істоты ад вынішчэньня. І ведаеце, хлопцы, што мне прыйшло на думку, слухаючы вось гэтую гутарку аб анабіёзе і зімовай сьпячцы?

— Ну што?! — спыталіся юнакі быццам па каманде.

— А вось што. Некаторыя нашыя паэты і дзеячы горка наракалі на беларускі народ за тое, што ён яшчэ быццам сьпіць і ня хоча прачынацца. А мне здаецца, што гэта наш народ пераживае люты час у зімовым здранцьвеньні. Як настаў час паняволеньня, гнобленьня і нялюдзкага зьдзеку пераважаючае сілы, дык народ запаў у нейкую своеасблівую сьпячку. Няхай чужынец папробуе дапытацца ў першага стрэчнага беларуса, хто ён такі, дык усяго і даведаецца, што ён нейкі «тутэйшы», або і зусім ні то, ні сё. Праўда, дзякаваць Богу, ня ўсе здранцьвелі...

— Бацька, дык мядзьведзі ня ўсю зіму сьпяць, часам іх абуджаюць, і яны выходзяць з бярлогаў на страх для паляўнічых, — заўважыў Аркадзь.

— Дык тое-ж дзеецца і ў нас, на страх для нашых ворагаў зьяўляліся на адраджэнскай ніве

такія «мядзьведзі», што аж люба паглядзець. А цяпер дык ужо і зусім шмат народу абудзілася і здаецца наагул хутка прыйдзе канец таму здранцьвеньню. Па ўсіх прыметах можна меркаваць, што хутка Бог пашле вясну і закрасуе нашае жыцьцё. Ці я стары дачакаюся тае шчасьлівае хвіліны, ня ведаю, але вы дык напэўна дачакаецеся.

— Дзядзька, вось гэта дык сапраўднае адкрыцьцё, — ня выцярпеў Андрэй — але скажэце, няўжо бязьдзейна чакаючы можна дачакацца абуджэньня народу?

— Што табе сказаць на гэта? Вясна штогод прыходзіць у сваю пору і людзі яе ня могуць ні прысьпяшыць, ні апазьніць, але вясну народнага жыцьця, мне здаецца, прысьпяшыць можна. У прыродзе вясну нясуць з сабою праменьні сонца, а вясну народнага жыцьця ствараюць вялікія сілы шчырае любові народу і бескарыснае ахвярнасьці, і тут кожны можа што колечы дакінуць.

— Як вы, дзядзька, трапна заўважылі і хараша выказалі.

— Хараша, ня хараша, але мне здаецца, што яно так ёсьць. Але мы загаварыліся, а ўжо недалёка і вечар, ідзем дамоў, — і стары Краўцэвіч па старой настаўніцкай прывычцы энэргічна павярнуўся ў кірунку да свае вёскі, за ім пасьпяшылі юнакі.

## ВЫПАДАК НА СТАНЦЫІ

Падарожжа і прыгоды — гэта быццам неразлучныя сябры. Часам яны пацешныя, часам нудныя, часам няшчасныя, часам павучаючыя, а часам і няпрыемныя — але заўсёды доўга памятныя. І Андрэй у часе сваіх падарожжаў меў нямала розных прыгодаў. Адна з іх вельмі-ж глыбока ўрэзалася яму ў памяць.

Гэта было пасьля трэцяга курсу студыяў. Ехаў ён дамоў у таварыстве старэйшага сябры Лысінскага — паляка, які толькі што кончыў юрыдычны факультэт і ехаў у Вільню адбываць аплікантуру ў акруговым судзе. Там дзядзька Лысінскага — прафэсар юрыдычнага факультэту Віленскага унівэрсытэту — меў моцныя плечы і ўладзіў пляменьніка на найбольш выгаднае мейсца.

Лысінскі жыцьцярадасны і энэргічны чалавек, чуючы за сабою моцныя плечы, трымаў сябе самаўпэўнена, а нават крыху ганарліва і спачатку глядзеў на Андрэя згары. У часе студыяў яны толькі некалькі разоў спатыкаліся ў выкладовых салях унівэрсытэту, значыць ведалі сябе, але гэтае знаёмства абмяжоўвалася тым, што зналі сябе з твару. Цяпер-жа ў вагоне, седзячы побач, яны разгаварыліся аб розных штодзеных жыцьцёвых і юрыдычных пытаньнях, знайшлі шмат супольнага ў сваіх паглядах і хутка перайшлі на прыязны тон.

— Ведаеш, Андрэй, шчыра кажучы, я ня зусім ясна ўяўляю, як будзе выглядаць мая юрыдычная праца на гэтых абшарах, — зусім шчыра прызнаўся Лысінскі.

— Я думаю, што табе прыдзецца перавучвацца амаль што нанава ўсё адміністратыўнае права.

— Ну, не жартуй, я гавару зусім паважна.

— Дык і я гавару паважна, — спакойна, але пераканаўча цьвярдзіў Андрэй. — Ты-ж добра ведаеш, што для вышэйшае адміністрацыі і правы тут маюць іншы сэнс і нават сама краіна мае асобны назоў: Крэсы Ўсходне, на якіх законы і правы аплікуюцца сваяродным спосабам, а ўсе адміністратаўныя распарадкі выконваюцца паводля самаволі мяйсцовых урадоўцаў і ўплывовых магнатаў.

— А ты часам не ўагульніваеш паадзіночных выпадкаў?

— Вось пажывеш, пабачыш і ўспомніш тады маё слова.

— Знаеш, з маім характарам цяжка будзе вытрымаць такія выбрыкі.

— Ня вытрымаеш, дык адправяць назад і будуць задаволеныя, што пазбыліся непажаданага чалавека.

— Мушу табе сказаць, што я ўжо крыху чуў аб Крэсах, аб розных выбрыках усякае прыезжае драбязы, што ўсюды хоча паказаць сваю важнасьць, аб іх мне гаварыў мой дзядзька, і мне дзіўна, як іх могуць талераваць адказныя дзейнікі, бо-ж такі элемэнт прыносіць ганьбу народу.

— Вось ты папрабуй пераканаць каго трэба, што гэтакую навалач трэба моцна ўзуць за грыву.

Закрануўшы такія балючыя пытаньні сябры і незаўважылі, як хутка прайшоў час. Цягнік спыніўся на вузлавой станцыі, дзе Андрэй мусіў перасядаць, а Лысінскі чакаць больш як паўгадзіны, калі ягоны вагон пойдзе далей. Каб правесьці вольны час, яны накіраваліся ў буфэт, зусім не спадзеючыся, што там іх чакае «крэсавае» здарэньне.

Сябры занялі стол каля ўваходных дзьвярэй, а крыху далей была пачакальная саля першае клясы. Раптам адтуль выйшаў размашыстым крокам тоўсты панок і накіраваўся да выхаду. Але яму насустрач увайходзіла двое людзей: худы і бледны селянін, яго моцна падтрымоўвала кабета, відаць яго жонка. Панок, не зьвяртаючы ўвагі на сялян, ішоў да дзьвярэй, моцна размахваючы сваім расхрыстаным плашчам. Параўняўшыся з сялянамі, панскі плашч пятліцаю ўчапіўся за гузік у сьвітцы селяніна. Пан замест адчапіць плашч, тузануў яго з ўсяе сілы і селянін, хваравіта заенчыўшы, упаў на падлогу.

— Ах Божа-ж мой, а ратуйце, людзі добрыя! — залямэнтавала кабета.

Андрэй і Лысінскі кінуліся падымаць хворага, а пан мітусіўся з сваім плашчам і крычаў:

— Якое хамства, валочацца пад нагамі, дзе ня сьлед...

— Што, пан жывёліна, ці чалавек? — ускіпеў Лысінскі. — Перакінуў чалавека і замест таго, каб перапрасіць, дык яшчэ лаецца!

— А гэта што за адвакат знайшоўся? — вызьвярыўся пан.

— А людчыкі, а добранькія, а што-ж мне, беднай, рабіць — прычытвала кабета — гэта-ж ён ледва жывы, да дохтара ў Вільню выбралася, дык ужо мусіць і ехаць ня будзе пашто...

Тымчасам селяніна паднялі, у яго з локця капала кроў на падлогу. Навокал назьбіраўся натаўп цікавых, зьявіўся паліцыянт.

— Пане пастарунковы, вось гэтыя хамы мне тут цэлую гісторыю зрабілі... — зачаў панок.

— Пане пастарунковы! — перабіў яго Лысінскі — зрабеце парадак з гэтым грубіянам, вы бачыце, пакалечыў хворага чалавека і яшчэ лаецца.

Паліцыянт глядзеў разгублена, то на пана, то на Лысінскага, то на селяніна.

— Пане пастарунковы, хворы ўпаў сам, а гэты малады чалавек мяне абразіў.

— Што? — закрычаў Лысінскі. — Як ты сьмееш так бязьлічна лгаць?! — і тут ужо не пашкадаваў слоў з «варшаўскаю красамоўнасьцю» накідаючыся на панка.

Каля хворага селяніна зьявілася дыжурная з чырвонага крыжа, паліцыянт тымчасам зажадаў дакумантаў ад Лысінскага і Андрэя Протаса:

— Калі ласка, пакажэце вашыя асабістя дакуманты, я мушу напісаць пратакол.

— Вось вам мая карта з Варшаўскага Унівэрсытэту, — перадаваў свае дакуманты Андрэй.

— Маеце і мае дакуманты, — падвышаным тонам гаварыў Лысінскі, — гэта накіраваньне асыстэнта Лысінскага на працу ў Віленскі акруговы суд; маю і яшчэ сякія такія дакуманты.

У паліцыяната задрыжалі рукі, а панок зьбялеў.

— Дык пішыце пратакол, чаго глядзіце? — ня супакойваўся Лысінскі — і пішыце дакладна, бо мой сябра так-жа варшаўскі адвакат і мы на судзе з гэтым панам пагаворым як трэба.

— Панове, тут-жа няма як пісаць, ідзем у мой вартавы пакой, — лагодна загаварыў паліцыянт і накіраваўся да дзьвярэй.

А ў пакоі, перш чым пачалі пісаць пратакол, панок лісіцаю рассыпаўся:

— Панове, нашто нам суд, ці-ж ня можна палагодзіць гэтае дробнае справы мірна?

— Як палагодзіць? Вы пакалечылі хворага чалавека, абразілі яго і нас ды хочаце, каб вам гэта ўсё абышлося на суха?! — гаварылі наперабой Лысінскі і Протас.

Паліцыянт бачыў, што панку выкруціцца на суха ад маладых кандыдатаў на адвакатаў немагчыма, панку так-жа было ясьней сонца, што ад гэтых гарачых галоваў можна моцна папячыся, таму стараючыся быць як найбольш лагодным зьвяртаўся то да аднаго, то да другога:

— Добра, панове, я не адмаўляюся, што сталася нядобра, але хіба-ж пры добрай волі нельга палагодзіць гэты няпрыемны выпадак?

— Пэўна што можна, але мусіце перапрасіць хворага і заплаціць яму адшкадаваньне... — Дыктаваў умовы Лысінскі.

— Добра, панове, я не адмаўляюся...

І вось пасьля кароткае гутаркі працэсія з паліцыянтам на чале накіравалася ў пачакальную салю, дзе быў хворы селянін. Панок, заікаючыся і апраўдваючыся нібы перапрошваў селяніна і соваў яму ў руку жмутак польскіх злотых «на лекара»:

— ... Гэта здрылася праз пасьпех. Ну ведаеце, зусім ня хочучы зачапіў вас... Дык ня будзем за гэта сварыцца.

— Ох, пэўна-ж усяк яно здараецца, — цяжка дыхаючы павольна гаварыў хворы, — а сварыцца я не магу, мне ўжо, пане, не да сваркі...

— Значыць добра. Я моцна сьпяшаюся. Жадаю вам хутка паправіцца. — І панок накіраваўся да выхаду, за ім пасьпяшыў паліцыянт.

— Я так-жа мушу сьпяшацца, — разьвітваючыся з Андрэям гаварыў Лысінскі і зьвяртаючыся да хворага — а вам жадаю хутка ачуняць. — Пры тым далікатна паціснуўшы яму і ягонай жонцы руку, пасьпяшыў да свайго вагона.

— Дзякую вам, паночку» — казала яму наўздагон жанчына, — і вам, пане, дзякую, што заступіліся за нас, — казала зьвяртаючыся да Андрэя.

— Цётка, я не «панок», а такі-ж беларус, як і вы.

— Ах мая! — усклікнула яна і глядзела на Андрэя, быццам сваім вачом ня верачы. Хворы так-жа павярнуў галаву да яго. — Але-ж вы казалі, што з Варшавы...

— Мы казалі праўду, бо мы там разам вучыліся і той мой сябра паляк, а я беларус.

— Ну, хто-б гэта падумаў, Божа мой міласэрны, як-жа табе, сынку дзякаваць...

Кантралёр які сядзеў пры выхадных дзьверах і ўважна назіраў за ўсім, што сталася ў пачакальні, раптам падышоў да Андрэя і бяз прывітаньня,

быццам стары знаёмы, ціха загаварыў: пабеларуску:

— Добра вы правучылі таго пыхлівага панка, вельмі добра.

— Дык і вы, пане... і жанчына не дагаварыла, у яе на вачох зьявіліся буйныя сьлёзы. На хвіліну запанавала напружанае маўчаньне.

— Вы гэта на які цягнік зьбіраецеся? — Каб перабіць маўчанку, загаварыў кантралёр.

— Або вы думаеце я ведаю, — усхліпваючы адказала жанчына. — Нам трэба ў Вільню...

— Вось што цётка, ты ня плач ,хутчэй зьбірайся ды йдзі за мною, бо ўжо няма калі і білету купляць, у цягніку ўжо табе дасьць кандукгар... Я яму скажу, хто вы.

Калі нарэшце з помаччу кантралёра і Андрэя хворы з жонкаю ўжо былі ў адпаведным вагоне, дык на разьвітаньне, хворы трымаючы за руку Андрэя казаў:

— Гляжу я на цябе, сынку, і мне лягчэй на сэрцы робіцца, нібы вось удыхнуў нейкага памагушчага леку. Мне на апэрацыю трэба ехаць і праўду кажучы, я не хацеў нават ехаць, гэта яна во намаглася, бо думаў, што ня выжыву, а цяпер вось здаецца, што выжыву, і яшчэ ня гэта выжыву, о, мы беларусы, жывушчыя!

Жонка хворага аж зьзяла ад радасьці і на разьвітаньне добрым пажаданьням, здавалася, і канца ня будзе.

Калі ўжо Андрэй сядзеў у сваім вагоне, у яго доўга стаялі перад вачыма хворы селянін са сваею жонкаю, абое ўзрадаваныя быццам з памаладзеўшымі абліччамі, а ў вачох сьвяцілася непахісная вера ў лепшую будучыню.

— І гэтае веры ўжо ніхто ня здушыць, — думаў ён. — Гэтага абуджанага сьведамага жыцьця не параможа ніякая ліхая сіла, бо яны цяпер будуць абуджаць усіх сваіх бліжніх, павялічваць рады сьведамых людзей.

І Андрэй не памыліўся. Селянін вярнуўся здаровым з апэрацыі. Аб выпадку на станцыі шырока і далёка расказвалі шмат больш, як было ў сапраўднасьці. Людзі расказвалі і самі сябе падбадзёрвалі да актыўнага змаганьня за лепшую будучыню.

## ЖЫЦЬЦЮ НАСУСТРАЧ

Безнастанныя турботы зрабілі Андрэя стастарэйшым над ягоны век, а становішча, да якога рыхтаваўся, спанукалі яго быць паважным, калі адчуваў на сабе дапытлівыя погляды сваіх аднавяскоўцаў. Але дзеля гэтага нярaз сумаваў за якою нагодаю, каб даць поўную волю парыву маладосьці. Таму Андрэй эхвотна прыняў запросіны свайго найлепшага прыяцеля з дзяцінства, Барыса Хадуна, быць кумам ягонаму першаму сыну.

Як звычайна, хрэсьбінны банкет папярэдзіў абрад хросту ў царкве. Хрост даваў старэнькі сьвятар. Ён ведамы быў з таго, што акуратна захоўваў усе старыя беларускія абрадавыя асаблівасьці. Даючы сьвечку ў рукі Андрэю, ён чамусьці з прыціскам выразна гаварыў:

— Прыймі гэтую запаленую сьвечку і пастарайся праз усё жыцьцё тваё прасьвячацца сьветам добрых учынкаў...

Андрэю ўрэзаліся ў памяць гэтыя словы і ён, уважна сочачы за далейшым абрадам, углядаўся на сьвечку і думаў:

— Як проста, але як ясна выказана высокая і зьмястоўная мэта жыцьця: «Прасьвячай тваё жыцьцё добрымі ўчынкамі і праз гэта станешся годным найбольшае нагароды: вечнага шчасьлівага жыцьця ў нябеснай славе з Госпадам». Дзіўна, што даўно абвешчана гэтую мэту людзкога жыцьця ўсяму сьвету, але яшчэ многа было і ёсьць людзей, якія ня хочуць зрабіць найменшага стараньня, каб зьдзейсьніць яе. Ёсьць і такія, што трацяць дарма свае ўмысловыя і фізычныя сілы, каб выдумаць нешта іншае, лепшае. І ўжо нямала такіх «лепшых» выдумкаў спрычынілі жахлівыя няшчасьці для мільёнаў людзей. Мучаць сябе, а да памылак ня прызнаюцца. Ёсьць чаму дзівіцца. А між тым, што можа быць лепшым і больш узьнёслым, як гэтая простая філязофія: Сам будзь добры і абуджай у іншых усё тоё добрае, на што толькі здольная натура чалавека!

Андрэй адчуваў нябудзённую радасьць, выявіўшы такую сьветлую думку і нават у часе хрэсьбіннага банкету некалькі разоў вяртаўся да яе, паддаючыся задуменнаму настрою. Дзеля гэтага спачатку ў яго ня вельмі ладзілася гутарка з кумою і субяседнікамі за сталом. Праўда у хаце быў тлум, як звычайна на хрэсьбінах, дык ніхто не зьвярнуў увагу на задуменнасьць Андрэя, а ён сам неяк міжвольна пачаў уважней пpыглядацца да дзяцей, якія кружыліся каля мамкаў і бабкаў. І вось што яму кінулася ў вочы: На хрэсьбінах была сварлівая цётка Палагея, яна за нешта са злосьцю накінулася на свайго старога, лютаю асою лезла яму да вачэй і пры тым выглядала якраз як ведзьма, хоць ты садзі яе на памяло і адпраўляй на Лысую Гару. Раптам прыбег да яе ўнук з радаснаю ўсьмешкаю на абліччы, учапіўся за яе руку і ляпеча:

— Баба, баба, паглядзі, якую мне цацку даў дзядзька Барыс!

Палагея павярнулася да малога і ў адзін мамэнт сталася быццам ня тая, усьміхнулася і зазьзяла

анельскаю дабратою, здавалася: прышый крыльлі, дык да неба паляціць.

Магчымасьць такое раптоўнае і такое вялікае зьмены ў настрою і абліччу чалавека моцна ўразіла Андрэя. Яму прыгадался дзесьці чутае апавяданьне, як аднойчы ў Індыі маладыя сужонкі разам з сваім аднагодным дзецям працавалі на полі, пасадзіўшы дзіця недалёка ад сябе ў траве. Раптам пачулі, што дзіця да кагосьці ляпеча, агляну ліся і з жахам убачылі, што перад дзіцям узьнімаецца страхотная галава надзвычайна атрутнае гадзюкі кобры, а дзіця працягвае сваю ручку, каб пагладзіць тую галаву, усьміхаецца да яе і штосьці ляпеча. Бацькі замерлі ад страху, ведаючы, што кобра не дае нікому спуску ад свайго сьмяротнага ўкусу. Але тут сталася іначай: кобра, ачараваная нявіннаю дзіцячаю дабратою, спакойна адпаўзла ў траву, не кранууўшы малога. Відаць, што шчырая дабрата можа дзейнічаць нават і на лютыя жывёлы.

Ня вытрымаў Андрэй, каб не расказаць такога здарэньня сваёй куме, але ня ўспьпеў яго закончыць, як залуналі хрэсьбінныя песьні, на зьмену зьявілася музыка — радзінны банкет радаснаю бурапеннаю плыньню захапіў усіх прысутных; мусіць гэтая радасьць адсьвяжала сілы да цяжкае штодзенная праца і да настойлівага змаганьня з перашкодамі. Але аб гэтым ужо Андрэй ня думаў, ня было калі, вір радасьці захапіў яго.

Колькі дзён пасьля радзіннага банкету Андрэй зноў вярнуўся да сваіх паважных думак, а сталася гэта зусім неспадзевана. Аднойчы ён ішоў з Старабродаў у Замчышчы і падарозе стрэнуў свайго калішняга старога настаўніка. Стаяў ён ля прыдарожнага куста і ўважна да нечага прыглядаўся. Андрэй, прайходзячы каля яго, даў дабрыдзень і, не затрымаўваючыся, крочыў далей, але настаўнік аклікаў яго:

— Пачакай, здаецца Андрэй Протас?

— Так, ён самы, ваш калішні вучань.

— Глядзі ты яго, як вырас, ледва пазнаў. Якжа йдзе навука?

— Добра, ужо пакрыху да канца зьбліжаюся.

— За гэта малайчына. А я вось тут стаю і гляджу, — мяняючы раптам гутарку, быццам апраўдваючыся, гаварыў настаўнік і паказаў на высокі куст: — Бачыш, вунь там гняздо сініцы!

— Яго цяжка дагляну ць у густым гальлі, — сказаў Андрэй, каб толькі нешта сказаць.

— Дзіўна, што за рухавыя, што за непаседлівыя птушкі гэтыя сініцы; ні табе аднае хвіліны відзе не затрымаюцца, здаецца, што ўжо больш трапяткіх штушак цяжка ўявіць, але вось калі гэтая вяртлявая птушка прыляціць да гнязда і пачуе піск сваіх жаўтадзюбых дзетак, дык здаецца, што становіцца яшчэ жывейшаю, быццам нейкая нябачная сіла падхоплівае іх і нясе на пошукі пажывы. І ведаеш, што мяне так зацікавіла?

— Гэтага то ніяк не дагадаюся.

— А вось што. Прыраўнаваў я гняздо да школьнае салі. Там, калі настаўнік добра выкладае, дык вучні слухаюць нават разявіўшы рот, нібы тыя жаўтадзюбыя птушаняты, а чыстыя дапытлівыя іх вочы так і сьвецяць просьбаю: «дай, дай! Дай асьвету, дай пазнаць праўду!» Але да чаго я гэта кажу. Ты магчыма ўжо чуў, што я зьбіраўся йсьці на эмэрытуру, бо ўжо і старасьць налбіжаецца і здароўе слабое. Нязраз вечарам, як прыйду дамоў са школы, дык нічога не наўме, але калі прыгадаю сваіх белагаловых вучняў, іхныя позіркі, дык адкладаю сваю просьбу на эмэрытуру.

— Калі-б вы пайшлі, дык-бы ўсе вельмі шкадавалі, бо вы выкладаеце цікава.

— Пэўна-ж такіх жывадёраў, як сам быў, інакш і не навучыў-бы нічога, каб не зацікавіў чым.

— Але затое вам усе былі і будуць вельмі ўдзячныя, я асабліва, — тут Андрэй прыкусіў язык, прыпомніўшы свае юнацкія кепствы ў школе.

— Удзячныя? Усяк яно здараецца. Але мы загаварыліся, а ты магчыма сьпяшаешся, ды і я мушу яшчэ сюды-туды заглянуць.

Разьвітаўшыся Андрэй сапраўды засьпяшаўся ў недалёкія Замчышчы і падарозе ўспамінаў падзеі, зьвязаныя з сваім старым настаўнікам:

— Добры ён чалавек і заражаў нязраз сваею дабратою вучняў. Ці раз надужывалі ягоную дабрату, але ён гэтага быццам і не заўважваў. Сапраўды стараўся прасьвяціць сьветам добрых учынкаў усіх, але... нажаль былі і такія спаміж ягоных вучняў, што не адклікваліся на дабрату. Няўжо сэрца чалавека можа быць больш лютае, як гадзіны-кобры?

Такое вострае пытаньне вырынула перад Андрэям неспадзевана і асталося без адказу.

— Трэба лепш пазнаць жыцьцё і людзей, каб адказаць на такое важнае патаньне, — сказаў ён сабе, але магчыма, што ўстрымала яго ад далейшага разважаньня падсьведамасьць, баючыся атрымаць сьцьвярджальны адказ і не занесьці да свайго папярэдняга «адкрыцьця» ўсякіх выняткаў у асобах закамянелых злосьнікаў, для якіх нават і бесканечна добры Бог прызначае пекла.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛЁГУ

Калі Андрэй кончыў унівэрсытэцкія студыі, над сьветам зьбіраліся страшныя цёмныя хмары і заўтрашні дзень ставаўся вельмі няпэўным. Ку-

дэю накіруецца ягоны жыцьцёвы шлях, нельга было прадбачыць. Ды хто агулам з людзей мае такі празорлівы змысл? Але затое Андрэй добра ведаў, чаго будзе шукаць на сваім жыцьцёвым шляху: кудэю ня йшоў-бы той шлях, усюды паводля сваіх сілаў разьвіваць у себе і абуджаць у іншых усё тое лепшае, што Бог улажыў у людзкую душу і з грамадою такіх людзей супольна йсьці да апошляе мэты людзкога жыцьця. Няведамае заўтра, няведамы жыцьцёвы шлях павінен быць заўтра менш цярністы і больш сьветазарны як сёньня.

**А. Жменя.**



**Беларускі Краявід.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ЭНЦЫКЛІКА АБ РЭЛІГІЙНАЙ МУЗЫЦЫ

Ведама, якое важнае мейсца займае музыка ў багаслужэньнях лацінскага абраду. А таму, што рэлігійнае жыцьцё не стаіць на мейсцы і пад уплывам літургічнага руху ставіць рэлігійную музыку перад новымі праблемамі, дык Сьвяцейшы Айцец Пій XII апублікаваў 1-га студзеня спэцыяльную энцykліку, у якой падае агульныя прынцыпы рэлігійнае музыкі і выясьняе, што сапраўды рэлігійную кампазіцыю можа стварыць толькі той музык, які чэрпае натхненьне з глыбокае рэлігійнае веры.

## СЬВЯЦЕЙШЫ АЙЦЕЦ АДОБРЫЎ НОВУЮ ТЭХНІКУ РАДЖЭНЬНЯ БЯЗ БОЛЯЎ

Вялікае ўражэньне выклікала ўва ўсім сьвеце прамова папы Пія XII 8-га студзеня да 700 гінэкалёгаў з усяго сьвету, у якой Ён сказаў, што штучныя сродкі для зьменшаньня болю парадзіхі ня ёсьць маральнымі, але прыродны псыхо-профіляктычны мэтад зьменшаньня болю, які «ашчаджае цярпеньне парадзіхі, або пранамся яго злагоднівае, можа быць прыняты кожнаю маткаю бяз ніякіх скрупулаў». Бо калісьці нараджаньні адбываліся з меншым болем. Да павялічэньня болю парадзіхі значна прычыніўся сучасны камплекс цывілізацыі і розныя псыхічныя камплексы. Дык зьменшаньне дзеяньня гэтых камплексаў і наагул зьменшаньне болю прыроднымі сродкамі «ня мае нічога годнага крытыкі з маральнага гледзішча».

## ЭНЦЫКЛІКА АДНОСНА РАДЫЁ, ТЭЛЕВІЗІІ І КІНО

У жыцьці сучаснага чалавека радыё, тэлевізія і кіно займаюць вельмі значнае мейсца. Нажаль вельмі часта і ў кіно, і ў тэлевізіі, і праз радыё прапагуюцца дрэнныя, а часам і зусім агідныя, раскладовыя відовішчы і аўдыцыі. У абліччы гэтых жалюгодных фактаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў 13. IX. энцykліку, у якой зьвяртаецца да адказных у гэтай галіне людзей і да шырокага грамадзтва з адпаведнымі радамі і дамаганьнямі, каб радыё, кіно і тэлевізія служылі для агульнага дабра, а не на агульную шкоду. З гэтага гледзішча асаблівая адказнсьць ляжыць на прадукцыйных фірмах і на дырэкцыях кінотэатраў. Уканцы Сусьветны Архірэй зьвяртаецца да біскупаў і сьвятароў, каб пазнаёміліся лепш з праблемамі кіна, радыя і тэлевізіі, паколькі яны маюць вялікае значэньне ў душпастырстве і каб пазналі тыя нормы, якімі ў гэтых справах неабходна кіравацца.

## ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ ПРЫНЦЫПЫ МОДЫ

Прыймаючы на спэцыяльнай аўдыцыі 8-га лістапада сяброў аб'еднаньня так званае Вялікае Моды Сьвяцейшы Айцец Пій XII, зьвярнуўся да іх з прамоваю, у якой выказаў асноўныя хрысьціянскія прынцыпы адносна моды:

Вопратка служыць чалавеку для патройнае мэты: для гігіены, для закрыцьця сораму і для ўпрыгожаньня. Усе гэтыя тры вымогі закарэнены ў людзкой натуры і ўзаемна пераплятаюцца, хоць і маюць розны пачатак. Ніякая спанука эстэтычнага парадку, ані гігіены ня можа апраўдаць тых, што закрываюць цела або залішне, або замала. Скромнасьць ёсьць інстынктыўнаю цнотаю, якую трэба паважаць. Але жанчына мае такжа ўроджанае жаданьне паказаць сваю красу і годнасьць свае асобы, захоўваючы аднак пры гэтым вымогі гігіены і сарамязьлівасьці. Гэтыя асьпірацыі жанчыны зусім прыродныя і апраўданыя.

Аднак мода ёсьць вельмі зьменнаю. Калі яна зьмяняецца дзеля нейкіх новых фактаў, ці дзеля апраўданых вымогаў, дык гэта лягічна. Але нажаль гэтая зьменьлівасьць часта залежыць ад прывярэдлівасьці і снабізму эліты, ад пажаданьня люксусу і ад дрэнна панятае дэмакратызацыі.

Тварцы моды зьяўляюцца душою гэтае зьменлівае дзейнасьці, але яны самі падлягаюць уплыву шматлікіх тэхнічных работнікаў. Вось-жа дзеля агульнага дабра яны ўсе мусяць пазнаць хрысьціянскую навуку. Для разьвязаньня маральнае праблемы моды неабходна кіравацца такімі прын-

цыпымі: сьцерагчыся дрэнных намераў; не легкаважыць уплыву моды для агульнага дабра або зла; здысцыплінаваць зьмену моды, замест пакідаць гэтую зьмену на прыпадковыя і прывярэдлівя настроі; мода ўва ўсім мусіць захаваць змысл меры.

## МІЖНАРОДНАЯ РАДА КАТАЛІЦКАЕ ПРАЦОЎНАЕ МОЛАДЗІ

Між 25-27 жніўня адбыўся ў Рыме міжнародны зьезд Каталіцкае Працоўнае Моладзі, на якім удзельнічала больш 30.000 дэлегатаў ад 80 народаў. Побач шматлікіх урачыстасьцяў, якія адбываліся ў зьвязку з гэтаю падзеяю, найбольшым практычным асягненьнем Зьезду было ўтварэньне першае міжнароднае Рады Каталіцкае Працоўнае Моладзі, якая апрацавала статут і выбрала сталае кіраўніцтва, ды намеціла плян працы.

## ПРОШЧА ЦЫГАНОЎ

Люрд — мейсца цудаў сусьветнае славы прыцягвае да сябе людзей бяз розьніцы нацыі і колеру. Сёлета між 31 жніўня і 3 верасьня зьехаліся на прошчу ў Люрд цыганы з усяе Францыі і суседніх краінаў. Гэтае паломніцтва выклікала вялікае зацікаўленьне ў паломнікаў іншых народоў, бо цыганы ўслаўлялі Багародзіцу на свой лад, адпаведна да свайго характару.

## «РАСІСТЫ ЁСЬЦЬ ЗЛАЧЫНЦАМІ»

Пад такім загалоўкам Ватыканская газэта «Оссэрваторэ Романо» апублікавала 6 верасня вялікі артыкул, у якім востра асуджаецца расізм. У артыкуле між іншым кажацца: «Адзіная разьвязка расавага пытаньня... забараніць займаць дзяржаўныя і грамадзкія адказныя становішчы ўсім тым, хто вызнае расавыя прынцыпы і хто гэтыя прынцыпы абараняе з якіх колечы матываў. Бо няма больш цяжкага злачыну, як расізм, праціўны прыродным правом і правом З.Ш.А., у якіх асноўная карта правоў чалавека ня толькі прызнае і асьвячае роўнасьць усіх людзей, але такжа лічыць гэтае права цэнтрам аб'еднаньня і роўнасьці».

## ЗАГАДКАВАЕ ЗЬЯВІШЧА

Сёлета на пачатку лютага езьдзіла з Заходняе Украіны праваслаўная дэлегацыя да Маскаўскага Патрыярха. Ачоліваў дэлегацыю яп. Антон Пэльвэцькі — быўшы гр. кат. сьвятар. Але як толькі дэлегацыя выбралася ў дарогу, памёр адзін з сьвятароў дэлегатаў, а 3-га лютага памёр у Кіяве і галава дэлегацыі яп. Антон наглаю сьмерцю. Аднак рэшта дэлегацыі такі да Масквы даехала.

## МЕРАПРЫЕМСТВЫ МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

Сёлета Маскоўская Патрыярхія зрабіла далейшыя крокі ў пабольшваньні колькасьці Праваслаўных Цэркваў залежных ад Масквы. Скасована экзархат Маскоўскае Патрыярхіі ў Кітаі на яго мейсца ўтворана Аўтаномную Праваслаўную Кітайскую Царкву. Створана і ерархію для ея; 30 траўня адбылася ў Маскве хіратонія новага кітайскага япіскапа Васілія Шуан з Пэкіну. Гэткім чынам кітайская Праваслаўная Царква, да якое належыць усяго пару тысяч вернікаў, мае цяпер трох япіскапаў: двох кітайцоў і аднаго расейца.

Амаль адначасна, бо 7. V. адбылося аднаўленьне малітаўнага паеднаньня Маскоўскае Патрыярхіі з Фінляндзкаю Праваслаўнаю Царкваю, што было перарвана аж 30 гадоў таму.

Для інфармацыі варта дадаць, што ў Кітаі да 1948 г. было 150 праваслаўных парахвіяў і каля 150.000 вернікаў, але ў аграмаднай большасьці расейцаў, якія паўцякалі з Кітаю перад прыходам камуністычнае арміі. А праваслаўных кітайцаў ёсьць вельмі мала. У Фінляндыі цяпер нарахоўваецца 76.000 праваслаўных, якія маюць 25 парахвіяў.

## АДСАВЕТЫЗАВАНЬНЕ ЦАРКОЎНАГА КАЛЕНДАРА МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

Праваслаўныя Царкоўныя Календары, якія ад 1946 г. штогод выдае Маскоўская Патрыярхія, мелі ў сваіх сьвятцах так-жа і важнейшыя «сьвяты» з бальшавіцкага камуністычнага жыцьця. У адмену ад тых календароў выданы на 1957 г. календар, мае савецкія важнейшыя даты не ў сьвятцах, але на асобнай старонцы, як грамадзкія памятныя даты.

## РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў ЛЕТУВЕ

З усіх краінаў у Савецкім Саюзе Летува ёсьць найбольш каталіцкім краем і там пасьля заўзятага змаганьня з каталіцкім рэлігійным жыцьцём сьледныя ад мінулага году нейкія спробы стабілізацыі. Спробы ўтварэньня незалежнае ад Рыму нацыянальнае Каталіцкае Царквы кончыліся поўнаю няўдачаю. Дык сёлета на пачатку году дазволена выдаць першы пасьля апанаваньня бальшавікамі Летувы малітаўнік для летувісаў. У сакавіку вярнуўся неспадзевана з канцэнтрацыйнага лягэру Я. Э. Тэафіль Матуленіс, аб якім ад 1945 г. ня было ніякіх вестак і агульна думалі, што ён загінуў. Нават сёлета, відаць для прапаганды, адчынена адну парахвію, што была зачынена 12 гадоў. Аднак каталіцкая пэрыядычная прэса, каталіцкія арганізацыі і каталіцкія дабрадзейныя ўстановы і далей забаронены.

## ПРАВАЛ КАМУНІСТЫЧНАЕ ПРАПАГАНДЫ У ФАЦІМЕ

Мейсца прошчаў сусьветнае славы Фаціма ў Партугаліі моцна нэрвуе камуністаў. Вось-жа цэнтральны камітэт кампартыі выслаў туды сёлета адну спэцыяльна вышкаленую актывістку, каб вяла там падрыўную агітацыю паводля да-

кладна азначаных інструкцыяў. Аднак яна ў Фаціме павярнулася і ўступіла ў навіцыят аднаго з жаночых манастыроў.

### ВЕК ЗЯМЛІ

Геафізыкі з 50 краінаў на зьезьдзе, які адбыўся ў Торонто між іншымі пытаньнямі прыйшлі да аднагаднага выснаўку, што век нашае Зямлі ёсьць: 4 мільярды 500 мільёнаў годаў. Асноваю да ўстанаўленьня гэтага веку былі студыі аб складзе Зямлі і асабліва студыі аб складзе скалаў. Значыць Зямля бяз сумніву мае свой пачатак у часе і то ў часе шмат карацейшым ад таго, як гэта сараліся даказваць некаторыя прыродаведы. Тым самым і эвалюцыя жывых істотаў мусіла адбыцца хутчэй, а тым самым і абумоўлівалася зусім іншымі дзейнікамі ад тых, аб якіх гавораць бязбожныя прыродаведы.

### СУСТРЭЧА ПРЫРОДАЗНАЎСТВА І ВЕРЫ

Сьвецкія навукоўцы і багасловы з Нямеччыны, Аўстрыі, Бэльгіі, Галяндыі і Францыі нядаўна заснавалі ў Мюнхэне Інстытут для Сустрэчы Прыродазнаўста і Веры. — Сам назоў Інстытуту вымоўна гаворыць аб ягонай мэце і зьяўляецца вельмі суцяшаючым знакам часу.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ.

● На адзінаццатым Кангрэсе Міжнароднае Каталіцкае Арганізацыі Інтэлектуалістаў і студэнтаў «Pax Romana», які адбыўся ў Рыме між 23-28 красавіка, удзельнічала беларуская дэлегацыя ад імені Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь».

● На канфэрэнцыі Інстытуту па Вывучэньню Гісторыі і Культуры СССР у Мюнхэне акрамя сталых беларускіх супрацоўнікаў Інстытуту ўдзельнічалі так-жа ў працах Канфэрэнцыі беларускія навукоўцы з Англіі, Нямечыны, Францыі і З.Ш.А.

● Міжнародная Фэдэрацыя Хрысьціянскіх Работнікаў Уцекачоў і Эмігрантаў (ФІТКРЭ) ладзіла сёлета свой трэці з чаргі кангрэс. Адбыўся ён у Люксэмбургу. У працах Кангрэсу удзельнічалі дэлегацыі ад 13 народаў з Сярэдняе і Усходняе Эўропы. Беларуская дэлегацыя ад імя Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі прымала актыўны ўздел у працах Кангрэсу і двох беларусаў увайшло ў склад управы ФІТКРЭ.

### ЗАХОДНЕЭУРАПЭЙСКАЯ ПРЭСА АБ БЕЛАРУСКІМ РЭЛІГІЙНЫМ ЖЫЦЬЦІ.

Французскі часапіс L'avenir Catholique dans le Monde, які выходзіць у Вэрсалі, ў Нр. 20 на с. 12-14 апублікаваў ілюстраваны артыкул а. Льва Гарошка: «Le culte de Notre Dame en Biélorussie».

У кнізе Maria e la Chiesa del Silenzio, Roma 1957, на с. 21-27 ёсьць артыкул а. д-ра П. Татарыночіча: La Chiesa del Silenzio nel Biancorutenia e il culto Mariano.

Нямецкі часапіс EXPULSUS, Нр. 11-12, які выходзіць у Кэнігштайне апублікаваў вялікі артыкул: «Die jetzige kirchliche Lage in Weissruthenien».

### БАЦЫКАЎШЧЫНА.

#### Савецкая прэса аб беларускіх партызанах.

Даўжэйшы час пасьля вайны савецкая прэса старанна адмоўчвалася аб існаваньні беларускіх нацыянальных партызанаў. Але ад 1951 г. часам зусім прыпадкова пачалі зьяўляцца ўспаміны ў кнігах і ў пэрыядычнай прэсе аб іхняй дзейнасьці. У кнізе «У Забалацьці днее» Менск 1951, Янка Брыль аб іх успамінае некалькі разоў і пераказвае быццам няўдалы напад партызанаў на аднаго з старшыняў калгасу. У часапісе «Советская Отчизна» Нр. 3 с. 9 Д. Уксусов у апавяданьні «Ранний ветерок» ўспамінае старшыню калгаса, якога забілі беларускія партызаны. А Макар Пасьлядовіч апублікаваў у «Зьвязьдзе» цэлую аповесьць «Па воўчых сцежках», прысьвечаную выключна дзейнасьці беларускіх партызанаў.

### БЯЗБОЖНАЯ ПРАПАГАДА.

Бальшавізм з сваё прыроды бязбожны і таму ніяк ня можа прымірыцца з існаваньнем рэлігіі. Хоць бясьсільны каб яе перамагчы, ніколі ня спыняе змагацца з ею. Але як змагаецца? Аб гэтым хай гаворыць сама савецкая прэса: «Сям там у

нашай рэспубліцы... дапускаюцца абразьлівыя і нават хуліганскія выпады супраць духавенства і вернікаў. Для прыкладу можна паказаць на такі выпадак. Падчас багаслужэньня ў касьцеле, які знайходзіцца на абшары калгаса ім. Хрушчова ў Берастовіцкім раёне, каля самых дзьвярэй касьцёла духовая аркестра грала голасна маршы і танцаваныя мэлёдыі. Гэта было зроблена на прапанову камсамольцаў і работнікаў адзьдзелу культуры. Вернікі справядліва расцанілі гэта як абразу і абурыліся» (Д. Бальшов. Научно-атеистической пропаганде комсомольское внимание. «Молодой коммунист», Нр. 2. 1957, с. 28). Наагул бязбожная прапаганда цяпер рэдка хваліцца сваімі асягненьнямі — найчасьцей наракае. Вось для прыкладу нейкі агітатар наракае на Быхаўскі райком партыі за тое, што «ён нездавальняюча арганізуе навукова-атэістычную прапаганду» «Комуніст Беларусі» Нр. 4, 1957, с. 79). А ў Нр. 6 гэтага-ж часапісу с. 74 гаворыцца аб тым, адкуль уласьціва йдзе нагонка бязбожнае прапаганды: «Цэнтральны Камітэт ЦК Беларусі, амберкаваўшы пытаньне аб стане навукова-атэістычнае прапаганды сярод насельніцтва Магілёўскае вобл., адзначыў, што партыйныя арганізацыі вобласьці ня прыймаюць неабходных мераў па ўзмацненьню навукова-атэістычнае і прыродазнаўча-навуковай прапаганды сярод насельніцтва. У апошні час лекцыяў на навукова-атэістычныя тэмы чытаецца значна менш чым у папярэднія гады».

Насупраць усякіх тэарэтычных цьверджаньняў камуністычнае прапаганды, быццам рэлігія мае нейкія сацыяльныя карэньні, якія яны ўжо нібыта зьнішчылі і тым самым пазбавілі рэлігію грунту да існаваньня, бязбожныя агітатары мусяць прызнацца: «Было-б няправільным думаць, што рэлігійная вера і забабоны зьнікнуць у нашым грамадстве самы сабою, самацёкам» (Советская Белоруссия» 18.VII.57, Нр. 168 — передавіца).

Каб падбадзёрыць бязбожных агітатараў часам расхвальваецца бязбожных калгасьнікаў і калгасьніцаў — так робіць між іншым супрацоўнік Ак. навук БССР А. Залескі ў газэце «Чырвоная змена», Нр. 141, 18.VII. Яшчэ больш расхвальваюць кіраўнікоў клюбаў за іхнюю бязбожную агітацыю. Такім мае быць клюб у Галоўчынах Антопальскага раёну («Комуніст Беларусі» Нр. 7, с 88, 1957).

Аднак праз усю бязбожную прапаганду пралазіць, як шыло з мяшка, што ўсе камуністычня рацэпты змаганьня хоць ужо выкарыстаны даўно, а рэлігія як існавала ў душы народу, так і далей існуе. Дзеля гэтага часта ў бязбожных артыкулах паўтараюцца нязьлічаныя разы перsuccesказваныя дырэктывы партыі. Цэнтральныя газэты звычайна першыя паказваюць такую дарогу. Так робіць «Звязда» 31.VII.57. Нр. 179 у перадавіцы «За дзейсную навукова-атэістычную прапаганду». Але паўтараць да нудоты тое самае, таўчы ваду ў ступе, апрыкрывае нават найбольш заўзятым агітатарам. І тады зноў бязбожныя верхаводы наракаюць, што прапаганда слабее. Вось Агафонов піша нават артыкул пад такім загалоўкам: Одна лекция в год» («Советская Белоруссия» 31.VII. 1957, Нр. 179). У гэтым артыкуле ён між іншым наракае, што ў вёсцы Лебедзева людзі сьвяткуюць сьвяты і нават камсамольцы ўдзельнічаюць у багаслужэньнях». Гэткія-ж нараканьні выказвае і ЦК на сваім пленуме 24-VII-1957 г. Сакратар ЦК Ц. С. Гарбуноў між іншым казаў: «У лекцыйнай рабоце найбольш адстаючым участкам зьяўляецца навукова-атэістычная прапаганда. Праўда агульная колькасьць лекцыяў на гэтыя тэмы павялічылася, крыху павысіўся навуковы ўзровень, але ня ўсюды яшчэ навукова-атэістычнай прапагандзе ўдзяляецца належная ўвага» («Звязда» і «Советская Белоруссия» 26.VII.1957, Нр. 175). Відаць з нараканьняў, што і колькасьць і ўзровень лекцыяў павялічыўся мусіць у адваротны бок.

Найбольш прапагуецца бязбожжа між моладзьдзю. Камсамольская газэта «Чырвоная змена» Нр. 160 з 14.VIII дамагаецца ў перадавіцы: «Выхоўваць моладзь у духу атэізму». А сакратар камсамолу Д. Бальшоў падае да гэтага інструкцыі «Аб формах і мэтадах навукова-атэістычнае прапаганды» («Маладосць» Нр. 9 с 109-120). У гэтым артыкуле між іншым кажацца: «З усіх рэлігійных арганізацыяў асабліва рэакцыйную ролю адыгрывае Ватыкан і каталіцкая царква». Далей ён папракае пісьменьнікаў: «сур'ёзны папрок трэба кінуць у гэтых адносінах беларускім пісьменьнікам. Нельга сказаць, што ў іх творах не закранаюцца атэістычныя тэмы. Яны закрануты ў шмат якіх кнігах, але амаль усюды яны зьвернуты ў мінулае» (с. 119).

Хоць уся навука ў савецкіх школах вядзецца ў бязбожным духу, але гэта далёка ня выстарчае для зьнішчэньня рэлігіі ў душах моладзі. Дык вось выкладчык біялёгіі ў Полацку Азурнікаў дамагаецца яшчэ: «Узмоцнім антырэлігійную работу» («Настаўніцкая газэта» 26.IX. Нр. 39).

Насупраць бязбожнай прапагандзе расьце колькасьць вернікаў у радох сэктаў, бо дзеля падатковых цяжкасьцяў і адміністратыўных фармальнасьцяў колькасьць праваслаўных і каталіцкіх парахвіяў у Савецкай Беларусі вельмі невялікая. Цяпер бязбожныя агітатары прысьвячаюць шмат увагі сэктам. Артыкул В. Быстрова «Аб рэлігійным сэктанстве» апублікавалі адначасна і «Звязда» і «Советская Белоруссия» 28.VI Нр. 151. З сэктаў вельмі пашыраны эвангельскія хрысьціяне-баптысты. Ёсьць так-жа нямала егавістаў, пяцідзесятнікаў і суботнікаў. Аб іх гаворыць Алексютовіч у артыкуле «Рэакцыйная роля сучаснага сэктанцтва» «Звязда» 8.X. Нр. 238). У прапагандзе супраць сэктаў выкарыстоўваюць цяпер былых сэктантаў. «Мінская праўда» апублікавала артыкул Кацяка «Чаму я пакінуў абшчыну

хрысьціян-баптыстаў». Відаць артыкул быў вельмі актуальны, бо яго перадрукавала «Звязда» 18.XII, Нр. 295.

Для ўзмацненьня бязбожнае прапаганды зарганізована ў Менску двухтыднёвыя курсы для бязбожных агітатараў, на якіх удзельнічала 250 чалавек. Курсы закончыліся 26 кастрычніка. Лектары былі з Масквы і Менску. Падобныя курсы зарганізована так-жа ў Горадні і Маладэчне ды намечана зарганізаваць ў іншых абласных цэнтрах БССР, а пры гаркомах заплянована шасьцімесячныя курсы бязбожных агітатараў. Да гэтае дзейнасьці запрэжана так-жа Менскі унівэрсытэт. Там на гістарычным факультэце ўведзена 40-гадзінны курс атэізму. Падобны курс заплянована ўва ўсіх пэдінстытутах. («Звязда» і «Советская Белоруссия» 27.X.57. Нр. 255).

Пры ўсім гэтым кідаецца ў вочы, што бязбожная прапаганда мае падчыркнена расейскі характар. Арыгінальныя артыкулы з матэрыялам для бязбожнае прапаганды ў савецкай беларускай прэсе ёсьць рэдкім зьявішчам. За 1957 г. зьявілася ўсяго некалькі такіх артыкулаў: «Паходжаньне і сутнасьць Вялікадня» («Звязда» 20.IV, Нр. 94), «Пытаньне царквы і рэлігіі ў трылёгіі Я. Коласа «На ростанях» («Настаўніцкая газета» 28.XI, Нр. 48), «Марксізм — сьвятло, рэлігія — цемра» («Чырвоная змена» 18.VIII, 163), «Аб рэакцыйнай сутнасьці Ватыкану і каталіцызму» (Звязда» 28.XII, Нр. 304). Але адносна іхняга зьместу, як і агулам ўсяе бязбожнае прапаганды вельмі трапна сказаў І. Садоўскі ў гумарэсцы «Пустамеля», што яны ёсьць ні больш ні менш як пустамельствам («Чырвоная змена», 8.XII, Нр. 241).

## РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

З прынагадных сказаў і нараканьняў бязбожнае прапаганды ў БССР даведваемся аб сучасным рэлігійным жыцьці. І вось пасьля 40 гадоў змаганьня з рэлігіяй і бязбожнае прапаганды рэлігійнасьць усьцяж астаецца ня толькі ў сэрцах людзей старэйшага пакаленьня, але нават і ў моладзі. Вось сакратар менскага райкома сьцьвярджае: «Некаторыя, хоць і невялікая часьць студэнтаў ня вызвалілася ад розных забабонаў, рэлігійных паглядаў» (С. Соломаха. Идейное воспитание студентов; «Советская Белоруссия», 10.I. Нр. 8).

Іконы ў хатах яшчэ даволі часта займаюць сваё пачаснае мейсца на покуці. З імі часам здараюцца дзіўныя зьявы. Толькі сёлета павядомлена, што ў 1950/51 гадох дзеяліся нейкія «цуды» з іконамі ў Смаленскай вобласьці (Д. Сидоров. О христианских праздниках. Москва, 1957 г., с. 95). Гэты-ж аўтар кажа (на с. 96), што «да цудатворнае іконы ў Аглонскім касьцеле (Латвія) прыязджаюць паломніцтвы з Беларусі, Летувы, Пскова і іншых мест».

Як калісьці за часоў паншчыны нашыя дзяды і прадзеды сьвяткавалі нават самыя малыя сьвяты, каб мець магчымасьць крыху адпачыць ад нялюдзкага гнобленьня, падобна і сёньня ў Савецкай Беларусі народ стараецца праз захаваньне сьвятаў аблягчыць жудаснае калгаснае ярмо, выклікаючы праз гэта ў бальшавіцкіх верхаводаў зацятыя атакі на сьвяткаваньне быццам на нейкі страшэнны злочын: «Сярод насельніцтва Сьвірскага раёну ўсё яшчэ вельмі жывучыя рэлігійныя забабоны. У дні рэлійных сьвят у калгасах нават спыняюцца палявыя работы, што наносіць значную шкоду эканоміцы сельгасарцелей. Вялікая частка моладзі знайходзіцца пад уплывам каталіцкае царквы. Нарэдкія выпадкі, калі рэлігійныя абрады выконваюць нават камсамольцы. Вянчаўся ў касьцеле былы член райкома камсамола і сакратар камсамольскае арганізацыі калгаса ім. Маленкова Куркуль, а таксама камсамольцы: бухгальтэр кагаса «Радзіма» Ракіцкі, член сельгасарцелі «І-га мая» Салавей і іншыя. Многія камсамольцы наведваюць касьцёлы» (Д. Мацяс. На паперы і ў сапраўднасьці. «Чырвоная змена», 8.I. 1958, Нр. 5). Цэнтральны орган кампартыі БССР «Комуніст Беларусі» Нр. 8, с. 48 прызнае, як агульнае зьявішча, што: «у рэлігійныя сьвяты калгаснікі ня хочуць працаваць».

Дзеля гэтае прычыны бальшавіцкія верхаводы вельмі злуюцца на цэрквы і асабліва на касьцёлы ў Беларусі, хоць гэтых апошніх адчынена цяпер ня больш як 30. Сакратар камсамолу кажа: «У нашай рэспубліцы, асабліва гэта адносіцца да яе заходніх вобласьцяў — Берасьцейскае, Гарадзенскае і Маладэчынскае — частка моладзі яшчэ знаходзіцца ў палоне рэлігійных перажыткаў. У гэтых вобласьцях, якія пазьней за іншыя сталі на шлях сацыялістычнага разьвіцьця, яшчэ дзейнічае шмат праваслаўных цэркваў, а так-жа значная сетка каталіцкіх цэркваў-касьцёлаў. Тут можна нават сустрэнуць вандроўных ксяндзоў місіянароў. Так званыя фэсты — рэлігійныя сьвяты Каталіцкае Царквы — звычайна суправаджлюцца масавым п'янствам, парушэньнем працоўнае дысцыпліны» (Д. Большов. Научно-атеистической пропаганде — комсомольское внимание. «Молодой коммунист», Москва, 1957. Нр. 2, с. 27). І далей у тым-жа артыкуле вельмі наракае на каталіцкае духавенства, бо: «Здаралася так, што пад уплывам ксяндзоў асобныя вучні малодшых клясаў пераставалі насіць піянерскія гальштукі».

Ужо ад некалькі гадоў бязбожная прапаганда наракае на тое, што рэлігійнасьць у народзе не зьмяншаецца, але яшчэ ўзрастае: «Факты паказваюць, што аслабленьне барацьбы з забабонамі, нямінуча прыводзіць да росту ўплыву рэлігіі сярод адсталых людзей. Аб гэтым указвалася на партыйных канфэрэнцыях Варашылаўскага раёну Менску, Жлобіна, Бабруйска і інш». («Комуніст Беларусі» 1957, Нр. 2, с. 32). А хто ёсьць тымі «адсталымі», што ня толькі вераць у Бога, але

так-жа выконваюць рэлігійныя практыкі. Даведваемся з іншых артыкулаў. Вось «Комсомольская правда» з 31.III.1957 паведамляе, што ў 1954 г. было выключана з камсамолу ў Берасьцейскай вобласьці 40 юнакоў за выкананьне рэлігійных абрадаў, а ў 1956 г. — аж 138. Звычайна камсамольцы гэта вучні сярэдніх і вышэйшых школаў і залічаць іх да адсталых зусім на да твару бальшавіцкай прапагандзе, якая заўсёды выхваляецца тым, што ў рады камсамолу прыцягвае перадавую моладзь.

У некаторых раёнах дык камсамольцы самі зракаюцца сваіх білетаў: «У Зэльвянскім раёне нагляйдаліся выпадкі, калі паасобныя маладыя людзі, падпаўшыя пад уплыў царкоўнікаў, адмаўляліся ад сваіх камсамольскіх білетаў» (А. Тоўсьцік. Не па традыцыі. «Чырвоная змена» 18.IV.57, Нр. 77). Гэтая-ж газэта 14.VIII. Нр 160 у перадавіцы падае выпадкі і называе імёны камсамолак, якія адведваюць цэркви і касьцёлы.

Трэба думаць, што ў бальшавіцкай прэсе падаюцца імёны толькі тых юнакоў, на якіх бальшавіцкія галаварэзы думаюць спагнаць злосьць, бо ў той-жа савецкай прэсе прызнаецца, што рэлігійнасьць ёсьць масавым зьявішчам. «Сярод часткі насельніцтва яшчэ моцныя рэлігійныя забабоны» кажа «Комуніст Беларусі» Нр. 9, с. 59-60. А якая гэта частка можна дагадацца з таго, што ў Дукштах адчынена каталіцкую парахвію, якая была зачынена 12 гадоў і на адкрыцьцё прыйшло 10.000 вернікаў («Christliche Sonntag» 3.III. 1957).

Рэлігійнасьць беларусаў заўсёды была ахвярнаю. Дык і цяпер, ня гледзячы на бядовае калгаснае жыцьцё, яны за дарагую цану купляюць сабе прадметы культу ў спэкулянтаў: «Ёсьць і гэткая частка спэкулянтаў, якія зусім ня цікавяцца ежаю. Іх барыш — «духовая страва»! Яны ў сваю чаргу дзеляцца на «сьвяценьнікў», «сьвецкіх» і тых, што даюць чалавеку шчасьце». Першыя суляць купіць ікону, лампадку, крыжык...» (Фэльетон «Трутні на рынку» (у Гомелі) «Советская Белоруссия» 15.IX.1957. Нр. 219).

Аднак ня гледзячы на ўсе нараканьні бязбожнае прапаганды адчыненых парахвіяльных сьвятыняў у БССР, асабліва каталіцкіх ёсьць вельмі мала. Дзеля гэтага адпяваюць пакойнікаў і нават хрысьцяць дзяцей некаторыя старэйшыя вернікі. Такая традыцыя зьявілася ў Беларусі падчас касаваньня Вуніі і цяпер прыдаецца вельмі дарэчы. У тых-жа мяйсцох, дзе няма такіх вернікаў, разьвіваецца сэктанцтва.

Відаць, што цяпер на ўсім абшары Беларусі рост сэктанцтва прымае такі масавы характар, што бязбожная прапаганда, якая раней на іх глядзела скрозь пальцы, цяпер пачынае з імі змагацца амаль так-жа, як з іншымі рэлігіямі (К. Гараховіч. Паходжаньне і сутнасьць рэлігійнага сэктанства. «Работніца і сялянка» Нр. 11, с. 19-20). У пэрыядычнай прэсе публікуюцца заявы тых, што з нейкіх прычынаў адыйшлі ад сваіх сэктаў. Вялікае значэньне для пашырэньня сэктантства і для іхняга рэлігійнага жыцьця мае дух нэафітаў.

У рэлігійным жыцьці моладзі заўважаюцца даволі выразныя кантрасты. Адны ня маючы рэлігійнае асьветы і рэлігійнага ўзгадаваньня, ня маюць ніякага паняцьця аб рэлігіі і ею ня цікавяцца, некаторыя нават адносяцца варожа — бязбожная прапаганда не астаецца бяз уплыву на маладыя душы — але ёсьць яшчэ частка моладзі, якая дзеля сваіх рэлігійных перакананьняў гатовая на ўсякія ахвяры. Трэба ведаць, што камуністычныя верхаводы яшчэ сяк-так міряцца з праявамі рэлігійнасьці ў старэйшых людзей, але ніяк ня хочуць пагадзіцца з рэлігійнасьцю моладзі і за выкананьне рэлігійных практык караюць. У першую чаргу за праявы рэлігійнасьці выключаюць з камсамолу (калі хто да яго належыць) і пазбаўляюць працы. Аднак міма гэтага напрыклад у Ружанскім раёне шмат камсамольцаў вянчалася ў царкве — іх усіх пакарана. «Але ня гледзячы на гэтае суровае пакараньне колькасьць моладзі, якая наведвае царкву, не зьменшаецца» (П. Суцько. Чаму Галіна пайшла ў царкву? «Чырвоная змена» 17. XII, Нр. 247).

Рэлігійнасьць моладзі ёсьць актыўнаю і ў выпадках патрэбы яна абараняе свае рэлігійныя перакананьні, паколькі гэта магчыма ў сучасных абставінах. У нарысе «Трудная радасьць» Ніл Гілевіч падае такі прыклад з школьнага жыцьця: «Петрык Раманчук... нядаўна прыбягаў у настаўніцкую з «Канстытуцыяй СССР», каб даказаць, што па закону ў нас свабода веравызнаньня і таму ў дзень рэлігійнага сьвята ён мае права пайсьці ў касьцёл» («Маладосць» Нр. 12, с. 94). У тым-жа нарысе падаюцца прыклады рэлігійных практык моладзі: «Яшчэ моцна трымаюцца забабоны, яшчэ некаторыя маладыя хлапцы і дзяўчаты, ня кажучы пра дзядоў і бабуль, ходзяць у касьцёл на малебснь» (с. 90). І падае такі прыклад пабожнага хлапца, які моліцца ня толькі ў касьцеле, але і ўдома: «Асабліва няпрыемна слухаць маладой настаўніцы «модлы». Кожны вечар, калі яна рыхтуе пляны, або правярае сшыткі, з суседняга «пакою», адгароджанага шырокаю шафаю, даносіцца нуднае мармытаньне. Гэта Франук, сямнаццацігадовы сын гаспадыні, стаўшы на калені, абапёршыся локцямі аб ложак, ён замольвае перад Богам грахі... Іншы раз, найчасьцей у нядзелю, моляцца ўсе тры разам: бабуля, маці, унук» (с. 90).

Духавенства ў Савецкай Беларусі асталося мала, але іхняй дзейнасьці бальшавікі прысьвячаюць шмат увагі: «Трэба сказаць, што некаторыя каталіцкія ксяндзы прымаюць вельмі актыўныя захады, каб утрымаць насельніцтва пад сваім уплывам З гэтаю мэтай яны не абмяжоўваюць сваю дзейнасьць толькі адпраўленьнем набажэнства і

малітвамі ў касьцеле. Так напрыклад у адной з вёсак заходняе часткі Беларусі ксёндз усялякімі спосабамі імкнецца прыцягнуць на свой бок моладзь. Для гэтага ён у час школьных канікулаў пасылае цэлыя групы вучняў старэйшых клясаў у Вільню маліцца ў саборы, дзе правіць службу каталіцкі біскуп. Аднойчы гэты ксёндз наладзіў масавы выезд сваіх парахвіян на набажэнства ў Вільню, аплаціўшы касьцельнымі грашыма мейсцы ў некалькі аўтабусах... У суседняй вобласьці... ксёндз штодня езьдзіць па вёсках хрысьціць дзяцей і гэтым самым зрывае работу» (А. Залескі. Аб рэлігійнай сутнасьці Ватыкана і каталіцызму. «Звязда» 28.XII 57, Нр 304).

Бязбожныя агітатары сочаць уважна ня толькі за дзейнасьцю духавенства навонках сьвятыняў, але і ў самых сьвятынях, нават вядуць дакладную статыстыку: «Падрахавана, што сьвяшчэннаслужыцелі Мастоўскага раёну Горадзенскае вобл. за мінулы год (1956) сказалі больш 400 казаньняў, а лекцыяў на антырэлігійныя тэмы за гэты час у раёне было прачытана ўсяго 3» (Молодой коммунист» Нр. 12.1957, с. 5).

Часам бязбожнікі наракаюць на рэлігійную прапаганду ў вольным сьвеце, бо яна мае немалы ўплыў на рост рэлігійнасьці ў падсавецкіх краінах. Асабліва наракаюць на веруючых вучоных: «Некаторыя буржуазныя вучоныя ў інтарэсах умацаваньня веры ў Бога робяць няўдалыя спробы выкарыстаць, адкрытыя сучаснаю фізыкаю і астраноміяю, некаторыя зьявы і факты для доказу розных «тэорыяў аб сатварэньні сьвету з пустаты, або з аднаго атама» (Д. Шыраканаў. Існавала, існуе і будзе існаваць. «Чырвоная змена— 5.IX. 57, Нр 170) Значыць шчырая вера можа пранікаць праз усякія жалезныя заслоны.

### Адносіны між каталікамі і праваслаўнымі.

Адным з мэтадаў бязбожнае прапаганды ёсьць рассварваць між сабою вызнаўцаў розных рэлігіяў. І вось на злосьць бязбожнікам на Беларусі гэты мэтад не знайходзіць водгаласу. З горкім жалем піша аб гэтых фактах заўзяты бязбожны агітатар: «Між каталікамі і праваслаўнымі ёсьць сьцяна, але яна не да неба, чараз яе можна пералезьці». А пералазяць так, што не зьвяртаюць увагі на розьніцы. На дэталі, якія адрозьніваюць «каталіцкі рытуал ад праваслаўнага і наадварот» беларусы глядзяць абыякава. І далей ён падае такі прыклад. Лацінская ікона з нямецкім напісам пераходзіла некалькі раз ад каталікоў да праваслаўных і заўсёды займала сваё мейсца на покуці. (А. Ц. Залеский. Об отношении белорусских колхозников к религии и о росте атеизма. «Советская Этнография», Нр. 2. Москва 1957, с. 49).

Гэты-ж факт падцьвярджаюць і праваслаўныя сьвятары з Беласточчыны. На мейсца адпустаў — вёску Грабарку — «6 жніўня ў дзень Спаса зыходзіцца да некалькі тысячаў нямоглых і цярпячых, хворых і нават здаровых, ня толькі праваслаўных, але і каталікаў» (Прат. С. Железнякович. Св. гора Грабарка Семятицкого прихода. «Церковный вестник» Нр. 7-8. Варшава 1957).

### Зноў «руская вера».

Рэлігійная праваслаўная прапаганда, якая йдзе цяпер на Беларусь з Масквы, мае зусім адваротны характар да вышэйуспомненых фактаў. Пад узьдзеяньнем сучаснае бязбожнае прапаганды і асабліва пад уплывам расейскага імпэрыялізму сучасная маскоўская праваслаўная прапаганда акрамя назову «православіе» ня мае амаль нічога супольнага з сапраўднаю рэлігійнасьцю і набірае штораз больш характар расейскага шавінізму, які пераўвышае нават шавінізм расейскіх бальшавіцкіх імпэрыялістаў, выклікаючы ў іх даволі моцную, як на сучасныя абставіны, крытыку. Напрыклад сакратар камсамолу БССР так гаворыць аб гэтай прапагандзе: «Шкодныя і рэакцыйныя «патрыятычныя» сьцьверджаньні праваслаўнае царквы аб рускім народзе — выбранцу боскім, які нібыта атрымаў ад Бога асаблівы патрыятызм, як нацыянальную рысу яго характару, праяўленьне славянскае душы... Яны ўваскрашаюць старыя шавіністычныя тэорыі аб рускім народзе — баганосцы... Яны праводзяць думку, што без праваслаўнае царквы немагчыма і руская нацыянальнасьць» (Д. Бальшоў. Аб шкодзе рэлігійнай маралі. «Чырвоная змена» 9.III, Нр. 48). Відаць гэты артыкул быў вельмі актуальны, бо да тае самае тэмы вярнуўся той-жа Бальшоў у артыкуле «Аб формах і мэтадах навукова-атэістычнае прапаганды» ў часапісе «Маладосьць», Нр. 9. с. 113-114.

Калі ўжо нават расейскія нацыяналісты-бальшавікі абураюцца на тую расейскую нацыяналістычную прапаганду праз Расейскую Царкву, дык відаць, што сапраўды там маральнасьць стаіць пад знакам запытаньня. Агульна ведама, што ўва ўсім Савецкім Саюзе ўсе праваслаўныя вернікі, за выняткам грузінаў, мусяць належаць толькі да **Расейскае** Праваслаўнае Царквы, бо ўсе іншыя Праваслаўныя Цэркві панішчана. Але што могуць зрабіць паняволеныя народы? Калі ўжо такі дух вее з Масквы дык, нажаль, знайходзяцца кар'еровічы, якія падхопліваюць тую пагубную прапаганду. Новасьпечаны др. мастацтвазнаўства і праф. Палітэхнічнага Інстытуту ў Менску М. С. Кацэр у сваёй кнізе (ясная рэч пісанай парасейску) «Скульптура Советской Белоруссии» праваслаўныя магільнікі ў Берасьці і Пінску называе рускімі (с. 4, 5).

### Русыфікацыя.

Побач гаспадарчае эксплёатацыі краю найважнейшаю дзейнасьцю акупантаў Беларусі ёсьць на-

цыянальнае гнобленьне беларускага народу і ўзмоцненая яго русыфікацыя. З гэтаю мэтаю адпаведна дабіраюцца кіруючыя работнікі камуністычнае партыі ў БССР. «Па даным на 1-га студзеня 1957 г. гэты склад быў такі: 62,6% — беларусаў, 29,7% — рускіх, 7,7% — іншых» (Ц. Гарбуноў. Магутная жыцьцёвая сіла ленінскае нацыянальнае палітыкі. «Комуніст Беларусі», Нр. 4. с. 17). А склад дэлегатаў на 18-ым зьезьдзе камсамолу Савецкае Беларусі быў такі: 68,2% — беларусаў, 25,0% — рускіх, 6,8% — іншых («Чырвоная змена» 12.І.1956).

Нацыянальны склад студэнтаў ува ўсіх ВНУ Савецкае Беларусі з нацыянальнага гледзішча выглядае так: У 1956 г. усіх студэнтаў беларусаў ува ўсім СССР было 34.500, але ў тым-жа годзе ў БССР было 52.300 студэнтаў (Достижения советской власти за 40 лет в цифрах. Москва 1957, с. 283, 299), — гэта значыць, што беларусаў у ВНУ Савецкае Беларусі ёсьць менш як 66%, а небеларусаў, пераважна расейцаў, больш як 34%.

У БССР ёсьць цяпер аж 23 Вышэйшыя Навучальныя Установы (ВНУ), але для іх ад канца вайны да гэтага часу ня выдана пабеларуску ніводнага падручніка, за выняткам двох кніжак адносна беларускае літаратуры — рэшта: усе расейскія падручнікі. Ня шмат лепш выглядае справа з падручнікамі для сярэдніх школаў. Ад 1954 да 1956 гадоў вучэбна-пэдагагічнае выдавецтва БССР выдала 63.685.000 падручнікаў пачатковых і сярэдніх школаў, але ў тым-жа часе прывезена з РСФСР 60.000.000 расейскіх падрудчнікаў. У 1957/58 нав. годзе мае быць выдана 5.683.000 падручнікаў у беларускай мове і прывезена падручнікаў у расейскай мове 4.250.000. («Совецкая школа», Нр. 5, с. 22).

Русыфікацыя належыць да аднае з асноўных задачаў савецкае школы ў БССР. Дзеля гэтага ў Пэдінстытутах, дзе ўзгадоўваюцца кадры настаўнікаў для сярэдняга школьніцтва, выкладчыкі ў большасьці расейцы. На 760 чалавек усіх выкладчыкаў у Пэдінстытутах БССР толькі 388 чалавек беларусаў («Совецкая школа», Нр. 5, с. 38). Выклады адбываюцца толькі парасейску.

Ува ўсіх пачатковых і сярэдніх беларускіх і расейскіх школах у Савецкай Беларусі прышчэпліваюцца зьняважлівыя адносіны да беларускае мовы. У пастанове ЦК КП Беларусі аб стане і мерах паляпшэньня выкладаньня беларускае і расейскае моваў і літаратуры ў школах рэспублікі гаворыцца зусім ясна: «У многіх сямігадовых і сярэдніх школах... выкладаньне прадметаў за выключэньнем беларускае мовы і літаратуры вядзецца на рускай мове, хоць вучні карыстаюцца падручнікамі ў беларускай мове... У асобных школах дапускаецца самавольства ў вызваленьні вучняў ад вывучэньня беларускае мовы» («Комуніст Беларусі», Нр. 5, 1957, с. 71).

Затое расейскай мове прысьвячаецца штогод усё больш і больш увагі. Паводля навучальнага пляну на 1957/58 шк. год у БССР у беларускіх школах дзесяцігодках за год ува ўсіх клясах прызначаецца для беларускае мовы і літаратуры 1.170 гадзін, а для расейскае мовы і літаратуры 1.740 гадзін. У расейскіх-жа школах у БССР для расейскае мовы і літаратуры прызначаецца аж 2.232 гадзіны, а для беларускае мовы ўсяго 684 гадзіны («Настаўніцкая газета» 28.VIII.57, Нр. 34).

Аб расейскай мове чытаюцца лекцыі нават для калгасьнікаў; ды якія лекцыі? Вось настаўніца А. Дзятлова ў калгасе «Расьсьвет» гаварыла на тэму: «Вялікая і магутная руская мова» («Настаўніцкая газета» 16.V.57, Нр. 57).

З гэткім-жа гвалтоўным накідваньнем прапагуецца і расейская песьня. Напрыклад у Менску існуе ад студзеня 1955 г. «Сталінскі промкамбінат», дзе фабрыкуюцца грамафонныя дыскі. Штомесяца ён выпускае да 30. тысяч дыскаў, але гэта выключна расейскія і часткава украінскія песьні, бо за два гады там выдана ўсяго 15 назоваў беларускіх песень. («Советская Белоруссия» 6.І.57, Нр. 5).

Зразумела, што ў краіне, дзе ўся ўлада залежыць ад адзінае існуючае камуністычнае партыі, такі русыфікацыйны тон дае ня хто іншы, як камуністычная партыя. У ёй усё дзелаводзтва ў БССР вядзецца выключна парасейску. У Менскай чатырохгадовай партыйнай школе ўсе уступныя экзаміны і ўсе выклады адбываюцца толькі парасейску («Комуніст Беларусі», Нр. 6, 1957, с. 74).

Некаторыя вучоныя, якія раней пісалі свае творы пабеларуску, цяпер пад тэрорам русыфікатарскага наступу пішуць толькі парасейску; напрыклад І. Н. Сержанін, Фядзюшын.

У адносінах да беларускае літаратуры русыфікатарскі дух прыняў такія формы, што на сходзе пісьменьнікаў БССР між іншымі справамі гаварылася аб тым, што трэба «выкрываць праявы нігілізму да беларускае мовы» («Літаратура і мастацтва» 5.Х.57, Нр. 80). Ды ці трэба яшчэ нешта выкрываць, калі факты аж кішма кішаць! Ці раз ужо пісалі газэты: «Бібліятэкі дрэнна ўкамлетаваны выданьнямі Белдзяржвыдавецтва». «Час ліквідаваць штучныя бар'еры на шляху беларускае кнігі да масавага чытача» («Літаратура і мастацтва» 15.V.57, Нр. 39). Для прыкладу ў Карэліцкай раённай бібліятэцы «беларускіх кніг вельмі мала, асабліва навейшых... Такое-ж становішча з беларускімі пэрыядычнымі выданьнямі»... «А бібліятэкарка Марыя Біліч імкнецца даказаць, што «ў нас бібліятэка руская» (!?) («Літаратура і мастацтва» 23.ІХ.57, Нр. 93) — і так дзееца ў раёне з чыста беларускім насельніцтвам!

Ды што казаць аб бібліятэках, дзе загадчыкамі з волі сакратароў райкомаў сядзяць людзі варожыя да ўсяго беларускага, вось што піша аб сабе адзін, відаць даволі рухавы, настаўнік Негарэльскае сярэдняе школы: «Я цікаўлюся мастац-

каю літаратураю, маю ўласную бібліятэчку, але нажаль мала ў мяне беларускіх аўтараў. Бо цяжка набыць патрэбную беларускую кнігу. Ні ў кніжным пасялковым магазыне, ні ў раённых кнігарнях іх няма. Бываючы ў Менску, я заўсёды зьвяртаюся ў кіёскі і магазыны. У кіёсках новых кнігаў беларускіх аўтараў я амаль ня сустракаў» («Літаратура і мастацтва» 16.IX.57, Нр. 91). І гэта сьведчаньне аб сталіцы Савецкае Беларусі, дык што-ж тады казаць аб іншых гарадох і аб калгасным насельніцтве?!

Усюды адчуваецца выразная тэндэнцыя прыдаць вышэйшасьць і большае значэньне расейскай мове. Дзеля гэтага аграмадная большасьць выданьняў Акадэміі навук БССР выходзіць у сьвет парасейску. У паасобных інстытутах Акадэміі і ў некаторых ВНУ БССР выходзіць аж 23 назовы розных навуковых зборнікаў, але з іх усяго «Весці Ак. навук БССР» выходзяць пабеларуску, а іншыя 22 — парасейску. Мала гэтага: быццам для падвышшэньня ўзроўню «Ученых записок» Менскага унівэрсытэту «установлена парадак, што перад публікаваньнем артыкулаў пасылаць іх на водзыў вучоным Масквы і іншых гарадоў» («Комуніст Беларусі», Нр. 5, 1957, ст. 80) — словам: без Масквы ані кроку.

Вельмі вымоўны і многазначны абраз русыфікацыі дае пэрыядычная прэса ў БССР. На агульны лік 218 газэтаў, якія выходзілі ў Савецкай Беларусі ў 1955 г. было аж 41 расейскіх. У 1956 і сёлета скасована цэлы рад раёнаў, тым самым зьменшылася колькасьць раённых газэтаў, але ў гэтым часе лік расейскіх газэтаў збольшыўся да 43 і акрамя гэтага ў Менску на матрыцах з Масквы выдаюць вялікім тыражом «Правду» і «Известия» для БССР. Пры тым вельмі дзіўна, што расейскія раённыя газэты выходзяць толькі ў заходніх вобласьцях БССР. У Берасьцейскай вобласьці такімі раёнамі ёсьць: Берасьце, Бяроза, Гарадышча, Жабінка, Камянец, Ружаны; у Горадзенскай вобласьці — Берастовіца, Ваўкавыск, Воранава, Горадня, Зальва, Іўе, Масты, Радунь, Сапоцкін, Скідэль, Сьвіслач; У Маладэчынскай вобласьці — Ашмяна, Валожын, Дунілавічы і Івянец. Абласныя газэты ў гэтых вобласьцях выходзять падвойным: беларускім і расейскім тыражом. Пры тым расейскі тыраж значна большы чым беларускі. Некалькі часапісаў так-жа выходзяць падвойным тыражом і з такою-ж няроўнасьцю. Напрыклад «Комуніст Беларусі» ў 1956 г. беларускі тыраж меў усяго 4.800 экз., а расейскі 15.500 экз.

Іншы магутны сродак прапаганды культуры — тэатр — у Савецкай Беларусі пераважна прапагуе расейшчыну. Акрамя расейскага тэатру ў Менску, абласныя тэатры ў Берасьці, Горадні і Гомелі — расейскія.

Мастакі, артысты, кампазітары ў аграмаднай большасьці карыстаюцца выключна расейскаю мовою. Горш таго — нават літаратурныя крытыкі беларускае літаратуры ў большасьці гавораць толькі парасейску. Праз гэта ствараецца на толькі недарэчная атмасфэра, што нават адзін з найбольш русафільскіх пісьменьнікаў БССР М. Лужанін і той ня вытрываў, каб за гэта не сказаць ім горкага слова дакору («Літаратура і мастацтва» 2.XI.57, Нр. 88), якое, зразумела, асталося словам гукаючага ў пустыні.

Русыфікатарская машына так настроена, што беларуская моладзь у школе ахвотна пераходзіць на расейскую мову, бо-ж каб магчы потым вучыцца ў ВНУ усёроўна мусіць перавучвацца на расейскі лад. З горкім жалем піша аб гэтай сумнай зьяве студэнт Б. Сачанка. Ён сьцьвярджае, што студэнты беларусы ў Пэдінстытутах забываюцца родную беларускую мову, бо ў Інстытутах праз пяць гадоў «ня чуюць на лекцыях беларускага слова». Даўшы волю жалю, студэнт дадае: «Куды-б ты ні паступаў — у тэхнікум, або інстытут — беларускае мовы і літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі у любую арганізацыю, у любую ўстанову — усе справы вядуцца толькі на рускай мове. Роднае мовы амаль ня ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетках» (Б. Сачанка. Шанаваць родную мову. «Літаратура і мастацтва» 14.XII.57, Нр. 99).

Шмат беларусаў жыве цяпер за межамі БССР, але яны ня маюць ані беларускіх газэтаў, ані беларускіх школаў.

**Беларусы ў запаляр'і.**

Сучасная бальшавіцкая палітыка вынарадаўленьня спрычынілася да таго, што амаль палавіна беларускага народу ў Савецкім Саюзе апынілася за межамі БССР. А нават тыя, што асталіся ў Савецкай Беларусі, масава перавозяцца ўва ўсе закуткі РСФР. Напрыклад камсамольская газэта хваліцца, што ў Мурамскай вобл. горад Манчагорск будуюць беларусы («Чырвоная змена» 30. IV.57, Нр. 85). У гэтым новым горадзе ўжо ёсьць 22 школы, але між імі няма ніводнае беларускае.

**Беларусы ў Савецкай Украіне.**

Вывозяць беларусаў з роднага краю ня толькі ў далёкі Сібір, але і ў суседнія савецкія рэспублікі. З «Большой Советской Энциклопедии» Том. 44 с. 74-75 даведваемся, што на абшары Савецкае Украіны беларусы «пражываюць галоўным чынам у Сталінскай, Варашылаваградзкай, Днепрапятроўскай, Нікалаеўскай і іншых паўднёвых вобласьцях, а так-жа ў раёнах прылягаючых да БССР».

**Вываз моладзі.**

Праводзячы страшэнна крывадушную палітыку адносна беларускага народу, бальшавікі баяцца пакідаць на бацькаўшчыне найбольш актыўную частку народу — ягоную моладзь і таму масава вызоляць беларускую моладзь у найбольш далёкія закуткі СССР. Але вывозяць на савецкі лад: з песьнямі, ды з якімі песьнямі:

З Мінска, Гомеля, Бабруйска,
З Мазыра ў далёкі край
Едзе моладзь Беларусі
У Казахстан і на Алтай!
(«Літаратура і Мастацтва» 16.X.57, Нр. 83).

**Далейшае вылюдненьне Беларусі.**

Ужо нираз рэдакцыя «Божым шляхам» зьвяртала увагу на страшэннае сыстэматычнае вылюдненьне Савецкае Беларусі. Апошнім часам гэты факт падцьвердзіла афіцыяльная савецкая статыстыка. Сёлета зьявілася некалькі статыстычных зборнікаў, у якіх падаецца, што агульны лік жыхарства БССР сягае няпоўных 8 мільёнаў. Гэтым выясьняецца факт, чаму перш скасована аж 5 вобласьцяў у БССР, а за 1956 і 1957 г. скасована аж 15 раёнаў: Арэхаўск, Грэск, Дамачэва, Журавічы, Ільля, Коханава, Любча, Мір, Новая Мыш, Стрэшын, Сьвяцілавічы, Улла, Шэрашэва, Бытэнь і Жабчыцы (аб гэтых двох апошніх у прэсе не падана ніякіх вестак). Як гаварылася ў папярэдняй зацемцы, плян вывазу найбольш ахоплівае моладзь. Найлепш гэта можа выказаць статыстыка школьнае моладзі. Яна выглядае так: Ува ўсіх школах БССР было у:

| | | |
|---|---|---|
| 1946 г. | 1.464.000 | вучняў |
| 1948 » | 1.500.000 | » |
| 1949 » | 1.498.800 | » |
| 1950 » | 1.498.600 | » |
| 1951 » | 1.457.980 | » |
| 1952 » | 1.380.600 | » |
| 1953 » | 1.319.580 | » |
| 1954 » | 1.285.200 | » |
| 1955 » | 1.218.000 | » |
| 1956 » | 1.183.100 | » |
| 1957 » | 1.181.100 | » |

Як бачым такое нарадабойчае палітыкі, як бальшавіцкая палітыка ў Савецкай Беларусі ня маюць нават найбольш цяжкія каляніяльныя сыстэмы.

**Ідэал — ярмо.**

У 1957 г. «больш 53 тысяч юнакоў і дзяўчат нашае рэспублікі атрымалі сёлета атэстат сьпеласьці. Каля палавіны з іх пойдуць працаваць у прамысловасьць і сельскую гаспадарку» — так бяссорамна хваліцца «Советская Белоруссия» з 10.VII, Нр. 168. Але ў сапраўднасьці справа выглядае значна горш, не палавіна, але аж 46.000 матурыстаў пайшло ў калгасы і фабрыкі, а ўсяго каля 7.200 было прынята ў ВНУ. Зразумела, што гэтая моладзь ня можа быць задаволена з савецкае ўлады і таму, каб зьменшыць лік незадаволеных у БССР дык вывозяць няшчасных юнакоў і юначак у Сібір і Казахстан. Навейшая школьная праграма агулам зьмяняе прызначэньне сярэдніх школаў і мае на мэце ў першую чаргу прыстасаваць школьнікаў выключна для працы ў калгасах і фабрыках. («Настаўніцкая газэта» 5.I.56, Нр. 1).

**Памёр быўшы Смаленскі япіскап.**

Яп. Сяргей (Смірноў), які ад 1944 г. да 1955 г. займаў пасад Смаленскае епархіі, а потым быў перанесены на спачынак, памёр 16.VIII ў Магілёве.

**У Вільні сёньня.**

Паводля вестак, якія паходзяць ад людзей, што нядаўна былі ў Вільні, нацыянальны склад жыхарства гэтага гораду цяпер шмат зьмяніўся ў параўнаньні да 1939 г. Цяпер у Вільні пражывае каля 250.000 чалавек. І хоць яна лічыцца сталіцаю Савецкае Летувы, але мае 180.000 расейцаў — усё гэта прыезжы элемэнт; каля 30.000 палякаў; 20.000 летувісаў; 10.000 беларусаў; крыху жыдоў, татараў і караімаў.

З даваенных 34 парахвіяльных касьцёлаў цяпер адчынена толькі 7. У двох з іх адпраўляюцца багаслужэньні для палякаў, у чатырох — для летувісаў, а ў Вастрабрамскай капліцы і для летувісаў і для палякаў. Беларусы ня маюць ніводнага касьцёла.

Праваслаўных цэркваў адчынена так-жа сем (у тым ліку дзьве манастырскія), але ўва ўсіх казаньні гаворацца выключна парасейску.

**З жыцьця праваслаўных беларусаў у Польшчы.**

Сёлета афіцыяльны часапіс Праваслаўнае Царквы ў Польшчы «Церковный вестник» першы раз падаў у беларускім перакладзе пастырскія лісты (Вялікодны і Калядны) Варшаўскага мітрапаліта Макарыя. І толькі сёлета ўведзена ў Варшаўскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі беларускую мову як прадмет навучаньня. Настаўнікам беларускае мовы назначаны а. прат. Уладзімер Дарашкевіч. У Беласточчыне ў некаторых цэрквах казаньні гаворацца пабеларуску.

## ЭМІГРАЦЫЯ.

**Сакавіковыя ўрачыстасьці.**

Хоць час прымусовае эміграцыі прадаўжаецца, аднак беларусы ў вольным сьвеце ня сумняюцца, што час вызваленьня Бацькаўшчыны прыйдзе няміуча і таму ўгодкі 25.III.1918, калі Беларусь была абвешчана вольнаю і незалежнаю рэспублікаю, азначаюць з вялікімі ўрачыстасьцямі. На гэтых урачыстасьцях сёлета больш чым дагатуль удзельнічалі прадстаўнікі вольных дзяржаўных народаў і нашы прыяцялі, дэлегаты ад паняволеных народаў.

**Беларускія школы ў вольным сьвеце.**

За часоў лягэрнага жыцьця ў Нямеччыне беларуская эміграцыя мела свае і пачатковыя школы і гімназіі. Калі настаў час масавае эміграцыі ў заакіянскія краіны, усе школы зьліквідаваліся разам з лягэрамі, дзе яны былі. Цяпер-жа, ня гле-

Imprimerie de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris

Directeur: Abbé L. Horoseo.

дзячы на вялікае расьцярушаньне, зноў пачынаюць арганізавацца беларускія пачаткавыя школы; найчасьцей нядзельныя, або суботнія, а дзье ёсьць і нядзельныя і суботнія. Сёлета працавалі такія школы: у ЗША — у Нью Ёрку, у Чыкаго, у Кліўлендзе і ў Нью Брансьвіку; у Аўстраліі — ў Мэльбурне ад 1955 г.; у Канадзе — у Торонто; у Англіі — у Манчэстэр. Усюды ахвярная праца прыносіць прыгожыя посьпехі.

### Арганізацыйнае жыцьцё.

Знак жывучасьці эміграцыі ёсьць дзейнасьць яе арганізацыяў. З гэтага гледзішча беларуская эміграцыя ўва ўсіх краінах расьсяленьня годна выконвае свае пасланьніцтва, выклікаючы на сябе зразумелыя напады з боку савецкіх пятых калёнаў. Не дарма беларусамоўная рэдакцыя бальшавіцкае газэты для зваблeньня эміграцыі «За вяртаньне на радзіму» пабольшыла склад свае рэдакцыі і пачала выходзіць часьцей. На яе заклік беларусы эмігранты з усіх нацыянальных арганізацыяў адказалі вельмі трапна: «На Бацькаўшчыну мы вернемся, бязумоўна вернемся, але не ў паняволеную, а ў свабодную і незалежную, дзеля гэтага мы не пашкадуем ніякіх ахвяраў».

### УВАГА.

Паасобных вестак з жыцьця беларускае эміграцыі не падаём дзеля таго, што часапіс выходзіць з вельмі вялікім апазьненьнем.

# Абразкі з жыцьця

### СІЛА ШЧЫРАЕ ВЕРЫ

Славуты лекар Моро ў сваіх успамінах між шматлікіх выпадкаў з свае практыкі, апавядае аб адным узрушаючым здарэньні, якое зьмяніла ягоны сьветагляд і паводзіны:

«Не магу сказаць, што я быў бязбожнікам, — піша ён, — але і пабожным я ня быў. Рэлігіяю я ня цікавіўся. Але адзін выпадак паказаў мне сілу рэлігіі.

Я меў рабіць апэрацыю сямігадовай дзяўчынцы і сказаў ёй, што яна мусіць на хвіліну заснуць. Так трэба. Яна згадзілася і кажа:

— Калі трэба, дык я засну, але перш мушу памаліцца, бо я заўсёды малюся перад тым, як легчы спаць. Мама кажа, што перад сном заўсёды трэба памаліцца.

«І дзяўчынка, злажыўшы пабожна рукі пачала маліцца. Яна прасіла Бога, каб дачакалася раніцы, малілася за бацькаоў, за братоў, за сясьцёр, за ўсіх. Такое малітвы няма ў ніводным малітоўніку; гэта напэўна яе маці ўлажыла сама такую малітву. І гэта была сапраўды вялікая малітва.

Дзяўчынка малілася так шчыра, што глыбока ўзрушыла мяне і я пацíху далучыў да яе малітву і маю, каб Бог памог дзяўчынцы перанесьці шчасьліва апэрацыю. І яна яе перанясла.

Ад таго часу, калі я меў рабіць апэрацыю, заўсёды ўспамінаў тую дзяўчынку і пацíху маліўся на яе лад. І Бог памагаў мне, мае апэрацыі былі ўдалыя...»

### ДАБРАДЗЕЙНАСЬЦЬ

У паўднёвых краінах часта можна ўбачыць вінаградныя кусты, пасаджаныя побач высокіх дрэваў у алеях. Гэты гаспадарскі звычай выкарыстаў сьв. Цэзар з Арль для прыгожага параўнаньня. — Ён казаў: Вяз — вялікае і моцнае дрэва, але ня мае овачаў, а вінаграднік мае прыгожыя овачы, але ён слабы куст і без апірышча плёўся-б па зямлі, пэцкаючыся сам і пэцкаючы свае овачы. Калі-ж вінаграднік абапрэцца аб вяз, не запэцкае сваіх овачаў і вяз упрыгожыць. Падобна маецца справа з багацьцем і беднасьцю. Багач, як-бы ён велічна тут на зямлі ня выглядаў, ня мае ніякіх овачаў на небе, калі не прасьцягне руку помачы беднаму, каб яго падтрымаць, як высокі вяз падтрымлівае вінаграднік.

### ПРЫВІТАНЬНЕ

У некаторых казках і лягэндах апавядаецца аб заклятых ці зачараваных людзях, якіх ад чараў і ад закляцьця можа вызваліць добры чалавек прыязным прывітаньнем. Так вялікаю ёсьць сіла, якую людзі прыпісваюць шчыраму, сардэчнаму прывітаньню. І сёньня так-жа прыязным прывітаньнем можна прагнаць праклятую няпрыязьнь, дрэнны настрой і прывярэдлівасьць, калі нашае прывітаньне будзе выходзіць з добрага, радаснага і міралюбівага сэрца.

### «ЯК ГУКНЕШ, ТАК І АДГУКНЕЦЦА»

Якісьці юнак трапіў першы раз у вялікі лес між гораў. Ён дабег да ўскраю лесу, а далей пачыналіся скалы. Пераскочыўшы праз вялікі камень, што ляжаў каля скалы, ён з задаволеньнаем крыкнуў: «гоп, гоп!» і раптам зьдзівіўся, бо аднекуль пачуў зусім такі-ж кліч. Аб рэху ён яшчэ ніколі ня чуў. — «Хто ты?» — закрычаў юнак, думаючы, што нехта ў лесе насьміхаецца з яго. Але і гэтым разам пачуў свае словы «хто ты?» Юнак раззлаваўся і пачаў лаяцца, а рэха слова ў слова адказвала яму ягоную лаянку. Уканцы юнак ня вытрываў такіх кпінаў з сябе і пабег да мамы з жалабаю на «нейкага нявыхаванага жуліка», што з кустоў насьміхаецца з яго. «Ніякага жуліка там няма, — спакойна адказала маці, — гэта рэха паўтарае твае дрэнныя словы. А паспрабуй закрычы прыгожыя словы, дык пачуеш іх як прыгожы адказ».

Так вельмі часта здараецца і ў паводзінах людзей між сабою: як зьвернешся да чалавека, так ён табе адкажа, зусім як тое рэха ў лесе, хоць іншымі словамі.

дзячы на вялікае расьцярушаньне, зноў пачынаюць арганізавацца беларускія пачатковыя школы; найчасьцей нядзельныя, або суботнія, а дзьве ёсьць і нядзельныя і суботнія. Сёлета працавалі такія школы: у ЗША — у Нью Ёрку, у Чыкаго, у Кліўлендзе і ў Нью Брансьвіку; у Аўстраліі — ў Мэльбурне ад 1955 г.; у Канадзе — у Торонто; у Англіі — у Манчэстэр. Усюды ахвярная праца прыносіць прыгожыя посьпехі.

**Арганізацыйнае жыцьцё.**

Знак жывучасьці эміграцыі ёсьць дзейнасьць яе арганізацыяў. З гэтага гледзішча беларуская эміграцыя ўва ўсіх краінах расьсяленьня годна выконвае сваё пасланьніцтва, выклікаючы на сябе зразумелыя напады з боку савецкіх пятых калёнаў. Не дарма беларусамоўная рэдакцыя бальшавіцкае газэты для зваблвеньня эміграцыі «За вяртаньне на радзіму» пабольшыла склад свае рэдакцыі і пачала выходзіць часьцей. На яе заклік беларусы эмігранты з усіх нацыянальных арганізацыяў адказалі вельмі трапна: «На Бацькаўшчыну мы вернемся, бязумоўна вернемся, але не ў паняволеную, а ў свабодную і незалежную, дзеля гэтага мы не пашкадуем ніякіх ахвяраў».

**У В А Г А.**

Паасобных вестак з жыцьця беларускае эміграцыі не падаём дзеля таго, што часапіс выходзіць з вельмі вялікім апазьненьнем.

# Абразкі з жыцьця

## СІЛА ШЧЫРАЕ ВЕРЫ

Славуты лекар Моро ў сваіх успамінах між шматлікіх выпадкаў з свае практыкі, апавядае аб адным узрушаючым здарэньні, якое зьмяніла ягоны сьветагляд і паводзіны:

«Не магу сказаць, што я быў бязбожнікам, — піша ён, — але і пабожным я ня быў. Рэлігіяю я ня цікавіўся. Але адзін выпадак паказаў мне сілу рэлігіі.

Я меў рабіць апэрацыю сямігадовай дзяўчынцы і сказаў ёй, што яна мусіць на хвіліну заснуць. Так трэба. Яна згадзілася і кажа:

— Калі трэба, дык я засну, але перш мушу памаліцца, бо я заўсёды малюся перад тым, як легчы спаць. Мама кажа, што перад сном заўсёды трэба памаліцца.

«І дзяўчынка, зложыўшы пабожна рукі пачала маліцца. Яна прасіла Бога, каб дачакалася раніцы, малілася за бацькаоў, за братоў, за сясьцёр, за ўсіх. Такое малітвы няма ў ніводным малітоўніку; гэта напэўна яе маці ўлажыла сама такую малітву. І гэта была сапраўды вялікая малітва.

Дзяўчынка малілася так шчыра, што глыбока ўзрушыла мяне і я паціху далучыў да яе малітву і маю, каб Бог памог дзяўчынцы перанесьці шчасьліва апэрацыю. І яна яе перанясла.

Ад таго часу, калі я меў рабіць апэрацыю, заўсёды ўспамінаў тую дзяўчынку і паціху маліўся на яе лад. І Бог памагаў мне, мае апэрацыі былі ўдалыя...»

## ДАБРАДЗЕЙНАСЬЦЬ

У паўднёвых краінах часта можна ўбачыць вінаградныя кусты, пасаджаныя побач высокіх дрэваў у алеях. Гэты гаспадарскі звычай выкарыстаў сьв. Цэзар з Арль для прыгожага параўнаньня. — Ён казаў: Вяз — вялікае і моцнае дрэва, але ня мае овачаў, а вінаграднік мае прыгожыя овачы, але ён слабы куст і без апірышча плёўся-б па зямлі, пэцкаючыся сам і пэцкаючы свае овачы. Калі-ж вінаграднік абапрэцца аб вяз, не запэцкае сваіх овачаў і вяз упрыгожыць. Падобна маецца справа з багацьцем і беднасьцю. Багач, як-бы ён велічна тут на зямлі ня выглядаў, ня мае ніякіх овачаў на небе, калі не прасьцягне руку помачы беднаму, каб яго падтрымаць, як высокі вяз падтрымлівае вінаграднік.

## ПРЫВІТАНЬНЕ

У некаторых казках і лягэндах апавядаецца аб заклятых ці зачараваных людзях, якіх ад чараў і ад закляцьця можа вызваліць добры чалавек прыязным прывітаньнем. Так вялікаю ёсьць сіла, якую людзі прыпісваюць шчыраму, сардэчнаму прывітаньню. І сёньня так-жа прыязным прывітаньнем можна прагнаць праклятую няпрыязьнь, дрэнны настрой і прывярэдлівасьць, калі нашае прывітаньне будзе выходзіць з добрага, радаснага і міралюбівага сэрца.

## «ЯК ГУКНЕШ, ТАК І АДГУКНЕЦЦА»

Якісьці юнак трапіў першы раз у вялікі лес між гораў. Ён дабег да ўскраю лесу, а далей пачыналіся скалы. Пераскочыўшы праз вялікі камень, што ляжаў каля скалы, ён з задаволеньнаем крыкнуў: «гоп, гоп!» і раптам зьдзівіўся, бо аднекуль пачуў зусім такі-ж кліч. Аб рэху ён яшчэ ніколі ня чуў. — «Хто ты?» — закрычаў юнак, думаючы, што нехта ў лесе насьміхаецца з яго. Але і гэтым разам пачуў свае словы «хто ты?» Юнак раззалаваўся і пачаў лаяцца, а рэха слова ў слова адказвала яму ягоную лаянку. Уканцы юнак ня выцерпеў такіх кпінаў з сябе і пабег да мамы з жалабаю на «нейкага нявыхаванага жуліка», што з кустоў насьміхаецца з яго. «Ніякага жуліка там няма, — спакойна адказала маці, — гэта рэха паўтарае твае дрэнныя словы. А паспрабуй закрычы прыгожыя словы, дык пачуеш іх як прыгожы адказ».

Так вельмі часта здараецца і ў паводзінах людзей між сабою: як зьвернешся да чалавека, так ён табе адкажа, зусім як тое рэха ў лесе, хоць іншымі словамі.

# ЗЬМЕСТ